# Шаноўны чытач!

На вялікі жаль, па незалежачых ад рэдакцыі прычынах, з-за хранічнага недафінансавання, парушана перыядычнасць выхаду нашага выдання.

Просім прабачэння і паведамляем: мы працуем і ўпэўнены, што справы з перыядычнасцю выхаду нашага часопіса ў 2001 годзе наладзяцца і мы, як і раней, будзем сустракацца штомесяц.

Для жыхароў горада Мінска паведамляем, што рэдакцыя заключыла дагавор на падпіску *"да запатрабавання"* з ГРУП "Мінгарсаюздрук", і цяпер падпісацца на часопіс "Крыніца" можна ў магазінах і кіёсках "Саюздруку".

**Рэдакцыйная калегія часопіса.**

# Крыніца

11-12 (60)
2000
Штомесячны літаратурна-культуралагічны часопіс

**КРЫНІЦА**
**№ 11-12 (60)**
**2000**

Штомесячны
літаратурна-культуралагічны часопіс

Выдаецца са студзеня 1988 года

**Заснавальнікі:** калектыў рэдакцыі,
Саюз беларускіх пісьменнікаў

Рэгістрацыйны нумар 630
ад 31 ліпеня 1996 года



Выдаецца на беларускай мове
Рукапісы аўтарам па пошце не вяртаюцца

**Пішыце:** **220807, г. Мінск, ГСП,**
**вул. Кісялёва,11**

**Званіце:** **2-366-113, 2-366-142**

Падпісана да друку з арыгінала-макета 07.12.2000. Фармат 60x84 $^{1}/_{16}$.
Афсетны друк. Папера афсетная № 1. Ум.-друк.арк. 13,95.
Ум. фарба.-адб. 14,06. Ул.-выд. арк. 12,15. Кошт дагаворны.
Тыраж 690 экз. Зак. 3223.



Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў друкарні выдавецтва
«Беларускі Дом друку», 220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.

*З Табою:*

# З Людмілай Рублеўскай гутарыць Галіна Булыка

**Галіна БУЛЫКА: Людміла, твая творчасць пачалася з "Крокаў па старых лесвіцах". Ты ішла да майстэрства па рыпучых і звонкіх прыступках – старажытных, антычных, барокавых, класістычных... Рэтраспекцыі, уважлівы погляд у мінулае... Ты шукаеш там сучаснасць ці, можа, будучыню?**

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ:** А для мяне няма ні мінулага, ні цяперашняга, ні будучага часу. Час – гэта нешта іншае, чым мы яго ўяўляем. І ўсе спробы яго вымераць вартыя жалю. Ты згадала пра прыступкі – але гэта прыступкі старой лесвіцы ў вежы, і лесвіца закручваецца па спіралі. Варта перагнуцца цераз парэнчы, каб убачыць на адлегласці выцягнутай рукі тое, што, здавалася б, аддзеленае ад тваёй прыступкі стагоддзямі, эпохамі. У цяперашнім ёсць і мінулае, і будучае – трэба толькі адчуць гэта – не зразумець, не ўбачыць, а адчуць.

"Погляд у мінулае"... Хіба тое, што я пішу – гістарычныя творы? Хіба ёсць у мінулым адпаведнікі таму свету, які ствараю я? Хаця ў свой час панапісвала вершаў пра так званыя "гістарычныя постаці", якімі Сыс дасюль мяне папракае, што, маўляў, трэ пісаць толькі пра сябе, – быў перыяд, калі здавалася патрэбным папулярызаваць факты і асоб беларускага мінулага. Тым больш і вершы някепскія. Цяпер я сапраўды пішу пра сябе – у любым гісторыка-сімвалічным антуражы. Смешна чуць, калі звыклыя да апісальнай літаратуры людзі гавораць, што мае сюжэты ўзятыя "з нічога". З нічога – нічога і будзе, і я не магу прэтэндаваць на ролю дэміурга. Відаць, некалі гэтак жа вінавацілі ў вядзь-

марстве тых, хто выплаўляў метал з руды. Можна апісваць убачанае, а можна апісваць зрухі душы, якія адбываюцца па сваіх складаных законах, незалежных ад часу і прасторы. Часам даводзіцца чытаць, што, паводле маіх твораў, утульней пачуваюся ў мінулым, чым у сваім часе. Можа, я сапраўды неяк выпадаю са свайго часу, бо не патрапляю ўдзельнічаць у гульнях свайго пакалення. Ніколі не належала ні да якай "тусоўкі". Але перанесціся ў мінулае? Жартуеш. Пры тым, што сам па сабе чалавек не змяніўся ад часоў Адама і гэтак жа ў яго душы вядуць змаганне Бог і Звер, кантэкст часу вельмі хутка мяняецца. Нельга сыходзіць з наканаванай табе лёсам прыступкі. Не, я не ўглядаюся ў мінулае і не імкнуся ў яго, я проста жыву ў сваіх – дакладней, вызначаных мне – каардынатах.

**Г.Б.: Першы радок тваёй кнігі вершаў "Замак месячнага сяйва" гучыць так: "Калі канчаецца жыццё..." Вечныя тэмы жыцця і смерці, пачатку і канца... Ці ўзважваеш ты сваю творчасць на гэткіх метафізічных шалях?**

**Л.Р.:** У Хайдэгера ёсць паняцце – "жыццё-дзеля-смерці". Толькі перад тварам смерці, усведамляючы сваё небыццё, чалавек можа зразумець таямніцу быцця, зрабіцца цэласнай асобай. На гэтым будуецца светаўспрыманне многіх вялікіх пісьменнікаў сучаснасці. Але для мяне небыцця не існуе, я веру ў несмяротнасць душы і ў будучае ўваскрэсенне. Смерць – гэта толькі мяжа, пра якую трэба увесьчасна памятаць. У праваслаўі ёсць такое паняцце – "душевное делание", або "внутреннее делание". Любы наш учынак, кожнае імгненне нашага жыцця тым ці іншым чынам змяняе нашу духоўную сутнасць. Хвіліна – і ты на крок бліжэй да святла, яшчэ хвіліна – і ты, сам таго не жадаючы, адкінуты на два крокі да цемры. Мяне турбуе – адкуль спасланы да мяне той ці іншы мой твор, той ці іншы вобраз, сімвал, радок, як паўплывае ён на маю душу і на душы тых, хто пазнаёміцца з ім. А праз хвілю находзіць прыступ самаўмалення – пра якія "ўплывы" можна казаць, калі тое, што я раблю, і сама – не больш чым пясчынкі ў гэтым сусвеце... Пасля – зноў "гордыня", дыялог з небам, абранства і месіянства... І зноў – усведамленне сябе апошняй з апошніх грэшнікаў... Вось такія шалі, якія ніколі не бываюць у раўнавазе. І асабліва разгойдвацца ім не дае толькі сама

іронія – баласт, без якога можна абрынуцца або ў прорву самазнішчэння, або ў прорву веры ва ўласную геніяльнасць. Што ў прынцыпе адно і тое ж. Аднойчы выступала я перад школьнікамі, чытаю вершы, а дзяўчына ў першым радзе губы надзьмула пагардліва і глядзіць на мае чаравікі... І сапраўды, непаглядныя чаравікі... Ейныя лепшыя. І ці многага я дасягнула ў жыцці з пункту гледжання гэтай школьніцы, калі нават на прыстойныя чаравікі зарабіць не магу? Якая ўжо тут “выключнасць”...

А пачатак і канец – тоесныя. У Велікодных песнаспевах ёсць словы: “Смертию смерть поправ...” Без смерці няма ўваскрэсення. Шмат гавораць пра “перыяды творчага росту”, “творчыя пошукі”... Паэт павінен час ад часу паміраць і нараджацца, як зерне, а не проста скідваць сваю скуру, падобна змяі. Працэс пакутны, што і казаць, часам стан памерласці, творчага маўчання зацягваецца, як цяжкія народзіны. Пасля з’яўляецца парастак твора. Шкада, што гэта не можа працягвацца бясконца... Часцей за ўсё паэт памірае раней, нават раней, чым яго фізічнае цела, сам сабе ў гэтым баючыся прызнацца.

**Г.Б.: Ты нарадзілася ў горадзе, што нетыпова для папярэдніх пакаленняў беларускіх літаратараў. Згадваецца выпадкова кінутая Яўгеніяй Янішчыц фраза: “Паэты не растуць на асфальце”. Час выявіў якраз адваротнае. Як бы ты ахарактарызавала генерацыю мінскіх “асфальтавых” паэтаў і сябе ў ёй? Ці не пра Мінск, ці не пра яго недабудаваны міф, ты некалі сказала: “Горадам не будзе, а стане месцам для жыхарства...”?**

**Л.Р.:** Пытанне па адрасе, паколькі я – ваяўнічы урбаніст. Вёска для мяне – нешта зусім чужое. Вядома, ёсць горад – і горад. Дубавец жа пісаў пра акупацыю горада вёскай... Менавіта яны, гараджане ў першым пакаленні, rus in urbis, і спараджаюць люмпенскі асяродак у горадзе, пацішу ненавідзячы і гарадскія вертыкалі, і сваю непрыстасаванасць да іх. Я таксама гараджанка толькі ў трэцім пакаленні, гэта не так многа. Праўда, па бацькоўскай лініі, можа быць, інакш – але апроч шляхецкага прозвішча і звестак пра бабулю, што да вайны настаўнічала ў Гомелі, нічога я па гэтай лініі свайго радаводу не ведаю. Таму што бацька пакінуў нашу сям’ю,

калі я была зусім маленькая, і з'ехаў "на павышэнне" ў Расію. Бачыла я яго ўсяго два разы ў жыцці – гадоў у сем і ў шаснаццаць, – ён, важны чыноўнік, прыязджаў у камандзіроўку ў адно з нашых міністэрстваў. Купіў мне гадзіннік, павёў да сябра-міністра, які калісь быў шаферам на вяселлі яго і мамы, і прымусіў мяне гэты гадзіннік дэманстраваць: "Вось бачыш, я зусім нядрэнны чалавек, нават дачцэ гадзіннік купіў".

(Аліменты ён, праўда, плаціць не жадаў, і іх выпатрабоўваў суд.)

Больш я пра татачку ніколі нічога не чула. Такое вось лірычнае адступленне.

Думаю, што асфальт, пра які казала Янішчыц, – гэта проста цвёрдая корка непаразумення, што аддзяляе чалавека ад зямлі, на якой ён жыве. Няздольнасць адчуць гэтую зямлю, увайсці ў рэзананс з яе энергетыкай. Вось і ўсё. Безумоўна, большасць беларускіх паэтаў старэйшых пакаленняў – паходжаннем з вёскі, і як бы яны ні рафінаваліся на працягу жыцця ў камяніцах, іх прыродная сутнасць сфармавана ў іншай прасторы. Таму і стварыўся заганны стэрэатып, што беларускі паэт мусіць умець садзіць бульбу і вечна настальгіраваць па матчыным свежаспечаным хлебе. Гэта проста вялікі шанц для беларускай культуры, што цяпер беларускамоўныя паэты нараджаюцца сярод вертыкаляў горада.

Я нарадзілася ў старым раёне каля Кальварыйскіх могілак, і ўжо аднаго гэтага месца было даволі, каб назапасіць паэзіі на ўсё астатняе жыццё. А з другога боку знаходзіліся турма і чыгунка. Быў такі амерыканскі пісьменнік у стылі "fantasy-horror", Говард Лаўкрафт. У ім, як і ў многіх белых амерыканцах, сядзеў трывалы комплекс адарванасці ад ладнай часткі старажытнай гісторыі Еўропы, ад усіх гэтых гатычных сюжэтаў, замкаў з прывідамі і азёраў з патанулымі кляштарамі. І Лаўкрафт пачаў насяляць рамантычнымі жахамі сучасныя яму мегаполісы і фермерскія ранча. У падвалах і метрапалітэнах адкрываліся ўваходы ў свет паганскіх багоў, кожны дом мог стацца котлішчам нячыстай сілы, сама зямля пад тонкай коркай згаданага асфальту захоўвала рэшткі дачалавечых цывілізацый. З лёгкай рукі Лаўкрафта і на старонках твораў ягоных паслядоўнікаў у сучасным горадзе асіміляваліся інфернальныя жахі. Сапраўды, што з таго, што над паверхняй зямлі пастаўленыя бетон-

ныя нецікавыя каробкі для жытла, калі сама зямля пад імі захоўвае ў сабе пракаветныя таямніцы, калі назапашаная мільёнамі гадоў аўра з лёгкасцю працінае як каменныя сцены сярэднявечнага замка, так і панэльныя сцены "хрушчоўкі". Трэба толькі ўвесьчасна адчуваць, што пад асфальтам хаваецца брукаванка, пад брукаванкай – драўляны насціл, а пад драўляным насцілам – косткі продкаў. Чуць, як ва ўнісон тваім крокам гучаць крокі тых, хто ішоў тут да цябе. Горад адкрывае сваё сапраўднае жыццё далёка не кожнаму. Для гэтага трэба, відаць, падарожнічаць у дзяцінстве па таемным свеце сутарэнняў і гарышчаў, аблазіць разваліны старых дамоў у цэнтры, знайсці ва ўласным двары мядзяную капейку васемнаццатага стагоддзя, паглядзець на свой свет з даху высокага дома... Ты ведаеш, якія пачуцці назаўсёды застаюцца ў дзіцячай душы пасля самавольнай экскурсіі на дах высокага дома? А начны горад? Раёны з драўлянымі дамкамі, з прыветна асветленымі вокнамі – у іх так прыемна кідацца снежкамі! А пранікненні са службовага ўваходу ў кінатэатры і тэатры? А скарбы раённых бібліятэк? А наведванне майстэрні старога мастака, які, расчулены ўвагаю дзяцей, расказвае пра свае карціны і яшчэ шмат пра што... Не, я зараз пачну настальгіраваць па дзяцінстве, а гэта надоўга. Таму завершу свае разважанні. "Асфальтавых" паэтаў няма. Калі нехта пачынае апяваць сталёвыя канструкцыі – гэта ўсяго толькі гульня. Асфальт для беларускай літаратуры – нейкае пудзіла, як для чалавека мінулага стагоддзя "жалезны конь" ці "сталёвая птушка". Час ужо зразумець, што горад – натуральны асяродак чалавечага існавання, гэтак жа, як вулей для пчолаў. Асяродак, які стварае вертыкалі, дзякуючы якім свядомасць можа дасягаць сваёй вяршыні. Даматканую посцілку, што з вясковай хаты гаспадары выкінулі на сметніцу, даўно падабрала рафінаваная гараджанка, адмыла ў пральным парашку "Арыэль" і ўпрыгожыла сваю гасцёўню. Ну а пра маю "генерацыю"... Паўтаруся, што ў тусоўках ніколі не была. Не хадзіла на літаб'яднанні. Хоць давялося пабываць у самых дзіўных кампаніях, напрыклад, на паседжаннях мінсканга клуба фантастаў ці турысцкага клуба. У Літаратурным інстытуце вучылася разам з будучымі "куртуазнымі маньерыстамі", але праз год выйшла замуж за беларускага паэта Віктара Шніпа і вярнулася на радзіму. Тут, ва універсітэце, былі "Тутэйшыя", і я лічу сябе

сябрам гэтага таварыства, – але ж у мітынгах ды паседжаннях зноў-такі ўдзелу не брала. Мяне нават у школе, у класе, які найменаваўся "бандай", звалі анархісткай. І з падлеткавых пасядзелак, і з камсамольскіх сходаў я "змывалася"... Не люблю масавых мерапрыемстваў. Гэтак жа, як і індывідуальных публічных маніфестацый.

**Г.Б.: У папярэднім пытанні я наўмысна ўжыла слова "міф". Яно так часта з'яўляецца ў тваіх тэкстах, нават у іхніх загалоўках! Ты творыш уласныя міфы і зазіраеш у люстэркі грэцкіх, рымскіх, старажытнагерманскіх, ты імкнешся разгледзець рэчаіснасць праз агранёнае шкельца класічных канонаў. Якія коды і міфы сусветнай культуры найбольш сугучныя тваёй душы?**

**Л.Р.:** Сапраўды, я вызнаю свет як міф, а чалавека – як міфатворцу. І на гэтую тэму магу разважаць доўга і адносна разумна, таму што і тэма маёй гіпатэтычнай дысертацыі, якую я калі-небудзь пад настрой абараню, гучыць наступным чынам: "Літаратурны міф беларускай паэзіі канца XX стагоддзя". Спрабую вынайсці ровар у беларускім кантэксце і акрэсліць тэорыю нацыянальнага міфа, папросту вобраз абагуленага героя і асяродку яго існавання, які мусіць з'яўляцца ўвасабленнем нацыянальнага тыпу. Але, як бачыш, ператлумачваю я міфы, створаныя іншымі, а вось ператлумачваць свае... Блізкія мне сімвалы, прыўлашчаныя і пераасэнсаваныя... Гульня амаль па Юнгу – з'імправізаваць казку, каб па ўжытых вобразах і сімвалах аналітык мог вытлумачыць адхіленні ў псіхіцы... Ну, паспрабую пералічыць. Чароўная Дама (тая, што сядзіць у недаступнай высокай вежы і халодна назірае рыцарскія турніры); Вежа са слановай косткі (адасобіцца і ўдасканальвацца), Кніга лёсаў (там запісаны і твой лёс, але гэта забароненыя веды), Скрыжаванне (згубная барацьба супрацьлеглых стыхій)... Магу доўжыць гэты шэраг бясконца, так што перастану адрозніваць, дзе фантазірую, дзе ўспамінаю. Міфы – самая небяспечная рэч у наасферы, паколькі мае зваротную сувязь з калектыўным неўсвядомленым – фактычна кіруе ім, замбіруе людзей. Той ці іншы міф, уведзены ў шырокі ўжытак, стварае стэрэатыпы, якія вызначаюць паводзіны чалавека ў экстрэмальнай сітуацыі і ў штодзённым жыцці. Напрыклад, што

трэба закрываць целам амбразуру, забіваць няверных або неарыйцаў, пакланяцца вар'ятам ці, наадварот, праганяць іх. Усё, што мы ведаем пра наш свет, – гэта міфы, і частка іх створаная людзьмі свядома. Менавіта таму толькі тая літаратура ўплывае на чалавека, якая звязаная з падсвядомым, з архетыпамі, і сама з'яўляецца міфам.

**Г.Б.: Спачатку былі крывічанкі, князёўны, мнішкі і каралевы беларускай мінуўшчыны. Потым з'явілася таямнічая самотная пані, якая складае свой дыярыуш, дзіўнаватыя правінцыялкі з горада Б*. Жаночыя вобразы ў творчасці і жаночая творчасць: якая мяжа паміж падобнымі паняццямі? Ці патрабуюць яны ад аўтаркі пераўвасаблення? Ці прымушаюць яны браць у рэальнае жыццё каліўца іхняга досведу, ці, наадварот, іх ахвярныя лёсы ёсць водгулле тваіх нявырашаных пытанняў?**

**Л.Р.:** Ну а адкуль мае гераіні могуць брацца, як не ад мяне? І для чаго мне іх ствараць, калі я не пажыву ў іх абліччах? Канечне, яны – гэта я. Згодна сістэме Станіслаўскага: кожны артыст, які развівае сваю духоўнасць, можа асіліць любую ролю – стварыць з сябе і Атэла, і Яга, дзядзьку Ваню і, калі спатрэбіцца, біфштэкс, для чаго не абавязкова быць папраўдзе засмажаным, па выразу акцёра Міхаіла Чэхава. Я лічу, што лепш вырашаць свае праблемы не за кошт сваіх бліжніх, а праз сублімацыю ў мастацтва. Гэта прынамсі больш стваральна. Непадабенства з рэаліямі – усяго толькі цэнзура падсвядомасці, такая ж, як і ў снах. Я не люблю псіхалагічнага стрыптызу, а вызнаю шчырасць. Гэта вельмі адрозныя рэчы. А што тычыцца жаночай творчасці... Ведаеш, доўгі час я не прызнавала гэтага ўвогуле. Прыстаўкі "жаночы" – да слоў "творчасць", "паэзія", "проза", "драматургія" і г.д. І цяпер я супраць такіх фармулёвак – але нікуды не падзенешся, мы – жанчыны. Адрозныя ад мужчын. Не лепшыя, не горшыя, проста – адрозныя. У мяне ёсць сям'я: муж, дзеткі... Я навучылася гатаваць ім нешта смачнае, зразумела чароўнасць "дурацкіх сантыментаў"... І гэта, мабыць, галоўнае, што мне дадзена ў жыцці. Сваю прыроду не перайначыш, дый грэх гэта – адмаўляцца ад уласнага полу, гэтак жа, як і ад нацыянальнай прыналежнасці.

**Г.Б.: Большасць створаных табой гераіняў так ці інакш звязаны з выяўленчым мастацтвам. Яны імкнуцца пераарганізаваць навакольную прастору, як бы падагнаць яе пад свой душэўны маштаб. Ты выбудоўваеш не толькі іхні ўнутраны свет, але і матэрыяльны. Атрымліваецца вельмі арганічна. І не адно на паперы – варта згадаць адмыслова арганізаванае тваё ўласнае жытло. Ці ёсць для цябе пэндзаль той "скрыпкай Энгра", якая іншымі, "запаветнымі" сцежкамі вяртае да "магістральнай шашы"?**

**Л.Р.:** Хутчэй маё інсітнае мастакоўства можна ацэньваць як хобі. Зразумела, цешыць самалюбства думаць, што вось, калі б я атрымала сапраўдную акадэмічную адукацыю, магла б стаць мастаком і г.д. Але з гадамі пераконваюся, што мысленне ў мяне не мастакоўскае. Калі мая дачка, навучэнка мастацкага ліцэя, кажа, што думае "карцінкамі", то я, калі малюю, разварочваю вакол кожнага элемента чыста літаратурныя сюжэты і магу пераказваць свае карціны, як казкі ці прыпавесці. Пакуль што мае́ карціны – кавалачкі настрою, згусткі энергіі, якія ствараюць атмасферу жытла, як вазоны ці азанатары паветра. А вяршыні майго мастакоўства я дасягну, калі "дарасту" духоўна да таго, каб намаляваць абраз. Але да гэтага яшчэ доўга...

**Г.Б.: У цыкле аповедаў "Старасвецкія міфы горада Б*" табе ўдалося сабраць з аскепкаў асабістых і літаратурных уражанняў цэлае мястэчка. Беларускія архетыпы, нявызначаны, але здатны быць угаданым адрэзак мінулага, запамінальныя характары і сітуацыі, тонкі апавядальны стыль з кінематаграфічнымі асацыяцыямі. Крытыкі прасочваюць у "Старасвецкіх міфах..." традыцыі Салтыкова-Шчадрына, Гогаля, Тэфі. Я б параўнала пранізлівы сум горада Б* з тым скразнячком, што застаецца пасля прачытання твораў О'Генры і Чапэка. Як і ў згаданых аўтараў, у цябе напрацаваныя пэўныя літаратурныя прыёмы пабудовы сюжэту і фабулы. Што для цябе больш важнае: эстэтыка ці ідэя твора?**

**Л.Р.:** Галіна, ты патрапіла зноў "у яблычка": О'Генры і Карэл Чапэк сапраўды мае ўлюбёныя пісьменнікі. (Дадаць яшчэ да згаданых Джона Кольера, Аляксандра Грына, Эдгара По і Адольфа Бе-

кера.) Хоць, калі сумленна, пры пераліку любімых пісьменнікаў я б, патураючы ўласнаму інтэлектуальнаму снабізму, на відныя месцы выставіла б імёны больш прэстыжных, "інтэлектуальных" літаратараў тыпу Гесэ ці Борхеса... Але... "Тры разы ў жыцці жанчына крочыць быццам па аблоках і ног пад сабой не адчувае ад радасці: першы раз, калі яна ідзе да шлюбу, другі раз, калі яна ўваходзіць у свяцілішча багемы, і трэці раз, калі яна ідзе са свайго гароду з забітай суседскай курыцай у руках". Цытата з О'Генры. Іронія, якая не дае займацца самалюбаваннем, вера ў лепшае, якая ратуе ад адчаю, лёгкі сум ад відовішча ўласных і ўвогуле чалавечых глупстваў, зробленых з найлепшых памкненняў – гэтыя якасці я не супраць пераняць. Плюс нязмушана дадаецца "горкі рамантызм" на глебе вечнага беларускага пытання. Я досыць "наплакалася" па няшчаснай Радзіме ў юначых вершах, і зразумела, што гэта неканструктыўна. Час ствараць, а не аплакваць. А для гэтага трэба абстрагавацца ад "няшчасненькага" іміджу, пераадолець нацыянальную мізантропію звычайным здаровым сэнсам, памятаеце, як Караткевіч горка іранізаваў з нацыянальнага характару: "дазвольці ж мне, беднаму няшчаснаму беларусу, ды ў сваёй хатцы, ды хоць у куточку пад лаўкаю пераначаваць". Вось мы ўсе і плішчымся пад лаўку або штурхаемся за месца на ёй. А ў самой хаце век не мецена, дый з панадворку невядома як яна выглядае. У нашым коле мала хто здольны да самаіроніі, у асноўным усе вельмі сур'ёзна ставяцца да сябе. Адсюль і ўсе няшчасці – як асабістыя, так і спароджаныя канфліктамі між асобамі ці ўнутрыграмадскімі групоўкамі. А вяртаючыся да твайго пытання, магу сказаць, што ў творы для мяне важнае толькі адно: каб ён прыносіў мне задавальненне падчас напісання. Зразумела, пад "задавальненнем" я маю на ўвазе моцнае эмацыйнае ўзрушэнне, катарсіс. Калі я пішу, я плачу, смяюся, як апошняя ідыётка, перажываю цэлую гаму эмоцый... Так робіцца ўсіх шкада і ў віртуальным, і ў рэальным свеце, што, здаецца, усё б зрабіла, каб сталася лепш, справядліва, сумленна, па-добраму. У такія моманты якраз і верыш, што напісанае паспрыяе гэтаму. У творчасці нашмат цікавей, чым у "звычайным" жыцці. Тым больш, што я не люблю мець схему сюжэта, і часам разгортванне віртуальных падзей мяне вельмі здзіўляе. Думаю, што творчы працэс – гэта проста рэальнае жыццё, узведзенае ў куб ці ў нейкі інтэграл – выба-

чай, у матэматыцы я круглы нуль, хоць у свой час і здавала супрамат.

Але пры гэтым трэба выразна ўсведамляць другаснасць літаратурнага свету. А то "дах паедзе".

**Г.Б.: Няшмат знойдзецца ў нашым пакаленні літаратараў, якія б з поспехам працавалі аднačасова ў розных жанрах. Вершы, проза, крытычныя артыкулы і нават драматычныя паэмы – вось твой дыяпазон. Драма Лесі Украінкі "Лясная песня" лічыцца адным з найвыбітнейшых твораў украінскай літаратуры. Якімі ты бачыш патэнцыйныя магчымасці гэтага "добра забытага" жанру ў беларускай паэзіі?**

**Л.Р.:** Узялася пісаць першую драматычную паэму ад уласных амбіцый – тэма няхай будзе самая "нехадавая" – Старажытны Рым часоў Актавіяна Аўгуста, жанр – забыты і непатрэбны ні ў тэатры, ні ў літаратурных часопісах – драматычная паэма, напісаная рэгулярным вершам. Хацелася давесці самой сабе, што я гэта магу. Спадабалася. Напісала яшчэ тры, і так адбыўся мой плаўны пераход да прозы. Ну а перспектывы для жанра драматычнай паэмы ўвогуле – вядома, я іх бачу. Моды пройдуць, тэатр стоміцца ад тэатральшчыны і вернецца да літаратуры, як было ўжо не раз. Пакуль што мае драматычныя творы прабіваюцца на сцэну да смешнага цяжка. Хоць неаднойчы знаходзіліся рэжысёры, якія "загараліся" іх ставіць, прычым абсалютна без маёй ці чыёйсьці "падачы", але ў самы апошні момант нешта ці нехта перашкаджала. Як па-філасофску заўважыў адзін малады рэжысёр: "Мусіць, яшчэ час вашых п'ес не прыйшоў, іх павінны зразумець". Някепскае суцяшэнне, праўда?

**Г.Б.: "Гарбатня" Людмілы Рублеўскай у "прылімаўскіх" колах зрабілася "месцам сустрэчы, якое змяніць нельга". Шасцідзесятніцкія традыцыі інтэлігенцкіх гутарак, адроджаныя табой у новых абставінах і ў новым часе, уздымаюць пытанні літаратурнага працэсу. Які сэнс асабіста ты ўкладаеш у паняцце "літаратурны працэс"?**

**Л.Р.:** І тут я выявілася як праўдзівай эгаісткай, так і непапраўнай ідэалісткай. Мне патрэбныя былі гэтыя сустрэчы, каб спато-

ліць уласную тугу па "интеллигентскому трёпу", які для аматараў – проста як наркотык. Мужчынам прасцей гэтую прагу задаволіць – затрымаўся пасля працы з калегамі – вось табе і дыскусія, і "гарбата"... А з другога боку, я сапраўды шчыра хацела "актывізаваць літаратурны працэс"... Як у вядомым анекдоце пра цягнік эпохі застою – калі не едзем, дык хоць будзем разгойдваць вагоны... Безумоўна, доля авантурызму ў маім "прадпрыемстве" і была, і ёсць. Не думай, што я такая наіўная і чакала "версальскіх" адносінаў з боку публікі. Мне бачыліся бурныя дыскусіі як падчас гутаркі, так і пасля кожнай з іх. Я свядома падбірала людзей розных поглядаў і старалася не "апускаць" вострыя моманты гаворак... Вось толькі не ўлічыла ментальнасць нашай шаноўнай публікі – абурэння хапае, але яго выказваюць "у кулуарах", а ў вочы кісла ўсміхаюцца і няшчыра пахвальваюць. У нас не любяць тых, хто "многа на сябе бярэ", асабліва жанчын. Але ж ёсць і рэальныя вынікі – сапраўды, "гарбаты" той матэрыял, які заўсёды прачытваецца, выклікае чытацкую пошту, які выкарыстоўваецца навукоўцамі і студэнтамі, гэта нешта жывое і зменлівае, таму і датклівае. Наша постсавецкае грамадства ніяк не ўсвядоміць, што ў людзей могуць быць дыяметральна розныя погляды, і яны могуць не быць ворагамі, і што калі ты з нечым не згодны, трэба не нападаць, а размаўляць, і не ўзводзіць уласныя перакананні ў ранг абсалютнай ісціны. Але там, дзе тычыцца мастацтва, літаратуры, я не прызнаю ўлюбёнага беларускага прынцыпу – абы ціха. Чытача трэба правакаваць, а акадэмічную інфармацыю ён пры жаданні пачытае і ў падручніку. Вось гэтыя дыскусіі, якія даюць накірунак думкам, абмеркаванне невырашальных пытанняў, падчас якіх нараджаюцца імпульсы для новых твораў, я называю літаратурным працэсам. А самі творы – гэта не "працэс", гэта проста літаратура.

**Г.Б.: У артыкуле "Ты лішні, ты вольны...", прысвечаным творчасці Уладзіміра Някляева, ты паспрабавала зірнуць на здабыткі паэта скрозь алгарытм Юнгавай псіхааналітыкі. Што сталася першасным у згаданай працы: канцэпцыя Юнга ці радкі Някляева?**

**Л.Р.:** Найперш была паэзія, таму што паэзію Някляева я ведаю і люблю з юначых гадоў. А канцэпцыя Юнга падышла для яе тлума-

чэння проста ідэальна, таму што, як я пісала ў згаданым артыкуле, Някляеў – паэт, які працуе з падсвядомасцю. Ён можа прымаць у жыцці розныя аблічы, займацца якой заўгодна гульнёй – у вершах усё адно прарвуцца яго сапраўдныя пачуцці, нават па-за жаданнем аўтара. А я заўсёды лічыла, што ў сапраўднага паэта яго вершы павінны быць нашмат больш значныя, разумнейшыя, мудрэйшыя, цікавейшыя і да т.п., чым ягоная ўласная (матэрыяльная) асоба.

**Г.Б.: Аналагічныя падыходы ты імкнешся выкарыстаць пры даследаванні, так бы мовіць, калектыўных аб'ектаў. Як узнікла твая згадка пра парадаксальную апазіцыю горада і балота ў нашай літаратуры (ці ў нашых літаратараў)?**

**Л.Р.:** Аналогія з балотам узнікае менавіта ад таго, што мы ўжо згадвалі з табой падчас нашай гаворкі, – ад непрыняцця большасцю літаратараў горада як натуральнага месца для жыцця, ад усведамлення яго небяспекі і чужароднай таямнічасці – дрыгвы пад нагамі. Як у народных паданнях нячыстая сіла прыводзіла аблытанага чалавека на баль сярод балота, у "Дамавікамероне" Глобуса яна ж прыводзіць нашага сучасніка ў гарадскі начны бар. Нават у гараджан па паходжанні сядзіць у падсвядомасці вобраз сакральнага "роднага куточка", якому трэба пакланяцца і па якім трэба вінавата настальгіраваць – гэткая фальклорная хатка з духам продкаў унутры. Помню, сказала я адной слыннай паэтэсе, якая заклапацілася пра звялыя вазоны ў маім кабінеце, што я ў жыцці нічога не саджала і не вырошчвала. "І не саромеешся ў тым прызнацца?!" – здзіўленне амаль да жаху. А я ж і карову ні разу не даіла, уяўляеш, які жах? Праўда, з праграмаваннем камп'ютэраў у мяне таксама "няпряженка", але, відаць, праграмаванне камп'ютэраў для беларускага пісьменніка не лічыцца гэтакай важнай навукай, як аграномічныя практыкаванні.

**Г.Б.: У пасляслоўі да адной з "гарбатаў" ты напісала: "Кожны, хто пачынае сваю творчасць, хоча быць наверсе, хоча быць Пушкіным..." А чаму ты не сказала "Купалам"?**

**Л.Р.:** Мабыць, пад уплывам нядаўняй пушкінскаюбілейнай вак-

ханалії ў беларускім кантэксце. Апроч таго, Пушкін – усё-ткі больш абагульненае, больш "намінальнае", знакавае імя. "Купала" аўтаматычна за сабой цягне наша нацыянальнае пытанне, а пытанне – яно і ёсць пытанне, з пытальнікам, а не клічнікам ці кропкай напрыканцы. "Быць Купалам" прачытваецца не толькі "быць геніем", але і "быць адраджэнцам", "быць свядомым беларусам", "быць песняром свайго народа", "быць ахвярай рэпрэсіўнай машыны" ды іншае – у залежнасці ад кантэксту. Апроч таго, у мяне была цытата з булгакаўскага "Майстра і Маргарыты", якая пасля "вылецела" з тэксту, пра зварот паэта Рухіна да помніка Пушкіну. Вось і ўвесь асацыятыўны шэраг.

**Г.Б.: Калі рэгіструецца тэхнічнае вынаходніцтва ці нават навуковае адкрыццё, у заяўцы фармулюецца: "Прыбор (ці працэс, ці метад) X (ці Y, ці Z) адрозніваецца (натуральна, ад усяго, што існавала раней) тым, што... Даруй за тэхнакратычны падыход, але ці магчыма ў падобнае пракрустава ложа ўкласці тваё літаратурнае крэда?**

**Л.Р.:** У аднаго філосафа было параўнанне: няхай насельніцтва Зямлі мы ўявім у выглядзе аднолькавых цвікоў, забітых у роўную паверхню, і вышыня цвіка будзе сімвалізаваць адоранасць чалавека. Над шараговымі цвікамі зрэдку ўзвышаюцца таленавітыя, яшчэ больш рэдка высяцца геніі, дзесьці – некалькі на ўсю зямлю – тытаны духу кшталту Канфуцыя ці Леанарда да Вінчы. Але калі паглядзець на гэтую панараму цалкам, то розніца іх вышыні абсалютна не будзе заўважацца. Будзе відаць адно раўнюткая бліскучая паверхня. Так што карысней глядзець на сваю асобу і творчы набытак з вышыні вечнасці, і тады хуценька вылечышся ад амбітнасці ды месіянства. Не, Галіна, не буду я фармуляваць сваё крэда. Калі каму цікава – хай фармулююць самі. Аднойчы Блок узяў для свайго верша эпіграф з "Пер Гюнта": "Хто ты?" – "Я – гэта я. Ці можаш ты сказаць пра сябе тое самае?" Я проста з усіх сілаў намагаюся застацца сама сабой, не здраджваць колішнім ідэалам, якімі б наіўнымі яны на сённяшні дзень ні здаваліся. І ўвогуле хачу заставацца наіўнай. Калі я перастану здзіўляцца жыццю і верыць людзям... Не ведаю... Гэта проста буду не я.

Людміла РУБЛЕЎСКАЯ

# ЛІКАНТРОП

Ствалы высокіх карабельных соснаў зверху былі бурштынавымі ад сонца, а пачынаючы з сярэдзіны цямнелі, быццам пастарэўшы, і ля самай зямлі пакрываліся сівым змрочным мохам. Нават пры невялікім ветры дрэвы пагойдваліся, сутыкаючыся шырока раскінутым голлем. Таму, хто глядзеў на іх з акна маёнтка Варгуны, здавалася, што сосны ідуць проста да яго, нязграбныя і адначасова страшныя, ідуць на нягнуткіх сваіх нагах, нахіляючыся з боку на бок, і вось-вось праб'юць тонкае шкло, упраўленае ў свінцовыя рамы, жорсткім, як дзіды, голлем...

Але чалавек у маёнтку расчыняе акно тонкай рукой у пярсцёнках і крычыць, перагінаючыся ўніз з вышыні трэцяга паверха:

– Грынь! Сёння палявання не будзе! Замкні сабак! І не выпускай, пакуль не скажу...

Унізе адклікаюцца грубым незадаволеным голасам:

– Як сабе хочаце, пане...

Сабачы абураны віскат сціхае.

Чалавек рэзка адыходзіць ад акна, захінае на грудзях аксамітны халат, быццам ад холаду, і ўсё ходзіць па пакоі, і стогне, і горка пасмейваецца, і не зачыняе акно... Ізноў, ну чаму ізноў... Божа мой, божа літасцівы...

# Ты

Багата, нязвыкла багата жывуць у гэтай вёсцы мужыкі. Хаты крытыя не саломай, не гонтам – ладнай манастырскай дахоўкаю, стрэхі – у “закот”, і на кожным двары – буслянка... Пан паручнік азіраецца і аглядае свой панылы атрад – дзесяць натомленых жандараў на запырсканых гразёю конях... Прынамсі, дарогі тут такія ж, як у Расіі. Але – не Расія... Ліцвіны, беларусцы, цёмны, забабонны люд. Яны хаваюць у каморах драўляных каталіцкіх святых і ў “чырвоныя” дні мажуць іх вусны мёдам. За праваслаўнымі абразамі ў іх схаваны пук светаянніку, сабранага на паганскае Купалле, і абавязкова вісіць вянок часныку – ад нячыстай сілы. А пад вянцом кожнай хаты, які скіраваны на ўсход, быў некалі закапаны жыўцом певень – няшчасны сонечны вястун...

Пан паручнік грэбліва крывіць вусны. Чужое... Але ж усё навокал можа ў будучым належаць яму, вернападданаму рускаму двараніну...

Апошняе восеньскае сонца шчодра залоціць Паўночна-Заходні край імперыі. Над дарогай змыкнуліся шаты соснаў, карункавыя мігатлівыя цені ляглі пад ногі коней. І гэты шум – быццам хвалі... Крыху ўяўлення – і поўнае адчуванне, што едзеш па дне ракі з празрыстай, працятай сонцам вадою...

Вось і мяжа маёнтка. Двое мужыкоў у маленькіх ваўняных шапках-магерках паварочваюць перагарадзіўшае дарогу бервяно на дзвюх падпорках-рагулях... Напэўна, і самі гэтыя Варгуны — звычайны недагледжаны старасвецкі дом, крыху лепшы за хату заможнага селяніна... А ўладальнік — неадменна тыповы засцянковы шляхцюк, чыя пыха большая за дзіркі, што праела моль у яго век не вытрасаных прадзедаўскіх кілімах...

Сосны падступаюць да самых сцен дома... Але можна разгледзець, што будыніна вялікая, на тры паверхі, з урачыстай каланадай пры ўваходзе. Хаця крыху запушчаная...

 



Конь паручніка ўпарціцца, падымаючы цэлы фантан гразі капытамі, і дрыжыць... Што за морак напаў на коней? А тут яшчэ жудаснае сабачае скавытанне аднекуль з гаспадарчых прыбудоў...

– Да пана Леанарда Варгуна! Дзяржаўная справа!

У вокнах вялікага пакоя для гасцей гасне чырвонае сонца. (Няўжо такі позні час?) Ля сценаў нязграбная мэбля чорнага колеру, у якой нешта ад труны. І гэтая дурная завядзёнка мясцовых жыхароў ставіць печку ў бліжэйшым да ўваходу куце... Паручнік касавурыцца на абкладзеную бліскучай зеленаватай кафляй печку, і яму здаецца, што пузатыя голенькія херувімчыкі з куфлямі піва на кожнай кафлі пазіраюць на яго, павярнуўшы хітраватыя тлустыя тварыкі, і падміргваюць самым ганебным чынам. Паручнік чуе, як жандары за яго спінаю ўголас захапляюцца звярынымі галовамі, якія ўпрыгожваюць пакой. Зубры, туры, алені, ласі, мядзведзі, дзікі шчэрацца са сценаў, пабліскваюць амаль жывымі, налітымі крывёю вачыма, здаецца, нават пагойдваюць вялізнымі рагамі...

Вяртаецца слуга – у сурдуце, з бакенбардамі і абразлівай важнасцю:

– Пан Леанард просіць прабачэння ў вельмішаноўнага панства, што па прычыне кепскага здароўя не можа спусціцца, каб сустрэць вас асабіста. Пан чакае вельмішаноўнае панства ў бібліятэцы...

Паручнік хмыкае: гаспадар відавочна перапалохаўся. Нічога. Падымемся самі, не цяжка...

Паручнік і трое жандараў ідуць за слугою наверх па драўлянай адпаліраванай лесвіцы. З двара далятае абрыдлае сабачае выццё і спалоханае іржанне коней.

У вальтэр'янскім утульным крэсле сядзіць вытанчаны,



 

з кранутымі сівізною скронямі, пан. На ім пунсовы аксамітны халат, аблямаваны цёмна-фіялетавай тафцяной палоскай, на нагах турэцкія расшытыя пантофлі з задранымі насамі. Далікатная, у пярсцёнках, рука адкладае пульхны томік... А казалі, што знакаміты паляўнічы...

– Даруйце, шаноўныя, што не ўстаю – раматуз.

Ад гэтага ветлівага голасу і цвёрдага позірку шэрых насмешлівых вачэй чырвань кідаецца ў твар паручніку. Праклятыя напышлівыя шляхцюкі... Але пачакай, даражэнькі, паслухай імператарскі загад: За садзейнічанне мяцежнікам... Неданясенне на змоўшчыкаў... Падлягае арышту... Вобыск... Канфіскацыя маёмасці...

Пан Леанард задумліва перабірае пышны чырвоны кутас на канцы свайго пояса... Што ж, госці прыехалі акладна ў час...

– Мой дом і я ў вашым распараджэнні... Дазвольце толькі хвораму чалавеку застацца ў крэсле...

Тонкая рука зноў бярэ кніжку... Паручнік крыкліва аддае загады – аж голас зрываецца на хлапечы дыскант ад неўсвядомленай злосці на вытанчанага арыстакрата, які ўсё жыццё піў вунь з тых пераліўчатых фарфоравых кубкаў – паручнік бачыў падобныя толькі ў тых сямействах, дзе на яго ніколі не глядзелі як на магчымага жаніха... Кволая на выгляд рука ў пярсцёнках сціскала гэтую стрэльбу з цудоўнай срэбнай гравіроўкаю, і каралеўская здабыча – зубр – канала ля ног, што цяпер грэюцца ў расшытых сапраўднымі перламі пантофлях... Такі і на шыбеліцу пойдзе з лёгкай пагардлівай усмешкай... На хвілю афіцэр адчувае сябе бездапаможным, заблуджаным разам з купкаю жаўнераў у чужых бясконцых лясах і балотах.

"Усё будзе маё!" – з'яўляецца ў падсвядомасці радасная думка, і паручнік набывае ранейшую ўпэўненасць і, пакінуўшы жандараў сцерагчы арыштаванага, ідзе камандаваць дзеяннямі астатняй часткі атрада.

У бібліятэку разам з сабачым скавытаннем пачынае далятаць гук разбітага посуду і жаночы віск.

Цямнее. У маёнтку запальваюць свечкі. Паручнік, спяшаючыся, складае пратакол вобыску. Заўтра зноў гразкія вераснёўскія дарогі, тужлівыя крыкі балотных птушак, і на кожнай развілцы – страшны драўляны Ісус, раскрыжаваны на пахіленым негабляваным крыжы... А сёння ёсць, нарэшце, магчымасць пераначаваць у людскіх умовах, на пуховай пярыне, у велізарным панскім ложку пад казачным балдахінам... Пан Леанард сказаў, што пераседзіць да раніцы ў бібліятэцы – з улюбёнымі кніжкамі... Інтэлігентны чалавек. Дастаткова аднаго вартавога перад дзвярыма і двух – пад вокнамі...

Прынамсі, кухня тут вышэй ухвалы... Кухара ні ў якім разе не трэба звальняць.

Пан Леанард сядзіць у сваім утульным крэсле. За вокнамі хістаюцца цёмныя постаці соснаў. Калі вецер узмацняецца, яны сутыкаюцца не толькі галлём, але і стваламі, і тады чуваць сухое пастукванне дрэва аб дрэва. Да звыклага паху старых кніжак дадаецца шмат якіх пахаў і іх адценняў. Пан Варгун улаўлівае нават горкі пах пажарышча на месцы суседняга маёнтка.

Амаль адразу ж абвастраецца ўспрыняцце – мільёнаў гукаў – шоргаты, драпанні, стогны, шэпты, крокі ўрываюцца ў сцішаны мозг, так што патрабуецца нейкі час, каб зноў авалодаць свядомасцю...

Пара... Пан Леанард бязгучна ўстае і моцна дзьме на свечкі, што гараць на круглым мармуровым століку. Запаноўвае цемра, але вочы набываюць нечаканую вастрыню зроку – усё наваколынае бачыцца зусім выразна, быццам у нейкай шэрай падсветцы. Пачынае страшэнна свярбець скура... Пан, спяшаючыся, развязвае пояс і скідае ха-

лат. Чырвоны колер аксаміту выклікае неадольнае раздражненне, і Варгун запіхвае скінутую адзежу ў ніжнюю шуфляду шафы.

Цела працінаюць нябачныя струмені энергіі, якая, здаецца, сыходзіць ад зазіраючай у акно поўні. Уся істота чалавека вібрыруе, напаўняецца моцай і вясёлым шалам. Магутны звярыны рып ірвецца скрозь сціснутыя зубы. Шыбы акна ціха разыходзяцца, упускаючы ноч. Унізе, у кустоўі язмену, віднеюцца дзве ненавісныя белыя фуражкі...

З акна трэцяга паверха маёнтка на зямлю, укрытую мяккім кілімам першага лістабою, бязгучна саскоквае вялізны воўк з шэрымі вачыма, у цэнтры якіх гараць два жоўтыя агеньчыкі...

Жудасна выюць сабакі, на стайні рвуць аброці ўспененыя коні, дворныя людзі, не кажучы ні слова, устаюць з ложкаў, пазяхаючы, вешаюць на дзверы і вокны звязкі часныку і чартапалоху – цяпер ні ведзьма, ні ваўкалак не ўвойдзе, жагнаюцца і зноў кладуцца спаць, забабонныя, цёмныя, спакойныя...

Нараніцу прыслуга доўга прыбірае дом, зусім не здзіўляючыся начному знікненню прыхадняў.

У бібліятэцы, ва ўтульным вальтэр'янскім крэсле сядзіць пан Леанард Варгун. Чырвоны аксамітны халат перавязаны поясам з вялікімі бухматымі кутасамі, вытанчаная рука ў пярсцёнках перагортвае старонкі томіка лацінскіх вершаў, а за акном хістаюцца, пагойдваюцца сосны, што ўсё ідуць да маёнтка, але ніяк не наблізяцца да яго ўшчыльную...

– Грынь, рыхтуй сабак! Сёння ідзем на паляванне!

1994

Людміла РУБЛЕЎСКАЯ

# НА ФОНЕ ДАЖДЖУ І ЛІСТАБОЮ

Восенькі сумны дождж злучае неба і зямлю незлічонымі празрыстымі павуцінкамі. І само неба нагадвае вялізную шэрую Арахну, няўмольную павучыную багіню, якая прадзе і прадзе гэтыя халодныя празрыстыя ніці, заплятае цэлы свет імжой і туманам, каб высмактаць з неасцярожных, занадта ўражлівых душаў апошняе сонца мінулага лета.

Я трымаю над сабой парасон, і дажджынкі злосна б'юць у нацягнутую пярэстую тканіну. Постаці прахожых бачацца так няпэўна, быццам іх намаляваў шэрым алоўкам, а пасля паспрабаваў сцерці незадаволены мастак – ды так і не сцёр да канца, пакінуў размазаныя няпэўныя абрысы пакамечанай паперы... Але адна постаць відочная мне выразна. Ужо каторы раз на дзень сустракаю яе!

Я амаль злуюся на сумную дзяўчыну з доўгімі цёмнымі валасамі на прамы прабор, і ў адказ на яе жаласны позірк адварочваюся і прыспешваю хаду. Хаця цудоўна ведаю, што дзяўчына не вінаватая – уся справа ў маім праклятым уяўленні. Праз некалькі крокаў азіраюся на месца, дзе стаяла яна, але, зразумела, там нікога ўжо няма, толькі павуціна дажджу ды мокры асфальт, прыўкрашаны жоўтымі лапінамі лістабою...

# Ты

...Ды яшчэ ледзь чутнае скавытанне скрыпкі...

Хто сказаў, што гранне скрыпкі – гэта боскі голас? Магу засведчыць толькі, што ніводзін іншы інструмент не здольны так "драпаць" нервы, адной працяглай нотай выклікаць з глыбінь душы ўсіх прытоеных там пачвар і ў момант ператварыць цалкам ураўнаважанага і задаволенага жыццём чалавека ў расчараваную істэрычную істоту..

Я сяджу на сваім працоўным месцы паміж рыпучым кульманам і мадэрновым акном ва ўсю сцяну. Стрыжань майго алоўка ізноў ламаецца, пакідаючы на белым ватмане няроўную абрывістую рысу. Колькі гэтых рысак я ўжо накрэсліла за сваё жыццё? Напэўна, іх агульная даўжыня якраз як дарога да старажытнага, з вузкімі брукаванымі вулкамі і гатычнымі храмамі горада, у якім спаткала свой лёс. У нас, студэнтаў, там праходзіла практыка па малюнку. Гаманлівымі купкамі прыладжваліся мы са сваімі планшэтамі на рагах тлумных вуліц ці ў зарослых дворыках перад зачыненымі цэркаўкамі, і зрысоўвалі мудрагелістыя карнізы і капітэлі. Для нас, звыклых да няхітрых утылітарных формаў роднага горада, тут усё здавалася чужым і абразліва арыстакратычным. Прахожыя не звярталі на нас увагі. Адзін толькі сімпатычны маладзён у балотнага колеру турысцкай куртцы доўга назіраў нашы мастацкія намаганні, а пасля знік і вярнуўся з двума кубачкамі гарачай кавы для мяне і маёй сяброўкі... І – на добрай беларускай мове:

– Частуйцеся, зямлячкі!..

Быў вельмі халодны ранак...

У прынцыпе, сум, што з'яўляецца з узростам, — не па былым каханні, вандроўках, прыгодах, а па той вастрыні пачуццяў, якую не здольныя ўжо аднавіць ніякія новыя каханні, вандроўкі, прыгоды...

Мой аловак, толькі што завостраны, ламаецца зноў, і ўсе чатыры кнопкі, мацуючыя чарцёж да кульмана, пасміхаюцца з мяне трохкутнымі ўсмешкамі круглых бліскучых пысак... Ненавіджу меладрамы, "мыльныя оперы", дзе ў кожнага героя ёсць смяротная таямніца, якую трэба любой цаной захаваць ад каханага чалавека. Але ўсе таямніцы рана ці позна паказваюць рожкі (ці асліныя вушы?), каханыя даверлівыя людзі хапаюцца за пісталеты (або за сэрцы), і вось няшчасная выкрытая прыгажуня (прыгажун) скрозь прыступы рыданняў дарэмна паўтарае: "О, павер мне... У гэтым няма маёй віны... Павер мне!.." – і г.д.

Я ўтаропілася ў акно, і хутка за мокрым шклом вымалёўваецца знаёмая постаць. Дзяўчына дакранаецца да халоднай шыбы. Я ведаю, што яе пальцы не адчуваюць холаду – не таму, што перада мною фантом, а таму, што на кончыках яе пальцаў – цвёрдыя мазолі ад скрыпічных струнаў.

– Ну што глядзіш, карова! Згінь! – уголас выказваю сваё раздражненне, і супрацоўнікі здзіўлена пазіраюць у мой бок. За акном сплятаюцца ніткі дажджу, і я бяру блакітна-белую гумку і сціраю сапсаваную частку чарцяжа з паперы, якая страціла сваю цнатлівую белізну і ўсё больш прыпадабняецца да неба за акном...

Урэшце, сусветнай літаратурай даўно распрацаваная тэма "папярэдняга кахання", якое перажываецца перад сапраўднай, "адзінай" страсцю. Яно – своеасаблівая падрыхтоўка пачуццяў, настройка скрыпічных струнаў, тыя бязладныя, пранізлівыя гукі, што далятаюць з аркестравай ямы перад канцэртам. Нават Джульета была другой! (А калі капануць глыбей – дык і Ева...)

Але самая безнадзейная і непазбежная рэўнасць – рэўнасць да мінулага. Калі раптам даведваешся, што тваю дарогу некалькі разоў перабягала чужая незаўважаная сцяжына, і падзеі, якія ты памятаеш, мелі інакшае тлума-

чэнне і інакшыя вытокі... І мой будучы муж, аказваецца, першы раз завітаў да мяне ў госці ў якасці афіцыйнага жаніха, прыйшоўшы (божа літасцівы!) проста з міліцыі, дзе яго дапытвалі на прадмет самагубства добрай знаёмай. Прычым здарылася гэтае няшчасце ў час маёй практыкі і яго археалагічнай экспедыцыі, калі далёкі старажытны горад вёў нас сваімі вузкімі вулкамі адзін да аднаго і з'ядноўваў назаўсёды нябесным звонам сваіх храмаў. (Бедная дзяўчына з багатай багемнай сям'і... Маці, вярнуўшыся з дачы, знайшла яе на падлозе пустой кватэры з успаратымі венамі... Пасля нейкі нелюдзь распусціў плётку, што яна была наркаманкай і не вытрымала "ломкі"...) Ён прыйшоў пазнаёміцца з маімі бацькамі і прынёс не кветкі і не бутэльку, а вялізны пернік, паліваны рознакаляровай глазурай, у фірмовай каробцы з нацыянальным арнаментам. Я частавала рамантычна задумлівага госця гарбатай, і ўсё дапытвалася аб прычыне глабальнай задуменнасці... А пасля мы блукалі па старажытных могілках каля адбудаванага вернікамі касцёла, і на шэрыя магільныя камяні, як і сёння, злятали залатыя феевы чоўнікі лістабою. Тады паўз нас прайшла маці нябожчыцы-скрыпачкі, у жалобным адзенні, з кветкамі... Дарэмна спрабую ўспомніць той момант – няма большай пакуты, чым спроба рэканструяваць, узнавіць у памяці падзеі мінулага, якія для цябе прамільгнулі як фон, як гэты дождж, як гэтыя размытыя постаці прахожых... Затое помняцца дробязі, дэталі... Вочы, хутка адведзеныя ўбок пры сустрэчы з незнаёмцам, раптоўныя перамены настрою, нежаданне ісці менавіта па гэтай лесвіцы, прысаджвацца менавіта за гэты столік у кавярні...

Колькі я ішла па чужых слядах, і да якой мяжы?

– Чаму я даведваюся пра гэта толькі цяпер?

– Я баяўся наклікаць смерць і на цябе... Ведаеш, меў адчуванне, што нясу бяду ўсім, хто спадабаецца...

..."Усім"... Няўжо за ўяўленай сумнай постаццю я магла б разгледзець яшчэ іншыя?

Дзверы рыпяць, як ненастроеная скрыпка. Шэрая Арахна, звіснуўшы над горадам, скончыла сваю халодную працу і пацiху адпаўзае на захад, туды, дзе зялёныя пушчы маёй краіны хаваюць свае азёры і крыніцы, сваіх высакародных аленяў і чорных буслоў, дзе пах зямлі і травы, не змяшаны з асфальтавым смуродам, праганяе харавітыя, спароджаныя вычварнай фантазіяй горада думкі... Я акунаю парэпаныя чаравікі ў залатую лістоту і кіруюся да аўтобуснага прыпынку, пакідаючы ў тоўстым восеньскім кіліме глыбокую дарожку.

Сёння будзе сонца. На ўзбочыне прысады цямнее панылая постаць скрыпачкі. Для большага меладраматычнага ўражання бледная рука сціскае тонкую шыйку скрыпкі... Ах, якія жаласныя вочы...

Я іду проста на прывід і крычу ў невыразны твар:

– Прападзі, морак! Ты – толькі цень майго недаверу, толькі нядобрая частка маёй душы... Я праганю цябе сваім каханнем, даб'ю шчасцем, назапашаным за гады жыцця разам з тым, хто ўжо не мае ніякага дачынення да цябе... Я прыкручу цябе, як вядзьмарку да слупа, шчырымі ласкавымі словамі, якія я гавару яму, а ён – мне... Я пазбаўлюся ад цябе, як ад памяці пра выпадковую сварку...

Дзяўчына ўздрыгвае, нібы адлюстраванне на ўскалыхнутай вадзе, і знікае. Сонечныя прамені перасыпаюцца з галіны на галіну і падаюць у гурбы лісця.

Я спяшаюся дадому, да сваёй сям'і. Насланнё адплывае ў нябыт цёмнай хмарай, і я не шукаю патаемнага сэнсу ў падзеях жыцця, не пакутую ад мазахісцкага пытання "чаму ўсё было так, як было"... Я веру і спадзяюся...

# ПАРТРЭТ БАБУЛІ

Прабачце, паненка
У строях шляхетных цнатлівых,
З бялюткім праборам у гладкіх, як лён, валасах.
Былі вы з гасцямі прыветнай, прыстойна-маўклівай.
І думка адна пра каханне навейвала страх.
А мне ўжо нічога ад вас не пакінулі воды,
Імклівыя воды старой радаводнай ракі.
Спадніцы крухмальныя сталі пялюшкамі потым,
Каўнер-самавяз памяняны на лыжку мукі.
І рукі, што ўмелі задумліва клавішы лашчыць,
І крыжыкам шыць, і лацінскія кніжкі гартаць,
Пасля навучыліся працы штодзённай, бяднячай,
І ўнукам нічога амаль не змаглі перадаць.
І я ці змагу на калені ў царкве апусціцца
Так проста і шчыра, ці маўзеру ў вока зірнуць,
І, нат не збялеўшы, чужынцу шпурнуць завушніцы
І шлюбны пярсцёнак, а годнасці – не забяруць.
Прабачце, паненка
У строгім шляхецкім убранні.
Я ведаю – вы не такой уяўлялі мяне.
Ды нейкую сувязь пакінула неба між намі,
Таму і вісіць ваш партрэт у мяне на сцяне,
Таму і складаюцца гэткія дзіўныя вершы,
Таму непамысна мне ў тлумных сучасных сяброў,
І дом мой заўсёды – як ціхая кутняя вежа,
І мову – адну выбіраю між роднасных моў.

*1991*

***

Ну што ты плачаш, браце мой?
Твой плач таксама бескарысны.
Памрэ травінка пад нагой,
Змяшае дождж усе абрысы,
І не абудзіцца ні ў кім
Трывога, што цябе згінае.
Мы – не агонь, мы – толькі дым,
Які агонь жыццё хавае.
Разумных больш, чым добрых, тут.
Ты не дакажаш ім нічога.
Твая гравюра “Страшны Суд”
Ад мастака – а не ад Бога.

*1993*

***

Шлях пясчаны, пыльны, доўгі,
І царква каля дарогі,
У якой не бралі шлюбаў –
Адпявалі самагубаў.
Шлях пясчаны, звон і вецер.
Ты куды ідзеш, паэце?
Перапеў пра ўсё, што ведаў,
Быў паэтам між паэтаў.
Стаў шукаць сябе ці Бога –
І вакол цябе – нікога.
Толькі шлях пясчаны, доўгі,
І царква каля дарогі.
Толькі спісаныя сшыткі
Ды дарэмна лёс пражыты.

*1995*

 



***

Самыя доўгія ночы.
Ночы без зораў, без снегу.
Не адпускай мяне, Ойча,
ў гэтае цемрыва грэху.
Не аддавай мяне, Ойча,
гэтаму свету прарокаў.
Бо Саламея ўсё танчыць,
рукі ўздымае высока.
Тонка звіняць бранзалеты,
кружаць яе пакрывалы,
з шоўку празрысцей завеі,
з вогненным імем Ваала.
Стан выгінаецца гнуткі,
твар не ўсміхаецца белы...
Не пасылай мяне, Ойча,
ганьбіць лілейнае цела.
Ёсць у няведанні – шчасце,
святасць – у жорсткасці цноты.
Не наракай мяне, Ойча,
увасабленнем самоты.
Пасак таненькі ўзыходу –
сцежка ад цемры ды сцюжы.
Там сарамлівая Дзева
цеслю прымае за мужа.
Не спакушае нікога,
не забівае нікога.
Проста і трохі наіўна
волю выконвае Бога.
А Саламея ўздымае
рукі так страсна і гожа,
і Магдалінай святою
я не ўяўлю яе, Божа...

*1995*



 

# ЦУДОЎНЫ ІОСІФ

"Калі Іосіф прыйшоў да братоў сваіх, яны знялі з Іосіфа адзежу яго, адзежу рознакаляровую, якая была на ім; і ўзялі яго, і кінулі яго ў роў..."

*Быццё, 37:23-24*

І прадалі цябе твае браты,
Каб каляровай не насіў адзежы,
Абрыдзеў – бо інакшы... Зараз ты
Няпэўнай хвілі і купцам належыш.
Над хвалямі бясконцымі пяскоў
Цыклопам вісне сонца Палесціны.
Браты нясуць у клунку да бацькоў
Тваю адзежу і кіпцюр ільвіны.
Ну хоць цяпер навучышся ілгаць,
Анёльскі хлопчык?
У людзях – прыдасца,
Там, дзе стаіць егіпецкі палац
І пальмы ў Ніл замутнены глядзяцца.
Маленькі дабрадзей чужой зямлі,
Снабачаннік, аматар лашчыць словы...
Цябе браты ўсё роўна прадалі б.
А не насі адзежы каляровай.

*2000*

# СЫХОД З ЕГІПТУ

"Калі народ пабачыў, што Майсей доўга не сыходзіць з гары, то звярнуўся да Аарона і сказаў яму: устань, і зрабі нам бога..."

*Сыход, 32:1*

То манна нябёсная, то перапёлкі,
То льецца вада са звычайнай скалы...
Ды толькі былыя рабы – не анёлкі.

 



Абрыдлі ім скалы, пясок ды арлы.
А ну, паспрабуй адысціся на хвілю,
Прыўзняцца да неба, да Бога-айца...
Унізе з металу каштоўнага вылье
Твой брат улюбёны куміра-цяльца.
Куды ты вядзеш іх,
звяглівых, дрыготкіх,
Няўжо спадзяешся, што ў новай зямлі
Забудуць на зайздрасць,
нянавісць і плёткі
І ўспомняць прарока, якога клялі.
І мала ім цудаў, іх вера не ўздыме,
І хочацца зноў пад чужую руку...
І Бог паміж іх – не заўважаны імі.
Скрыжалі разбітыя
ў хвалях пяску.

*2000*

## 2000

На верхняй прыступцы стагоддзя,
якая вядзе
зусім не да неба –
а значна ніжэй і бяздонней,
знікаю ў халоднай самоце,
нібыта ў вадзе,
і падае цень ад крыжа
на маё падваконне.
На верхняй прыступцы стагоддзя
прытулку няма,
таму што адбыўся падзел
на крылатых і слізкіх.



 

А я – на мяжы,
я не здольная выбраць сама,
куды падавацца
ад гэтай мяжчасавай рысы.
Мне добра і тут.
Праплываюць сузор'і і дні,
а дні – як эоны,
а я – перачытваю казкі
на верхняй прыступцы стагоддзя,
пры зорным агні,
з наіўнаю верай
у сілу спагады нянаскай.

*2000*

## ПАНІ

Чаго ж ты плачаш, кніжніца, дзівачка?
Хацела мнішкай стаць, ды расхацела.
Таму цяпер не абцяжарвай плачам
Зямное неспатоленае цела.
Не толькі Бог – твой гаспадар суровы,
Але і князь, які не любіць песень.
Часцей за вышываннем каляровым
Ты бавіш час у залачаных крэслах.
Ты гаспадыня? Вось насмешка лёсу!
Вергілія чытала і Тацыта,
Стварала для сябе высокі востраў,
Цяпер з прыслугай сварышся сярдзіта.
Дзіця хварэе. Муж на паляванні.
І моль ляціць ад выцвілых кілімаў.
Аб чым ты плачаш? Аб зямным каханні?
Ці аб нябесным, што праходзіць міма?

# “ПОДЗВІГ КРЫТЫКА”: ТРУНАК ДЛЯ ГУРМАНАЎ

**Рэдка сёння сустрэнеш** такога айчыннага літаратара (асабліва з маладзейшых), каб ён быў *умеркавана* адукаваны: мастацкая свядомасць “класікі-пост”, зарыентаваная на інтэртэкстуальнасць як прынцып творчасці і цытатнасць як іманентную ўласцівасць тэксту, вымагае нейкай гіпертрафіраванай дасведчанасці; яна, праўда, часта аказваецца фрагментарнай і блытанай. Навейшая літаратурная практыка стварае ўмовы і, здаецца, заахвочвае тыражыраванне “геніяў” – гэта адчуваецца і беларускімі інтэлектуаламі:

***стварыць гамэра не так складана як падаецца на першы погляд***
***патрэбны толькі выдатны густ і крыху трывання нажніцы знойдуцца...***

**(Міхась Баярын. “Senectutes”)**

Ды наплыву нават паўфабрыкатных гамэраў, спароджаных маскультавай тэхналогіяй *ready-made*, пакуль не заўважаецца. Наколькі з трываннем у беларускіх творцаў усё складваецца аж залішне добра, сама сабою напрошваецца выснова: буйны росквіт айчыннай прыгожай славеснасці затрымлівае недахоп ці простая нявыяўленасць “выдатнага густу”.

Між тым *густоўна* (не блытаць з *модна*!) адукаванага літаратара – асабліва з маладзейшых – сустрэнеш сёння яшчэ радзей, чым адукаванага *ўмеркавана*. На фоне прадзвінутых у справе дэканструкцыі постмадэрністых яўна вылучаецца Людміла Рублеўская – як мне здаецца, сваёй недалучанасцю да гульні ў “класіку-пост”. Яе паэзія, проза, крытыка ўяўляюцца ўвасобленымі ў слове *“pittura colta”* (італ. “асвечаны жывапіс” – накірунак, дзе шырока выкарыстоўвалася гістарычнае цытаванне).

Думаю, менавіта характар адукаванасці Людмілы Рублеўскай прадвызначае *мадэрнісцкасць* яе паэзіі – фактурнасцю дэталяў, пластыкай і рэльефнасцю надзвычай матэрыяльных вобразаў, калі амаль сюррэалістычная фантазія набывае плоць – здаецца, адзіна магчымую сэнсаформу:

*Нічога не змянілася. Чужы*
*Прыйшоў – і пойдзе.*
*Ва́дзіцца дарэмна.*
***Касцёлы, як іржавыя нажы,***
***Прымерваюцца да нябёсных венаў*.***
**("Недзе ў Еўропе")**

Дэкадансная танальнасць паэзіі Людмілы Рублеўскай (вершы "Новы раён", "Начны горад" (зб. "Крокі па старых лесвіцах"), "Віншую вас, мы выміраем!.." (зб. "Адукацыя"), "Далі́" (зб. "Застаюся" і інш..) не стасуецца з татальным негатывізмам – разбуральным пафасам постмадэрну. Згаданае вышэй "гістарычнае цытаванне" мае тут прынцыпова іншую прыроду ў параўнанні з постмадэрновай цытатнасцю: гістарычны факт, падзея альбо постаць вырастаюць да самастойнага экспанату ў тым музеўме, дзе Людміла Рублеўская збірае найбольш каштоўнае – для сябе, сваіх дзяцей і свайго народу – *sub specie aeternitatis.* Па сутнасці, уся творчасць гэтага літаратара ёсць кароткая гісторыя беларускай годнасці ў мастацкіх вобразах, якая складаецца з празаічных твораў і крытычных тэкстаў, дасягаючы піку эмацыйнай напружанасці ў паэзіі "*pittura colta*" (вершы "Плачка", "Спадчына Івана Фёдарава", "Заснавальнікам беларускага тэатра", "Балада пра Франца Савіча" (зб. "Крокі па старых лесвіцах"); "Норвіду (Паэтычны цыкл па матывах біяграфіі)", (зб. "Застаюся") і інш.).

*Як воран з могілак – ноч ляціць,*
*а бусел нясе зару.*
*І пазірае Хрыстос з крыжа*
*на бедную Беларусь.*
*Такі ж гаротны, як і яна,*
*і плоць ад плоці яе,*
*у вёсцы паміж крыніц і азёр,*

* Тут і далей у цытатах вылучэнні зроблены мною. – **І.Ш.**

*паміж кургановў і дрэў.*
*Драўляны, каструбаваты – ён*
*наш бог, наш край і наш лёс.*
*А значыць – будзе жыць Беларусь,*
*таму што ў прызначаную пару*
*сыдзе з крыжа Хрыстос!*

Вобраз "сапраўднага Госпада" з "Балады пра драўлянага Хрыста" (зб. "Застаюся") нібыта вянчае галерэю выпісаных паэтам постацяў, што сталіся знакавымі для няздзейсненага адраджэння канца 80-х – пачатку 90-х гадоў XX стагоддзя. Хрыстос з "Балады..." паўстае настолькі ж гістарычнаю асобаю, наколькі муміфікаванымі і пуставокімі здаюцца персанажы беларускай гісторыі і культуры ў шматлікіх узорах грамадзянскай (найчасцей – псеўдаграмадзянскай) лірыкі апошняга дзесяцігоддзя.

Людміла Рублеўская – што, у прынцыпе, не здзіўляе – аўтар шэрагу сапраўдных "*ваярскіх*" вершаў ("Першы снег быў чысцюткі па-боску...", "Балада пра сваё і чужое", "***Ён меў прыгожы і злы штандар..."), дзе бітва не адлюстроўваецца ў вачах гаротнай Яраслаўны – адчуваецца скураю воя, для якога ўсё жыццё – на вастрыі мяча:

*...Зямля прарасла цішынёю.*
*Слізгае па костках рала́...*
*Я думаў:*
*Радзіма –*
*за мною.*
*Яна ж –*
*пада мною была...*
**("Песня паміраючага воя")**

Разам з пластычнасцю, падкрэсленай выяўленчасцю вобразаў і непадробнасцю перажывання Людміла Рублеўская наследуе ў адраджэнцаў пачатку XX стагоддзя непазбежны, на мой погляд, у патрыятычнай лірыцы дыдактызм. Тут важнае пачуццё меры: "Спакою не ведаць, //Карон не насіць, //І Госпаду толькі належаць, //І быць – да апошняга – гэтым жыву – //З народам сваім – і ў народзе, // Ці кінуць за спевы мядзяк на траву, // Ці зноў бізунамі заплоцяць" (верш "Пясняр" са зб. "Застаюся") – і наяўнасць уласнага голаса ў зборным хоры патрыётаў, уменне адшукаць *свой* край сярод тутэйшых "палёў і гоняў":

*...Гэта – сад, дзе ўзрастаюць зоры*
*На прамых галінах крыжоў.*
*Гэта – мора зямнога гора,*
*Родны бераг уцекачоў.*

*Гэта – поле, дзе заараны*
*Разам з косткамі – перуны.*
*Гэты край – суцэльная рана,*
*Гэты край мой –*
*мой рай зямны.*

**(“Мой край”)**

А дзесяць гадоў таму (верш “Я не хачу ні з кім спрачацца...” напісаны ў красавіку 1990-га) можна было дазволіць сабе памяркоўнае, амаль багемна-абыякавае: “Не заклікаю беларусаў //Быць беларусамі дазвання – //Хто стаў чужым – чужым і будзе, //А свой – і так сваё шануе”. Сёння ж хоць ты воўкам вый – *o tempora, o mores!* – а ўжо і самі будзіцелі прытаміліся, ды й апатычным разбуджаным хацця б пад’есці...

Густоўная адукаванасць дазваляе Людміле Рублеўскай ствараць са словаў не алюзіі, а *рэчы* – і смуткаваць так светла, так не іранічна, унікаючы постмадэрновага пастышу:

*...І мне амаль што не шкада жыцця,*
*Але шкада таго, хто жыць не можа.*
*<...>*
*Разрэзанае мяса і гранат*
*Аднолькавага колеру для вечных.*
*Вада, якою рукі мыў Пілат,*
*Іх фарбы разбаўляе кожны вечар.*

**(“Далі”)**

Ураўнаважаны смутак Людмілы Рублеўскай (які, здаецца, муруе і працінае ўвесь яе светапогляд) айчыннаму авангардысту – асабліва з маладзейшых – уяўляецца, відаць, тым жа, чым дэкадэнты Максіму Горкаму – чымсьці няправільным і, галоўнае, несвоечасовым. Аднак яе творчасць насамрэч ультрасучасная, бо адлюстроўвае адчуванне старэння свету ў свядомасці чалавека на зломе эпох. Мы сутыкаемся тут з, так бы мовіць, ***“дэкадансцкай” мастацкай свя-***

***домасцю*** (калі разумець дэкаданс як старэнне стылю) – адсюль, верагодна, зацікаўленасць готыкай, барока (і неабарока), сюррэалізмам *etc*. Магчымая ўмоўнасць прапанаванай дэфініцыі, звязаная з рознымі прачытаннямі "дэкадансу", не азмрочвае сутнасці з'явы: творчасць Людмілы Рублеўскай ёсць выяўленне ў арыгінальнай мастацкай сістэме светапогляднага тыпу, спароджанага чарговай (не апошняй у гісторыі чалавецтва) крызіснай эпохай.

Цікавы для сябе феномен, актуалізаваны сучаснай культурнай практыкай, Людміла Рублеўская даследуе ў розных ракурсах і выкарыстоўвае шматфункцыянальна. Напрыклад, на *міфе* трымаецца кампазіцыйна-сюжэтны каркас празаічнага твора ("Старасвецкія міфы горада Б*"); *міф* аналізуецца ў якасці літаратурнай структуры ў цыкле крытычных артыкулаў, прысвечаных беларускаму прыгожаму пісьменству апошніх (і не толькі) гадоў; этнаграфічная ("дэманалагічная") іпастась *міфу* спатрэбілася і для паэтычнага адкрыцця свету паганства (верш "Грамніцы" са зб. "Крокі па старых лесвіцах"). У выніку які-небудзь асобны фрагмент быцця аказваецца прадстаўленым амаль ва ўсёй паўнаце – хочацца, прынамсі, спадзявацца, што гэтак ёсць для самога творцы.

Такім чынам, Людміла Рублеўская выступае як "*антыдэканструктывіст*" – рэканструюе раздруханыя гісторыю, культуру, сусвет; ажыўляе нібыта памерлых суб'екта, аўтара, традыцыю... Строга кажучы, творчасць літаратаркі цяжка ідэнтыфікаваць з чым-небудзь – стылем, школай, накірункам; думаецца, яна палягае *хутчэй* у полі прыцягнення мадэрнісцкай парадыгмы, чым постмадэрновай прасторы. Кожны таленавіты мастак, вядома, імкнецца вылузацца з вопраткі чужых тэорый, бо ён *усё жыццё* будуе вакол сябе свой сусвет, які ў выніку значна адрозніваецца ад створанага калісьці за сем дзён:

*Хай Вавілон будуюць людзі.*
*Я з тымі, хто яго руйнуе.*
**("***Я не хачу ні з кім спрачацца...")**

Тым удзячней здаецца праца літаратуразнаўцы, які б свой імпэт – "рытуальную злосць" – скіраваў на даследаванне й аналіз творчасці Людмілы Рублеўскай: і ў жыцці крытыка – асабліва айчыннага – павінна быць месца подзвігу.

**Ірына ШАЎЛЯКОВА**

# ТРЫ СУСТРЭЧЫ

*Легкадумны маналог пра сур'ёзную асобу – за кубачкам кавы*

**Час амазонак.** Не інакш. Падумалася мне, калі я сабралася прыняць удзел у чарговым – высокім форуме? практыкаванні крытычна-гларыяграфічнага хору? літаратурным карагодзе? модным вызначэнні рэйтынгаў і элітнай папулярнасці (калі такая магчыма)? – адным словам, у тым дзействе, што вось ужо больш як пяць гадоў нястомна ладзіць часопіс "Крыніца". (І я таксама часам прымаю ўдзел у тым літвідачынстве.)

Гераіня чарговай гаворкі – Людміла Рублеўская.

Не люблю вызначэнняў – "жаночая" паэзія, "жаночая" проза – як дарэчы, і галоўная дзеючая асоба размовы. Ды і не прышчэпіш гэтых слоў ні пяру Людмілы Рублеўскай, ні творчаму почырку яе літаратурных равесніц. Аднак не заўважыць гэты факт у беларускай літаратуры немагчыма. Час амазонак. Адразу столькі жаночых імёнаў на літаратурным небасхіле! Хіба што ў 70-я гады такая ж імклівая жаночая генерацыя рушыла ў літаратуру.

Так і цяпер. І ва ўсіх, суб'ектыўна згаданых мною, ці не першай і загалоўнай адзнакай я назвала б: інтэлект.

Адчуванне сэнсу і розуму, розуму і формы, схільнасць да парадоксаў, да сутыкненняў розных узроўняў культуровай свядомасці – у інтэлекце Ганны Кісліцынай; адухоўленая свабода роздуму, вызначанасць думкі, эстэтычна і тэарэтычна выверанае, артыстычна вытанчанае пісьмо Веранікі Стральцовай; іерархічныя дыстанцыі сусвету і чалавека, самых розных сэнсавых плыняў, лагізм і алагізм індывідуальнай свядомасці – у Галіны Булыкі; псіхалагічныя нюансіроўкі ў вызна-

чэнні зместу рэчаіснасці, увага да кожнай кроплі ў кубку быцця – у Таццяны Мушынскай; дакладнасць мыслення, яснасць мастацкага зроку, эмацыянальна інтэнсіўная прамалёўка дэталяў жыцця – у Галіны Багданавай; акадэмічная ўпэўненасць і ўраўнаважанасць, глыбіннае ўменне вызначыць невызначальнае – у Алены Яскевіч; дасведчаная руплівасць і арыентаванасць на традыцыйныя і нетрадыцыйныя каштоўнасці – у Людмілы Корань; нечаканыя павароты думкі, нейкі маналіт свядомасці і ўнутраная кантрастнасць адчуванняў – у Ірыны Шауляковай... Інтравертна-ўзвышаны стыль Галіны Дубянецкай...

Як магла забыцца? А Вольга Куртаніч? З яе непадробнай дынстынктоўнасцю, яе своеасаблівым духоўным набыткам, з прафесійным густам!

І сам пералік, і нейкія вызначэнні даю спантанна, як яны ўспыхваюць у памяці – не маючы на мэце праставіць ім “нумары”, узняць на нейкія п’едэсталы. Не пазначаю і жанраў. Бо літаратуразнаўца Алена Яскевіч піша вершы, Галіна Булыка – паэт і празаік, літаратурна-эстэтычныя практыкаванні Кісліцынай і Стральцовай даюць падставы не здзіўляцца, калі з’явіцца іх проза. (Філасофскі верш у прозе, што прамільгнуў неяк у штотыднёвіку “Культура”, відавочна невыпадковы ў Веранікі Стральцовай...)

А дарэчы, колькі галоўных рэдактараў літаратурных выданняў на сённяшні дзень – жанчыны! Вось з гэтай, новай хвалі, з сямідзесятніц, з тых, хто пачынаў у 80-я! “Всемирная литература” – Таіса Бондар, “Крыніца” – Галіна Булыка, “Алеся” – Раіса Баравікова, “Наша Вера” – Крыстына Лялько, “Першацвет” – Галіна Багданава, штотыднёвік “Культура” – Людміла Крушынская. Час амазонак!

Што ж датычыць Людмілы Рублеўскай... Паэзія, проза, крытыка, драматургія... Інтэнсіўная праца ў “ЛіМе”. Квінтэзіраваны інтэлект.

Пераглядзела я стос газет і часопісаў – праблемы, тэмы, алюзіі, рэмінісцэнцыі, парафразы...

І мяне “панесла” відавочна на праблемны артыкул: час, духоўны вопыт, законы рэалізацыі свядомасці, духоўнае самавызначэнне, атмасфера розных часоў, паралелі і мерыдыяны, вышыні і далячыні, кропкі перасячэння траекторый, арганізацыйныя цэнтры думкі,

духоўнае развіццё, фантасмагорыі сэнсаў, міфы рэальнасці, культуровае самапазнанне літаратурнай сцэны... Etc. Etc. Etc.

I тут затэлефанаваў "адрасат": трэба здаваць нумар. Ёсць ужо загалоўны, літаратуразнаўчы, акадэмічны, грунтоўны артыкул Пятра Васючэнкі. I я прыкінула: аўтар гэты відавочна ад стадыі парадаксаліста і майстра абвяржэнняў перайшоў на больш памяркоўны і акадэмічны стыль, не губляючы ні таленту, ні ўмення зацікавіць, то няма сумніву – ён усё разважыць, паставіць у кантэкст, расставіць усе акцэнты, высветліць постаці, вызначыць свет феноменаў, зазірне ў свет сутнасцяў... А цэлы гурт – вядомых, знаных, майстравітых, асвойтаных у жанры партрэтыравання: хочаш – "бліц", трэба – можна грунтоўна і аб'ёмна, – дадуць уяўленне стэрэаскапічнае.

Я ж – тымчасам – згадаўшы, як толькі што "лёгкай рукой" маханула старонак трыццаць пра Алеся Адамовіча, а потым на хаду карацілa, пры перадруку, выкідваючы "жывінкі" асабістых назіранняў, уражанняў, настрояў (жанр калектыўнага партрэту мае свае законы – памеру таксама), зноў жа "лёгкай рукой" адклала ў бок свой грузкі роздум, стос спісаных паперчын – і дазволіла сабе раскошу.

Ну, не "гарбаты" – сур'ёзнай, важкай, прадстаўнічай, – якія наладжвае гераіня допісу. (Я, грэшная, таксама адноечы дабрала гонару прысутнічаць.) Проста – анархічна – легкадумнай развагі. За кубачкам моцнай кавы і шклянкай якога соку. Так бы мовіць, напаўвіртуальная рэальнасць. Думкі – уроссып, гарохам.

Так сабе – сяджу, пацягваю праз саломінку сок, п'ю каву. А чаму б не дзе-небудзь на Манмартры або на *п'яцца дзі Навона*? Можна і на Градчанах. Заспеў мяне той званок, і я сабе згадваю... У торбачцы, вядома, як той раяль у кустоўі, у мяне пару нумароў "ЛіМа" і "Крыніцы".

Раблю глыток кавы. Згадваю.

Іслач. (Наш чалавек любіць згадваць сваё ў замежжы.) Канец 80-х. Ці ўжо 90-ты? Як тое павінна быць, у блаславёным Богам тым кутку пагойдваліся сосны, прыгожым зяленівам цешылі вока лугавіны. Сяргей Іванавіч Грахоўскі старанна рабіў раніцай спортзарадку, выбегваў-выходжваў сваё Адам Язэпавіч Мальдзіс, адмервала сцяжыны каля Дома творчасці і я. А калі вярталася ў будынак, то бачыла ў вестыбюлі сваіх суседак. З дзецьмі — рухавымі, ружа-

вашчокімі, сімпатычнымі. Гэтыя маладыя жанчыны жылі побач са мной, у нумары з мансардай. І я чула вясёлы тупат дзіцячых ног па лесвічцы і ласкавы шчэбет дзіцячых галасоў. Па завядзёнцы Дамоў творчасці – кожны заняты сваёй справай – мы знаёма-незнаёмыя. Адна – паэтка Людміла Рублеўская – жонка Віктара Шніпа, уваходзіць (ці на тую пару – ужо ўваходзіла?) у суполку "Тутэйшых". Другая – жонка Леаніда Галубовіча. Падобна, ім маё прозвішча таксама вядома.

Мы так і жывём "тэрмін": побач, знаёма-незнаёмыя. Але я бачу, а больш – адчуваю – іх клапатлівую, засяроджаную, любоўную працу. Яны выхоўваюць сваіх нашчадкаў. І – нешта абдумваюць? Штосьці абмяркоўваюць? Нешта высноўваюць на хвалях быцця? І – узнікаюць вершы? Задумы?

З Верай Галубовіч пазней мы пару разоў – пры выпадку – парадаваліся блізкасці літаратурных прыхільнасцяў і сімпатый. З Людмілай Рублеўскай сустракалася – часта – на старонках перыёдыкі. Аднойчы познім вечарам быў тэлефонны званок. Ад новай рэдактаркі аддзела крытыкі штотыднёвіка "ЛіМ": Людмілы Рублеўскай. Прапанова – супрацоўнічаць. Як аўтару. Не мне адной, зразумела. Многім. І многія адгукнуліся. Артыкулы, дыскусіі, бліцхарактарыстыкі, "гарбаты" ў доме Шніпоў. Розныя праблемы, розныя "дзеючыя асобы". Удзельнікі – знакамітыя, шанаваныя, актыўныя, перспектыўныя, проста модныя, улаўраваныя, санавітыя.... Выпадковыя. Традыцыяналісты, наватары, звышавангардысты, мадэрністы, постмадэрністы... (Хаця, здаецца, ні ў цывілізаваным свеце, ні ў нас ніхто дакладна не вызначыў, што гэта такое: мадэрнізм і постмадэрнізм. Прыблізна такі ж цёмны звер, як *приснопамятный* сацрэалізм.)

Усе гэтыя "рубрыкі" – лёгка сказаць, ды далёка дыбаць: трэба ж арганізаваць; хоць сімвалічную, але наладзіць пачостку; запісаць на магнітафон, зняць запіс са стужкі; сюжэтна яго выснаваць; узгадніць тэкст з аўтарамі; канчаткова давесці да ладу... Праца, і немалая. А "гарбаты" Шніпоў – пастаянныя палосы на старонках штотыднёвіка. Адным яны падабаюцца, іншым – менш, некаму і зусім не даспадобы. Але – гэтыя вечарыны існуюць, нешта паміж нязмушаным літаратурным салонам і запраграмаваным афіцыйным "круглым сталом". Даючы магчымасць узняць шматлікія праблемы, змусіць мовіць сваё слова таго, чыйго артыкула давялося б чакаць доў-

га. І – размаітасць формы. Урэшце – выратаванне ў сённяшніх умовах, калі ганарару за надрукаваны матэрыял не хапае ўжо не толькі на машыністку, а, падобна, неўзабаве ім не кампенсуеш нават выдаткі на паперу.

Ну, аднак, гэта нецікавая "матэрыя". А я пра тое, як адноечы прысутнічала на тым "дзействе" і я.

Памятаючы, што дакладнасць – ветлівасць каралёў, не тое каб збіралася прымерыць сабе карону з літаратурных мрояў, але імкнулася вызначыцца хаця б адным, даступным мне, высакародным кшталтам. Прымчала ледзь не на мятле, высветлілася – з'явілася першая. Роўненька а шостай гадзіне вечара.

Крыху няёмка – аднак малыя гаспадары, Вераніка і Максім, тут жа выявілі плён вось таго самага выхавання, пра якое ўжо ішла гаворка. Яны павялі мяне па кватэры, дзе апроч паліц з кнігамі, пісьмовых сталоў, мэблі, звыклай у гарадскім інтэр'еры, былі і сведчанні таго, што іх маці мае справу не толькі з пяром і пішмашынкай (ці камп'ютэрам?), але і з пэндзалем. Сведчанні – карціны, найбольш партрэты жанчын: адбіткі "я" мастачкі, што *віда-вочна* выяўляецца праз іншых асоб, праз "я" іншых жанчын? Што для іх галоўнае? Існае? Міфы? Мроі? Міражы? *Суплёт* (выраз В.Акудовіча) усяго гэтага з рэальнасцю?

... А я раблю глыток кавы ў сваёй віртуальна-рэальнай прасторы. У тым жа, цалкам рэальным, успаміне пачынаюць збірацца пакрысе запрошаныя. Мая недарэчная пунктуальнасць "мікшыруецца" астатнім ходам падзей, а наша "гарбата" мае працяг – запрашэнне на 40-годдзе літаб'яднання "Белавежа" ў Беласток.

Тут ужо я таўкуся (дзе там "каралеўская пунктуальнасць") да апошняй хвіліны з пашпартам, мы перазвоньваемся з Людмілай Рублеўскай ледзь не штодня і – урэшце – едзем у Беласток.

Едзем доўга: электрычкамі. Цярпліва чакаем у Брэсце, назіраем за трагіфарсам чыноўніц на станцыі Чаромха, даводзім мытнікам, што нашы паперы на беларускай мове – законныя і сапраўдныя, трапляем у Беласток апоўначы, дзе нас сустракае сяброўка Людмілы Рублеўскай — паэтка Міра Лукша.

Потым нас чакае шляхетная гасціннасць наладжвальніка імпрэзы, доктара філалогіі, паэта Яна Чыквіна, а ўсе ўдзельнікі канферэнцыі... хаця, гаворка не пра іх. Гаворка пра Людмілу Рублеўс-

кую. У якой усё было на ўзроўні: выступленне падчас канферэнцыі, чытанне вершаў на сяброўскай вечарыне і – наладжванне вакацыйнай экскурсіі для дачкі Веранікі. Людміла Рублеўская ўзяла дачку з сабой – і паспела паказаць ёй Беласток, зрабіць безліч фотаздымкаў (дачка – на фоне знакамітых збудаванняў і проста прыгожых мясцін Беластока), кожны дзень – у пару – знайсці кавярню для сняданку, полудня, вячэры...

Дысцыпліна і талент. Рэдкае спалучэнне. Талент, крыху халаднавата-жорсткі, з узлётамі, якія не пагражаюць падзеннем у бездань: усё выверана, прадугледжана – хуткасць узлёту, траекторыя палёту, каардынаты лунання. Людміла Рублеўская не любіць "зазямляцца", аднак вышыню палёту разлічвае так, каб не губляць з поля зроку зямлю. І – рушыць імклівa, энергічна, мэтанакіравана. Яна абстрагуецца ад будзёншчыны, ад звычаёвага, але гэта не адстароненасць паэтычнай экзальтацыі, не неагляднае імкненне ў пазавоблачныя вышыні – не, яна адыдзе ад мітусні і марнасцяў штодзённага, каб іранічна, нават саркастычна, часам – сарданічна зірнуць на "тапаграфію" геаграфічных, часавых, свядомасных фактаў.

*... Трохі тугі па нязбытным.*
*Пяро херувіма.*
*Усведамленне сваёй непатрэбнасці.*
*Бура*
*Ў крышталёвае шклянцы.*
*Дзве порцыі дыму –*
*Ад цыгарэт і смалёнага гунамі*
*Рыма –*
*Гэта, панове,*
***высокая літаратура.***
*Трохі крыві ад уласнага сэрца.*
*Атрута,*
*Што выдзяляе гніючае*
*цела натхнення.*
*Рогат нармальнага дурня.*
*Бутэлька аблуды.*
*І папяровыя крылы*
*твайго пакалення.*

*І Апалонам садраная*
*з Марсія скура –*
*Гэта, панове,*
***высокая літаратура.***

Ёсць пра што паражважаць. Але я з сумам гляджу на восьмую старонку машынапіснага тэксту, на свае скрэмзаныя і адкладзеныя шматкі паперы. І звяртаю ўвагу толькі на “папяровыя крылы ... пакалення”. Згадваю, што як крытык Людміла Рублеўская часам бывае і вельмі лагоднай – памятаю некаторыя ледзь не іканапісныя партрэты. Не, міфалагізаваныя.

Міфы, міфалогія і міфалагізацыя – “канёк” нашай гераіні. У тэорыі і на практыцы. І яна выдатна сябе адчувае – на гэтым “каньку” — амазонка! Яшчэ ўмее павярнуць нейкія тэмы, праблемы ў патрэбны ёй бок. Зайздросная якасць. А як празаік – яна сплавіць, састыкуе, выштукавана перамяшае літаратурную і звычаёвую рэальнасць, канкрэтныя назіранні і разважанні, пэўныя рэчы і сімвалы жыццёвых рэалій. Сімвалы ёй падабаюцца больш. Азначэнні. І яна майстравіта, часам нават па-жанглёрску падкіне нам сюжэт – і знойдзе хітрамудрую, нечаканую канцоўку. Стрэл – а не развязка. Ды і не так сюжэт, як мастацкая канструкцыя, дзе кожная дэталь прапрацаваная, прыгнаная да месца, вызначаная ў мастакоўскай прасторы. (Нездарма Людміла Рублеўская па першапачатковай адукацыі – архітэктар.)

Аднак што б ні рабіла нашая літаратарка, яна мае на ўвазе, так бы мовіць, стратэгічныя духоўныя задачы. Таму і шырокі “фронт” жанраў. Таму і напорыстае імкненне – не прамінуць, паспець, суаднесціся з вышэйшымі і дыяпазонна-найшырэйшымі павевамі. Часу. Літаратурнай прасторы. Тых скразнякоў эпохі, якія – яна гэта ведае – “гуляюць” толькі на пэўных вышынях.

Да вышынь яна імкнецца. Узяўшы ўдзел у важкім літаратурным форуме ў Нямеччыне. Меўшы высокае запрашэнне – на нейкую чарговую імпрэзу еўрапейскага кшталту. (Там, падобна, узніклі арганізацыйныя ўскладненні – ці фінансавыя.) Умеючы гнутка весці свядомасна-паралельныя лініі: вось як быццам адпрэчыла цалкам пэўныя плыні недалёкага мінулага, а тут жа ветла запрасіла аднаго з самых тыповых (паводле ўлюбёнай тэрміналогіі таго часу) прад-

стаўнікоў тых самых плыняў, літаратурных і грамадскіх. Што ж... Як пазначыў адзін літаратар: "...бескампрамісна добра паміраць, аднак жыццё поўнае кампрамісаў". Хто не грэшны? Нават самыя апантаныя – на словах?

Людміла Рублеўская аддае перавагу светасузіральным эмоцыям – перад адзначанымі, "лінейнымі" пачуццямі; метафізічным трывогам – перад канкрэтнай скрухай "з повадУ"; скептычным рэфлексіям – перад аптымістычным наівам; умоўнасці метаду – перад просталінейнасцю стылю. Яна добра адчувае і "кантэкст" рэальнасці і ведаў; эзатэрычныя вышыні, якім яна аддае перавагу, не існуюць без грунту, глебы, зямлі. На зямлі – любяць міфы. І міфатворцаў.

Ісціна ж – мастацкая ў тым ліку – не бывае адназначная. Не Абсалют, не Боскае Празарэнне, тая, што ведае зямное прыцягненне, тая, пра якую гавораць, што "лепшая праўда – выдумка". І які шлях будзе выбіраць далей Людміла Рублеўская, які шлях будзе выбіраць яе – на іерархічнай лесвіцы літаратуры, – вызначыцца часам, людзьмі, выпадкам. З пункту погляду – вонкавай удачы. І з пункту погляду – высокага сэнсу.

Пакуль што час і выпадак спрыяюць ёй. Яна шырока друкуецца. Вялікія магчымасці дае "ЛіМ" – Алесь Пісьмянкоў, як таленавіты паэт і эсэіст, як разумны, мудры галоўны рэдактар, стварае, падобна, усе ўмовы для выяўлення здольнасцяў іншых.

А сённяшні час мае свае перавагі і свае стратныя моманты. З пераваг – права на свабоду слова, мастацкага прынамсі. Ні Галоўліта, ні ўстаноўчых дырэктыў, ні эстэтычных забаронаў – у нашай, беларускай, літаратуры гэтыя апошнія былі не менш жорсткімі і законапраўнымі (ці – супрацьпраўнымі), як першыя.

І вышынным перспектывам сэнсаў і планаў Людмілы Рублеўскай, яе спробам голаса ў самых розных рэгістрах, здаецца, нішто не перашкодзіць спраўдзіцца. У эмпірыцы небудзённых будняў. У вызначэнні духоўнага вопыту.

Па сюжэту – апошні глыток кавы.
І – легкадумны росчырк.

**Ала СЯМЁНАВА**

**Паколькі пісьменніцу – ва ўсіх іпастасях!** – ведаюць толькі яна сама і Усявышні, можна пашкадаваць, што іх крытычных меркаванняў на гэты конт мы не ўведаем. Мае думкі вынікаюць з асэнсавання прачытаных твораў Л.Рублеўскай, праз якія паступова, штрых за штрыхом, пад маім медытатыўным пэндзалем вымалёўваецца яе паэтычны партрэт.

Што я паважаю ў асобе пісьменніцы, дык гэта імкненне да універсальнасці ейнай "літаратуры ў сабе", паколькі яна рэалізуе свой рознабаковы талент і ў паэзіі, і ў прозе, і ў драматургіі, і ў крытыцы. У яе творчасці праблемы сучаснасці асэнсоўваюцца на матэрыяле ранейшых гістарычных эпох. Мяркую, што магнетычнае прыцягненне Л.Рублеўскай да свету мінуўшчыны тлумачыцца і сінкрэтызмам старажытнага мастацтва, што, верагодна, і з'яўляецца "небам ідэалу" паэтэсы.

Што мяне ўразіла ў лірыцы Л.Рублеўскай, дык гэта ідэйна-жанравая поліфанічнасць ейных пошукаў індывідуальнага стылю.

Мяркую, што, падобна Ігнату Абдзіраловічу з аповесці М.Гарэцкага "Дзве душы", які псіхалагічна "разрываўся" паміж сваёй сялянскай і панскай сутнасцю, Л.Рублеўская таксама "раздвойваецца": пры дапамозе творчай фантазіі – сваёй "машыны часу" – вандруе ад Сябе сярэднявечнай да Сябе цяперашняй. У яе вершах ёсць і летуценная шляхцянка "у чорным шоўку і белых карунках", у "неабдымнай спадніцы з фальбонамі", ва ўласным прыгожым замку, з верным рыцарам Месяца, які грае ёй на лютні, і мінчанка канца XX стагоддзя, у строях па сучаснай модзе, у тыповай гарадской кватэры, дзе дрынчаць па тэлевізары папсовыя шлягеры, а навакольны свет – няўтульны, халодны, варожы... Але ў сваім сэрцы паэтэса захоўвае разарваную для іншых сувязь часоў, забраўшы са свайго віртуальнага

сівога сярэднявечча ў сучаснасць "кахання зіхоткі прамень" – свайго рыцара – мужа Віктара Шніпа.

Такое кантрастнае светаадчуванне пісьменніцы (гарманічнае, узвышана-акрыленае, з шырокай прасторай і запаволеным ходам часу – у сярэднявеччы – і дыскамфортнае, прыгнечана-сумнае, калі прастора скурчылася да жыццёва-неабходнага мінімуму, а імклівы час марнуецца ў "вавёрчыным коле" будзёншчыны-цяпер) нагадала мне тэорыю хранатопаў М.Бахціна, якую ён распрацаваў для рамана. Паводле ягонай канцэпцыі, сустрэчы персанажаў адбываюцца ў пэўных пунктах прасторы і часу, але ў розных месцах з рознай хуткасцю змяняюцца падзеі, адметна гучыць слова і раскрываецца сутнасць чалавека. Калі на паэзію Л.Рублеўскай паглядзець праз прызму тэорыі хранатопаў М.Бахціна, можна заўважыць, што лагічна-эмацыянальнае ўспрыманне старажытных шляхецкага маёнтка (верш "Пані"), храма ("Балада пра Янку Коклю"), чыстага поля ("Балада пра Якуба Венжыка") і лесу ("Паляванне каралевы Боны") мае пэўныя адрозненні. Таксама дыферэнцыруюцца і эмацыянальна-ўспрымальныя характарыстыкі сучасных гарадскіх кватэры ("Ну што ёсць вечнасць? Неўявіма"), цырка ("Цыркачка") і вуліцы ("Мокры асфальт..."). Прычым згаданыя "хранатопы" паэзіі Л.Рублеўскай адрозніваюцца значна ў дыяхранічным плане (антытэза "мінулае – сучаснасць" у якіх-небудзь прасторавых ракурсах) і менш істотна – у сінхранічным плане (у канкрэтных месцах у межах пэўнага часу).

Лірычная гераіня Л.Рублеўскай помніць сваё мінулае існаванне ў абліччы сярэднявечнай шляхцянкі-паэткі:

*...Вочы вашы глядзяць праз*
*бязмежжа,*
*Як душа мая ў часе гарыць,*
*І ўскрасае спалёныя вершы.*

**("Невядомая паэтка")**

А само падарожжа са сну-мінулага ў яву-сучаснасць яскрава, з псіхалагічна дакладным адлюстраваннем калізій, апісана ў вершы "Сёмая жонка, альбо Сон стамлёнай гараджанкі".

Падрахоўваючы свае думкі-штрыхі да паэтычнага партрэта Л.Рублеўскай, хачу сказаць, што сінтэз у сферы ейных ідэйна-жанравых пошукаў – гэта і стыль, і метад яе творчага ўдасканалення, і адметны наватарскі шлях. А "дзве душы" паэтэсы, пры ўсіх супярэчнасцях раздвоенага светаўспрымання, – гэта надзейны спосаб нетрывіяльнага і плённага творчага існавання.

**Таццяна БАРЫСЮК**

**Магілы, крыжы, каменні,** муры, краты, лесвіцы, вежы, замкі, рыштаванні... Аскепкі сумнення і сумлення, крык Плачкі, немата ваўкалакі, "голас вучонага змея"[1], ціхая песня паміраючай мовы, сонечны праменьчык і месяца сяйво... Гэта два накірункі творчай прасторы Л.Рублеўскай, дзве паралельныя дарогі па шляху да продкаў, два спосабы асэнсавання сябе і іншых у зямных раі і пекле, што дазволілі перакаnaцца:

*Нявечна ўсё,*
*пакуль нявечны боль.*
*Нявечна ўсё,*
*пакуль нявечна памяць*
**(Скіфы, 31).**

Таму з першых усвядомленых крокаў творчасці заўжды і ва ўсім маладая пісьменніца прагне спраўджанасці ўласнага жыцця, адкрыцця таямніцаў стагоддзяў, старанна шукае "свой ззяючы востраў" (41) з залатымі берагамі, Князёвай гарой і поклічам забытых магіл. Вяртанне да іх і дазволіць выратавацца ад канчатковай страты годнасці, ад адмірання душ, якія...

*Патухаюць, як вуголлі*
*У кастрах начнога поля,*
*Лісцем курчацца з'інелым,*
*Болем бел-чырвона-белым*
**(Ціхая песня, 14).**

І зусім не абавязкова, каб гэты востраў знаходзіўся ў бязлюднай далечыні, у завоблачных высях. Л.Рублеўская – гарадскі чалавек, які добра ведае, што "законы ў нас лясныя. Кожны сам за сябе"[2]. Таму найчасцей такой, недасяжнай для іншых, выспай,

але ніяк не залатой клеткай, для яе стаецца звычайная кватэра, "брудны бетон". Ды толькі сціснутасць, абмежаванасць прасторы не перашкаджае нашай гераіні адчуваць тут сябе нібы ў замку. Галоўнае, што яна ўмее адгадаць, прадбачыць той момант прыходу натхнення, з'яўлення паэзіі, калі

*...Са званіцы нябёснай*
*абрынуўся звон,*
*Дах прабіў –*
*і да ног падкаціўся маіх*[3].

Застыгласць, нерухомасць, што на зямлі ўвасабляюцца ў непарушных забранзавелых помніках, мёртвым золаце, надуманых і надзьмутых героях і ідэалах, не прымаюцца пісьменніцай з прычыны іх варожасці чалавеку, жыццю. Гэтаксама недарэчнай падаецца ёй песня цалкам адарванага ад зямлі, няхай і адоранага, і блізкага ад Бога, птаха, што спявае ў пустку, бязлюдны космас. Між тым –

*Ён мог бы песняй*
*выратаваць свет*
*І шчасце даць – але ўзляцеў высока*
**(Зямля нямая, 73).**

Як бачым, ідэалы Л.Рублеўскай не адмаўляюць, не супрацьстаяць жыццёвай наканаванасці, скіраваны на зямное служэнне, хоць вобразнымі выявамі іх могуць быць міфы, міражы, далёкія планеты, падаючыя зоркі. Апошнія, згараючы, пераўтвараюцца ў попел. Але перад згасаннем за кароткае імгненне яны адкрываюць невядомае, робяць відушчымі, асвятляюць многае і многіх.

*І не кожны насмеліцца*
*зоркаю стаць*
*І з братамі святлом падзяліцца*
**(Зорны попел, 74).**

Праз гэты аддадзены іншым самаахвярны агонь пустэча, цемра зноў пачынаюць поўніцца святлом. Над смерцю-попелам уздымаецца новае жыццё, загараюцца іншыя зоркі, ствараюцца сапраўдныя шэдэўры, як у выпадку са скрыпкай Страдзівары ("Сакрэт прыга-

жосці"). І тады "чалавек вястуе пра святло" (49), пачынаюць гаварыць фрэскі, верыць – бязверныя, а некаторыя нават перастаюць саромецца свае мовы. Адбываецца вялікае дзіва:

*...Ідзе па руінах*
*Вялікая Маці,*
*Крыніцу жывую*
*нясе*
*ў рукаве*
**(Сон, 83).**

Канечне, можна навучыцца чытаць у цемры, жыць побач з тлом і цвіллю, скарыцца няволі. Гэта значыць – самога сябе пасадзіць за краты, баяцца скінуць ужо расчэпленыя ланцугі і тым самым даць магчымасць наблізіцца да свету апакаліпсісу. Ды толькі вольны дух беларускага краю спрадвеку мацуецца і падтрымліваецца намаганнямі адзінак. "У далоні Радзімы ўсе мы забівалі цвікі..." (Апошняя душа, 78). Якраз народным заступнікам спявае славу, імі шчыра захапляецца Л.Рублеўская, высокая ідэйнасць і ўзнёслы пафас якой дазволілі патрабавальнаму ў сваім стаўленні да маладзейшых творцаў Н.Гілевічу адчуць у пісьме нашай сучасніцы бліскавічнасць радка Цёткі, дыханне крынічнага голасу Арсенневай і покліч Геніюш[4]. Такое цалкам заслужанае прызнанне аднак не здымае ўражанняў пэўнай рацыянальнасці, залішняй публіцыстычнасці некаторых вершаў Л.Рублеўскай, змешчаных у яе першых паэтычных зборніках. Больш дзейсным у яе выглядае не гучнае слова, а роздум, ціхая прапанова. Сапраўды, для выратавання іншы раз дастаткова падняць пахілы крыж, ачысціць душу слязамі, проста памятаць. Інакш – гнеў багоў, пракляцце магіл.

*...Усё, што напісана,*
*знікне на золку пахмурным,*
*Калі да Радзімы ні мовай, ні сном не прыкута*
**(Пакаранне паэта, 81—82).**

Такая катэгарычнасць, перакананасць пісьменніцы – ад самаахвярнасці папярэднікаў, ад магутных беларускіх волатаў, якіх перастала нараджаць стомленая няўдзячнасцю нашчадкаў, што самі ідуць у палон, родная зямля. А яшчэ – ад духоўнага настаўніка У.Ка-

раткевіча, што “будаваў белы храм на расчышчаным пляцы” (108) і следаванне якому заўважна прасочваецца ў многіх вершах і баладах Л.Рублеўскай. Менавіта прасякнутасць нацыянальнымі трагедыямі, як і ўважлівае стаўленне мастачкі да лініі наогул, скіроўваюць яе погляд з усіх магчымых перасячэнняў прамых, нават на побытавым узроўні, перш за ўсё на крыжы.

*Акенца кожнай хаты – крыж драўляны,*
*І кожны плот складаецца з крыжоў*
**(Кушляны, 49).**

Больш балюча перажываецца тое, што ў гэтым пакутным краі хапае і крыжоў-распяццяў, калі “цвікамі з’яднаны, як дрэва, – і рукі” (26), калі Чарнобыль забіў неабходнасцю ўсе вокны накрыж, калі на могілках – “нявечныя, як памяць”(122), сатлелыя крыжы. Такая задуменнасць, філасафічнасць разам з акрэсленай вышэй публіцыстычнай пафаснасцю складаюць істотную адзнаку творчай натуры Л.Рублеўскай, і пры гэтым не адмаўляюць і не супярэчаць адна адной. Даволі часта ўвага пісьменніцы засяроджваецца на парогавых сітуацыях, на мяжы між жыццём і смерцю, калі нядаўняе шчасце пераўтвараецца ў тло, сябар робіцца староннім чалавекам, вар’яцкае каханне – памёрлым пачуццём, калі на памінках тваіх чамусьці плачуць ворагі і радуюцца нядаўнія прыяцелі, а з месца апошняга прытулку, труны, з гэтай “хаты сасновай ціха, бязвольна душа выцякае на зёлкі” (98). Такія і блізкія да іх асацыяцыі выклікаюць вершы “Ціхі чалавек”, “Ад самоты ні талент, ні бог...”, “Пад ссохлым лістом задрамала...”, “Марнасць”, “Як страшна, страшна...” і некаторыя іншыя творы.

Варта сказаць, што пісьменніца пры перадачы сваіх адчуванняў не імкнецца да стварэння рознакаляровай гамы, выкарыстання багацця адценняў. Натуральна, што яе размова пра клады і старыя элегічныя ліпы на іх, якія, паміраючы, пакідаюць пасля сябе пнімагілы і гледзячы на якія не забудзецца перахрысціцца бабуля, пра рэшткі замкаў і гандляроў у храмах, пра знішчаныя азёры, што чорнымі кроплямі плююць нам “грэбліва ўслед”(71), пра раздушаны сухі матыль у кнізе, скоранасць духу не патрабуе зіхоткіх фарбаў. Сутнасці такога аповеду больш адпавядае сляпая начная цемра, у лепшым выпадку – месячнае святло, яго срэбны пыл, золак, квадраты пустэчы, пах скляпенняў.

Затое ў раздзеле "Парсуны", прысвечаным пераважна легендарна-рамантычным асобам беларускай гісторыі, асабліва ўжывальным робіцца колер залаты ва ўсіх яго адценнях: ад бронзавага да крывавага і ярка-чырвонага. Ім перадаецца не толькі "веліч залатых саетаў"(13), "залатое ўлады дрэва" (16), але і іскрыстасць промня, зіхоткасць ліхтара і зарыва ў акне, святло зоркі-арэха і сонечнага шчыта.

Кантрастнасць барвы часам падкрэсліваецца праз суседства з ёй белага колеру. Розніца між імі толькі ўзмацняе немінуючую прысутнасць, мажлівасць хуткай смерці ў шматфарбным буянні прыроднага і чалавечага свету, пашырае ўспрыманне Поўдня, Крыма з яго квеценню вішняў як Эдэма для сухотных, іншы раз іх апошняга прытулку. Складаны шлях аберацыі ад першага вобразнага малюнка да апошняга ўключае ў сябе ў межах аднаго верша яшчэ некалькі пераходных формаў. Дакладна: вішнёвы сок – кроў на вуснах, слёзы-вішні кахання гераіні, яна сама як вішня не проста пад абцасам мужчыны – пад цяжарам лёсу.

*Сок вішнёвы... Гэта не страшна.*
*Як душа, аблятае квецень...*

**(Старасвецкае каханне, 45).**

Наогул, Радзіма ў паэзіі Л.Рублеўскай паўстае святочна белай зямлёй. Белага колеру аблокі і птушкі над ёй, такія ж яе палі, бель галоў, крылы завеі, чысцюткі спеў мовы, "сумленне і душы светлыя" (90). Тут сустракаюцца яшчэ старыя інтэлігенты, але і выпадковых герояў хапае; лунае вольны дух, але часта бывае халадна і пуста, бо "вятры забіваюць заўсёды крылатых" (26). Несумненна, што маладая аўтарка, якая па кнігах вывучала мову дзядоў, рыхтавалася да жыцця, – з гэтай пароды. Яна пакутуе, што казкі яе народа – гэтыя "ліры залатаструнныя" – сёння маўчаць, што ранейшай самаахвярнасці паненак-шыпшынаў не сустрэць у сучасных дзяўчат ("Гарадскія дзеці", "Курсісткі"). Так, Л.Рублеўская – з пароды паэтаў. Яна ведае, што такое "павуціннае шчасце", "вершаваная ноч". Для яе "белы голуб – чысты голас" (19), каштаны – "кулі", а "прарок – бясплотны ліст зямлі ад неба" (51).

Загадкавая, а можа і зусім невытлумачальная прырода паэзіі. Што гэта – лад мыслення, спосаб светаадчування, або тое і другое разам? Ясна хіба толькі, што творыцца яна, сапраўдная, чуйнай і

трапяткой душой, здольнай вырасці настолькі, каб навучыцца ці мець прыродны талент успрымаць, заўважаць усе шматстайныя праявы светабудовы, каб узняцца да вышыні суперажывання нават тым з іх, якія ў нечым ці наогул цалкам не адпавядаюць уласным уяўленням і перакананням мастака.

Адкуль пачынаецца, вырастае паэзія? З пэўных прасторы і часу або з пульсацыі асабістага сэрца? З канкрэтнай падзеі, асэнсавання яе ці з маланкавага імгнення, нечаканай згадкі? З лініі ці ўмення бачыць яе па-за кропкай? З болю ці з радасці? Са святла ці непераходнай цемры, у якой вытокі ўсякага пачатку? Або з іх перасячэння, са светаценю? З нябесных вышыняў ці зямной юдолі?

*– Пра што пісаць?*
*Высока нашы зоры,*
*Што ім да нашай цьмянай мітусні.*
*Не ведаюць гардыні і пакоры*
*Яны ў сваёй халоднай вышыні*[5]*.*

Прыняўшы зоры за абсалют дасканаласці і ўсепрыналежнасці, Л.Рублеўская не толькі не губляецца перад іх недасяжнасцю, але і не збіраецца крывіць душой у справах зямных. Яна самахоць абірае камяністы шлях паэта, яна – піша.

Часам здаецца, што прамоўленыя лірычнай гераіняй Л.Рублеўскай радкі толькі ўваскрашаюць сказанае папярэднікамі. Сярод іх тыя, чые імёны згубіліся ў цішы ды віхурах стагоддзяў. “Толькі позіркам сэрца” можна ўбачыць іх, адчуць у сабе іх самоту, боль перажытага, у тым ліку і прадугадванне будучай безыменнасці. Трэба мець смеласць і мужнасць прыняць на сябе цяжар адказнасці за ўзнаўленне некалі знішчаных часам, людской абыякавасцю твораў невядомых паэтаў. Мастацкая фантазія Л.Рублеўскай не толькі вяртае іх вершы, але і малюе аблічча папярэднікаў, спыняецца на асобных момантах іх жыццяпісу, у якім шмат супадзенняў з яе асабістым. Гэта істотна набліжае згубленых (ды не страчаных канчаткова) творцаў у прасторы, робіць канкрэтна адчувальнай іх сённяшнюю прысутнасць, яшчэ раз даказваючы духоўную лучнасць пакаленняў.

*...Вочы Вашы глядзяць праз*
*бязмежжа,*
*Як душа мая ў часе гарыць,*

*І ўскрасае спалёныя вершы*
**(Невядомая паэтка, 22).**

Трэба зазначыць, што філасофская ідэя заўсёднага, адвечнага вяртання – адна са скразных у паэзіі Л.Рублеўскай уключна ад першых сцежак да "Адукацыі". Улюбёнасць, адданасць ёй выяўляецца і ў біяграфічным пяцівершавым цыкле "Норвіду" з новага зборніка "Застаюся". Ён прысвечаны выключна таленавітаму польскаму паэту-бяссрэбраніку XIX стагоддзя, які не прымаў ніякіх прадпісанняў і здаваўся задужа цьмяным для сваёй эпохі. Толькі нядаўна Цыпрыяна Норвіда пачуццёва тоесна здолеў агучыць па-беларуску тонкі лірык і пранізліва-іранічны А.Мінкін.

Не зразуметы сучаснікамі, гэты голы і безабаронны кароль польскага паэтычнага слова, творчая спадчына якога панесла значныя страты, а цела не займела нават ўласнай магілы, усё ж такі верыў у тое, што і *яго* "ўнук адкрые нанова і ўспамяне"[6]. Акрамя таго, мастак быў упэўнены, што дзіця, якое толькі-толькі пачынае дакранацца да струн, ведае нашмат больш за дарослага пра сутнасць чалавека. Адсюль гатоўнасць Майстра перадаць сваю ліру нашчадку.

*Таму я аддаю пявачцы новай,*
*Што першаму не мне, а ёй належыць*[7].

У дадзеным выпадку спявачка – Л.Рублеўская. Далікатна ўзнаўляючы роспач думак і душэўнага стану неальбомнага паэта, наша сучасніца здолела выявіць і перадаць найбольш істотнае ў яго творчасці. У першую чаргу тую самаахвярнасць, на якую здольны толькі сапраўдны Настаўнік. А ён заўсёды абярэ святло сагрэтых дабром і талентам сэрцаў. Нават тады, калі дасягнуць гэтага прыйдзецца коштам знішчэння ўласных вершаў. Нават ведаючы, што рукапісы ўсё ж гараць.

*Я – цьмяны паэт.*
*Непатрэбныя вершы згараць.*
*І святло разальецца няўрымсна*
*па вашаму дому*
**(Нерытмічная серэнада па дарозе ў госці, 8).**

Няўдзячная справа – разлічваць на зямную славу ці самому ру-

піцца пра прызнанне і вядомасць. Як досыць праблематычна і тое, што бясконцыя выпрабаванні, адсутнасць упэўненасці ў кавалку хлеба на заўтра гартуюць талент, жывяць яго праз адваротнае. У невыносных жыццёвых умовах Ц.Норвіда ратавала хіба толькі адно: "На зямлі не прызнаюць – прызнаюць на небе..."[8]. У творчасці адпаведны стан перадаецца, прадзецца ніткай смутку, ад якой мастак і не спрабуе нават уцячы.

*Яна ў кожным паглядзе,*
*І ў спагадзе, і ў здрадзе,*
*І ў слязе, і ў малітве, і ў гімне...*[9]

Тым не менш паэзія Ц.Норвіда адкрытая чалавечнасці, святлу. Сам творца не з тых, чыя "душа не бачыць у імгле пачатку"[10]. Менавіта гэты філасофска-гуманістычны пачатак паэзіі польскага аўтара асабліва хвалюе Л.Рублеўскую, што змагла пачуць і падхапіць яго заклік "Ідзі за мною". У сваім "Маленькім галодным трызненні" яна працягвае норвідскую "нітку сэнсу дрогкую праз пустку"(9), праз сутонне гадоў па бясконцай дарозе ў пошуках крылаў, каб увязаць яе ў аснову ўласных кроснаў, у квяцісты ўзор сваёй саматканкі, каб ужо ў другім, заключным вершы цыклу на свой лад агучыць, паўтарыць зварот да нашчадкаў вялікага папярэдніка.

*Ідзі за мной!*
*Бо я цябе чакаю –*
*Паэт – паэта.*

**(Vade mecum, 11)**

Напэўна, ад самага пачатку для мастацтва застаецца актуальнай, калі не вызначальнай, ідэя творцы, яго свабоды і адказнасці. У беларускай літаратуры яна традыцыйна ўвасабляецца ў вобразах песняра, музыкі, разбяра ў розных іх інтэрпрэтацыях. Прысутнічае і асэнсоўваецца гэтая ідэя і ў паэзіі Л.Рублеўскай. Да прыкладу, у вершах "Пясняр", "Далі", у "Баладзе пра драўлянага Хрыста".

Высокі грамадзянскі пафас першага з нагаданых твораў у пэўнай ступені тлумачыцца арганічным счапленнем багатых літаратурных асацыяцый на закранутую тэму, пачынаючы ад Цёткі і Багдано-

віча, Купалы і Коласа і завяршаючы асабістым стаўленнем аўтара да вобразаў і матываў паэта і паэзіі. Дарэчы, асэнсаванне іх набывае ў вершы ярка выяўленую і такую непрымальную, адпрэчваемую маладой творчай генерацыяй публіцыстычна-пракламацыйную форму:

*Спакою не ведаць,*
*Карон не насіць,*
*І Госпаду толькі належаць,*
*І быць – да апошняга – гэтым жыву –*
*З народам сваім – і ў народзе,*
*Ці кінуць за спевы мядзяк на траву,*
*Ці зноў бізунамі заплоцяць.*

**(Пясняр, 6).**

Няма залішняй патрэбы даказваць, што ў Л.Рублеўскай тонкі паэтычны слых. Ёй няцяжка ўзнавіць, перадаць мелодыку, рытміка-сінтаксічнае афармленне фразы, эпічнае гучанне караткевічаўскага радка. Як, скажам, у “Баладзе пра драўлянага Хрыста”. Падказку на творчае наследаванне свайму літаратурнаму папярэдніку ўтрымлівае ў сабе ўжо эпіграф верша. На самой справе яно значна шырэй за інтанацыйна-стылістычнае ўзнаўленне манеры пісьма. Пераемнасць адчуваецца таксама ў сістэме вобразна-тэматычных сродкаў, спалучэнні міфалагічных, паганскіх і хрысціянскіх матываў у паэтыцы абодвух аўтараў (“Як воран з могілак – ноч глядзіць, //а бусел нясе зару”, 13). Пад пяром Л.Рублеўскай ажывае нанова ідэя У.Караткевіча пра мужыцкага Хрыста-заступніка, які абавязкова абароніць бедную нашу Радзіму.

*А значыць – будзе жыць Беларусь,*
*таму што ў прызначаную пару*
*сыдзе з крыжа Хрыстос!*

**(Балада пра драўлянага Хрыста, 13).**

У большасці сваёй вершы Л.Рублеўскай сюжэтныя. У асноўным яны нараджаюцца з факта, падзеі, вобраза-тыпу (“Цыркачка”, “Бедны Йорык”, “Воўк”). Яе лірычная гераіня акрэсленая ў сваім жаданні застацца, адбыцца ў сённяшнім грэшным свеце, які не ўмее “над сабой пакпіць” (“Далі”, 14). На гэта настройвае і назва збор-

 



ніка – "Застаюся". Але Пані Л.Рублеўскай шмат што не задавальняе ў нашым жыцці. Яна часта плача ("Пані"); пакутуе ад граху пазнання, бо "ёсць ў няведанні – шчасце" ("Самыя доўгія ночы", 17); імкнецца "заснаваць Сусвет са сноў і слоў" ("Роздум у чужой келлі", 23).

У гэтым плане цалкам заканамерным выглядае зварот Л.Рублеўскай да прозы. Яе "Старасвецкія міфы горада Б*", іншыя "рэалістычна-імпрэсіяністычныя" апавяданні ўяўляюць сабой арганічны працяг паэтычных памкненняў аўтара. Сутыкаючы высокае, гераічнае і зямное, міф і здзеклівую рэальнасць, пісьменніца не супярэчыць свайму слову ў паэзіі. Яна натуральна працягвае яго. Гэтак жа, як працягвае жыць яе лірычная гераіня, прымаючы няпростую жаночую долю, адганяючы ад вачэй вясёлкавы туман і свядома адмаўляючыся ад шчасця няведання. Бо "зведаўшы аднойчы – ведаеш назаўсёды, на памяці драпіны не зацягваюцца, калі гэта – драпіны ад аскалёпкаў шчасця..."[11]. Бо, застаючыся, заўсёды прагнеш і спадзяешся на гэтае самае няўлоўнае шчасце, штодзень уздымаючыся да яго па няроўных прыступках уласнага лёсу.

**Вольга ШЫНКАРЭНКА**

---

[1] Рублеўская Людміла. "Крокі па старых лесвіцах". Мн.: Выд-ва ЦК КП Беларусі, 1990. С. 10. (Далей спасылкі па гэтым выданні.)

[2] Рублеўская Людміла. "Лес як..." //Наша Ніва. 1999. 8 ліст. С. 11.

[3] Рублеўская Людміла. "Замак месячнага сяйва". Вершы. Мн.: Маст.літ., 1992. С. 123. (Далей спасылкі па гэтым выданні.)

[4] Гл.: Гілевіч Ніл. "На высокім алтары". Новая кніга паэзіі. Мн.: Маст.літ., 1994. С. 120.

[5] Рублеўская Л. "Застаюся". Шніп В. "Выкраданне Эўропы". Мн.: "Тэмікс", 1996. С. 24. (Далей спасылкі па гэтым выданні.)

[6] Норвід Цыпрыян. "Ідзі за мною". Лірыка. Пер. з польскай. Мн.: Маст.літ., 1993. С. 57.

[7] Тамсама. С. 48.

[8] Тамсама. С. 17.

[9] Тамсама. С. 23.

[10] Тамсама. С. 18—19.

[11] Рублеўская Людміла. "Старасвецкія міфы горада Б*" //Крыніца. 1996. № 10. С. 31.



 

Людміла РУБЛЕЎСКАЯ

# ШТО РОБІЦЦА Ў ГОРАДЗЕ Б*

*(“Старасвецкія міфы...” Л.Рублеўскай)*

**Апошнім часам міфалагічная тэматыка** зноў “увайшла ў моду”. Гэта датычыцца як уласных аўтарскіх пошукаў, так і ўзрастаючай цікавасці да даследавання твораў з пункту гледжання міфарытуальнага аналізу.

Ці выпадковае падобнае вяртанне?

Як вядома, эпоху постмадэрну называюць яшчэ і эпохай паўтарэння, адной з характарыстык якой з’яўляецца распрацоўка “новай эстэтыкі серыйнасці” (У.Эка). Так, эпоха постмадэрну – эпоха паўтаральнага мастацтва, але гэтую паўтаральнасць нельга назваць суцэльнай. Італьянскі філосаф Умберта Эка выдзяляе некалькі разнавіднасцяў паўтарэння. Адной з іх з’яўляецца “remake” – перарабленне. “Remake” заключаецца ў тым, каб нанова расказаць гісторыю, якая мела поспех. Усе творы Шэкспіра – гэта рымейк папярэдніх гісторый. Некаторыя “цікавыя” рымейкі могуць пазбегнуць паўтору” (У.Эка).

Сюды можна аднесці і “Старасвецкія міфы горада Б*” Людмілы Рублеўскай – рымейкі старажытнагрэчаскіх міфаў, аб чым аўтарка сама папярэджвае кожным з эпіграфаў. Дарэчы, без іх творы Рублеўскай не кожнаму чытачу пададуцца міфамі, асабліва калі яму не знаёмае выказванне Юнга аб тым, што “міфалагічныя матывы схаваныя за сучаснай мовай і сучаснымі вобразамі”.

“Вядома ж, першае пытанне, якое паўстае, – пытанне “нашто гэта робіцца?”

Тэарэтыкі постмадэрну адказваюць на падобнае пытанне наступным чынам: дасягаецца інтэнсіўны эмацыянальны ўдзел, асалода ад адзінай вечнай ісціны, слёзы, усмешкі і, нарэшце, катарсіс” (У.Эка). Калі асноўнай мэтай твора-рымейка лічыць вышэй адзначаную, то Рублеўская дасягае яе бліскуча.

Да таго ж стыль “Старасвецкіх міфаў” настолькі выразны, што не прыняць “інтэнсіўны эмацыянальны ўдзел” чытачу амаль немагчыма.

Абраўшы для свайго пяра "старасвецкую" эпоху, Рублеўская памайстэрску распавядае пра яе, выкарыстоўваючы традыцыі грандаў "старасвецкай" літаратуры – Салтыкова-Шчадрына, Гогаля, Квіткі-Аснаўяненкі. Часам сюжэтныя сітуацыі, не гаворачы ўжо пра стылёвыя асаблівасці, маюць свае адпаведнікі ў творах сапраўднай старасвецкай эпохі: "Тады Антось Бурыга надзеў пінжачную пару, абсалютна новую, і капялюш, і лакіраваныя чаравікі, і паклаў ва ўнутраную кішэню пінжака тоўсты-тоўсты партманет. І пайшоў да дырэктара мужчынскай гімназіі горада Б* пана Вярэдзіча. Праз тыдзень пачыналіся ўступныя іспыты ў гімназію... Бедны пан Бурыга! Бедны дырэктар – столькі праклёнаў з вуснаў патомнага карчмара вытрывае не кожны", – распавядае Рублеўская ва "Узнясенні Ганімеда". "Начальник прочел и взглянул на нас внимательнее. Потом сказал руководителю нашему: "Ну, что ж?"

– Сейчас, – сказал Галушинский и начал "действовать".

Первоначально внес три головки сахару и три куска выбеленного тончайшего домашнего холста. Начальник сказал меланхолично: "Написать их в синтаксис". Домине Глушинский не унывал. Поклонясь, вышел и вошел, неся три сосуда с коровьим маслом и три мешочка отличных разных круп"... – пісаў у свой час Квітка-Аснаўяненка. Але калі стылёва аўтарка "Старасвецкіх міфаў" прытрымліваецца традыцый літаратуры XIX стагоддзя (яе сатырычнай плыні), то адносна абранай формы яе хутчэй можна параўнаць з Тэфі. Гэтая выснова тычыцца як уласна формы – міф горада Б* часам нагадвае то псіхалагічную мініяцюру, то бытавы нарыс, то гумарыстычнае апавяданне, – так і некаторых моўных асаблівасцяў – увага да мастацкай дэталі, выкарыстанне "местачковых" эпітэтаў, якія надаюць непаўторны правінцыйны каларыт гораду Б*. Але які ўплыў традыцыйнасці не вызначаўся б намі ў старасвецкіх міфах, гэта менавіта міфы, а не нарысы, апавяданні ці мініяцюры. Як сцвярджае Віктар Каваленка, "паэтычны міф сучаснасці – гэта такія адносіны да жыцця, якія маюць самай першай перадумовай духоўную актыўнасць чалавека, здольнасць да паэтызацыі, якая накіроўвае душэўныя парыванні да агульнанародных мэт", – а міфы Л.Рублеўскай цалкам адпавядаюць гэтаму вызначэнню.

Безумоўна, міфы горада Б* – старасвецкія, але яны валодаюць магутнай праекцыйнасцю на сучаснасць. Па сутнасці, гэта спрадвечныя "сцэнарыі чалавечых лёсаў" (Э.Бёрн), у аснову якіх закладзены ўсе тыя ж архетыпічныя сітуацыі. Таемнасць гэтых сітуацый раскрываецца аўтаркай, эпіграф і твор нясуць адценне "наўмыснай усвядомленасці". І калі, каб прасачыць эвалюцыю архетыпу, мы павінны час-

цей за ўсё звяртацца да тэорыі сімвалаў, то ў міфах Л.Рублеўскай дастаткова ўважліва прасачыць за сюжэтам. Якім жа чынам эвалюцыяніруе архетыпічная сітуацыя ў творах пісьменніцы ў параўнанні з класічнай архетыпічнай сітуацыяй? Звернемся ўласна да тэкстаў. "Аднойчы Юпітэр пакахаў зямную прыгажуню Семелу. Па намове раўнівай жонкі Юпітэра Юноны Семела папрасіла, каб каханы паказаўся ва ўсім бляску боскай славы. Невыноснае для зямных вачэй відовішча забіла Семелу", – прыводзіцца ў эпіграфе. Такім чынам, класічная архетыпічная сітуацыя зададзена. Яна заканчваецца смерцю. Ці застаецца нязменнай гэтая ж сітуацыя у рэінкарнаваным міфе? Ці памірае старасвецкая Семела, панна Аўгіння, як і Семела старажытнагрэчаская? "Ніхто не ведае, якой моцай валодаюць рахманыя людзі. Аўгіння ўзнялася. Яна навучыцца жыць і ў гэтым свеце. І па-ранейшаму будзе адорваць усіх усмешкамі, і не будзе заўважаць, як паблажліва крывяцца сустрэчныя. І не пераверне фотаздымак з нахабнай брунеткай". Рублеўская стварае новую Семелу – тую, якая застаецца жыць; абвяргае спрадвечную аксіёму "жаночае – пасіўнае", надзяляючы сваю гераіню актыўным пачаткам – моцным духам. Паказальна, што пісьменніца "давярае" самой гераіні зрабіць выбар паміж жыццём і смерцю. Старасвецкі міф – свайго роду пратэст супраць спрадвечнай волі архетыпу. Старасвецкая Семела застаецца жыць толькі таму, што сама абірае жыццё, сама з'яўляецца гаспадыняй сваёй архетыпічнай сітуацыі. І дзякуючы ёй самой, панне Аўгінні, гэтая сітуацыя змяняецца.

У "Семеле і Юпітэры" ёсць і яшчэ адзін пласт. Гэта пласт, які злучае "стары свет" з адным з адвечных архетыпічных матываў – як у рэальным жыцці, так і ў літаратуры. Пласт сімвалічны. Пераканаўча, што слепата Аўгінні – сімвалічная слепата: неабавязкова мець дрэнны зрок, каб "паміж навакольным светам і поглядам... калыхаўся вясёлкавы туман". Фактычна перад намі – сітуацыя ўсведамлення Ценю (К.Юнг) – свайго і тых асоб, якія знаходзяцца побач; а "маскоўскі ўрач-афтальмолаг" – сімвал сітуацыі, у ракурсе якой навакольны свет бачыцца не ілюзорным, а такім, які ён ёсць. Вышэйшую мужнасць і вышэйшую мудрасць Семелы Рублеўская бачыць у яе здольнасці прымаць рэальнасць як дадзенасць, і не толькі прымаць, а імкнуцца быць шчаслівай у ёй.

Як ужо заўважалася, гэты матыў архетыпічны, і адносна літаратуры ён хутчэй вандруючы, чым арыгінальны; уяўляе сабой, згодна класіфікацыі Эка, яшчэ адзін "цікавы" рымейк. І калі Рублеўская падае "жаночую" версію (яе гераіня – жанчына), то аналагам версіі "мужчынскай" можа лічыцца прытча Джона Фаўлза, якую мы знаходзім у ягоным рамане "Волхаў":

" – Но я хочу понять, что есть взаправду, что останется, когда рассеются чары.

– Когда рассеются чары, ничего не останется, – ответил король.

Пригорюнился принц.

– Убью себя, – сказал он.

Король чародейством призвал во дворец смерть. Встала смерть на пороге, поманила принца. Задрожал принц. Вспомнил острова, прекрасные, но невзаправдашние, вспомнил принцесс, невзаправдашних, но прекрасных.

– Ладно уж, – сказал, – вытерплю как-нибудь.

– Знай же, сын мой, – сказал ему король, – что и ты теперь вот-вот станешь кудесником".

Такім чынам, сітуацыя з "набыццём зроку", "рассейваннем туману", "развядзеннем чараў" асэнсоўваецца і Рублеўскай, і Фаўлзам як пераходная сітуацыя ўсведамлення, патрэбная для таго, каб узысці на новую ступень развіцця: набыць сапраўдную Самасць (згодна тэрміналогіі Юнга) альбо стаць Чараўнікам (згодна метафары Фаўлза).

Звернемся яшчэ да аднаго міфу, які ў пісьменніцы атрымаў адрознае ад класічнага заканчэнне – "Сідон і траянцы". Калі, згодна старажытнагрэчаскаму сюжэту, Троя скарылася, то горад Б* знайшоў у сабе моцы выстаяць. Цікава тое, што Рублеўская зноў акцэнтуе ўвагу на самадастатковасці суб'екта дзеяння, яго актыўнасці, уласнай волі выбіраць жаданае: "І горад Б* пачаў вызваляцца ад свайго кашмару... Жыццё круціла свае нетаропкія жорны, і ўсё сталася друзам, тлом, ценем... Вечная вайна мёртвага і жывога скончылася часовай эфемернай перамогай апошняга". Але, хоць перамога – часовая і эфемерная, а пан Бурдэйка – не апошні Сідон, які з'явіўся ў горадзе Б*, усё ж такі гэта перамога, якая супрацьпастаўлена падзенню Троі. Калі ўспомніць юнгіянскую канцэпцыю, дзе сімволіка горада тлумачыцца як мацярынскі сімвал, сімвал жаноцкага пачатку ўвогуле (Magna Mater), то можна сказаць, што міф "Сідон і траянцы" па сваёй глыбіннай праблематыцы з'яўляецца тоесным міфу пра Семелу і Юпітэра. Ва ўсякім выпадку, рашаецца яна ідэнтычна. І калі браць за кропку адліку юнгіянскую тэорыю, мы можам з упэўненасцю сказаць, што "Старасвецкія міфы горада Б*" апавядаюць нам пра тыя змены, якія адбываюцца на прасторах Анімы, індывідуальнай і калектыўнай Душы сучасніка. І трэба адзначыць, што эпоха постмадэрну вызначаецца пазітыўнай накіраванасцю гэтых зменаў.

**Алеся КУЧАРАВА**

I

Мінуў час, калі вершы былі для мяне нечым большым, чым проста вершы, калі яны рэальна маглі ўплываць на маё жыццё, жыццё маіх блізкіх. З нейкага часу яны хутчэй забаўка, гульня. І адзінае, што яе яднае з мінулым, – чым гэта гульня і цікавая, – у ёй (як і павінна быць) прысутнічае элемент адкрыцця, нечаканасці.

Пераходзячы да разгляду творчасці Людмілы Рублеўскай, адразу скажу: я амаль упэўнены, што вершы (прозу, публіцыстыку і крытыку ў гэтым кароткім артыкуле чапаць не буду) Людмілы, калі і маюць нейкую "ўплеценасць" у яе жыццё, то род такой "уплеценасці" прынцыпова адрозны ад таго, пра які пісаў. Больш таго: здаецца, што самой Людмілай паэзія ўсведамляецца як гульня, можа адно што з эпітэтам "высокая".

Варта зрабіць заўвагу, якая зможа растлумачыць зададзены тут мною тон. Некалі я спрачаўся са сваёй жонкай (якая, дарэчы, таксама паэтка) наконт ідэальнага чалавека. Яна казала прыкладна такое. Гэта хваробы і заганы робяць людзей шэрымі, аднолькавымі. Ачысціўшыся, кожны з іх "зазіхаціць" сваёй непаўторнай гамай колераў, як каштоўны камень, што атрымаў агранку. Я ж ёй пярэчыў, казаў: толькі недахопы дазваляюць неяк адрозніць людзей, згінуць яны – і згіне ўся разнастайнасць характараў, рысаў твару, галасоў. Нават некалі запісаў у нататніку: "Хворыя людзі. А па чым бы я вас пазнаў, калі б не вашы хваробы".

Цяпер я гатовы пагадзіцца з Наталляй, але ў гэтым артыкуле буду прытрымлівацца сваёй пазіцыі, якую некалі займаў у спрэчцы. Таму паэзія – гульня, асаблівасці творчасці – яе хібы.

II

Ліліт (і разам з ёй розныя цыркачкі, артысткі, спевакі). Так часта Людміла Рублеўская эксплуатуе гэты вобраз у сваёй творчасці, вобраз, які з'яўляецца ці не процілегласцю ўнутранай сутнасці Людмілы. Гэта я і паспрабую зараз даказаць.

– У адрозненне ад Людмілы, самой Ліліт паўтараць раз за разам, што яна Ліліт, а не хто-небудзь іншы, няма патрэбы: яна гэты факт сцвярджае адным сваім

існаваннем. Уявіце сабе, што хтосьці ідзе па вуліцы і паўтарае раз за разам: "Я – чалавек! Я – чалавек!" У нечым пачынаеш сумнявацца.

– Ліліт – творца па вызначэнні, і яе амплуа, як мне падаецца, – стварэнне вобразаў першасных, яркіх (кшталту сервантэсаўскага "Дон Кіхота" або "Кармэн" Праспера Мэрымэ). У Людмілы ж усё пабудавана на асваенні, пераасэнсаванні вобразаў і міфаў ужо створаных: на пачатку творчасці (у сваіх квазібаладах) – гістарычных, пазней (у алюзіях) – літаратурных.

– Як вядома, у школе дзяўчат, якім ставяць адзнаку "добра", куды больш, чым хлопцаў, што маюць тую ж адзнаку. Але выбітных мастакоў, матэматыкаў, літаратараў сярод мужчын куды больш, чым сярод жанчын. Гэта адносіна справядлівая для мностваў, утвораных людзьмі. Разгледзім цяпер два мноствы іншага кшталту: мноства, што аб'ядноўвае вершы Віктара Шніпа, і мноства, што аб'ядноўвае вершы Людмілы Рублеўскай (мужа і жонкі). Гэта суб'ектыўна, але ў Людмілы вершаў, якія асабіста я магу назваць добрымі, значна больш, чым у Віктара, аднак твораў выдатных – твораў-знаходак – наадварот, больш у Шніпа. Такім чынам, пакуль што я даказаў наступнае: пры маім суб'ектыўным разглядзе творчасць Рублеўскай адносна творчасці Шніпа выглядае як творчасць жанчыны – Евы. (Праўда, нейкую спрэчнасць можа выклікаць тое, як я зрабіў пераход ад мностваў, утвораных людзьмі, да мностваў, што ўтвараюць вершы.) Але ж не пры якім суб'ектыўным разглядзе творчасць Ліліт адносна чыёй бы то ні было творчасці не можа выглядаць як творчасць Евы. Таму Л.Рублеўская хутчэй Ева, чым Ліліт.

## III

Амаль усе мае знаёмыя-літаратары, хто быў жанаты ці замужам, паспелі да гэтага часу развесціся. А тыя сем'і, дзе пісалі і муж і жонка, распаліся без выключэнняў. Таму заўжды цікава мець прыклад іншага. Хай гэта крыху і старэйшае пакаленне, але такім прыкладам з'яўляецца для мяне сям'я Віктара Шніпа і Людмілы Рублеўскай. Тым і цікавая мне асоба Рублеўскай, што, займаючыся літаратурнай дзейнасцю, яна здолела захаваць трывалай сям'ю. Я спрабаваў знайсці гэтаму тлумачэнне і покуль спыніўся на такой версіі. Паэта ў некаторым сэнсе можна параўнаць з тым, хто танчыць на канаце. Немагчыма танчыць пад самым купалам і адначасна Нешта трымаць, аддаючы гэтаму Нешта калі не ўсе, дык амаль што ўсе сілы. Можна або кінуць гэта Нешта, або сарвацца, або спыніць танец і асцярожна пакінуць канат. Але ж можна намаляваць канат на асфальце і вельмі прыгожа на ім танчыць, і нават сабраць гледачоў.

Усевалад ГАРАЧКА

РЭАНІМАЦЫЯ КРЫТЫКІ

**Аднойчы група самотных аўтараў** тапталася каля нерухомага цела крытыкі і раздумвала, што з гэтым рабіць. Людміла Рублеўская тым часам вынаходзіла новыя рубрыкі для "ЛіМа": "Бліц-крытыка", "Гарбата ў Шніпоў"...

Некалі на сходцы згуртавання "Тутэйшыя" Адам Глёбус заўважыў, што беларускія літаратары твораць пад нечым прымусам. "Я цябе прымушаю, – доўжыў простую думку Глёбус, – мяне нехта прымушае. Усе мы некага прымушаем, і кожны з нас пад прымусам".

У багністым асяроддзі крытыкі заўжды бытавалі нейкія мляўкасці і лянота, бы ў зарэсценай раскай сажалцы. Нехта павінен быў раскалыхаць марудлівых, бы ліны і карасі, аўтараў.

Без прымусу ў беларускай літаратуры, асабліва ў крытыцы, як і на беларускім вяселлі, няможна.

"Бліц-крытыка" Людмілы Рублеўскай дзейнічае як лякоба ад лянoты. Вынаходніца "лімаўскай" рубрыкі ўмее прымусіць крытыка рабіць тое, што ён мае рабіць: чытаць і выказвацца. Хай сабе і ананімна (каму трэба, здагадаецца), хай сабе і не чытаўшы твора (здараецца і так).

"Гарбата ў Шніпоў" існуе на той выпадак, калі крытык развучыўся гаварыць.

Я прапаноўваў памяняць назву літаратурнага салона на "Шніпоўню". Праўда, сам Віктар Шніп на пачатку гарбаты далікатна адсутнічае. Ён як бы позніцца. Ён прыходзіць тады, калі языкі "гарбатнікаў" пачынаюць варушыцца, калі круцяцца жорны дыктафона, а гарбата спакваля астывае.

Віктар Шніп дзелавіта пытаецца:

– Ці шмат нагаварылі?

Гэта як бы гаспадар наняў касцоў, а ўвечар правярае, колькі накасілі.

У адказ гаспадыня літаратурнага салона са скрухай адказвае:

– Ды няшмат пакуль што...

Гаспадар з разуменнем ківае галавой і лезе ў якісь скляпок, адкуль з'яўляецца на свет пляшка з напоем, адрозным ад гарбаты.

Неўзабаве гамонка разварочваецца як след, спрытна развязваюцца заблытаныя пытанні літаратуры і быцця, жорны дыктафона ваўсю мелюць, і з гэтай памолатай інтэлектуальнай мукі гаспадыня хутка згатуе адмысловую страву, якая жанрава нагадвае п'есу парадоксу. Насуперак скептыкам, страву каштуюць не толькі ўдзельнікі "гарбатні". Чытачы імпэтна ўвязваюцца ў сумоўе, падтакваюць альбо спрачаюцца, а нехта з самых праніклівых нават робіць нясмелую здагадку, што там "яны не толькі гарбату п'юць".

...Аднойчы група літаратараў у разгубленасці стаяла над целам часопіса "Першацвет" і не ведала, што тут можна зрабіць. Нават новы рэдактар для выдання не знаходзіўся. Тымчасам Людміла Рублеўская ўжо вынаходзіла адну за другой рубрыкі для рэанімаванага "Першацвету". Часопіс, дзякаваць Богу, жыве і нават павялічваецца ў фармаце.

У паэзіі, прозе і драматургіі Людмілы Рублеўскай я знаходжу тую ж няўрымслівасць. Пакуль нехта шліфуе свой творчы імідж і прымерваецца да тэмы, Людміла Рублеўская ўжо займае *экалагічную* нішу. Прыкладам, жанр гарадской міфалагемы.

Літаратурныя мэтры яшчэ тупаюць каля ўваходу ў новы часопіс, а Людміла Рублеўская ўжо там, за дзвярыма – у нумары чацвертым "ARCHE", што гэткай пікантнай тэме прысвечаны — "Паталёгіі грамадзтва". "Паталягічнае" апісанне абдымае "Два дні ў Маскве й трынаццаць год між імі" і памяшчаецца на чатырох старонках...

Галоўнае, як абвесціў на адной з "гарбатняў..." Валянцін Акудовіч, гэта не літаратурныя творы, а літаратурны працэс.

Аднойчы можа здарыцца і так, што літаратурны працэс задыхае на ладан. І група літаратараў будзе стаяць над ягоным целам, глядзець і некага чакаць. Я ведаю каго.

**Пятро ВАСЮЧЭНКА**

# СЛЯПЫЯ РУКІ

тваe сляпыя рукі
не знайшлі дарогі
сябра
мовы
толькі вечар
сустрэне ветла іх на полі
і каласы
ім цалавацьмуць пальцы
ды гэта казка
стомлены і хворы сон
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
усё прасцей:
сляпыя рукі адсячэ
ў катоўні змрочнай
мужны вой
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
і будзе на пляцы
дзябёлая баба
штурхаючыся ў тлуме
крычаць:
“купіце сляпыя рукі!”
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
ды каму яны патрэбны
тваe сляпыя рукі

*1994*

## СТАРАЯ

*ахвярую бабці Юзэфе*

малітоўна склаўшы
свае нямоглыя рукі
яна штовечара моліцца Богу
і просіць у Яго
здароўя блізкім
шчаслівай дарогі дзецям
якія разляцеліся з праменнем
вясновага сонца
ў далёкі і блізкі свет

на вуліцы – дождж, лагоднае
надвор'е, снег і холад –
усё змяняецца бы
ў хуткацечным кіно
і толькі старая,
нязменная як вечнасць,
штовечара моліцца Богу

і я,
бачучы яе ў акне суседняга дому,
цешуся сэрцам –
жыццё ідзе наперад

*1991*

## ***

*Л.В.*

твой шлях пачаўся ў шынку
дзе сцены былі загаджаныя мухамі

# У нас

і п'яныя сяляне
смаркаліся пад стол
там,
прыгожая як золак
і недасягальная бы Арарат
маці
разносіла піва
і кіслае віно
а потым –
кахалася з бацькам у хляве
на жытнёвай саломе
і ты
быў зачаты там,
дзе целяцца каровы
дзе коткі
прыносяць байструкоў-кацянят
таму не істотна
што свет ты пабачыў у лякарні
з белай столлю
і ільнянымі прасціарадламі
не істотна
што ўцёк
зышоў у далячынь
сягаў у нябёсы
і падаў долу
піў лепшыя віны
кахаў шляхотных кабет
бо
твой шлях пачаўся ў шынку
дзе сцены былі загаджаныя мухамі
і п'яныя сяляне
смаркаліся пад стол

*1992*

# ВЕРШ ПРА НОЧ

ноч хаваецца ў гаршчок
чорны і гліняны
дзе мала месца
і вельмі вільготна
з-за чаго поўня
выскоквае на неба
прастуджанай
а зоркі –
мокрымі
як восень

ноч мае сукенкі
схаваныя ў папяровай шафе
чорная блакітная
белая і тумановая
адно толькі вогненная
патухла
ад вільгаці

ноч заплятае ў касу
свае мяккія
і залацістыя валасы
каб схаваць іх
пад жалобную хустку

ноч салодкая
бы каляровы сон
і мае водар мяты
той што расце
ля ганку дома
з чырвонай цэглы

ў якой любіць
хавацца ад спёкі
Мухтар
мой чорны і дурны
сабака

ноч любяць
рабочыя і прастытуткі
зладзеі і прэзідэнты,
дзеці і старыя,
паэты таксама любяць
хавацца
ў начы

*1992*

## ЖАДАННІ

*Ёй*

восенню
хачу стаць казуркаю
і згубіцца ў верасах

летам
божай кароўкаю
стаць хачу
і
з далоняў тваіх
узляцець да неба

*1997*

***

ты адыдзеш
як бераг адыходзіць ад мора
як зоркі гаснуць
у халодным небакраі
і ты сплывеш
як карабель апошні
з зялёным ветразем
у далячынь сплывае
каб болей не вярнуцца
ты адыдзеш
як адыходзяць людзі
не развітаўшыся
ў расплюшчаны нябыт
дзе спеў змаўкае перад навальніцай
і жаваронак памірае ад тугі
ты адыдзеш
туды
дзе вечны змрок
сваё пасеяў пустазелле
па берагах няўлоўнае ракі
і там мяне ты не сустрэнеш
не спаткаеш
у час
калі Плутон развешвае сцягі

*12.15.92*

Эжэн ІЯНЭСКА

# АДЗІНОТНІК

*Раман*

Неўзабаве я прачнуўся. Выйшаў з пакоя, прамінуў доўгі калідор, агледзеў спальню. Шпалеры ў ёй былі з кветкамі — ружамі на белым фоне. Я вельмі люблю кветкі. І рабочы, які клеіў шпалеры, іх таксама, напэўна, любіць. Мне падабалася, што кветкі ў мяне былі і на ложку, і на фатэлі, і на сценах. Весела прачынацца ўранку і бачыць вакол сябе кветкі. Гэта не нагадвае вёску — гэта нагадвала мне сад з майго дзяцінства, у якім сябра маіх бацькоў, садавод-аматар, пасадзіў паўным-паўнютка самых розных кветак... Я зноў прайшоў па цёмным калідоры — ён быў вельмі доўгі. Справа ад спальні месцілася ванная. Я зазірнуў у яе, пабыў там нейкі час. Гэта мая ванная, сказаў я сабе, не трэба больш стаяць у чарзе кожнага ранку, як у гасцініцы, — там у гэтую чаргу ўвесь паверх збіраўся. Мне падабаўся гэты цёмны таямнічы калідор, па ім можна было блукаць. Дайсці да канца, вярнуцца, зноў дайсці да канца і вярнуцца — пры такой хаданіне ўзнікала ўражанне сутарэння ці патаемных калідораў, па якіх праходзяць прыгожыя куртызанкі, каб трапіць у пакой сеньёра. Зноў вярнуўшыся ў жылы пакой, я паглядзеў у акно на праспект, потым на вулку. Я быў апанаваны нерашучасцю. Я мог яшчэ, калі паспяшаюся, паспець падысці да бюро да заканчэння працоўнага дня і сустрэць каля выхаду каго-небудзь з былых калег. Я падумаў крыху, потым сказаў сабе, што мне яшчэ багата чаго трэба паглядзець у маім новым квартале, у наваколлі дома. Я ж праходзіў адно па праспекце

---

*Працяг. Пачатак у № 1.*

і па ціхай вуліцы. Яшчэ светла, самы пачатак восені. Не, да бюро не паеду, вырашыў я.

Вярнуўся ў вялікі пакой. Блакітнае неба не было ўжо тым, што раней, сонца не надавала яму ранейшага бляску. Мне пачало здавацца, што неба — гэта дах. Зямля — шар усярэдзіне другога шара, які знаходзіцца ўсярэдзіне іншага шара, які ў сваю чаргу знаходзіцца ўсярэдзіне яшчэ аднаго шара, які... Ад спробы ўявіць сабе гэта нават блага стала. Галава закружылася. Быць нездатным спасцігнуць сусвет, быць нездатным ведаць, што гэта такое, — з гэтым немажліва згадзіцца. Не лічачы таго, што мы ведаем: форма рэчаў — усяго толькі вобраз нашага бачання гэтых рэчаў... Гадоў з дванаццаці гэтае пытанне перыядычна не давала мне спакою, усяляла ў мяне пачуццё жудаснае нямогласці, мне нават здавалася, што я зараз званітую. Як усе гэтыя людзі могуць ісці па вуліцы альбо бегчы да аўтобуса? Калі б усе пачалі думаць пра гэта ці, хутчэй, уяўляць сабе гэтае, неўяўляльнае, то яны больш і не паварушыліся б. Я ўжо сказаў сабе: не будзем думаць, бо мы не можам думаць. Людзі ігнаруюць немажлівае ці забываюцца на яго; хоць менавіта з гэтага яны пачынаюць думаць, яны засноўваюць свае думкі на гэтым немажлівым, і гэта для мяне — немажлівае. Але яны прыдумалі арыфметыку, геаметрыю, алгебру... Хоць алгебра таксама прыводзіць нас да прорвы... аднак яны вынайшлі машыны, арганізавалі таварыствы, яны плююць на абсалютнае пытанне, пытанне без адказу.

Дурны гонар, можа быць, хацець думаць пра тое, што не створана дзеля таго, каб пра яго думаць. Зрэшты, няма гонару, бо што такое гонар? Рэч у тым, што я не магу скрануцца з месца. Я лічу, што знаходжуся ля сцяны свету, і не адважваюся адысці ад яе. Можа, гэта хвароба. Я застаюся зусім адзін ля падножжа гэтае сцяны. Зусім адзін, як дурань. Яны ўжо прайшлі шлях, яны нават арганізуюць таварыствы, больш-менш добра, гэта праўда, і ёсць экстравагантныя механізмы. А я адно гляджу на сцяну і паварочваюся спінаю да свету. Але, я ўжо прапанаваў сабе — не думаць, бо думаць нельга. Гэта цікаўна: яны вераць у свет, у сусвет, у стварэнне, яны вераць, што ўсё гэта — зусім натуральнае, што яно дадзена нам. І гэта яны — вучоныя, а я гультай, невук. Мы ў турме, вядома, мы ў вязніцы. Гэта таму, што я хачу ведаць, што я нічога не ведаю. Можа, ім удасца знайсці адказ? За жыццё дзесяткаў ці сотняў пакаленняў яны спас-

цігнуць неспасцігальнае, яны змогуць уявіць сабе неўяўляльнае. Калі яны не перастануць працаваць, сядаць на аўтобусы, ствараць кнігі, лічыць, выпраўляцца пакараць зоркі, то некалі мікраскопы адкрыюць, што ёсць нешта бясконца малое, — яны адчуваюць, бессвядома і натуральна, што яны да гэтага прыйдуць. Але ў мяне ўзнікае ўражанне, што яны абапіраюцца на нішто, і гэта таксама ўсяго толькі слова. Мы даем імёны рэчам, якія нічога не кажуць, пра якія нічога нельга сказаць... Бясконца малое... якое неадступна пераследуецца бясконца вялікім, я дазваляю пераследаваць сябе бясконца малому...

Дурныя пытанні перашкаджалі прасоўвацца наперад, працінацца смакам да жыцця. Але гэта ж няпраўда! Ёсць рэчы, якія прынамсі прыносяць мне задавальненне. Аднак я не мог болей вытрымліваць гэтага пачуцця трывогі. Не мог болей вытрымліваць тое, што называў ванітамі мікраскапічна блізкага і ванітамі бясконца далёкага. Усе прайшлі праз гэта — у трынаццаць гадоў, у пятнаццаць, у васемнаццаць. А далей не пайшлі, бо далей пачынаецца непраходнае; адны на гэта не звярнулі ўвагі, другім ранейшае сталася абыякавым, трэція на яго забыліся. А ёсць і такія, якія ніколі і не задавалі сабе гэтых пытанняў. Людзі палітыкі, напрыклад. Людзі, якія не задавалі сабе пытанняў, знаходзяцца альбо тут, альбо там, альбо ў сабе — іх больш чым хапае. Я не хачу сказаць, што я лепшы ад іх. І не хачу гэтым сказаць, што яны лепшыя ад мяне. Я гэтым нічога не хачу сказаць. Абсалютных каштоўнасцяў не існуе. Прынамсі ў гэтым шары, улучаным у другі шар, які, у сваю чаргу, хаваецца ў меншы шар, што заключаны яшчэ ў адзін шар. Я падышоў да буфета, узяў пляшку каньяку і выпіў запар пяць кілішкаў. Бог мой, як добра зрабілася! Усе пытанні некуды сышлі, я адчуў, як ува мне разліваецца цяпло, адчуў, што я шчасны, не, хутчэй, не шчасны, а вольны ад усіх гэтых пытанняў. Я ўжо не з’яўляўся больш палоннікам толькі шара, я яшчэ быў і ў палоне цёплай алкагольнай пасцілкі, якая ахутвала мяне ўсяго. Нуда адсланілася. Я не думаў больш пра неспасцігальнае. Альбо яно адсунулася ад мяне. Гэта, можа быць, праклён — глядзець адно на сцяну. На нейкі момант гэты праклён знік. Як я хацеў заставацца такім вось, быць як усе іншыя! Мне захацелася выпрастацца на канапе, але я разумеў, што засну тады да ранку. Не, трэба выйсці. У шынок.

Я рушыў туды, абмінуўшы дом з супрацьлеглага боку, што дало мне мажлівасць убачыць іншыя вуліцы квартала. Спачатку была знаёмая з акна ціхая вулка з яе правінцыйнымі дамкамі, два-тры з якіх былі падобныя да швейцарскіх; далей я збочыў направа. Наступная вуліца была змрочная, такое ўражанне стваралі занядбаныя дамы, што суседнічалі з дамамі дагледжанымі. Там я сустрэў гурт матацыклістаў у шлемах — гэтыя хлопцы былі гатовыя ў адно імгненне рвануць з месца, акурат як у тым амерыканскім фільме, які я глядзеў нядаўна, фільме, што выклікаў у маладых людзях жаданне наводзіць жах. Я паспяшаўся адысці ад іх як мага хутчэй, мяне палохаў адзін іх выгляд, і я ратаваўся ад агрэсіўнага гвалту, які вось-вось мог узарваць цішыню наваколля. Трое ці чацвёра рабочых у робах вярталіся дамоў, па іхняй хадзе было відаць, што нейкі час яны прабавілі ў бістро. Я адчуў у сабе буржуа, як адчуваюць злачынства. Якое злачынства? Дарэмна паўтараў я сабе тое, што ведаў, інакш кажучы, тое, што няма аніякага злачынства, — розум мой не мог узяць верх над маімі пачуццямі. Вось што такое людзі й газеты апазіцыі! Якую сілу маюць клішэ, якія вы адкідаеце, але якія ў рэшце рэшт пранікаюць у вас самым зламысным чынам і насычваюць вас. Няма аніякага злачынства. Ніхто ні ў чым не вінаваты. Альбо ўсе вінаватыя ва ўсім: у прынцыпе гэта тое ж самае. Але наколькі слабыя тыя, што адчуваюць сябе вінаватымі, думаючы пра тое, што яны зусім не вінаватыя. Які разрыў паміж розумам і безразважнасцю! Тым, хто адчувае сябе вінаватым і адначасна лічыць сябе ім, застаецца толькі, так сказаць, скласці з сябе паўнамоцтвы. Нішто ўжо болей не ўтрымлівае іх ад самазабойства. Тым часам як я, заблукаўшы...

Я збочыў направа, за рог, і апынуўся на шырэйшай вуліцы, амаль такой самай шырокай, як і праспект, — вуліца гэтая была паралельная правінцыйнай вуліцы пенсіянераў. Але і гэтая вуліца не была весялейшая за папярэднюю. Вельмі мала жылых дамоў, але шмат вялізных майстэрняў ды складоў. Былі будынкі й за заводам, з левага боку. З іх выходзілі рабочыя. І аніводнага бістро! Аўтобусны гараж. Дзяўчына ў ружовым кантраставала з усім астатнім. Некалькі дрэваў, аднак усё лісцё іх было ў пыле. Перад самым пачаткам працоўнага дня і адразу пасля ягонага канца тут, мусібыць, можна ўбачыць неверагодную колькасць цяжкіх грузавікоў і процьму рабочых на веласіпедах. Пачынала цямнець. Я прайшоў яшчэ сотню метраў,

дайшоў да рога, збочыў направа. Перада мной быў праспект, які я бачыў са свайго акна і які ўжо добра ведаў. Ураажанне было такое, што я хадзіў па ім месяцы або нават гады. Вядома, я бываў тут, калі займаўся купляю кватэры, але толькі сёння па-сапраўднаму разгледзеў яго, пазнаў. Я накіраваўся да шынка. Прахожых было шмат. На другім баку праспекта стаялі на аўтобусным прыпынку людзі ўсё таго ж тыпу. Я адчыніў дзверы шынка і з неспакоем паглядзеў у бок століка, за якім палуднаваў: ці не заняты ён? Выдатна, ён быў вольны. Гэта будзе мой столік. У шынку было досыць шмат людзей, ужо запалілі лямпы. Я прайшоў да століка, павесіў на вешалку, якая стаяла ў куце, капялюш і сеў. Запалілася святло і знадворку.

Да мяне падышла афіцыянтка, тая самая, што абслугоўвала мяне ўдзень.

— Вы палуднавалі ў нас? — пазнала яна мяне.

— Але. Я буду прыходзіць да вас кожнага дня, палуднаваць і вячэраць. Вы можаце пакінуць гэты столік за мною?

Яна адказала мне, што ў такіх маленькіх шынках, як іхні, гэтага зазвычай не робяць. Такое практыкуюць у вялікіх рэстарацыях, аднак яна паспрабуе. Толькі мне трэба падыходзіць раней. Я сказаў ёй, што я чалавек звычкі і магу прыходзіць палуднаваць а палове першай, а вячэраць у сем.

— Відаць адразу, што ў вас свае звычкі, — адказала яна і дала мне меню. У абед я замаўляў селядзец з бульбаю, цяпер захацелася папрасіць штосьці іншае, і я заказаў сардзіны, біфштэкс з піражкамі, а на дэсерт — ромавую бабу. І, вядома, — пляшку бажале.

— А вы гурман! — сказала мне афіцыянтка.

— Але, я люблю паесці, а кухня ў вас добрая. І бажале вашае таксама даспадобы.

— Гаспадар ведае добрага вінароба, ён дасылае нам віно з уласнага склепу, дый прадукты ў нас усе свежыя. Бачыце — кліентаў хапае. Выгляд у іх задаволены, ядуць са смакам. У нас лепшы шынок у квартале. Ёсць яшчэ піўніца, але там пуста. І яшчэ адзін шынок, яны называюць яго рэстарацыяй — з шыкам.

Яна сказала мне, што гаспадарова жонка — ейная сястра. А яе стрыечны брат працуе тут бармэнам. Прадукты купляе гаспадар.

— Так лепей — працаваць сям'ёю, лягчэй дамовіцца. Ну, я пайду, мяне чакаюць. Заказ я хутка прынясу.

# Яны

Я павярнуў галаву да акна. Забаўны занятак — глядзець на прахожых. Хоць увогуле я люблю дзень. Поцемкі абуджаюць у мяне неспакой. Але калі глядзіш на людзей, што праходзяць міма, самых розных, то пачынаеш адчуваць сябе больш утульна, падбадзёрваешся. Калі я быў зусім маленькі, то баяўся цямрэчы. Тады маці выводзіла мяне на вуліцу гуляць. Трымала мяне за руку. Вуліца была шматлюдная, падобная да гэтай, толькі вузейшая. Яна, вядома, няблага ведала людзей у квартале. Спынялася, загаворвала з якойнебудзь суседкаю. Абменьвалася слоўкам з гандлярамі. Я згадваю гэтую вуліцу, якая заўсёды кішэла людзьмі, я супакойваўся на ёй, нягледзячы на паўзмрок — асвятленне было кепскае. Большасці гэтых людзей ужо няма. Я згадваю вуліцу прывідаў. І гэтыя прахожыя ў мяне перад вачыма раптам здаюцца мне прывідамі. Усяго толькі прывідамі. Адчуваю, як сціскаецца сэрца і мяне апаноўвае трывога. З нічога. Ад усяго. Але, на шчасце, афіцыянтка прынесла сардзіны й віно. І нават сама наліла мне ў шкляначку бажале. Пайшла. Я выпіў шкляначку і наліў другую. Так ужо лепей. Нешта накшталт вясёласці. У мяне часта бываюць такія памкненні да радасці, скачкі ў шчасце, але недастаткова моцныя — гэтыя рухі душы хутка слабнуць. Я ведаю метад, з дапамогаю якога можна пазбаўляцца ад суму ці страху, але ён не заўсёды прыводзіць да поспеху. Сутнасць гэтага метаду ў тым, каб глядзець на людзей і рэчы навокал з як мага большай увагаю. Глядзець вельмі, вельмі ўважліва, быццам я бачу гэты свет упершыню. І тады тое, што я бачыў, рабілася незразумелым і незвычайным.

Я вымагся, засяродзіўся, пастараўся забыцца на ўсе праспекты, якія бачыў раней, усе гарады, вуліцы, рэчы ды ўсіх людзей. Я быццам упершыню вымкнуўся ў жыццё. Я хацеў зноў убачыць гэтую дзіўнасць свету, дамагчыся таго, што часам удавалася раней. Я нібыта прысутнічаў на спектаклі, я быў гледачом на адлегласці ад дзейства, што адбывалася ў мяне перад вачыма, але не браў у ім удзелу, не быў тым акторам ці статыстам, якім звычайна з'яўляўся, якімі звычайна з'яўляемся мы ўсе. Абкружаны людзьмі – і разам з тым не сярод людзей. Часам гэта павялічвала маю трывогу, але часцей за ўсё яна знікала. Ніякага зададзенага наперад і пастаяннага меркавання, таму што кожнага разу бачыцца нам наноў усё гэтае універсальнае ўладкаванне, усе гэтыя людзі, вуліцы – непрыгожымі

ці прыгожымі, добрымі ці благімі, бяспечнымі ці небяспечнымі, прыязнымі да нас ці не. Мне ўдавалася дасягнуць пэўнай маральнай нейтральнасці. "Яны" не былі падобнымі да мяне, я з усяе сілы стараўся не разумець словаў, якія прамаўлялі людзі ў шынку. Як быццам гэта было толькі механічным гвалтам гукаў ці іншаземнай мовай. Усё гэта разам было адно хуткаплынным уяўленнем пра ілюзію таго, што з'яўляецца нічым, таго, што ёсць "нішто". Людзі ішлі па чымсьці накшталт вуліцы, у чымсьці накшталт прасторы, першы і апошні раз. Насамрэч існаваў толькі я адзін. Усё астатняе было нейкай адной суцэльнасцю, гэта было "ўсё гэта". Я зноў апынаўся перад неспасцігальнай сцяною. Дзе яна знаходзіцца? Дзе знаходжуся я? Але, і талеркі, і нажы, і відэльцы, і аўтобусы, і прахожыя з'яўляюцца рэальнымі існасцямі альбо чымсьці такім, пра што не ведаеш, што з ім рабіць, чым не можаш карыстацца. Я адзін існаваў насамрэч. Іншыя праміналі й знікалі, а я адчуваў сябе нечым унікальным у гэтым калаўроце, які не мог быць рэальным. Рэальнае станавілася чымсьці накшталт пустое прасторы, якую я запаўняў. Эйфарычнае павелічэнне "мяне": чым больш мне здавалася, што "ўсё гэта" наўрад ці існавала, тым больш гэта сцверджвала мяне ва ўпэўненасці – я існую. Але я мусіў суцішаць гэтую эйфарыю – не разбураць, а суцішаць. Інакш я прыняў бы такія памеры, што, заняўшы ўсю прастору, якую можна было б назваць экзістэнцыйнай, зноў апынуўся б насупраць нябачных сценаў неспасцігальнага. Я не ведаю, ці ўдаецца мне сказаць дакладна тое, што я хачу сказаць. Няма словаў, каб выказаць гэты стан. Я хачу сказаць, мусібыць, нешта іншае – штосьці падобнае да развагі казала мне, што я не магу быць адзін. Іншыя былі "мною", зусім такія, як я, працягвалі нашэптваць мне роздум, які я спрабаваў заглушыць. Калі я адчуваю сябе адзінокім, касмічна адзінокім, усё роўна як я быў бы сваім уласным творцам, сваім уласным богам, гаспадаром уяўленняў, – то менавіта тады я адчуваю сябе па-за небяспекаю. Зазвычай не адчуваеш сябе адзінокім ва ўласнай адзіноце. Бо ўсё астатняе тады з табою. Ты ізаляваны, а ізаляцыя не з'яўляецца абсалютнай адзінотаю, яна касмічная; іншая адзінота, малая адзінота – усяго толькі сацыяльнае. У абсалютнай адзіноце няма нічога іншага. Гэта ўспаміны, вобразы, прысутнасць староннніх вас вярэдзіць. Надакучае вам. Ёсць адзінота нудная і няўзносная – гэта тая самота, у якой звяртаешся да іншых, клічаш іх, у

якой адчуваеш патрэбу іншага, бяжыш да яго, таму што верыш у ягонае існаванне. Іншых ты баішся, таму імкнешся да іх, як быццам збіраешся раззброіць. Аднак не я быў богам, не я прыдумляў усе гэтыя хуткаплынныя вобразы – мне іх прапаноўвалі, паказвалі. Хтосьці, а не я, быў вынаходнікам. Я цярпеў, спрабаваў цярпець, спрабаваў трымацца наўзбоч, каб толькі глядзець, не ўваходзячы ў гульню, але я быў абавязаны браць гэта ўсё пад увагу.

Але я не быў яшчэ рэінтэграваны, мяне яшчэ не захапіла існаванне, як пэўная разнавіднасць сусвету, на некалькі імгненняў я яшчэ знаходзіўся – па-за ім. Галасы былі яшчэ невыразным шэптам, а людзі – прывідамі. Потым было падзенне. У адно імгненне нармальнасць сталася нармальнаю, хоць я ўсё яшчэ заставаўся звонку яе. Рэчы зноў набывалі сваю ідэнтычнасць. Я зрабіў яшчэ адно намаганне, каб трапіць у "іншае месца", туды, дзе "гэта" не мела імені. Я паглядзеў больш пільна, як мага больш уважліва на пляму чырвонага віна на абрусе. Я ўжо рабіў падобны эксперымент раней – з поспехам. Уся справа ў тым, каб глядзець на штосьці да тае пары, пакуль не будзеш ужо ведаць, што гэта такое. Гэта мусіла перастаць быць плямаю віна, гэта павінна было стаць "я не ведаю чым" на абрусе, што не быў больш ні абрусам, ні белаю прастораю ці месцам, на якім расплылася пляма. Я не мог дамагчыся такім чынам многага, але чагосьці ўсё-такі мог: у гэтай прасторы, няпэўнай рэччу — аналагічнай прасторы ў іншым месцы. Гэта размяшчала самога мяне ў іншым месцы. Але пакуль я не мог засяродзіцца. Можа, з-за афіцыянткі, якая, мінаючы мяне, кінула:

– Вы не будзеце больш есці біфштэкс?

Аднак калі я добра размясціўся ў іншым месцы, то ўцягнуў усё ў гэтае іншае месца, нават бясколерныя фразы, крокі, жэсты, якія сталі чымсьці падобным на жэсты, хоць ужо не былі больш жэстамі. Часта мне дастаткова было шмат разоў і хутка паўтарыць слова "конь" ці слова "стол", каб у рэшце рэшт яно вызвалілася ад свайго зместу, каб знік усялякі змест. Але не, гэтым вечарам справа не йшла.

– Так, не буду, – адказаў я афіцыянтцы, – вы можаце прынесці дэсерт, а потым каву – не, усё разам.

Галасы на момант зрабіліся цвёрдыя й горкія, а потым зноў зніклі ў неразборлівым шэпце.

Усё астатняе было на месцы, падвешаныя да столі лямпы не ва-

рушыліся, нават зямля не дрыжэла. На самым пачатку гэтага эксперыменту, калі мне было пятнаццаць ці семнаццаць гадоў, іншае месца з'яўлялася хутчэй. Часцей за ўсё ўзнікала нешта накшталт арэолу, які свяціўся. І калі іншае месца сыходзіла, са мною доўга, некалькі дзён, заставаўся ўспамін аб свеце святла. Я быў упэўнены, што гэта было і што я магу зноў гэта знайсці. Я захоўваў радасны ўспамін пра гэта – я ўжо сказаў — некалькі дзён, а можа і некалькі тыдняў. Цяпер, калі я прыходжу да гэтага стану з нашмат большаю цяжкасцю і значна радзей, ягонае знікненне пакідае мяне ў няўпэўненасці, у прыгнечанасці, у чымсьці накшталт тугі. Я не ўпэўнены нават, што адчуваў тое, што адчуваў... Неўзабаве ўсё набыло сваю ідэнтычнасць, усе рэчы займелі свае імёны. Я з'еў дэсерт, выпіў каву – і што мне зараз рабіць? Ёсць адна простая мудрасць, яна вучыць нас радавацца дробязям, якія дорыць нам існаванне. Я доўга жыў кіруючыся гэтым прынцыпам. Потым я навучыўся не быць залішне прыгнечаным ні малымі, ні нават вялікімі падзеямі, якія прапануе нам існаванне. Але будзённасць нялёгка пераносіць; нездарма перад працаю лягчэй аддаць перавагу бяздзейнасці. Паміж намаганнем і нудою заўсёды ёсць нейкая маленькая нуда, якую я выбіраў, якой аддаваў перавагу. Мне страшэнна не хацелася ісці з шынка. Я замовіў шкляначку вінаграднае гарэлкі. Апрача мяне ў зале заставаліся толькі двое маладых людзей, закаханых адно ў адно па-сапраўднаму, як мільёны іншых.

Трэба было скарыцца і пайсці. Я ж ужо заплаціў. Я зняў з вешалкі капялюш. Сказаў "Да пабачэння" афіцыянтцы, якой стала лягчэй праз тое, што я сыходзіў, хоць яна і выказвала мне сведчанні свайго сяброўства. Яна хацела, можа, пайсці ў кіно ці пабыць са сваім сябрам каля тэлевізара. Дарэчы, мне трэба будзе купіць тэлевізар, каб вечары былі менш доўгія, каб лягчэй было засынаць.

– О, мсьё, я так стамілася, я вяртаюся дамоў, каб толькі паспаць... – сказала афіцыянтка; выгляд у яе, аднак, быў яшчэ досыць бадзёры. Гэтая жанчына не павінна была класціся адно дзеля таго, каб спаць. Яна сказала мне, што яе завуць Івона. Вось толькі часу пагаманіць у яе не было, але нічога, будзе яшчэ час – заўтра, паслязаўтра. Я выйшаў з шынка, збочыў направа – на добра асветленым праспекце было яшчэ даволі шмат людзей. Але ўжо менш, чым днём. Я збочыў за рог направа. І апынуўся на маленькай вуліцы, дзе было

мала прахожых. Спалі яшчэ далёка не ва ўсіх дамах, у багата якіх свяціліся вокны. Нарэшце я дабраўся да свайго дома, увайшоў, мінуў калідор, паўз пакой кансьержаў. Пачаў падымацца па лесвіцы на другі паверх. Дзверы пакоя адчыніліся, і выглянула кансьержка. Зняўшы капялюш, я сказаў ёй "Добры вечар!". Не адказаўшы, яна шмыганула за дзверы.

Дам ёй на чай і штось падару, каб яна больш усміхалася, сказаў я сабе, зноў надзяваючы капялюш. Твары, на якіх адбіваўся недавер, не падабаюцца мне. Я ўзняўся на трэці паверх, за дзвярыма кватэры справа пачаў гаўкаць сабака. Узняўся на чацвёрты паверх, падышоў да маёй кватэры, адчыніў дзверы, зачыніў іх. Запаліў святло ў вялікім пакоі. Зацягнуў шторы. Выпрастаўся на канапе. Потым устаў. Сеў у фатэль. "Ты ў сябе дома, табе добра". Так ужо й добра? Усё-такі добра. Ёсць краіны, дзе можна быць гатовым да ўсяго: напрыклад, паліцыя можа ўвайсці да вас у дом у любую гадзіну дня і ночы. Зладзеяў я не баяўся. Я не жыў ні ў багатым квартале, ні ў багатай кватэры. Але трэба было знайсці чым заняцца. Лепш уведаць квартал. Завязаць якія-небудзь адносіны? У гэтым я не быў упэўнены. Людзі могуць замінаць звыкламу ладу жыцця. І пра што з імі гаварыць? Я цікавага нічога не распавяду. А што скажуць іншыя, мяне не цікавіць. Прысутнасць іншых мне заўсёды перашкаджала. Паміж мною і імі было штосьці накшталт нябачнай заслоны. Хаця не заўсёды. У рэшце рэшт пяць або шэсць фізіяномій заўжды хопіць. Маё новае жыццё можа наладзіцца ў найбліжэйшыя дні. У мяне ўзнікла думка выпіць яшчэ крыху каньяку. Але я падумаў пра заўтрашні дзень, пра мажлівае ванітаванне, пры чыгунны цэбар. Урэшце будзе відаць, як усё арганізуецца, сказаў я сабе. Жыццё – рэч чароўная, можа здарыцца столькі нечаканых падзей! Маленькіх, не вялікіх. Я не любіў вялікіх прыгодаў: ад іх хутка стамляешся і потым пачынаеш адно стамляцца, нічога болей.

Калі я лепш уведаю квартал і ўсе куткі сваёй кватэры, адно тады змагу заўважыць маленькія змены, маленькія метамарфозы свету. Я не ведаў яшчэ як след сваю мэблю, колькасць кветак на шпалерах, на абіўцы мэблі, усе адценні колеру. Я падняўся і падышоў да месца, дзе паставіў свае кнігі. Я іх усе прачытаў. Некаторыя ўжо досыць даўно перастаў перачытваць. Бо як толькі разгорнеш кнігу, дык амаль заўсёды згадваеш змест. І тым не менш я любіў перачыт-

 



ваць кнігі. Заўважаеш, што ў іх ёсць процьма рэчаў, якія не засталіся ў памяці. Нейкая падзея ці нейкая сцэна. Але цяпер аніводная кніга мяне не прывабіла. Я выключыў святло ў вялікім пакоі і выправіўся ў калідор, дзе запаліў святло, прайшоў у спальню, запаліў лямпу, выключыў святло ў калідоры і пачаў раздзявацца.

"Упершыню ў маім жыцці я сплю ў гэтай спальні і ў гэтым вялікім ложку". Я падумаў, што ніколі не забудуся на гэты першы дотык прасцінаў. Хіба ж не пачынаецца новая эра? Няма болей патрэбы ў будзільніку, сказаў я сабе. Яны ўсё-такі мусяць мне зайздросціць, мае былыя калегі з бюро. Я выключыў лямпу. Вельмі люблю забывацца ў сне. Гэтая фраза часта ўзнікала ў мяне, але я яе дрэнна разумеў: забывацца на што? Я заўсёды бачу сны. У снах да мяне прыходзіць толькі тое, што пастаянна адбываецца са мной у жыцці. Мае сны нейтральныя, шэрыя; мне здаецца, яны не выказваюць ні жаданняў, ні страхаў. А ёсць жа вельмі глыбокія жаданні. Іх можна выявіць. Два ці тры разы я бачыў страшныя сны. Сны, пра якія шкадуеш, што не запомніў іх, ад такіх сноў нейкі час застаюцца на золку цені, што блякнуць, сціраюцца ў ранішнім святле. І ўсё нашае жыццё сыходзіць абрыўкамі. Трэба скарыцца, каб не пакутаваць. Трэба скарыцца. Я ўвесь час кажу сабе, што трэба скарыцца. Даволі часта мне гэта ў нейкай ступені ўдаецца. Гэта не глыбокае, не сапраўднае скарэнне. Час ад часу шал узмацняецца. Спачатку ўва мне нарастае незадаволенасць, яна апаноўвае мяне, душыць. Не, я ніколі не суцешуся, ніколі не змагу забыцца на гэтую сцяну, ніколі не змагу зазірнуць за гэтую сцяну, якая ўздымаецца да неба. Як скарыцца з няведаннем, у якім мы патанаем, нягледзячы на навукі, нягледзячы на ўсе тэалогіі, нягледзячы на ўсялякую мудрасць? Ад часу свайго нараджэння я нічога не ўведаў і ведаю, што нічога не ўведаю. Я хацеў бы змесці межы ўяўлення. Узарваць муры ўяўлення. Ніколі яны не ўпадуць, і я памру гэтаксама нічога не ведаючы, як і нарадзіўся. Гэта неспасцігальна – не магчы спасцігнуць неспасцігальнае. Яны могуць лёгка жыць у мурах, усе гэтыя тэхнікі, палітыкі, вучоныя, сяляне, рабочыя, усе бедныя і ўсе багатыя. Гаворка не пра гонар. Я не хачу ведаць пра гэта больш за астатніх, я жадаю, каб пра гэта ведалі ўсе. "Гэта не з'яўляецца неўяўляльным, значыцца, будзем уяўляць сабе толькі тое, што не з'яўляецца неўяўляльным", – напісаў адзін філосаф, некалькі старонак з кнігі якога я прачытаў



 

калісьці, стоячы ў кнігарні, прыўздымаючы неразрэзаныя аркушы. Я ўжо даўно не вяртаўся да майго першапачатковага здзіўлення перад светам, здзіўлення ды пытанняў, на якія няма адказу. Нам кажуць: збаўцеся ад гэтага здзіўлення, выходзьце за яго межы. Але тады на якіх пачатках можам мы засноўваць веды ці маральнасць? Ва ўсякім разе гэтай асноваю не можа быць няведанне, а мы знаходзімся ў стане менавіта няведання, у нас ёсць толькі адна адпраўная кропка, аснова – нішто. Як будаваць на гэтым "нішто"? У нашым распараджэнні некалькі практычных эксперыментаў. Я ведаю, што магу перамяшчацца. Ведаю, што магу прайсці ў рэстаран. Ведаю, што ёсць рэстаран. Ведаю, што ёсць механізмы. Ведаю, што ёсць тэхніка. Мне здаецца вельмі дзіўным тое, што ёсць тэхніка, якая абапіраецца на абсалютнае "нішто". Вось яшчэ адзін узровень майго здзіўлення. Хто дазваляе нам ці як гэта дазваляецца, каб гэта магло адбывацца? Але яшчэ й яшчэ раз і заўсёды – абмежаванае веданне не ёсць веданне. Сусвет і ўсе істоты, усе мы, кіруюцца інстынктамі і неглыбокімі развагамі, укладзенымі ў нас. Намі маніпулююць, самі мы не дзейнічаем. Я думаю, што я ем не для сябе самога. Але я ем з інстынкту самазахавання. Я думаю, што кахаю і займаюся каханнем дзеля сябе, а раблю гэта ўсяго толькі дзеля працягу роду, падпарадкоўваючыся законам, якія кіруюць мною. "Законам", бо ў мяне няма іншых прысутных ва ўяўленні слоў, каб назваць гэтыя рэчы, гэтыя прынцыпы, якія маніпулююць мною. Мы абумоўлены сацыялагічна, але гэта яшчэ не ўсё – мы абумоўлены біялагічна, касмічна. І ўсе гэтыя словы, якія я толькі што прамовіў, таксама ўжо сказаныя да таго, як я іх вымавіў – яны пасеяны ўва мне. Але гэты спосаб гаварыць і думаць – я называю гэта так – не ахоплівае рэчаіснасці, бо я добра не ведаю, што такое рэчаіснасць, не ведаю зусім, не ведаю ані таго, ці з'уляецца рэчаіснасць выразам чагосьці, ані таго, што пад гэтым маецца на ўвазе.

Я спрабую знайсці нейкае рашэнне: трэба перастаць мысліць, калі толькі гэта можна назваць мысленнем і калі думка напраўду была думкаю.

Мы цярпім. Я цярплю. І няхай я буду задаволены тым, што цярплю. Вось ужо і скарэнне. І ўсякі раз, калі ўва мне ёсць хоць крыху скарэння, я адчуваю палёгку. Нешта накшталт супакою, адпачынку. Я засынаю. Буду спакойны.

І раптам, зусім нечакана, як і заўсёды, у галаве ў мяне ўзнікла думка: зараз я памру. Я не мушу баяцца смерці, бо не ведаю, што гэта такое, і потым, хіба я не сказаў, што трэба, каб усё ішло сваёй чарадою? Дарэмна. Я ўскокваю з ложка, мяне агортвае жудасны страх, я запальваю святло, хаджу па спальні з кута ў кут, перакрочваю да вялікага пакоя, запальваю там святло. Не магу больш ні ляжаць, ні сядзець, ні стаяць не рухаючыся. Тады рухаюся, рухаюся, хаджу па ўсёй кватэры, запальваю ўсюды святло і хаджу, хаджу, хаджу. У мільярдаў жывых істот тая ж трывога. Чаму ж намі гэтак маніпулююць? Не дапамагаюць аніякія словы, аніякія развагі. Я пацею ад страху. Як іншыя, як многія іншыя. У кожным з мільярдаў жывых істот жыве такая ж трывога; можна сказаць, у кожным чалавеку памірае ён сам і паміраюць усе мільярды жывых істот. Чаму так? Як так? Несумненна, той факт, што я памяняў месца жыхарства, тое, што я больш не хаджу ў бюро, спрыяе таму, што да мяне раптам прыходзіць гэтая трывога – я ж не ведаў яе ўжо даволі даўно, – я расслабіўся. Я мяняю лад жыцця, гэта новае жыццё, і мяне зноў апаноўваюць тыя трывогі й страхі, якія даўно ўжо сцерліся ў жыцці звычайным, аднастайным. Трывога вяртаецца да мяне пасвяжэлаю, я нібыта апынаюся ў тым дні, калі яна ўпершыню прыйшла да мяне разам з першым здзіўленнем. Ніхто нічым не ёсць. І разам з тым кожны – гэта сусвет. "Трэба легчы і не думаць болей". Потым мяне канча насцігае стома. Яна прыходзіць да мяне разам з першымі промнямі святла, гэтая салодкая стома, і я нарэшце магу легчы ў ложак, накрыцца і заснуць.

Кожны золак – пачатак ці аднаўленне. Гэта нядзеля. Смерць аддаляецца, яна хаваецца ад дня. Тое, што ранак – гэта нядзеля, не проста сімвал. Яго адчуваеш, фізіялагічна і фізічна. Гэта бачыцца і гэта чуецца. Калі я быў маленькі і мяне ўжо мучылі першыя трывогі, калі ўвечары, пасля працы, да маці прыходзілі дзве-тры суседкі па лесвічнай пляцоўцы і размаўлялі з ёю ў пакоі, суседнім з тым, дзе стаяў мой ложак, яна пакідала дзверы майго пакоя адчыненымі. Я, мусібыць, ужо баяўся цемры і цішыні, бо адчуваў сябе шчасным праз тое, што чую непадалёку ад сябе шэпт дарослых людзей, які мяне супакойваў. Я як мага даўжэй заставаўся ў гэтым паўсне, пакуль не засынаў соладка пад акампанемент жаночай гаманы. Цяпер перад тым як устаць з ложка, я люблю падрамаць, слухаючы раніцу:

крокі суседа зверху, стук вокан ці дзвярэй, якія адычыняюць, словы і мелодыі радыёпрыёмнікаў, пах кавы. Але што падабаецца яшчэ больш, дык гэта першы грукат электрычкі, які даносіцца з метро, ці, як сёння, шум першага аўтобуса. Грукат электрычкі, які тут, у прыгарадзе, я не пачую, гэты грукат, ад якога нават сцены крыху дрыжаць, гэты прыглушаны грукат супакойваў мяне, і я зноў засынаў. Потым, на жаль, звінеў будзільнік. Але тут яго ў мяне не будзе. За выняткам звону будзільніка, ніякія гукі мяне не турбуюць. Гук адбойнага малатка, машын, пілаў неяк не закранае, я нават не спрабую не чуць яго, не раздражняцца, ён сам па сабе – я сам па сабе. Так складаецца нешта накшталт гукавога краявіду, гэта нібыта канкрэтная музыка.

Разбудзіў мяне званок у дзверы. Было ўжо адзінаццаць гадзін. Прыйшла Жанна, пакаёўка. Яна выбачалася за тое, што спазнілася: мусіла прыйсці а дзесятай, але ў яе было багата працы, дый чалавек яе прыхварэў. Тым не менш было відаць, што яна не надта перажывае: я толькі што ўстаў, і праз тое, што яна спазнілася, змог паспаць на гадзіну болей. Я сказаў ёй, каб яна пачынала з вялікага пакоя, а сам пайшоў у ванную. Не надта яна была светлая, мая ванная, але і не надта змрочная, таму што акно яе выходзіла ва ўнутраны двор. І ўсё-такі святло трэба было запальваць. Што за ярмо – гэты штодзённы туалет! Я заўсёды спрабую адкласці яго наколькі магчыма. Па нядзелях, калі не хадзіў у бюро, здаралася так, што я быў гатовы да таго, каб выйсці ў рэстаран не раней як а другой гадзіне, – нават пазней — да гэтага часу я ледзьве пасняваў пагаліцца! Але ў звычайныя дні быў змушаны прыводзіць сябе ў парадак як мага хутчэй. Цяпер кожны мой дзень будзе нядзеляю. Я баюся, што занадта расслабляюся. Тут таілася небяспека. Гэтая лянота, гэтае ранішняе бязволле пагружалі мяне ў стан трывогі. Цяпер гэта магло сапсаваць усе мае дні. Я сказаў сабе, што павінен папрасіць Жанну прыходзіць раней: у восем гадзін, не, усё-такі ў дзевяць, каб я быў змушаны прыводзіць сябе ў парадак не залішне позна. Закончыў я свой туалет досыць хутка. З нейкай нават радасцю. Я казаў сабе: я выходжу, выходжу паглядзець на вуліцу, на людзей, на ўсё маё новае жыццё. Ужо ўяўляў сабе шум вуліцы ў святле дня. Трэба будзе гуляць па вуліцы пенсіянераў не спяшаючыся. Глядзець на сталых

людзей са змяшаным пачуццём цікавасці й абыякавасці. Гэта прыгожа. У мяне былі падставы быць шчасным. Чаму не скарыстацца ўсім тым, што вы можаце бачыць сваімі вачыма, чуць сваімі вушамі? Быць адначасна акружаным усім гэтым – і па-за ім. Глядач на сцэне сярод актораў. Усё што хочаш можа быць цікавым, захапляльным, драматычным, незвычайным, таямнічым; можна, напрыклад, назіраць за сабакам, які спяшаецца невядома куды і навошта. Людзі таксама спяшаюцца невядома куды і навошта. Глядзець на людзей, якія глядзяць. Усё – відовішча, прыдуманае... кім? Панам Богам, так? Прызнаемся, што я ў гэта веру. Але стварэнне свету – гэта насамрэч відовішча, нават калі я і не разумею яго. Ва ўсякім разе гэта можна ўбачыць. Гэтага ніхто не зможа адмаўляць. Магчыма, Ён даў людзям волю: рабіце ўсё гэта цалкам самастойна. Мажліва, іншым разам я памыляюся. Мажліва, гэта няпраўда, што Ён абмяжоўвае нас ва ўсім, што мы робім. О, дастаткова падняць лёгкую заслону, што закрывае свет ад будзённасці ды банальнасцяў, якія тояцца больш у нас саміх, чым па-за намі; няма нічога банальнага, як прыглядзецца больш уважліва, гэта адначасна і драма і камедыя. Я кажу глупства, – нешта іншае, зусім іншае. Спектакль, які разыгрываюць людзі, іхні тэатр – усяго толькі варты жалю сурагат вялікага тэатра.

Снедаць ужо занадта позна. Але нічога. Пайду ў бістро і вып'ю аперытыў. Да абеду недалёка, я магу пабыць на вуліцы, калі не будзе залішне холадна, ці застацца ў бістро, пачытаць газету. Я аддаў ключ Жанне і папрасіў яе пакласці яго пад дыванок ля дзвярэй. Мне здалося, што яна крыху расчараваная тым, што я так хутка сыходжу. Ёй хацелася пагаварыць. Я заўважыў яшчэ ўчора, што ёй хацелася распавесці пра сваё жыццё. Я ж пра сваё не распавядаў. Яна, мусібыць, хацела б, каб я распавёў ёй гісторыю свайго жыцця. Але гэта быў сакрэт паміж мною і мною. Чаму сакрэт, спытаўся я ў сябе. Гэта не сакрэт і не паўсакрэт. Нарэшце мне надакучыла балбатаць. Я выйшаў. Лёгка, пасвістваючы, пачаў спускацца па лесвіцы. На другім паверсе спыніўся. Трэба было браць пад увагу кансьержку. Мець выгляд самавіты і годны. На першы паверх я спусціўся павольна, паважна. Кансьержка адсунула фіранку, прыадчыніла дзверы і паглядзела на мяне строгім позіркам. Я сказаў сабе, што адгэтуль буду старацца хадзіць міма яе як мага цішэй. Нясмела пазнароўкаўся з ёю. Усё гэта выводзіла мяне з сябе: яна ж, можна сказаць,

у мяне на службе. І нічога благога я не рабіў. Глядзі, зрабіла ласку: адказала мне чымсьці накшталт лёгкае ўсмешкі. А можа й не. Ва ўсякім разе не нахмурыла бровы. А то я ўжо бачыў на ейным твары ледзь не пагарду да мяне. І чаго толькі не думаў! Я выйшаў, збочыў налева, прайшоў па ціхай правінцыйнай вуліцы, сустрэў нейкага старога, зноў збочыў налева. Зрабіў некалькі крокаў па праспекце. Перайшоў на другі бок. Пракрочыў зусім побач з аўтобусным прыпынкам, за якім знаходзілася, размясціўшыся да праспекта фасадам, мэрыя, прамінуў яшчэ колькі метраў, збочыў направа, прайшоўшы міма службовага ўваходу ў мэрыю, павярнуўся да гэтых дзвярэй спінаю і перайшоў на другі бок вуліцы – там было невялічкае бістро, каля якога прадавалі газеты. Купіў газету і прысеў на закрытай тэрасе, за столікам побач са шкляною вітрынаю. Замовіў і выпіў шкляначку кампары, потым другую, пасля трэцюю, нарэшце сёмую. Ледзь утрымаўся ад таго, каб замовіць чарговую. Можа, з-за афіцыянта, якога непакоіў залішне часта, – выгляд у яго быў насмешлівы і крыху раздражнёны. А можа, мне адно здалося. У рэшце рэшт сем кампары – мне дастаткова. Лёгкае шчасце, якое адчуў уранку, – яго перарвалі, праўда, на нейкі час балбатня Жанны і пэўны дыскамфорт пры сустрэчы з кансьержкаю, – гэтае лёгкае шчасце ўзмацнілася, сцішыла ўсялякую трывогу, у душы маёй пасяліўся спакой. Захацелася пасмяяцца дурным смехам. Крыху дурным. Але стрымаўся. Слізгануў вокам па артыкулах, прысвечаных унутранай ды знешняй палітыцы, з якіх лішні раз засвоіў: людзі ў краіне не могуць знайсці агульнае мовы, расце незадаволенасць сялян, рабочых таксама, а яшчэ і службоўцаў, і камерсантаў. Адчувалася, што і паліцыі хапае чым быць незадаволенай і што яна можа нават захапіць міністэрствы. Інтэлектуалы былі ў шале. Навучэнцы таксама, ці таму, што не хацелі працаваць, ці таму, што для іх не было працы і ўвогуле не будзе працоўных месцаў пасля таго, як яны закончаць сваю доўгую вучобу, нудную і бескарысную, ці таму, што гэтыя навучэнцы ўяўлялі для прагрэсу чалавецтва такую вялікую цікавасць і неабходнасць, што плаціць ім трэба нашмат болей. Так ці інакш, яны не бачылі годнага сябе месца ў грамадстве, якое, дарэчы, і не было чагосьці вартае. Думкі ў мяне ўзніклі з гэтае нагоды тыя ж самыя, хоць прычыны, якімі я кіраваўся, былі іншыя: грамадства не можа быць заснавана ні на якой маралі, ні на якой рэлігіі, бо

экзістэнцыйнае існаванне чалавека ў гэтым грамадстве, сацыяльна і экстрасацыяльна, не ўлічваецца. Я ніколі не чытаў ідэйных артыкулаў да канца. Адклаў газету ўбок і некалькі хвілін глядзеў на людзей, што праходзілі міма, хоць і не вельмі ўважліва, бо падумаў раптам: гэта няпраўда, што мы абумоўлены і намі маніпулююць. Кім былі б той ці тыя, кім маніпулююць? Хто гэты Я? Ці існуе Ён? Але, Ён існуе. Але ці ёсць Ён? Толькі пры той умове, калі мы верым у кінутую ў свет душу, якая гэты свет трывае. Мы ўсяго толькі вузлы, мажліва, эфемерныя перапляценні энергіі, сілаў, розных процілеглых тэндэнцый, якія развязвае смерць. Але гэтыя сілы, гэтыя энергетычныя падзеі — гэта, аднак, мы самі; мы зробленыя, намі нехта кіруе, але мы і самі кіруем і сабою кіруем. Калі б у мяне быў талент філосафа! Я многае б уведаў. Ведаў бы тыя ж рэчы, але тлумачыў бы іх сабе лепш, я мог бы растлумачыць іх іншым ды абмяняцца з іншымі сваімі ідэямі. Мог бы таксама быць матэматыкам. Адзін матэматык, студэнт, стрыечны брат Люсьен, сказаў мне, што матэматыкі могуць апраўдаць сваё існаванне перад Богам. Другі сказаў мне, што матэматыка і фізіка заснаваныя на пастулатах ці аксіёмах, якія ў аснове сваёй маюць “нішто”. І адсюль гэта, усё тое, што бачу, канструюецца. Можна гаварыць пра любыя пастулаты, пра якія хочаце аксіёмы – і нешта будаваць на іх. Няма рэальнага. Няма фальшывага, няма праўдзівага, і ўсё тым не менш ідзе сваёй хадою, усё правяраецца, усё будуецца. Бог дае нам гэтую волю, каб была тая ці іншая свабода, задавальненні, інтэрпрэтацыі, гіпотэзы, і ўсе яны, знаходзячыся ў процілегласці адна з адною, нечага вартыя – і адныя, і другія – і з імі штосьці можна рабіць. Нейкі студэнт казаў сябру, нязгоднаму з ім, – некалькі гадоў назад, калі я палуднаваў у бістро каля бюро, – што калі б нацысты выйгралі вайну, то іхнія расісцкія тэорыі, іхняя біялогія, эканамічныя тэорыі пацвердзіліся б і маглі стаць асноваю культуры такой самай трывалай, як і біялагічная ды эканамічная тэорыя марксізму. Самыя розныя і процілеглыя матэматычныя тэорыі ды ўсялякія геаметрыі не перашкаджаюць, а наадварот, дапамагаюць архітэктуры. Што служыць асноваю і адпраўной кропкаю, дык гэта наш намер, нашая гіпотэза, якая з’яўляецца толькі нашай добрай воляю ці выразам жаданняў розных групаў альбо расы. Усё пацвярджаецца. Робяць тое, што хочуць. “Яны”, а не я. Я – не далучаны.

# Яны

Пасля сёмага аперытыву я думаў, што няма ні рэальнага, ні ірэальнага, ні праўды, ні хлусні. Усе філасофіі і ўсе тэалогіі аднача-сова і добрыя і кепскія, хочам мы гэтага альбо не. Ад гэтага захацелася смяяцца. Зноў пачаў глядзець на людзей, што ішлі паўз мяне. Яны так адрозніваюцца адно ад аднаго! І тым часам усе аднолькавыя. Ёсць адно толькі практыка. Ёсць адно толькі практыка – і нічога больш. Што я гэтым хачу сказаць? Зламысная штука – філасофстваваць не навучыўшыся філасофстваваць, дый яшчэ пасля сямі аперытываў. Я зноў узяў у рукі газету. Раней ніколі не чытаў спартыўную старонку. Усе гэтыя каманды, што кідаюцца адна на адну, добра, аднак, ілюструюць той факт, што не мяч – галоўнае, і калі каманды нашмат буйнейшыя – нацыі – кідаюцца адна на адну ці калі ваююць сацыяльныя класы, то адбываецца гэта не з эканамічных, не з патрыятычных прычын, а папросту з-за канфлікту ў сабе, дзеля патрэбы ваяваць. Але я не ваенны гісторык. І потым, ваююць яны ці не, гэта мяне абыходзіць. У мяне мала агрэсіўнасці альбо зусім няма, гэтым я і адрозніваюся ад іншых. Але я ахвотна прагледзеў крымінальную хроніку. Не люблю злачынцаў. Не адчуваю і вялікага жалю да іхніх ахвяраў... Але чаму люблю пра гэта чытаць? Таму што гэта ўносіць разнастайнасць у будзённую манатоннасць. Гэта насамрэч захапляе. Ні разу не дачытаў да канца якісь палітычны артыкул. Хачу сказаць, што каментары мяне не цікавяць. Я сам каментатар падзей. Ведаю, што ваяваць аднача сна і хочуць і не хочуць; ведаю, што людзі – інструменты ў руках іншых людзей; думаю, што часам яны хацелі б любіць адно аднаго, але большую частку часу яны самі сябе ненавідзяць, усё роўна як насуперак сваёй волі. Нудзяцца, не ведаючы скуль ненавісць. Я сам часта нуджуся. У мяне кружыцца галава, і я баюся тугі; нейкі час назад у мяне была дэпрэсія, выкліканая тугою, альбо гэта была сама туга. Калі пішуць пра тугу, значыць – тугі няма. Туга паралізуе ці прымушае вас здзяйсняць выключна дэструктыўныя ўчынкі альбо прыводзіць вас да стану, блізкага да смерці. Гэта было нязносна. Ніхто не мог мне дапамагчы. Я быў няздатны за штосьці ўхапіцца. Калі я кажу “нязносна”, то бачу, што гэтае слова вельмі далёкае ад праўды. Гэта смяротна, але, смяротна. Гэта падобна на тое, як я патанаў бы ў паветры. Я не мог адчыніць аніякага акна на вуліцу, каб паглядзець на свет, на некага яшчэ. Удушша. Як яшчэ сказаць... Міналі тыдні й

месяцы, калі нават паварушыцца і то было неверагодна цяжка, гэтаксама цяжка, як і не варушыцца. Нясцерпна, але, вось гэта. Абсалютна нясцерпна. Мёртвы, хоць яшчэ не мёртвы, жывы, але больш ужо не жывы. Адзінокі, у неабдымнай пустэльні. Ці, наадварот, у камеры, акружанай вельмі высокімі мурамі, з шэрым святлом – немажліва нават чытаць кнігу. Што мне да таго, што казалі людзі? Іхнія абыякавыя, сяброўскія ці варожыя словы альбо не даходзілі да мяне, альбо я іх адштурхоўваў, уцякаў ад іх. Мяне ванітавала ад аднаго іхняга выгляду – іх, тых, што праходзілі па вуліцы адно за адным. Калі бачыў, як яны гамоняць, удваіх, утраіх, мне рабілася страшна, а калі бачыў людзей, ва уніформе ці не, якія ішлі шчыльнымі радамі, спакойным узрушаным ці ўзброеным натоўпам, то губляў свядомасць. Пачуццё локця – зберажы мяне ад яго лёс!

Але я не мог больш цярпець адзіноту. Днямі хадзіў ад дзвярэй да акна, ад акна да дзвярэй, і не мог спыніцца. Гэта не была трывога, гэта была туга, туга матэрыяльная, туга фізічная, – нельга было ні рухацца, ні сядзець, ні стаяць. Усё было пакутаю, гангрэнаю душы. Толькі б гэта не пачалося зноў! Імгненні былі такія доўгія, што здаваліся бясконцымі. Сховішчам быў сон. Аднак, на жаль, удзень я не мог заснуць ні на хвілю. А ўначы, у сне, нудзіўся. Патрон злаваў: мне нават выпісалі бальнічны ліст. Доктар нічога не мог зрабіць, тады мяне адвялі ў клініку і там далі моцныя лекі – адно тады я змог вярнуцца да працы; больш да доктара я ўжо не звяртаўся. Туга горшая ад трывогі, гэта нават яе процілегласць – калі ты ўстрывожаны, ты не нудзішся; вось так я і пераходзіў ад тугі да трывогі, ад трывогі да тугі. Не, я больш не нуджуся, не, не трэба, але я адчуваю, што туга мяне пільнуе, пагражае мне, што яна можа павялічвацца, апаноўваць мною, душыць. Хаця не, свет вельмі цікавы, дужа цікавы! Трэба адно ўмець бачыць. Ёсць людзі, якім дастаткова глядзець на дрэвы, прагульвацца. Мне параілі гуляць. Але праходкі мае былі яшчэ больш тужлівыя, чым сама туга, больш роспачныя, чым роспач. Адно б не ўпасці зноў у гэтую прорву тугі! Глядзець уважліва на свет, на ўсё наўкол, вельмі ўважліва. Пазбавіць яго ад "рэальнасці", змагацца, каб знаходзіць у кожным моманце сапраўднае дзіва. Зноў навучыцца здзіўленню. Прачынацца і бачыць ды адчуваць, што ўсё існуе ў сапраўднасці. Але, існаванне, свет, людзі, усё гэта – прывіднае. Няма нічога фундаментальнага па-за ўсім гэтым, за му-

рам. Быць выкінутым у свет – гэта бяда. Вяртацца няспынна да пачатку... Стоячы спінаю да мура, глядзець на свет адтуль ці павярнуцца да мура тварам, прыстаць да мура? Можа, ён саступіць? Як растлумачыць гэта сабе самому, калі стаіш спінаю да сцяны, чаму ты глядзіш на тое, што ў цябе перад вачыма адбываецца? Так увесь час нельга. Але гэта адзіны спосаб уцячы ад тугі, ад чорнае тугі. Не будзем больш пра гэта думаць. Цяпер я пачуваюся няблага. І да чаго ж гэта добра – алкаголь! Я заплаціў па рахунку, узняўся, каб пайсці, але трымаўся на нагах не зусім упэўнена, была ўжо палова на першую, адно б я не спазніўся ў шынок, каб не занялі мой столік, не хачу сядзець за іншым, я ўжо прызвычаіўся. Я пакінуў бістро, перайшоў цераз дарогу, адзін вадзіцель вылаяў мяне, я пракрочыў па тратуары да аўтобуснага прыпынку перад парадным уваходам у мэрыю. Перасёк праспект у належным месцы, дзяўчына штурхнула мяне локцем і выбачылася, потым я сам штурхнуў мужчыну і выбачыўся. Амаль сутыкнуўся яшчэ з мужчынам, абмінуў яго, падышоў да шынка, усё яшчэ з газетаю ў руцэ, адчыніў дзверы, кінуў спачатку позірк на столік – ён быў вольны, на ім нават стаяла невялічкая шыльдачка: “Занята”. Я забагата выпіў. Што як не замаўляць віно? Прыйшла Івона, з усмешкаю прывітала мяне, спыталася, ці прынесці пляшку бажале. Мо з сарамлівасці, а мо са спакусы я сказаў прынесці. Яна параіла замовіць рагу з бараніны з бульбаю. Наліла шкляначку. Я адчуў, што яна глядзіць на мяне з чымсьці падобным на сяброўскую спагаду. Адпіў глыток. Лёгкае ап’яненне прайшло, яго змяніла цяжкае. Але яно не было непрыемным. Я не адчуў смаку рагу, не памятаю, ці браў я сыр альбо дэсерт, ці і тое, і другое, памятаю, што яна прынесла мне каву. “Выпіце. Вельмі моцная кава. Яна вас узбадзёрыць”.

Кава не ўзбадзёрыла. Згадваю з цяжкасцю, што Івона давяла мяне да дзвярэй, што я ішоў уздоўж сценаў па правым баку, потым збочыў за рог вуліцы і дайшоў да дзвярэй свайго дома. Працверазеў на нейкі час. Ісці роўна па калідоры і асабліва старацца трымацца ўпэўнена, калі будзеш праходзіць міма кансьержкі. Яна адчыніла дзверы свайго пакоя і глядзела мне ўслед, калі я падымаўся па лесвіцы. Астатняга не памятаю. Памятаю, праўда, цьмяна, з якой цяжкасцю распранаўся. Назаўтра мяне пабудзіў званок Жанны. Яна прыйшла раней, як я і прасіў. Толькі яна ўвайшла ў спальню, як

адразу ж паглядзела на мяне крыху насмешліва, сказаўшы, што выгляд у мяне зусім не смешны. Галаўны боль, ванітаванне! Былі толькі адныя лекі: шклянaчка, не, дзве шклянaчкі каньяку.

Я хуценька прывёў сябе ў парадак. Адчуў пасля трэцяе шклянaчкі пэўную эйфарыю, выпіў кубак вельмі моцнае кавы, якую згатавала Жанна. Яна настойліва рэкамендавала яе выпіць. Потым я выпрастаўся на канапе з газетаю, якую яна мне прынесла. Бацька сямейства забіў сякераю жонку і сына, калі тыя спалі. Жанчына застрэліла свайго чалавека і дачку, калі тыя таксама спалі. Двое закаханых пакончылі з сабою ў гатэльным нумары. Шасцідзесяцігадовы селянін застрэліў з дубальтоўкі пяцідзесяцігадовага суседа-браканьера. Знойдзены нарэшце ў Сене труп дзяўчыны, якую шукалі пасля яе раптоўнага знікнення. Мужчына, француз, жанаты з японкаю і пакінуты ёю з-за немца, зрабіў харакіры. Самазабойца адкрыў газавы кран, каб пакончыць з сабою, але не загінуў, а падарваў увесь дом, з-пад абломкаў якога яго вынеслі жывога, суседзі ж ягоныя – пара пенсіянераў ды іхні ўнук – былі раздушаныя. Недзе ішла вайна. У бітве загінула дзесяць тысяч чалавек, пятнаццаць тысяч паранена. Самалёт у Амерыцы ўзарваўся ў паветры, другі, у Азіі, загарэўся падчас прызямлення. Дзесьці захапілі закладнікаў, але гэтым разам то былі чальцы нейкай крайне левай партыі. Паўстанні ў Афрыцы: заваяваўшы нацыянальную незалежнасць, плямёны забівалі адныя адных, як рабілі гэта да каланізацыі. Нацыянальная незалежнасць дазволіла ім вярнуцца да старажытных звычаяў. Ад усяго гэтага можна было адурэць. Свет загіне, таму што заканчваецца кісларод. Астранаўты вяртаюцца з Месяца. Новая філасофія задавальнення заклікае да памнажэння карнавалаў. Ватыкан заклікае людзей да любові й міласэрнасці. Міжнародная асацыяцыя з цэнтрам у Іёкагаме просіць людзей забіваць адно аднаго весела. Гэта цікава. Але здаецца, гэта зусім не грубы жарт. Весела адно аднаго не забіваюць. Каб забіваць адно аднаго, неабходная энергія шалу. З пачатку грамадзянскай вайны ў нейкай далёкай краіне загінуў мільён чалавек. Процілеглым бакам дапамагаюць у іхняй варажнечы тры вялікія імперыі-канкурэнты, што пастаўляюць ім зброю.

Таварыства аховы жывёл просіць, каб не забівалі больш маленькіх цюленяў. Малады чалавек забівае бацьку, бо ён буржуа.

 



Цэлая вёска ў нейкай краіне, таксама ахопленай грамадзянскай вайною, – мужчыны, жанчыны, дзеці, старыя, – знішчана з агнямётаў людзьмі з тае ж вёскі, таму што рэлігійная секта, да якой яны належаць, забараняе ім выступаць у вайне на чыімсьці баку.

Туга агортвае праз усё гэта. Усё тая ж туга. На самой справе, у любым выпадку ўсе людзі памруць, дык якая розніца, калі яны пазабіваюць адныя адных?.. У вялікі пакой уваходзіць Жанна, і я засынаю.

Праціраючы мэблю, Жанна буркае, кажа, што я вяду нездаровы лад жыцця. Яна заўважыла, што я залішне шмат п'ю, гэта шкодна здароўю. Нядобра як для чалавека ў росквіце гадоў. Ці не трэба мне ўладкавацца на працу? Вядома, я атрымаў спадчыну. Але гэта не падстава для таго, каб анічога не рабіць. Трэба хоць бы ажаніцца. Ці я збіраюся жыць зусім адзін, быццам які́сь імпатэнт? Трэба неадменна абзавесціся сям'ёю. У мяне павінны быць дзеці. Чалавек створаны дзеля гэтага, маленькія дзеці – гэта проста цуд. А калі яны падрастуць, а вы пастарэеце, яны не пакінуць вас у жабрацтве, дапамогуць вам. Памерці зусім аднаму, пакінутым усімі, гэта яшчэ больш сумна, чым жыць аднаму. Нават не ўяўляю, кажа яна, што мяне чакае. У яе ёсць чалавек, з якім яна не надта ладзіць, але цяпер ён хворы. У іх было дзіця, якое яны добра выхавалі, але яно іх кінула, у яго добрае сэрца – вінаватая жанчына. Ад яго больш няма вестак. Здаецца, у сына ёсць дзіцёнак. У яе з чалавекам ёсць яшчэ дачка, якую яны таксама добра выхавалі, яна вельмі выхаваная дзяўчына. Была ёю. Але ў яе таксама з'явілася дзіця, яно памерла, калі яна пакінула свайго чалавека. Яна вярнулася дамоў, потым зноў сышла, у яе сваё жыццё. Яны пра яе час ад часу ўведваюць штосьці праз стрыечных братоў; здаецца, яна наркаманка, а як яны пра яе клапаціліся! Дзеці – няўдзякі. Сцякаеш дзеля іх крывёю, гэта нялёгка – выхоўваць іх, каб потым яны вас кінулі: калі падрастуць, яны на вас забываюцца, лепш ужо іх не мець, а калі мець, дык добрых дзяцей, удзячных. З няўдзячнымі лепш не разлічваць на іхнюю дапамогу.

Я кажу ёй, што яна, ведама ж, мае рацыю. Але яна не змаўкае. Гаворыць увесь час, з анучкаю ў правай руцэ, жэстыкулюючы левай. Абяцае, што ажэніць мяне і што ў мяне будуць дзеці. Я абяцаю ёй, што гэтак будзе. Але яна не надта ў гэтым упэўнена. Я прысягнуў ёй, што так яно і будзе. Нарэшце яна пайшла.Ісці ў шынок было



 

яшчэ рана. А што як мне прайсціся перад абедам? Зрабіць вялікую праходку па ўсім квартале? Гэта, мажліва, будзе цікава. Але, мажліва. Я змог бы знайсці, напрыклад, новае бістро. Бістро хапае. Піць кожнага дня аперытыў у розных бістро – гэта сапраўдны дослед, і спрабаваць штодня розныя аперытывы – таксама. Учора было кампары, сёння гэта можа быць вермут. Мяне раптам апанавала наймацнейшае жаданне выпіць вермуту ў якімсьці іншым бістро. Я адчуў, што павесялеў, і гэтаму пачуццю цяжка было супраціўляцца. Паглядзеў у акно: ці няма на ціхай вуліцы Жанны, ці не балбоча яна там з кім? Калі б я яе заўважыў ці яна мяне, то яна магла б спыніць мяне і сказаць нешта, прадставіць мяне, напрыклад, камусьці іншаму, і я быў бы ўцягнуты ў размову.

Жанны на вуліцы не было. Я хутка выйшаў з кватэры. Жанна была ўнізе, размаўляла з кансьержкаю каля ейнага пакоя. Калі яны мяне ўбачылі, то адразу перасталі гаварыць. Ці ж не пра мяне яны гаманілі? Але якая ім да мяне справа? Няхай пакінуць мяне ў спакоі. Я раблю тое, што хачу. Нічога не раблю, бо нічога не хачу рабіць. Гэта мая асабістая справа. Зараз раззлуюся! Я хутка выйшаў з параднага. Але, ужо каля самых дзвярэй, азірнуўся і ўбачыў, што яны на мяне глядзяць. Яны чакалі, пакуль я выйду, каб прадоўжыць перамываць мае косткі. Што яны сабе ўявілі? З кансьержкаю тут штось нячыстае: каб не яна, Жанна не чытала б мне мараль. І тым не менш гэта добрая жанчына.

Усё-такі трэба лічыцца з людзьмі. Яны існуюць, бо надакучаюць мне, калі ўмешваюцца ў мае справы. Гэтага дастаткова, каб я забыўся на сябе і зноў прыпадобіўся да іх. Яны выцягваюць вас з вашай рэальнасці і пагружаюць у сваю рэальнасць. Хутчэй, у іхні спосаб бачыць. Прымаеш іхнюю оптыку. Заўважаеш, што трэба лічыцца з іншымі. Я не магу не лічыцца з імі, гэта відавочна, але не хачу пазбавіць сябе іншага месца. Іншае месца – вось што сапраўднае. Я збочыў за рог вуліцы, налева, і ішоў досыць доўга, прамінуў дзве ці тры вуліцы, – надвор'е было пахмурнае, – перш чым трапіў у бістро на рагу аднае з іх і праспекта, які, здавалася, быў бясконцым, даходзіў, можа быць, да краю свету. Я ўвайшоў у бістро, замовіў вермут, выпіў першую, потым другую шкляначку. Каля стойкі было багата кліентаў. Рабочыя, белыя і цёмнаскурыя чорнарабочыя, му-

ляры, былі выпэцканыя ў вапну. Адзін чалавечак, зусім маленькі, у бежавым паліто, гаманіў з іншым такім самым кволым чалавечкам, хоць той у параўнанні з ім здаваўся асілкам, – гэтыя гаварылі шмат, але не гучна. Мяркуючы па іхнім выглядзе, яны былі страхавымі агентамі. Рабочыя гаварылі гучней, паляпваючы адзін аднаго рукою па плячы. Тыя, што стаялі ў пачатку чаргі, перакідваліся слоўцамі з тымі, хто быў у яе канцы.

Паступова да мяне зноў прыйшло дзіўнае, незвычайнае бачанне свету. Я зразумеў, з вастрынёю, якая характарызуе гэтае інтуітыўнае прадчуванне ці гэты стан, што астатнія людзі мне чужыя. Як цяжка пранікнуць у душу іншых! Аднак гэтым разам мне хацелася быць бліжэйшым да іх. Што адбылося б, калі б я быў бліжэйшы да іх, быў з імі? Бадай, гэта было б цікава! Я жыў бы. А цяпер яны былі нібыта аддзеленыя ад мяне тоўстым непрабівальным шклом.

Як да іх наблізіцца? Для мяне гэта былі марсіяне, адно да мяне падобныя! І ці не знаходзіліся яны за шклом, як у заапарку, альбо гэта я быў там? Я рушыў далей у накірунку гэтае аддаленасці. Прыглядаючыся і прыслухоўваючыся да іх, я прыйшоў да высновы, што іхнія рухі, жэсты здаюцца мне бязладнымі, а сэнсу іхніх размоў я не ўлоўліваю. Іхнія словы былі мне незразумелыя. Нейкія выкрыкі. Словы, пазбаўленыя зместу, быццам шалупінне. Гвалт. Яны разяўлялі рот, закрывалі яго, вылівалі ў яго змесціва шкляначак; рот, падумаў я, – гэта дзірка, куды памяшчаюць рэчы, якія не ўлазяць у іншыя дзіркі. Я глядзеў на вуліцу, і фасады дамоў ужо больш не здаваліся мне фасадамі. Прахожыя не здаваліся ўжо прахожымі. Потым я глядзеў на свой столік, шкляначку, на сваю руку. Рухаў пальцамі. Захацелася смяяцца. Пасля ўзнікла трывога. А за ёю – здзіўленне. Я глядзеў вакол сябе: што ж гэта ўсё такое? Пытанне здалося мне бессэнсоўным. Што гэта такое – пытацца ў сябе, што гэта? І што гэта...

У рэшце рэшт, у рэшце рэшт я быў, існаваў. Але ўжо ў самым сэрцы рэчаў. Ці павінна яно з гэтага разарвацца, ці ўбачу я, што вонкі яго? Ці там нічога няма? Маіх вачэй недастаткова. Я зноў узяў у руку шкляначку, са страхам, з надзеяю. Я гэта адчуў, аднак, я гэта адчуў. Гэта мяне абудзіла. Ці прысніла.

Да мяне прыйшлі ўстанаўліваць тэлефон. Я ніяк не мог вырашыць, дзе знайсці яму месца. У вялікім пакоі, ля канапы? Ці ў спальні,

на століку ў галавах? Гэта, мусібыць, прыемна – пагаманіць з людзьмі (я ж збіраўся заводзіць новыя знаёмствы ці аднаўляць старыя), лежачы на канапе, удзень, гледзячы ў акно на людзей, што праходзяць па вуліцы. Мне было б што расправесці тым, каго я не бачыў увесь гэты час. А што адбылося ў бюро за гэтыя чатыры зімовыя месяцы? Жаніцьбы, пахаванні, новыя службоўцы? Мне хацелася таксама пабываць у маім старым бістро. Прыгожа ўсё тады было. Жыццё цудоўнае, як глядзіш на яго ў цэлым, цудоўнае ў сваім мінулым, калі ўсё аддаляецца і прастора тоесніцца з часам. Усё гэта разам складае блок, нешта накшталт дома ці палаца, які можна абысці, пакой за пакоем, паверх за паверхам. Не ўсведамляць таго, як гэта было прыгожа, – неразумна. Я ўвайду неўзабаве, можа заўтра, у прыгажосць блізкае вясны. На дрэвах ужо былі бачныя лісткі. Маё жыццё раней здавалася мне цяжкім грузам, які трэба несці, а цяпер яно было для мяне аздобаю, помнікам, відовішчам. Трэба глядзець на свет з гледзішча смерці, калі гэта мажліва. Гэта феерыя. Гэта фенаменальна. І тады рэчы набываюць такое вялікае, такое відавочнае значэнне! У мяне была настальгія па мінулым часе. Гэта нічога. Магу выправіцца туды, калі захачу. Што з Люсьен? Ці ёсць у яе дзіця? А Жульета? А Жанін? А патрон? Добры і бедны, па сутнасці, чалавек. Недарэчна казаць, што я адчуваў сябе тады пад уладаю тырана! Гэта было хутчэй смешна. Чаму мы не ўмеем смяяцца ў свой час? Няма нічога цяжкага, бо ўсё мінае. Ці, хутчэй, аддаляецца. І, як усё, што мае выразныя контуры, гэта “ўсё” можна акінуць позіркам, прааналізаваць, аднавіць. Якую, мусібыць, спагаду адчувае чалавек, які адыходзіць з жыцця і заўважае, што ўсё было цудам, найдрабнейшыя рэчы: пах кавы ўранку, смешная сварка – гэта забаўна, сваркі – муха ў супе, форма драгуна, драгун у сваёй форме. Аддаліўшыся ад хвароб, эпідэмій, пакутаў, вайны, усё гэта не нясе болю, на ўсё гэта можна глядзець спагадліва, усё гэта можна сузіраць – у незвычайнай рэальнасці. Я буду звяртацца, але, буду звяртацца да ўсяго свету.

Нельга ўсё-такі ўсталёўваць тэлефон у вялікім пакоі. Да мяне, вядома, будуць прыходзіць людзі, а я не люблю, калі мне замінаюць у тэлефоннай гаворцы. Я не захацеў, каб нумар майго тэлефона ўказваўся ў даведніку. Калі да мяне прыйдуць людзі бесцырымонныя, то яны могуць папрасіць мяне, як убачаць апарат, даць ім мой нумар тэле-

фона. І я вырашыў усталяваць апарат у спальні. Але некаму ж я дам мой нумар тэлефона. Хоць мне і не хацелася, каб званілі залішне рана ці позна.

Чалавек, які ўсталёўваў тэлефон, сказаў, што зусім няцяжка зрабіць разетку ў кожным пакоі. Тады вы зможаце пераносіць тэлефон з пакоя ў пакой, як захочаце. Насамрэч усё было так проста і каштавала, як высветлілася, нядорага.

Я зняў слухаўку. Адкуль гэтая ліхаманкавасць, гэтае нецярпенне? Набраў нумар тэлефона студэнта-філосафа. Ён ужо, мусібыць, не студэнт, атрымаў, вядома, дыплом летась у лістападзе. Неба пакрывалася хмарамі. Зараз пачнецца дождж. Гэта вельмі непрыемна – пахмурнае неба, яно выклікае ў мяне трывогу. А калі непагадзь зацягваецца, ёсць толькі адзін сродак – самому стаць пахмурным. Але нарэшце я ўсё-такі патэлефанаваў, згараючы ад нецярпення пачуць голас студэнта. Гудкі. Я чакаў, ніхто не адказваў, мяне апаноўвала расчараванне, але я ўсё яшчэ не клаў слухаўку, трымаў яе каля вуха. І добра, што мне хапіла цярпення і ўпартасці. Адказала жанчына.

– Андрэ няма? – спытаўся я з трывогаю.

– Ёсць, ёсць, ён толькі што прыйшоў.

Я прадставіўся яму, спытаўся, ці не перашкодзіў, ён сказаў, што не, дальбог, яму было прыемна мяне чуць, ён хацеў нават уведаць, як у мяне справы; але, ён здаў экзамен. Цяпер ён выкладаў у калежы, рыхтаваў дысертацыю. Ён нават збіраўся звярнуцца ў бюро, да майго былога калегі, каб той даў яму мой адрас. Я сказаў, што там майго адрасу не ведаюць і што я вось ужо два ці тры месяцы ўсё збіраюся зайсці ў бюро, каб убачыцца з маімі былымі саслужыўцамі, пакінуць ім свой адрас, запрасіць каго-небудзь да сябе, але ўвесь час адкладваў гэтую паездку на заўтра, для мяне гэта сапраўдная прыгода, цэлае падарожжа. Аднак цяпер гэта ўжо была справа вырашаная. Для мяне гэты выхад мусіў стаць святам. Я доўга гаманіў з ім, ён запэўніў мяне, што не спяшаецца, папрасіў расказаць яму пра маё жыццё.

Я быў ветлівы і папрасіў яго распавесці спачатку пра сябе. Што ён і зрабіў. Ён ажаніўся, гэта якраз ягоная жонка ўзяла слухаўку. Яна была на два гады маладзейшая ад яго, прыгожая, разумная, студэнтка.

Я сказаў, што ў мяне ўсё добра. Мне падабаецца адпачываць. Праўда, я нуджуся час ад часу. Не хаджу ў кіно. Гэта памылка. Цяпер ужо хочацца хадзіць у кіно. Нічога не чытаю. Але хутка пачну, бо іншыя людзі і тое, што яны гавораць, усялякія праблемы пачалі мяне цікавіць. Зрэшты, усё цікава, у рознай, вядома, ступені. Няма мяжы цікавасці, якую мы можам адчуваць да людзей альбо да рэчаў. Калі аддаеш перавагу некаму ці нечаму аднаму, то гэта рэч суб'ектыўная, сапраўднае іерархіі няма.

Ён сказаў (смяяўся ён з мяне ці не?), што я залішне пагрузіўся ў самоту і, мусібыць, зашмат разважаў. Пасля я распавёў пра розныя драбніцы штодзённага жыцця, пра кансьержку, якая глядзела на мяне спачатку як на смешнага чалавека, быццам я такі ёсць. Яна выказвала ў дачыненні да мяне пэўную антыпатыю. Не, у мяне няма маніі пераследу. Я рабіў ёй маленькія падарункі, даваў ёй на чай, яна брала, але гэта, здавалася, прыніжала яе. Кожнага разу, калі я праходзіў міма, яна штосьці выдумляла. Я выходзіў ці ўваходзіў якраз тады, калі яна падмятала ўваход, і нёс на падэшвах сваіх чаравікаў пыл. Яна глядзела на мяне падазрона. Задавала нясціплыя пытанні: "Зноў вы, куды вы ідзяцё? Вы ўвесь час гуляеце. І не працуеце. Шанцуе вам. Не тое што ўсім нам". А потым, паступова, гэтая варожасць, гэтая падазронасць зніклі, прынамсі перасталі быць заўважныя. Яна прызвычаілася да мяне, да маіх пастаянных выхадаў, да маёй дзіўнай самоты. У мяне такі быў выгляд, сказала яна мне аднойчы, быццам я хаваюся ад паліцыі. Я сказаў ёй, што ніколі не ўпісваўся ў асяродак. Гэта зразумела, сказала яна, у мяне для гэтага недастаткова ўпэўненасці. Але не, цяпер з гэтым пакончана. Я яе больш не раздражняю, стаў ёй нецікавы. Я гэта адчуваю. Цяпер яна адказвае мне, калі я, праходзячы міма яе, здымаю капялюш, – я заўсёды нашу капялюш, – адказвае механічным кіўком. Толькі вось ці бачыць яна мяне? Ва ўсякім разе яна больш на мяне не глядзела і тым больш не разглядвала. Я зрабіўся для яе часткаю паверхаў ды лесвічных пляцовак. Гэта зусім не так, як раней, калі яна адсоўвала фіранку на зашклёных дзвярах свайго пакоя, каб акінуць мяне сваім пранізлівым позіркам. У мяне ёсць пакаёўка, Жанна, якая распавядае розныя гісторыі з свайго жыцця. Я ўжо стаміўся ад яе. Яна зусім не мяняецца, усё гаворыць і гаворыць. У мяне вушы ад яе распаведаў баляць, яна перашкаджае мне драмаць, думаць, усё акурат гэ-

таксама ж, як і ў першы дзень, нават горш, нічога не змянілася. З кватэры цяжка пайсці, яна ўвесь час спыняе, нават за рукаў пінжака назад цягне. Я ўжо і на дыбачках спрабаваў выслізнуць – марна, усё роўна пачуе. Але вам гэта нецікава, спытаўся я ў суразмоўніка, я ж сам цяпер як Жанна. Не, не, адказаў ён мне, гэта мне цікава, ваш выпадак мне цікавы. Ён быў філосафам, але таксама і псіхолагам, псіхааналітыкам. Гэта цудоўна – быць псіхолагам, так цікавіцца людзьмі. Цудоўнае пакліканне душы – слухаць іншых!

Насамрэч усё добра, спытаўся ён. Але, але, адказаў я, у мяне па-ранейшаму застаецца ўражанне, што я аддзелены ад астатняга, такое ўражанне, што я знаходжуся ў чымсьці накшталт шкляное клеткі. Вядома, туга апаноўвае. Менавіта супраць тугі я і павінен быў змагацца: калі я не адчуваў сябе ў шкляной клетцы і працягваў маральна руку іншым, шкляныя сцены адступалі, і тады ўвесь свет, сусвет здаваліся мне акружанымі ўжо нябачнымі мурамі, праз якія, аднак, нічога не было відаць... Неба было аркаю, а за дамамі, за горадам, за вёскаю быў далягляд, зачыненыя дзверы далягляду. Нармальна ўсё гэта? Мне здаецца, час і вельмі кароткі, і дужа доўгі; секунды былі бясконцыя, кожная секунда – доўгая драпіна, а гады – кароткія. Час сыходзіў. Я ведаў, гэта не штосьці новае, усе шкадуюць аб часе, што сыходзіць, у той ці іншай ступені. Але для мяне гэтая праціглегласць нязносная. Я нясу на сабе ўвесь цяжар моманту, які прыгнятае мяне настолькі, што я не маю магчымасці яго скарыстаць, нават атрымаць асалоду ад гэтага моманту не магу. У іншых таксама сумныя твары, на іх туга, трывога. Вы думаеце, я адно выстаўляюся і перадаю іншым сваю тугу, дэпрэсію? Думаеце, іншыя людзі вясёлыя, бесклапотныя, ці што іхні клопат, вялікі альбо маленькі, іх не знясільвае? Думаеце, іншыя жывуць? Гэта ж не нармальна, ці ж не так? Мне было б лепей працаваць, але чым заняцца? Я, вядома, не магу вярнуцца ў бюро і выседжваць штодня восем гадзін. Лепш ужо нудзіцца паціху. Дарэчы, я не заўсёды нуджуся, не ўвесь дзень. Прыходзіцца ўставаць. Вядома, уставаць – цяжка. Перада мною дзень – вялізны пустэльны пляж, якому не відаць канца. Але я ўстаю, Жанна варыць мне каву, я яе п'ю. Жанна памые кубак, сподачак, джэзву. А калі я п'ю каву, мне ўсё-такі добра. Бачыце, у мяне ёсць прыемныя моманты. Праўда, яны мінаюць хутка. Бываюць прылівы радасці альбо палёгкі. Яны таксама хутка сыходзяць. Але ў час

 



гэтых прыліваў у мяне ёсць невычарпальная крыніца, фантан, мажліва возера, зусім новае, акружанае беласнежнымі гарамі са схіламі, пазалочанымі сонцам ды святлом унутранага свету. Такое мусіць быць дзесьці. Я кажу сабе гэта, я ў гэта трохі веру, я ў гэта ўсё менш веру, я ў гэта ўвогуле не веру. Чым больш я пагружаюся, тым больш нічога не знаходжу. Брудную лужыну. Я супярэчу сабе, але, я сабе супярэчу. Хачу гэтым сказаць, што ёсць у сярэдзіне прыемнага нейкая барацьба. Я ўсё яшчэ не раздушаны, не паглынуты. Я ведаю, што свет заўсёды нястомна цнатлівы. Гэта і дае мне нешта накшталт апраўдання жыцця. Але тое, што я ведаю, я ведаю недастаткова, не ўсёй сваёй існасцю. Тым часам як бруд і матэрыяльнасць прыходзяць тады, калі я пра гэта не думаю, я іх адно адчуваю, усё роўна як яны існавалі б насамрэч, усё роўна як гэта было б грунтам і матэрыяй усяго. Ён адказаў, што, вядома, у яго яшчэ ёсць час пагаманіць са мною па телефоне, я магу працягваць яшчэ некалькі хвілін, нават больш. Мой выпадак, пацвердзіў ён, вельмі добра знаёмы псіхатэрапеўтам. Ён прыводзіў мне прыклады, не такія ўжо і рэдкія, калі ў хворых было адчуванне таго, што ўвесь свет, сусвет – экскрэменты. Я адказаў, што, на шчасце, у мяне такога няма. Адно бруд, але ёсць таксама і чыстае возера, ёсць і белы снег. Нармальныя людзі – паміж дзвюма скрайнасцямі. Ні святла, ні змроку. Яны займаюцца, ні пры святле, ні ў змроку, сваімі справамі, клопатамі, штодзённасцю, яны жывуць гэтым. Вось гэтым і жывуць. Гэта – па-чалавечы. Я ж магу жыць адно ў стане, скажам так, боскае ласкі. Хто жыве ў стане боскае ласкі? Не жыць у стане боскае ласкі, аднак, непрымальна. Для мяне няма асяроддзя паміж боскаю ласкаю і экскрэментамі. Іншыя да гэтага абыякавыя, у той ці іншай ступені. Яны прыстасоўваюцца да ўласнае адсутнасці. Я прашу задужа многага, мяне адольвае гонар, я думаю адно пра сябе, чаму я не тулюся да іншых? Вось дзе праблема, вось дзе сапраўдная слабасць. Іншыя прымаюць гэта як дадзенасць. Яны пакутуюць адно ў выпадку вялікіх катастроф: смерць блізкіх, вайна, голад, хваробы. Мушу прызнаць, што ўсё апошняе таксама ўяўляе для мяне інтарэс. Можа, і сорамна, але катастрофы выводзяць мяне са здранцвення. Я чакаю з нецярпеннем ды задавальненнем, калі прыйдзе пакаёўка і прынясе мне газету. Кідаюся на яе і змрочна смакую змест, гэта напраўду, як ні дзіўна, смакаванне, калі я чытаю вялізныя загалоўкі ў газетах, у якіх нам распа-



 

вядаюць пра вайну, жорсткасць, пажары, паводкі, забруджанне наваколля, забруджанне, якое ўсё павялічваецца, якое, магчыма, задушыць нас. Сумесь страху і памкнення да яго. Так я баўлю кожнага ранку сама меней паўгадзіны. Гэта захапляе. Азнаёміўшыся з усімі навінамі, прыступаю да красвордаў. Так праходзіць яшчэ гадзіна. Потым настае час аперытыву, пасля абед, нарэшце – сіеста. Дзве-тры цяжкія гадзіны мінаюць, настае час вячэры, пасля якое я вяртаюся дамоў. І мяне паглынае глыбокі сон. Назаўтра ўранку тая ж трывога, а потым кава, я вяртаюся пакрысе да жыцця. Вы бачыце, я ўсё-такі арганізоўваю свой дзень. Але перадусім вось што ёсць – здзіўленне перад тым, што я існую і існуюць рэчы. Але разам з тым прысутнічае і гэтая няздольнасць спасцігнуць бясконцае. Гэта не дапамагае жыць, але я не магу адмовіцца ад таго, каб ставіць перад сабой гэтую праблему, хоць, відавочна, вы скажаце, што ўсё гэта банальна. Насамрэч. Народжаны ў жаху, у пакуце, я і жыву ў жаху канца, выхаду. Я апынуўся ў неспасцігальнай, непрымальнай, інфернальнай пастцы, паміж дзвюма жудаснымі падзеямі.

Ён адказаў мне, што ўсё гэта досыць банальна, што ўсё гэта добра вядома. Мне трэба больш чытаць альбо проста чытаць, бо я зусім не чытаю. Ёсць, напрыклад, гностыкі, у якіх я багата чаму мог бы навучыцца. І, вы ведаеце, усе ставяць перад сабою гэтыя праблемы. Тое, што вы кажаце, зусім не новае. Відавочна, адказаў я, вы ведаеце гэтыя праблемы, вы чыталі, вы павінны ведаць, але гэтыя пытанні скаланаюць мяне, бо яны для мяне жыццёва істотныя. Для вас гэтыя праблемы – усяго толькі культура. Вы не прачынаецеся кожнага дня ў трывозе, пытаючыся ў сябе пра адказы, кажучы сабе, што няма адказаў. Але вы наперад ведаеце, што ўсе задаюць сабе гэтыя пытанні. І наперад ведаеце, што ніхто яшчэ ніколі на іх не адказаў і што на іх нельга адказаць. Да таго ж у вас усё гэта каталагізавана. Таму вы і ведаеце, што ўсе гэтыя праблемы пастаўлены, вы ведаеце, хто іх паставіў, вы ведаеце, што ёсць столькі трактатаў ды кніг, якія закранулі гэтыя тэмы, і таму вы не ставіце іх больш перад сабою, гэтыя пытанні, вы адклалі іх убок, некуды ў сутарэнні памяці. Але ж для вас гэта ўсяго толькі культура. Вы культывавалі адчай, зрабілі з яго літаратуру, творы мастацтва. Гэта не дапамагае мне. Гэта культура, культура. Хоць вы і лічыце, што культура можа прадухіліць драму чалавека, трагедыю.

 



Ён сказаў мне, што мы яшчэ пагаворым пра ўсё гэта, трэба, каб я наведаўся да яго. А зараз у яго няма больш часу, ён мусіць зараз пайсці з дому, бо ў яго ёсць свае прафесійныя абавязкі. У мяне маніякальны неўроз, гэта ненармальна – пераЖоўваць увесь час адныя і тыя ж думкі. Ён ведае аднаго чалавека, здатнага мне дапамагчы. Метафізічная трывога, калі яна заходзіць гэтак далёка, як мая, мае патрэбу ў лекаванні. Ёсць featурознага кшталту пігулкі, якія вылечаць вас ад метафізічнае трывогі. У наш час хіміятэрапія перамагае любую трывогу.

Ён паклаў слухаўку. Я падумаў, як гэта дзіўна – жыць у няспынным запытанні, што такое сусвет, што такое ўмовы, у якіх я знаходжуся, што я мушу рабіць тут, ці ёсць у сапраўднасці хоць нешта, чым можна заняцца? А з іншага боку, хіба нармальна, што людзі не думаюць пра гэта, жывуць сабе спакойна ў няведанні. Можа, у іх, ува ўсіх іншых ёсць несфармуляваная вера, ірацыянальная, у тое, што ўсё неўзабаве скіне з сябе заслону, і тады наступіць ранак боскае ласкі для чалавецтва. Можа, наступіць ранак боскае ласкі і для мяне.

Перад тым як заснуць, скінуцца ў прорву сну, мне здаралася, напалову ў сне, напалову не, усміхацца пры думцы пра тое, што, мажліва, праз некалькі гадзін золак прынясе веданне ды вызваленне і што золак гэты будзе вечны. Часам я думаў пра гэта ўвечары. Толькі рэдка, бо найчасцей вяртаўся дамоў п'яны, амаль знепрытомнены, анічога не адчуваючы, вольны ад пераследу невыращальным і непазбыўным. Прачынацца не хацеў. Перспектыва доўгага дня, што чакаў мяне, думка пра тое, што мне на ўсім ягоным працягу давядзецца змагацца з тугою, як заўсёды беспаспяхова, мучылі мяне. Усё было не ў радасць – любы жэст, сцены і посцілкі з кветкамі. Але трэба было ўстаць да таго, як прыйдзе Жанна. Яна падымалася рана, бо працавала, мне было сорамна за сваё лайдацтва, за мой маральны паралюш. Я спускаў з ложка адну нагу, потым другую, уздымаўся, нёс сваё цела, быццам цяжар, я быў ахоплены трывогаю, тугою. Думка пра тое, што трэба прыводзіць сябе ў парадак, усяляла ў мяне жах – гэтая працэдура была ў маіх вачах раўназначная працы чорнарабочага. Я ўваходзіў у ванны пакой, нібыта асуджаны ў камеру. Доўжылася гэта недзе з паўгадзіны. Калісьці я мыўся халоднай



 

вадой, што патрабавала пэўных вымогаў. І тыя вымогі засталіся ўва мне на ўзроўні рэфлексу. Я заходзіў у ванны пакой з пачуццём, падобным на страх, якое несумненна сімвалізавала маю ранейшую сцятасць перад халоднай вадою. У мяне было такое ўражанне, што ванна, напоўненая вадою, – падобная да магілы. Увайсці ў ваду значыла для мяне быць паглынутым ёю жыўцом. А потым трэба было яшчэ і пагаліцца. Я глядзеў на сябе нейкі час у люстэрка, перш чым падступіцца да гэтае працы. Праводзіў рукою па твары. Адчуваў, як прабіваюцца шорсткія валасы, якія пачыналі ўжо сівець, узіраўся ў сябе і не падабаўся сабе: залішне вялікі нос, размаіты блакітны колер невыразных вачэй, крыху апухлы твар, валасы на галаве, якія тырчэлі ў розныя бакі, занадта доўгія, – я рэдка хадзіў да цырульніка; усе, мусібыць, заўважалі, што я не такі, як іншыя. Я саромеўся сваёй вынятковасці. Аднак у твары маім не было нічога ненармальнага. Я быў як іншыя, не будучы падобны да іншых, хоць незвычайнасць маёй асобы павінна была праступаць скрозь скуру. Тым не менш мяне не заўважалі на вуліцы, людзі не азіраліся, каб акінуць мяне поглядам.

Зрэшты, не зусім так: даволі згадаць кансьержку, суседку з сабачкам, пакаёўку, якая, гледзячы на мяне, часта хітала галавою, афіцыянтку, што трымалася са мною нейкім асаблівым чынам – і неяк па-сяброўску, і з пэўнай пагардаю. Але ўсе іншыя зазвычай не зважалі на мяне асабліва. Праўда, калі яны глядзелі на мяне, то ў вачах у іх было штосьці накшталт варожасці. Сапраўды, гэта было так, яны ўсе адчувалі да мяне альбо варожасць, альбо абыякавасць. Але ж і я меў да іх тыя самыя пачуцці – варожасць і абыякавасць. Што яны маглі паставіць мне ў віну? Тое, што я не жыў, як яны, не скараўся са сваім лёсам? А ў чым мог іх папракнуць я? Ані ў чым. Асабліва тады, калі думаў, што ў глыбіні душы сваёй яны былі такія ж, як і я. Яны былі мною. Вось чаму я на іх злаваў. Быць іншымі, зусім не будучы іншымі. Калі б яны напраўду адрозніваліся ад мяне, я мог бы ўзяць іх за ўзор. Гэта дапамагло б мне. У мяне было такое пачуццё, што я насіў у сабе ўвесь страх і ўсю трывогу мільярдаў чалавечых істот, хваробу ўсіх. Пастаўлены ў іншыя ўмовы, кожны з іх жыў бы ў той самай трывозе, у тым самым страху перад жыццём, у той самай хваробе, што і я. Нават калі б яны не паглыбляліся ў сябе. Яны становяцца падлеткамі, потым дарослымі, пасля старымі,

– у чымсьці накшталт бессвядомасці альбо зміранасці, бессвядомага скарэння. Яны абараняюцца ад саміх сябе як могуць, колькі могуць. Але калі б кожны заглыбіўся ў сябе, то кожны жыў бы трывогаю і страхам за мільярды чалавечых істот. Яна ў кожным з нас, гэтая трывога. Вось у гэтым мне бачыцца жорсткасць бажаства: кожны адначасна адзіны ў сваім родзе і ён жа адначасна – універсальнае ўсё. Было б настолькі лягчэй, калі б трывога, адчай ды паніка размеркаваліся мерна на ўсе мільярды чалавечых істот. Нашая трывога была б тады ўсяго толькі адной трохмільярднай часцінкаю ўсеагульнае пакуты. Але не, кожны бачыў за сваёй смерцю смерць сусвету.

Я рыхтаваў прыналежнасці для галення – электрабрытваю не карыстаўся, – намыльваў твар, спрабуючы курыць падчас галення, рабіць гэта было незвычайна цяжка; і калі я заканчваў, прыходзіла палёгка. Нібыта я справіўся з чымсьці незвычайна цяжкім. Калі Жанны яшчэ не было, я імкліва кіраваўся ў вялікі пакой, адчыняў сервант і выпіваў шкляначкі дзве каньяку, якія надавалі бадзёрасці. Але калі Жанна ўжо прыходзіла, я саромеўся гэта рабіць: яна неадменна б усё заўважыла і прысароміла мяне. Добра прачынацца ўранку.

Я ўжо больш не ведаў, дзе знаходзіўся. Ведаючы гэта, натуральна. У мяне было такое пачуццё, што я і тут – і тым самым часам мяне тут няма. Мне здавалася, што ўсё нейк змянілася ці імкнулася да пераменаў. Дзіўная змена: яе лёгка адчуць, але немагчыма растлумачыць словамі. Гэта быў мой дом, той самы дом, той самы фатэль, тая ж канапа, той жа дыван і, аднак, гэта не быў ні той самы дыван, ні тая ж канапа, ні тыя ж кнігі, ні тыя ж сцены. Невытлумачальная дзіўнасць. Ці, хутчэй, дзіўнасць, у выніку якой я дрэнна разумеў сутнасць рэчаў. Не, свет ужо не той. І рэчы не там. І неба, і людзі. Усё было па-іншаму. І кім быў я? Дзе знаходзіўся? Невыразная трывога, бо словы самі па сабе не маглі ўжо больш сказаць мне пра гэта. Я мог сноўдацца, выходзіць на кухню, спускацца па лесвіцы, шукаць, вяртацца, але ўсё гэта адбывалася ў свеце, які ўжо не быў тым самым светам.

Раней, калі адбывалася такая змена, мяне апаноўвала нешта накшталт радасці. Цяпер гэта быў страх. Я адчуваў сябе вырваным з каранямі з самога сябе і перасаджаным у звычайны свет. Быццам

свет мог быць звычайным! Быццам свет мог быць нармальным! Быццам адчуваць тое, як б'ецца сэрца, дыхаць было натуральным! Я глядзеў на рэч перада мною, метр семдзесят у вышыню, метр дваццаць у шырыню, з двухстворкавымі дзвярыма, якія можна было адчыніць. Усярэдзіне была папярэчына, на якой вісела мая адзежа, паліцы, на якіх была складзена бялізна. Відавочна, калі б у мяне спыталіся, што гэта за рэч, то я адказаў бы, што гэта шафа, і чымсьці іншым гэта не было. Кожнаму я змог бы адказаць, што гэта была шафа. Аднак словы падманвалі. Не толькі рэчы ўжо не былі тымі рэчамі, але і словы ўжо не былі тымі ж словамі. Словы здаваліся мне хлуслівымі. Выдавала на тое, што рэчы страцілі сваю функцыю. Я нешта рабіў з гэтымі рэчамі, але мне здавалася, што гэтыя рэчы не прызначаныя дзеля таго, што я з імі рабіў, і ўвогуле не прызначаныя для нейкага ўжытку. Я нібыта не меў права да іх дакранацца. Пагружаўся ў новы свет, з якім не ведаў што рабіць. Свет, які ні для чаго не служыў. Ці быў я ў паралельным свеце, у свеце, які адмаўляе наш свет, бо ўсё гэта было не для мяне, усё гэта не магло быць для мяне. Куды мяне перамясцілі? Свет калыхаўся. Уся ягоная сукупнасць замянялася другой сукупнасцю. Як у другім стварэнні. Мне трэба было зноў спасцігнуць сутнасць рэчаў ды іхнія функцыі. Але функцыі не раскрывалі сутнасць рэчаў. І ўсё, што знаходзілася вакол мяне, было іншым. Я сам быў іншы. Ці не абваліцца зараз столь? Я адпрэчваў усё. Ці не буду адпрэчаны я сам? І адкуль? У што? І што магло быць гэтым "адкуль" і "ў што"? Калі я спрабаваў разгарнуць кнігу ды прачытаць там пра надзеі, якія здаваліся мне калісь банальнымі, будзённымі, то цяпер гэтае банальнае і будзённае сваёю невытлумачальнасцю кідалася мне ў вочы. Я дакрануўся да круглага століка, пытаючыся ў сябе, чаму вось "гэта" магло так называцца і пра што "гэта" кажа? Адкуль я? Хто ёсць хто? Ці то страх, ці то хвароба пагружалі мяне ў гэты стан. Не быць у сабе. Не мець сябе "ў сабе". Рухаць рукамі й глядзець на іх. Я, несумненна, прыпадабняўся да дзіцяці, якое глядзіць на свае рукі, не ведаючы, што гэта такое. Калі гэта магло б адбывацца ў шчасці, гэта было б усё роўна як адкрыццё, і я быў бы шчаслівы. Калісьці адкрыццё пагружала мяне ў радасць. Радасць больш не ахоплівала мяне. Не аб'яўлялася. Радасць – гэта заўважаць раптам, нейкім звышнатуральным чынам, што свет на месцы і што ёсць у ім жыццё, што свет існуе і існуеш у ім

ты. Цяпер мне здавалася, што ўсё пацвярджае неіснаванне рэчаў і маё ўласнае неіснаванне. Я баяўся знікнуць. Калі я ўслухоўваўся ці ўважліва ўглядаўся ў пакой альбо ў акно, мне здавалася, што лёгкія, але даволі частыя падземныя штуршкі зрабілі свет вельмі крохкім. Усё рассыпалася, усё знаходзілася пад пагрозаю патанання ў якое-небудзь нішто. Супраціўленне рэальнага свету агульнаму распаду ўсё слабла і слабла. Ці было што-небудзь за гэтай рэальнасцю? Ці было яшчэ што-небудзь, нейкая іншая рэальнасць, ці ўвогуле нічога няма? І што гэта такое – “увогуле нішто”? Я адчуваў сябе пахіснутым у пахіснутым свеце. Гэта цікаўна – як усё адначасна і прысутнічае, і адсутнічае, такое цвёрдае, такое густое і такое крохкае. Ці існуе ўсё гэта насамрэч? Ці існавала калі-небудзь? Яшчэ трохі штуршкоў – і ўсё магло рассыпацца на тысячу кавалкаў. Я адчуваў сябе адной з нітак запаленага кноту, уваткнутага ў бочку з порахам. Ваніты пустаты. А потым ваніты перапоўненасці. Як гэта яшчэ магло трымацца і колькі часу, калі час быў. Былі, мажліва, усяго толькі імгненні.

Я сеў у фатэль. Узяў машынальна газету. Злачынствы, войны, правапарушэнні, анонсы, рэклама кіно – нішто. Як гэтае нішто можа мець такую вагу? І як гэты цяжар можа быць адначасна такім лёгкім? Задужа матэрыяльным і нематэрыяльным адначасна. Кардонны свет, гэтая тэатральная дэкарацыя, мог замяняцца ў любы час іншым. Я ўяўляў сабе гэты свет, у якім сам быў адным з актораў. Аўтарам, можа быць, ці ўсяго толькі выканаўцам адНае ролі. Я асцярожна ўзняўся, надзеў капялюш, паліто; я дрыжэў, спускаючыся па лесвіцы; крыху пагойдваючыся, ішоў па вуліцы, час ад часу дакранаўся да сценаў, баючыся адначасна, што яны раздушаць мяне альбо знікнуць. Прыйшоў у шынок. Афіцыянтка пaглядзела на мяне і сказала, што я, мусібыць, хворы, што ў мяне вочы блукаюць. Мне ж здавалася, што гэта ў яе разгублены твар і дзікі погляд. Я сеў на сваё звычайнае крэсла, перад маім звычайным столікам, утаропіўся вачыма ў акно і нейкі час разглядваў сілуэты, што праміналі, сілуэты, якія, здавалася, выходзяць з туману, каб зноў патануць у ім і знікнуць.

– Выгляд у вас такі, мсьё, што бачна: справы ў вас не дужа добрыя. Сёння асабліва, мсьё.

– Сёння асабліва. Сёння яшчэ горш, як у іншыя дні. Калі іншыя дні існуюць.

– Іншыя дні існавалі. Іншыя дні будуць існаваць. Можна сказаць, што вы ў тумане.

– Вы з туману.

Афіцыянтка паглядзела на мяне:

– Што з вамі? Вам трэба схадзіць да доктара.

– Вы ўпэўнены, што існуеце?

Афіцыянтка паглядзела на мяне вылупленымі ад здзіўлення вачыма:

– Я ў гэтым зусім упэўнена. Хочаце нагнаць на мяне страх? Вы таксама існуеце. Запэўніваю вас.

– Быць можа, за ўсім гэтым нічога няма, – сказаў я, паказваючы рукою на вокны, сцены, вуліцу.

– А што вы хочаце, каб за гэтым было? Гэта ёсць “гэта”, гэта ўсё.

– І гэта ўсё, што вы пра гэта думаеце? Гэтага недастаткова. Гэтага мала. На чым усё гэта тады трымалася б?

Афіцыянтка была крыху збянтэжаная. Яна мяне любіла, але паранейшаму лічыла трохі вар'ятам.

– Вам заўсёды блага ў вашай скуры. Зараз вы адкажаце мне, што можаце сказаць, што я не ведаю, ці ёсць у мяне самой гэтая скура і што гэта такое – скура.

Яна хутка вярнулася, прынесла каньяку.

– Трымайце, ад гэтага вам стане лепей. Гэта паставіць вас на ногі.

Я выпіў шкляначку каньяку адным глытком. Адчуў, што крыху сагрэўся.

– Вы верыце, што гэта можа працягнуцца доўга, усё гэта? – спытаўся я ў яе.

– Што – усё гэта?

– Усё гэта!

– Гэта не знікне з дня на дзень, запэўніваю вас. Гэтага хопіць на доўгі час. Нас болей тут не будзе, а гэта яшчэ будзе трымацца.

– А калі гэта не будзе больш трымацца, што будзе на ягоным месцы? Ці будзе штось іншае? Вы не бачыце, што ўсё ўсюды сыходзіць на нішто. Не, вы не бачыце.

– Я адчуваю, што добра ўладкавалася. І шмат працую. Чым

больш працуеш, тым больш ёсць рэчаў. Праўда, калі б іх было меней, дык было б, мажліва, лягчэй.

– А куды пойдуць усе гэтыя рэчы?

– Вы задаяце мне пытанні, на якія нельга адказаць. Я ніколі не думала пра ўсё гэта. І не буду больш думаць. Людзі, як вы кажаце, наганяюць на вас страх. Гэта вы наганяеце на мяне страх... Страх за вас. Вашыя нервы больш не вытрымліваюць. Але гэта не смяротна. Гэта можна наладзіць. Вось яшчэ кілішак каньяку. Схадзіце да доктара.

– А вы не думаеце, што дактары хворыя? Мы ведаем, што хутка ўсе памрэм, а яны кажуць, што вы вар'ят, калі думаеце пра смерць і калі адчуваеце пачуццё трывогі. Гэта іх трэба лячыць. Я думаю нармальна. Гэта яны ненармальныя.

– Я згатую вам зараз добры біфштэкс, са смажанай бульбаю, абед вас падмацуе.

– Добра прасмажаную, калі ласка.

Я глядзеў, як прыходзілі іншыя наведнікі, яны сядалі і лічылі сябе вольнымі і нязмушанымі.

– Вы не бачыце, – сказаў я, – яны ўсе ў празрыстых трунах.

На мяне паглядзелі. Афіцыянтка падышла да мяне і сказала напаўголасу:

– Змоўкніце. А то вас зняволяць.

Па зале і насамрэч пракаціўся якісьці шум, позіркі наведнікаў звярнуліся да мяне.

– А я ўжо зняволены. Як усе. Адначасна зняволены і залішне вольны. Крышталь – нябачны.

Я выйшаў, па-ранейшаму адчуваючы на сабе позіркі, цяпер ужо спінаю. Пайшоў у накірунку да вялікае плошчы, што месцілася досыць далёка, я яе яшчэ не ведаў. Да яе было, бадай, кіламетры два. Ці была яна тут раней альбо яе прыдумалі нядаўна? Усё наўкол кішэла людзьмі. Усчалася бойка. На сярэдзіне плошчы два натоўпы, што змагаліся паміж сабою, раздушылі жандараў. Абра́зы чаргаваліся з ударамі. Ударамі дубінкамі па галовах. Плошча трашчала, узрывалася, глузды выцякалі з галоў у нябачныя шкляныя скрыні. Людзі ўчапіліся адныя ў адных. Не ведаю, як ім удавалася, і там і тут, быць заўсёды ўтрох супраць аднаго. Плошча была ўсцеленая

людзьмі, ужо зваленымі з ног. Грузавікі з паліцыянтамі прыбывалі з чатырох вуліц, якія выходзілі на плошчу. Паліцыянты таксама былі аточаныя труною з нябачнага шкла, якое акаляла і каскі. Я кінуўся ў гушчар натоўпу з крыкам:

– Вы ўжо ў трунах! Не спяшайце біць. Вам што, так тэрмінова трэба гэта зрабіць? Чаму вы так спяшаецеся? Хутка нікога ўжо не будзе.

Ніхто мяне не чуў ці не хацеў чуць. На плошчы, на тратуарах утварылася ўжо нейкае дзіўнае месіва. Галовы ўзрываліся, усё роўна як аўтамабілі й грузавікі. Я крычаў:

– Можна пайсці з жыцця без шуму і ў спакоі, хай свет распадаецца паволі. Зрэшты, здараецца тое, што здараецца.

Я змяшаўся з натоўпам, апынуўся ў самай сярэдзіне тых, хто наносіў удары. Але ўдараў не атрымліваў. Здавалася, гэтыя людзі не бачаць мяне. Я быў для іх толькі прывідам. Яны таксама былі прывідамі, але апантанымі жорсткасцю. Я спрабаваў перахапіць руку аднаго, спыніць удар нагою другога, у бойку ўмяшаліся паліцыянты, узброеныя дубінкамі й шчытамі. Цяжка было зразумець, на чыім баку яны выступалі. Досыць верагодна, што абрынуліся яны на ўсіх.

Мне ўдалося ўскараскацца па прыступках на пастамент статуі ў цэнтры плошчы.

– Чуеце мяне, чуеце мяне, – крыкнуў я адтуль, – я ваш арбітр! Можна дамовіцца, вы можаце дамовіцца. Па-добраму. Давайце пагаворым. Усё можна закончыць мірам.

Ніводзін з удзельнікаў бойкі не прыслухаўся да маіх словаў. Яны працягвалі падаць вакол мяне. Я зноў пачаў крычаць:

– Усё можна наладзіць. Выберыце дэлегатаў. Праінструктуйце дэлегацыі. Я бачу, я разумею, вы не надта хочаце дамовіцца. Чаму вы так спяшаецеся? Чаму вы так спяшаецеся?

Крычаў я ў пустату. У сумесь паўнаты і пустаты. Альбо ў перапоўненасць.

– Я такі ж чалавек, як і вы. Гавару той самаю моваю.

Я не гаварыў той самаю моваю. Я абхапіў статую рукамі і працягваў крычаць. Яны ж маглі мяне бачыць. Маглі мяне чуць. Голас у мяне даволі моцны, а рукі й ногі дастаткова доўгія. Яны прымалі мяне за пудзіла. Хутчэй нават за нішто. Яны, можна было пэўна сказаць, не бачылі мяне.

– Што ты там робіш? – звярнуўся да мяне адзін паліцыянт. І зноў пачаў дубасіць па галовах.

Я паволі злез у самую сярэдзіну натоўпу і пачаў хапаць тых, што біліся, за рукавы.

– Вы вар'яты, – казаў я ім, – скажыце, чаго вы хочаце? Я ўсё ўладжу.

Яны вырываліся. Адзін з іх сказаў мне:

– Гэта вы вар'ят, не разумееце, што мы змагаемся за нашыя правы.

– За нашую свабоду, – сказаў другі.

Я спытаўся ў іх, пра якія правы ідзе гаворка. Спытаўся, якой свабоды яны дамагаліся. Ніводзін не адказваў. Яны дубасілі па галовах.

Вакол было поўна шкла і крыві. Бойка станавілася ўсё больш жорсткай. Натоўп падцягваўся з чатырох вуліц. Некаторыя людзі спускаліся з балконаў сваіх дамоў. Былі й такія, што траплялі ўніз па водасцёкавых трубах. Я адзіны ва ўсім натоўпе выкручваў сабе рукі:

– Гэта ж так проста! Гэта ж можна вырашыць самым простым чынам!

Нехта выкрыкнуў:

– Калі б гэта было проста, то не было б так складана!

Тыя, што падалі з разбітай галавою, мелі шчаслівы выгляд. Тыя, што разбівалі іншым галовы, ззялі, быццам пераможцы. Здаралася й так, што ім самім у гэты момант разбівалі галаву.

Нарэшце да мяне падышоў мажны чалавек.

– У вас такі выгляд, нібыта вы не разумеце: ідзе грамадзянская вайна. – Сказаўшы гэта, ён зноў кінуўся ў самы гушчар натоўпу.

Дык вось яно што: ішла грамадзянская вайна!

Ён пачуў, як я крыкнуў яму:

– Гэта азначае, што вы хочаце забіваць!

– Гэта азначае, што мы ўжо больш не можам цярпець!

– Вам здаецца, што дастаткова змяніць грамадзянскія інстытуты. Але вам гэтага не хопіць! – Я ўсё крычаў і крычаў. – Змяніць іх будзе вам мала! Усе інстытуты і ўсе грамадствы дрэнныя. Чытайце газеты. Хіба ёсць добрыя інстытуты? Ёсць добрыя грамадствы? Вайна – гэта свята, вы свята хочаце!.. Ці ведаеце вы, што ў Мексіцы ўсе рэвалю-

 



цыйныя песні вясёлыя? Святы для тых, святы для гэтых, усе мажлівыя рэвалюцыі – святы. Рэвалюцыі за, рэвалюцыі супраць, якія – няважна. Адно б забівалі й давалі сябе забіваць. Я ведаю, што жыцця не існуе. Ведаю, што ў сапраўднасці нічога не існуе. Бачу, што ўсё гэта рухаецца і знішчае адно аднаго. Неіснаванне – рэч крывавая. Мы не жывем. Гэта дзіўна. Усе забіваюць і даюць сябе забіваць, каб давесці, што жыццё існуе. Але жыцця няма, – гаварыў я, – няма нічога, няма нічога, – крычаў я з усяе сілы... Я азірнуўся і заўважыў, што вакол мяне нікога не было. Велізарная пустая плошча. Велізарная плошча ў велізарным горадзе, якая, аднак, здавалася правінцыйнай. А ці бачыў я ўсіх гэтых байцоў рэвалюцыі? Ці бачыў паліцэйскія машыны? Ці бачыў кроў на зямлі? Ці чуў ваенныя і святочныя песні? Куды падзеліся гэтыя монстры? І іхняя весялосць?

Да мяне падышоў стары.

– Тое, што, як вам здалося, вы бачылі, – сказаў ён, – адбылося стагоддзі назад. Гэтая плошча называецца Плошчаю Рэвалюцыі. Будучай, бліжэйшай, верагоднай. Вяртайцеся да сябе. Ужо ёсць іншыя інстытуты, супраць якіх мы збіраемся змагацца. Але не сёння. Можа, заўтра. Быць можа, мы з імі змагаліся ўчора. У мяне ёсць продак, калі ён змагаўся, яму разбілі галаву, другі продак таксама змагаўся, у тым жа месцы. Першы памёр нашмат пазней. У сябе дома памёр. Дома. Кажуць, што яго атруціла жонка. Але ж гэта не інстытуты, гэта ж палітыка.

Падтрымліваючы мяне за локаць, стары давёў мяне да канца плошчы, і я змог выйсці на вуліцу, якая вяла да майго шынка.

Здурэлы ад усяго таго гвалту, што абваліўся на мяне, з душою, поўнай жаху ад убачанае колькасці разбітага шкла ды палеглых целаў, уражаны колькасцю ўдараў, якія людзі нанеслі адныя адным у мяне на вачах, я адчыніў дзверы шынка. У зале нікога ўжо не было, заставалася адна афіцыянтка.

– Дзе кліенты, памешчаныя ў шкляную труну? Загінулі на Рэвалюцыі?

Яна занепакоена паглядзела на мяне:

– Яны паелі, пайшлі, перасварыліся і, можа, дзе-небудзь перабілі адныя адных, яны, можа, вернуцца ўвечары выпіць аперытыву, пагаманіць, паесці. Я не чула гвалту.



 

– Ёсць толькі гэта, аднак ёсць толькі гэта. Паглядзіце, у мяне рукі поўныя крыві, а я нікога не забіў.

– Гэта ж фарба! Вы, напэўна, дакрануліся рукою да свежапафарбаванай сцяны. Дайце мне вашыя рукі, я вытру іх мокрай анучкаю.

Яна паглядзела на мяне са спачуваннем.

– Вы абсалютна не ў сабе, – сказала яна. – У вас нервы не вытрымліваюць.

– Гэта вы абсалютна не ў сабе, раз вы спакойная. Вы не ведаеце, што адбываецца вакол вас. Сам я ведаю пра гэта зусім няшмат, зусім няшмат.

– Вы задужа адзінокі, мсьё.

– Я аточаны людзьмі, я аточаны натоўпам. Натоўпам ці нічым.

Выціраючы мне рукі, яна паўтарала:

– Вы зусім адзінокі, вы сапраўды задужа адзінокі. Вам неабходна жанчына. Калі вы хочаце мяне...

Яна абняла мяне і пацалавала. Ініцыятыва мусіла быць за мною, падумаў я. Але гэта было так соладка. І гэта здавалася такім сапраўдным, такім рэальным.

Яна перабралася да мяне. Ложак быў дастаткова вялікі. Месца хапала. Гэта было вельмі прыемна – бачыць уранку аголеныя жаночыя грудзі, асветленыя сонцам. Часам яе выгляд палохаў мяне. Неяк у мяне была бяссонніца, а яна спала, крыху пасопваючы, кашуля задралася ўверх. Жаночы полавы орган заўсёды здаваўся мне падобным на рану ў нізе жывата. Нешта накшталт багны, прорвы, але болей за ўсё гэта нагадвала адкрытую рану, вялізную, невылечную, глыбокую. Ад выгляду гэтае раны ў мяне заўсёды ўзнікалі жаль і страх: прорва, але, прорва. Я асцярожна накрыў яе. Яна нават не прачнулася. І я зноў пачаў хадзіць па спальні, па кватэры, як самнамбула. Курыў цыгарэту за цыгарэтаю – гэта я, той, хто даўно ўжо перастаў курыць пастаянна, – пакуль не лёг, пераможаны стомаю, як мага далей ад гэтае раны, спрабуючы забыцца пра яе, на краі маёй паловы ложка. Нарэшце я заснуў на правым баку.

Нягледзячы на цяжкую працу ў шынку, яна ўзяла на сябе і ўсю працу па доме, і я развітаўся з пакаёўкаю. Суседзям было неяк лягчэй праз тое, што яны бачылі, што са мною жыве жанчына. Праха-

дзячы паўз мяне, яны весела ўсміхаліся, выгляд у іх цяпер быў спакайнейшы. Цяпер я здаваўся ім больш нармальным, менш дзіўным. Яна падабалася мне, гэтая жанчына, з яе поўнай здароўя ўсмешкаю, нягледзячы на стому, якая выяўлялася ў рысах ейнага твару. Па раніцах яна спявала ў ванным пакоі. Я дык ніколі не спяваў. Нават не пасвістваў. Я стаў здабычаю жорсткага спачування, якое не здавалася мне апраўданым.

Калі я прачынаўся раней за яе, я адчуваў нешта накшталт глыбокае радасці, якую даўно ўжо не адчуваў. Ува мне ажывала вельмі даўняя згадка, паўсветлая, паўзмрочная. Гэта была падзея адначасна дужа далёкая і бясконца блізкая, вельмі дзіўная і вельмі знаёмая, вельмі праўдзівая і непраўдзівая, гэта было... даўно, даўно... І потым яшчэ адна падзея... я не мог згадаць, што далей адбылося. І перад гэтым паўсветлым, паўзмрочным вобразам – нешта падобнае на калаўрот. Часам я пытаўся ў сябе, ці не былі мы, яна і я, асноваю новага свету. Свету адноўленага. Свету без дзіркі й расшчыліны. Свету трывалага, які ўдаўся Богу. Мае вучоныя сябры сказалі мне, што ў Кабале напісана: Бог ужо спрабаваў стварыць Сусвет дваццаць сем разоў. Здаецца, што гэты раз – дваццаць восьмы і што цяпер ужо атрымаецца лепей. Чым яны былі раней, іншыя светастварэнні? І ці ў Яго атрымаецца добрае стварэнне? У мяне такое ўражанне, што Ён ужо адмовіўся ад ідэі добрага стварэння і не замінае нам падаць у прорву "нічога". Мы знаходзімся на ненадзейным востраве і няма ніякае ўпэўненасці ў тым, што ён будзе далучаны да канчатковага сусвету. За гэта шмат што сведчыць. Па раніцах, на золку, калі яна яшчэ спала, пахавальныя працэсіі, фантастычна пахавальныя, з кветкамі й вянкамі з рознымі надпісамі, ішлі ў мяне пад вокнамі – паны ў чорным, з высокімі капелюшамі, і дамы ў жалобных сукенках, прыкрытых вэлюмам.

– Ідзі паглядзі, – аднойчы крыкнуў я ёй, – што робіцца ў нас пад акном.

Яна ўстала, паўсонная, паглядзела, потым вярнулася ў ложак, сказаўшы, што я бачу сны на яве. А потым тыднямі нічога не адбывалася, як уважліва я ні ўглядаўся.

Яна апраналася, хутка мылася, ішла на працу, я не мог адвесці вачэй ад ейных патрэсканых рук. Не спяшаючы выпіваў каву з малаком, якую яна гатавала мне якраз перад тым як пайсці, – я дадаваў

у каву крыху каньяку ці рому, – павольна адзяваўся. Зноў сустракаў яе, як піў у шынку аперытыў, яна была ўся ў працы, уражанне ўзнікала такое, нібыта перада мною – нехта іншы. Потым быў абед. Беспаспяховая спроба пайсці, як яна раіла, пагуляць або пабачыцца з сябрамі. Я намагаўся, але нічога з гэтага не выходзіла, вяртаўся дадому, чакаў, калі настане час вячэрняга аперытыву, час вячэры, час вяртання – ужо ўдваіх – дамоў. Іншым разам яна надакучала сваімі разумнымі парадамі, але рабіла гэта ўсё радзей і радзей – часцей за ўсё мы ўвогуле не размаўлялі. Ішлі пад руку, па нашай вуліцы, падымаліся па лесвіцы, заходзілі ў кватэру. Я няўважліва чытаў газету і, перапоўнены жаданнем ейнага цела, чакаў, пакуль яна распранецца. Потым накідваўся на яе. Каханне было падобнае на кідок у прорву, форму адчаю, спосаб памерці не прымаючы смерць. Пасля мы адразу ж засыналі. Неўзабаве я прачынаўся і працягваў свае блуканні па кватэры, з цыгарэтаю ў руцэ. Мяне агортвала трывога: да якой пары яна будзе трываць такое жыццё, да якой пары? Гэта была здаровая жанчына, яна не магла доўга супраціўляцца таму, што дактары назвалі б неўрастэніяй.

Час ад часу я казаў сабе, што трэба прапанаваць ёй пакінуць працу. А потым адмаўляўся ад гэтае думкі. Зрэшты, яна на гэта і не разлічвала, хоць мне было на што яе ўтрымліваць. Аднак я не быў упэўнены ў тым, што мы маглі б стаць новай Еваю і новым Адамам. Які кон! Ад яго ўсведамлення я пачынаў думаць пра сябе як пра новага Атланта. Я трымаў бы строп неба цягам доўгіх стагоддзяў. А вось думка пра тое, каб узнагародзіць Каіна, кідала мяне ў паніку. Якая вар'яцкая ідэя, казаў я сабе ў кепскім гуморы, хацець усё зноў пачаць, якраз у той момант, калі мы падышлі да самага канца і калі так лёгка было ўсё скончыць. Была таксама і спагада да тых, хто мог бы нарадзіцца, жыць, але так і не з'явіўся на свет. Столькі прыгодаў, столькі любоўных сувязяў, столькі ўсяго featuresрознага магло б у нас быць, калі б мы былі больш уважлівыя, умелі жыць і пранікацца паўнатою імгнення. Зрэшты, усё гэта было толькі літаратураю. Успамінамі, якія вынікалі з майго дзіцячага чытання павучальнага характару.

Прысутнасць афіцыянткі была ў гэты момант мне бясконца карысная. Калі я глядзеў на яе парэпаныя рукі, рабілася балюча, бо калі б яна даглядала іх хоць крыху, то яны былі б вельмі прыгожыя.

# Яны

Яна была прыгожая, мініяцюрная: доўгія вейкі, пекныя чорныя вочы, трохі застыглы твар. Яна будзе ўвесь час побач, усё жыццё, да канца, ужо сагнутая, а я шкандыбаю, абапіраючыся на кавеньку, – уяўленае гэтае відовішча жахала мяне. Каб убачыць яго, дастаткова было паглядзець у акно. Па вуліцы праходзілі сотні старых людзей, з кавенькамі й сагнутых. Яны дзесьці неўзабаве зхаўрусуюцца? Згадваю адзін мітынг старых людзей. Хэкаючы, яны казалі, што жыццё цудоўнае, адно патрабавалі павелічэння пенсій ды вяртання да працы. Я быў больш стары, чым яны.

Думка пра тое, што я магу даць афіцыянтцы лепшае жыццё, змешвалася з усімі гэтымі думкамі. Што рабіць? Усё ж ішло добра да апошняга часу, хутчэй не добра, а няблага. Заўтра паглядзім. І яна, і я, мы, мажліва, вельмі хутка памрэм. Яна, напэўна, хутчэй. Мяне пагружала ў трывогу думка пра няшчасны выпадак, і я доўга пераміnaўся на месцы, ахоплены сумненнямі, перш чым перайсці вуліцу.

Калі яна прачнулася, я, з усмешкаю на ўвесь твар і вельмі шляхетна, сказаў ёй:

– Вось ужо досыць даўно я хацеў табе сказаць, што ў мяне дастаткова грошай, каб ты больш не хадзіла на працу. Ты ж ведаеш, у мяне дастаткова грошай.

Яна адказала, што чакала такой маёй прапановы ўжо даўно, ад самага пачатку нашага сумеснага жыцця. Але цяпер яна вагаецца, як вагаўся я сам. Ёй здаецца, гэта цяжка – жыць з неўрастэнікам. Займацца мною, суцяшаць мяне ўвесь час – гэта было нялёгка, вельмі нялёгка. Хтосьці паабяцаў ёй іншую працу, нават больш – гэты хтосьці падабаўся ёй.

– Ты дужа хочаш пакінуць мяне? Хутка?

Мяне ахапіў вялікі, горкі жаль. З ёю я жыў хоць у нейкай згодзе з самім сабою – і вось зараз гэтага не стане. Лёс хацеў мне дапамагчы, і наканаванне пасылала сваіх анёлаў, якіх я адштурхоўваў альбо не заўважаў. Усюды поўна фантанаў жыцця – у садах, на вуліцах, якіх я не бачыў. Яны там павінны быць, вядома. Калі я выйшаў з дому, то раскінуў рукі, каб не прайсці выпадкова міма аднаго з іх. Надвор'е было сухое, ані кроплі дажджу. Прахожыя праклiналі мяне. Аднак я працягваў ісці вось так вось, у палымянай надзеі злавіць жыццё і ў адчаі ад таго, што буду неўзабаве пакінуты. Жыць з неўрастэнікам – гэта цяжэй за самую цяжкую працу, стаялі ў мяне ў

вушах прамоўленыя ёю словы. Калі я прыйшоў у шынок, яна ўсё яшчэ была там і абслугоўвала наведнікаў. Выгляд у яе быў такі, быццам у яе нічога і не здарылася. Мне здавалася, што я жыў двайным жыццём: з аднаго боку, яно мацавалася вечнаю штодзённасцю, з другога – скочвалася ў велізарную яміну. Пасля абеду я чакаў, што мы, як зазвычай, пойдзем разам дамоў, але яна нічога мне не казала. Ейны твар змяніўся, гэта быў твар статуі, у выразе якога застыла таямніца. Адзін кліент распавёў мне, што яна пакідае ўстанову. Гэтым вечарам мы не сказалі больш адно аднаму ані слова. А я чакаў – хоць бы аднаго слова, хоць бы аднаго позірку!

Назаўтра яна аб’явіла мне падчас сняданку, што сыходзіць. Я прабавіў вельмі кепскую ноч: першую яе палову ўвогуле не спаў, другую мяне мучылі кашмары. Так што стан мой акурат падыходзіў пад пачутую навіну. І сон бачыў, што свет уцякаў у мяне з пад ног, і так імкліва, што я быў змушаны, задыхаючыся, бегчы за ім наўздагон, каб дагнаць яго. Я апынуўся на пешаходных мастках над прорваю, чапляўся за парэнчы – але падаў на калючыя кусты, пад якімі мяне чакалі драпежныя зверы.

– Мне дужа цяжка чуць пра гэта, – урэшце ледзь вымавіў я.

– Мне таксама вельмі цяжка, што я раблю табе балюча. Ты нічога не казаў мне. Ты патанаў у сваіх думках. Я нават не ведаю, ці былі гэта думкі, я хачу сказаць – думкі, як у нас. Ты не вар’ят і, тым не менш, ствараеш уражанне вар’ята.

– Гэта таму, што я маю рацыю... Таму, што я бачу і ведаю. Як табе растлумачыць? Ты ніколі не дзівілася, што была ў шынку, ці на вуліцы, ці перада мною? Ты не знаходзіш нічога дзіўнага ва ўсім гэтым? Ва ўсім гэтым, – сказаў я, падымаючы рукі.

– Бачыш, мы ж не аднолькава ўладкаваныя. І глядзім на рэчы не аднолькава.

Я сядзеў у фатэлі, нібыта паралізаваны. Глядзеў, як яна збірае рэчы. Адну валізу, другую. Чуў, як яна ляпнула дзверкаю шафы ў далёкім пакоі, потым вярнулася, нешта паклала ў валізу – рабіла яна гэта, як мне здалося, з абыякавым выглядам. Нарэшце яна сказала мне:

– Мне цяжка было рашыцца. Але ты залішне... залішне ўжо такі. Я думала, што са мною твая хвароба пройдзе.

– Якая хвароба?

– Я цябе кахаю, так, я цябе па-ранейшаму кахаю. Але я не магла ўжо больш трываць тваё маўчанне, твой твар, твае вочы напалоханай малпачкі. І потым, усё мае свой канец.

Я знёс валізы ўніз. Спыніў таксоўку. Спытаўся ў яе напаследак:

– Хто будзе абслугоўваць мяне ў шынку?

– Новая афіцыянтка. Я гаварыла з ёю пра цябе. Ты ўбачыш, яна жанчына выхаваная. Я паказала ёй твой столік.

Я падумаў, што ніколі больш не змагу зайсці ў гэты шынок, што трэба будзе знайсці нейкі іншы ці нават перасяліцца, але гэта ўжо цяжэй.

Яна пацалавала – вусны ледзьве кранулі мяне – і пайшла.

Гэта цікаўна. Усё роўна як частка свету раптоўна абрынулася ў прорву. Чым сталіся велізарныя натоўпы, старажытныя храмы, уся гэтая безліч пражытых лёсаў? Усё грымнулася. Але ўсё гэта мусіла застацца недзе, мажліва, гэта можна было адшукаць, мы пра тое анічога не ведаем, мы зусім нічога не ведаем.

Я знаходзіўся на мяжы свету. Перада мною была бяздонная адтуліна вечна існага. За мною было ўсё створанае. Сусвет быў за маёй спінаю, ён падштурхоўваў мяне да прорвы ўсёй сваёю вагою. Галава ідзе кругам! Я хацеў быў адступіцца. Залішне страшна рухацца. Крок наперад, падзенне, я быў бы збіты, паглынуты, раствораны ў "нічым". Я заплюшчыў вочы, гэта толькі павялічыла галавакружэнне і спазмы ванітаў. Космас штурхаўся. Гэты свет быў задужа цяжкі і таму разваліваўся? У любы момант ён мог знікнуць. Ці раздушыць мяне сваім цяжарам. Паміж паўнатою і пустатою я грымнуўся на ходнік.

Мне дапамаглі ўстаць. На вуліцы былі ўсё тыя ж прахожыя, усё тыя ж дамы. Я адчуў цвёрдую руку маладога чалавека. Ён існаваў, я існаваў.

– Усё на месцы, – сказаў я, – гэта дзіўна, мсьё, усё на месцы, дзякуй, што дапамаглі мне.

– Так было заўсёды і будзе заўсёды. Няма чаго баяцца.

– І праўда, баяцца няма чаго.

Зямля пад нагамі была цвёрдая. Упэўненасць маладога чалавека перадалася мне. Мае нерашучыя крокі зрабіліся больш упэўненыя. Так ужо было лепей. Праз некалькі імгненняў з'явілася штосьці на-

кшталт пачуцця радасці. Можа, нічога і не страчана, можа, нічога і не страціцца. Можа, час у сваім руху змяшаецца з вечнасцю. Зрабіўшы колькі крокаў, я дакрануўся да сценаў, каб адчуць іхнюю трывалую, уфармаваную рэальнасць. Можа, тое, што існуе, ідэнтыфікуецца з тым, што ёсць. Можа, усё гэта, увесь свет, – суцэльная рэальнасць, альбо – заслона абсалютнае рэальнасці. Простая заслона, за якою тая хаваецца. Мільярды вобразаў, галасоў, сінхронных альбо разбэрсаных, – усё гэта падтрымліваецца, мажліва, нерухомым фундаментальным подам. Такое можа быць. Я адчайна хацеў, каб так было. Мне сапраўды не хапала чагосьці істотнага. Я не быў такі, як іншыя. Ці гэта было толькі хваробай, уяўленнямі нездаровага розуму? Іншыя спакойна ішлі за мною, перада мною, побач са мною; можа, яны ведалі інтуітыўна тое, чаго не ведаў я? Я адзін быў пад уладаю панікі, панікі пастаяннай, яна прыгнятала мяне дзень пры дні, гадзіна за гадзінаю, хвіліна за хвілінаю, гэта быў кашмар, але я прачынаўся, знаходзіў рэальнасць таго, што не рухаецца, – ззаду таго, што рухаецца.

Нейкія істоты ішлі, сутыкаліся са мною, глядзелі на мяне – можа, гэта былі цені з вачыма? Іхнія позіркі жахалі ці супакойвалі. І яны ўсё ішлі і ішлі, ішлі і ішлі...

Я скіраваўся ў шынок. Сеў за свой столік. Дзіўна, але нягледзячы на ўсё, што здарылася, шынок мяне супакоіў. Новая афіцыянтка, усміхаючыся, прынесла выпіць.

Раптам на мяне навеяла смутак думка пра тое, што мая афіцыянтка пайшла ад мяне і я зноў застаўся адзін. У той момант, калі таксоўка, адвозячы яе, кранулася з месца, я быў напалову знепрытомнены, усё роўна як аглушаны. Цяпер я цалкам усведамляў: яна пайшла. А ці быў ён – той час, калі яна была са мною? Ці можна іх утрымаць – тыя імгненні? Ці сапраўдныя ўсе тыя вобразы, ці праўдзівыя ўсе гэтыя ўспаміны? Я не быў зусім упэўнены ў тым, да чаго мог дакранацца памяццю; тое, што я пражыў, было рэальнасцю ці нараджалася фантазіяй? Але і ў тым і ў іншым выпадку гэтага больш няма. Яго, мажліва, і не было. Як мне ўпэўніцца ў тым, што ўсе гэтыя згадкі не былі снамі, фантазіямі? Усё гэта дым, нават не дым, а пара. Час знішчыць гэтыя вобразы ў забыцці. Гэтага больш не было, гэтага больш не было. Гэта было нічым. Нічога не было.

– Яна была вашай сяброўкаю, ці ж не так? – спытаўся я ў новай афіцыянткі.

– Так. Яна будзе даваць аб сабе знаць, можаце быць упэўненым.

Яшчэ да таго, як яна прынесла закуску, я выпіў усё віно. І замовіў яшчэ. Як заўсёды, глядзеў на рух на вуліцы. Усяго гэтага больш не будзе. Як можа быць так, што ўсё, што існавала, больш не існуе? Дзе ж яно тады было? Куды ж тады знікла? Што яго пагльнула? Яно ж мусіць недзе заставацца. Бо тое, што было, калі яно было, не магло знікнуць зусім. І гэтага, што ёсць цяпер, больш ужо не было, так, ці што? Прасоўваючыся ў часе, я пакідаў усё ззаду. Калі я азіраўся, каб агледзець дарогу з вышыні цяперашчыны, то бачыў усяго толькі туман. Можа, прайшоўшы назад па сваіх слядах, зрабіўшы зваротную дарогу, змог бы зноў дакрануцца да таго, што было, адчуць тое, што было. На жаль, гэта немажліва, і таму мінулыя вобразы пакрысе распушаюцца, як быццам іх і не было. Хто можа пацвердзіць, што ўсё тое было? Мінулае – смерць без трупа. Яно было аднойчы... Аднойчы.

Цяпер я зноў збіраўся быць самотным. Я адчуў цяжар сваёй няўдачы. Я шмат выпіў. Заплаціў па рахунку, узняўся, развітаўся з новай афіцыянткаю, пайшоў направа, абагнуў рог, прамінуў вуліцу, увайшоў у свой дом, паздароўкаўся з кансьержкаю. Яна бачыла, што мая жанчына з'ехала. Яна не ўсміхалася мне. Мусібыць, думала, што калі ад мяне сышла жанчына, то гэта мая віна. Што я ненармальны. Яна хацела, можа, ведаць пра гэта больш, я мог бы ёй распавесці. Растлумачыў бы ёй усё. Але я не стаў гэтага рабіць, узняўся па лесвіцы. Нейкі час стаяў у нерашучасці перад дзвярыма ў кватэру, з ключом у руцэ. Суседка па лесвічнай пляцоўцы выйшла са сваім сабачкам. Я вырашыў адчыніць дзверы. Афіцыянтка забылася адну сваю туфлю. Туфля была там, у цёмным калідоры. След. Ён быў тут. Яна жыла тут. Адзіная рэч з усяго, што было, якую можна было памацаць. Як можа так адбывацца, што сапраўднае робіцца мінулым? Што такое час? Пастаўшчык "нічога". Усё павінна было б нараджацца сапраўдным і назаўсёды непарушным. Я ўзяў туфлю ў руку. Гэта была сведка. Я зняў паліто, капялюш, павесіў іх на вешалку ў цёмным калідоры, сеў у фатэль, каля акна. Мая кватэра была пустэльняю, такой самай вялізнай, як і свет. Яна, суседка, вядома, выйшла дзеля некага, яна збіралася кагосьці сустрэць. Я зноў адчуў штосьці непрыемнае, падобнае на рэўнасць. Як гэта дзіўна. Ці быў я напраўду прывязаны да яе? Але, вядома. Значыцца, у

мяне былі сувязі з сусветам. Ад гэтае думкі я адчуў задавальненне.

Пасля доўгага зацішша аднавіліся ваенныя дзеянні. Нейкі час бітва адбывалася на плошчы, досыць далёкай ад маёй вуліцы. Аднак жыхары квартала ў ёй, верагодна, удзельнічалі. Нешматлікія, можа, два ці тры. Я бачыў аднаго ў прыщемках, з перавязанай галавою. Аднойчы ўдзень, палуднуючы ў шынку, угледзеў другога – гэты прыйшоў са стрэльбаю на плячы. Большасць кліентаў амаль не звярнулі на яго ўвагі й працягвалі палуднаваць. Але некаторыя сабраліся вакол яго каля стойкі. Ён замовіў анісавы лікёр. Тыя, што падышлі да яго, зрабілі тое ж самае. Ён прыйшоў з бітвы. Гаварыў гучна. На яго глядзелі, яго з пачцівасцю слухалі. Ён тлумачыў, чаму ён бярэ ва ўсім гэтым удзел, і ягоныя тлумачэнні здаліся мне слушнымі. Я ж таксама не быў згодны з уладкаваннем свету. Ён гаварыў пра грамадства. І багата жэстыкуляваў. Ён быў узбуджаны і чым больш гаварыў, тым больш узбуджаўся. Тыя, што сабраліся вакол яго, пяцёра мужчын і жанчына, ківалі галовамі ў знак згоды. Жанчына, маленькая, худзенькая, нервовая, смуглявая і чорнавалосая, казала, што з гэтым трэба канчаць.

– На шчасце, ёсць яшчэ мужчыны! – крычала яна, паварочваючыся да людзей за столікамі.

Тыя альбо не чулі яе альбо рабілі выгляд, што не чуюць. Сярод тых, што сабраліся каля стойкі, было двое рабочых у спяцоўках. Двое іншых, сярэдняга ўзросту, былі, верагодна, дробнымі службоўцамі. Адзін з іх прымаў удзел у рэвалюцыі, як я зразумеў – у Сардзініі. Пяты, маленькі стары чалавечак, з сівой бародкаю, у маладосці быў анархістам. Ён казаў, што нельга дазваляць такое.

– У мой час, – дадаваў ён, – у мой час...

– Але, – пацвярджаў чалавек са стрэльбаю, – цяпер або ніколі...

– Цяпер ім дадуць зразумець...

– Патрэбныя змены, – сказаў адзін з рабочых, глытком дапіўшы астатні лікёр.

Гаспадар шынка прапанаваў ім усім яшчэ лікёры, і яны не адмовіліся.

– Так не можа больш працягвацца, – усклікнуў чалавек са стрэльбаю.

Я таксама думаў, што так больш працягвацца не можа.

– З такімі хлопцамі, як вы... – сказаў адзін са службоўцаў.

– Трэба ісці да канца, – сказаў анархіст. – Мне б вашы гады!

– Краіна абібокаў... – працягваў чалавек са стрэльбай.

– Па горла ўжо сытыя, – сказала жанчына.

– Але, па-другому не скажаш... Яны заслугоўваюць адно пагарды.

– Пагарды замала.

– З гэтым трэба канчаць.

– Яны будуць ліквідаваныя, – сказаў чалавек са стрэльбай, – так будзе лепей свету.

– Праўда.

– Нашая справа справядлівая, – сказаў чалавек са стрэльбай. – Праўда цяжкая, яны гэта зразумеюць.

– Усе тыя, хто патануў у распусце ды несправядлівасці...

– Гэта людзі, якія не ўсведамляюць таго, што яны робяць.

– Так ужо і не ўсведамляюць!

Чалавек са стрэльбай павярнуўся да столікаў. У мяне было такое ўражанне, што ён глядзіць акурат на мяне. Ён разявіў рот. Я не ведаў, куды падзецца. Потым пачуў:

– Ад усяго гэтага адчуваеш голад. У мяне скрыгоча ў жываце.

Стары з сівой бародкаю прапанаваў яму папалуднаваць у шынку з ім ды пяццю астатнімі, што сабраліся вакол яго. Павярнуўшыся да іх, чалавек са стрэльбаю адмовіўся.

– Гэта было б мне прыемна, – сказаў ён, – але мяне чакае на абед жонка. Не хачу, каб яна непакоілася. І потым, трэба крыху адпачыць. А трэцяй гадзіне я мушу вярнуцца на барыкады.

Ён узняў руку ў вітальным жэсце і ўсклікнуў:

– Далоў лягавых!

– Далоў лягавых! – адгукнуліся тыя, што былі ля яго.

Чалавек са стрэльбаю накіраваўся да выхаду, пяцёра мужчын і жанчына праводзілі яго поглядам.

Я бачыў, як ён ішоў па вуліцы з раз’юшаным выглядам. Гурт рассеяўся, адныя селі за столік, іншыя выйшлі.

Адчуваў я сябе няёмка. Трэба нешта рабіць, падумаў я не дужа ўпэўнена.

– Шкляначку каньяку, – сказаў я афіцыянтцы.

*Заканчэнне будзе.*

**Пераклаў з французскай**

**Алесь АСТАШОНАК.**

# З ПРАМОВЫ ГУРУ Ў БЕЛЫМ АДЗЕННІ

На траекторыях палётаў, на жаль,
няма дарожных знакаў,
І пры сустрэчах невядома,
каму там саступаць дарогу,
Анёлы, як міліцыянты,
паветраным кіруюць статкам,
І накіроўваюць адказна "машыны"
ў пекла і да Бога.

Ніхто з вандроўнікаў не ў стане
даведацца, што іх чакае:
Жыццё ці смерць, а мо кар'ера...
у інстытуцыях астрала.
Маланкі грымнуць як мігалкі –
то пэўна некага шукаюць:
Злачынцу, можа патрыёта,
які пасля героем стане.

Вось небяспека медытацый: цябе тут
могуць з некім зблытаць
(Сярод нябожчыкаў лунае душа
нахабная, жывая),
Калі ў чысцец пашэнціць трапіць,
не спадзявайся ўжо на літасць,
Назад дашлюць – зноў у вар'ятню,
такая санкцыя штрафная.

# СТОД

Прашу даравацъ мне, кветкі,
За тое, што не магу вас любіць.
Добрыя праменьчыкі
вашых шчырых твараў
Нясуць любоў,
Якая не знаходзіць водгуку ў
Маім сэрцы.
Я стаю пасярод поля, і
Не магу зварухнуцца:
Не магу ісці далей, бо
Наступлю на кветку,
Не магу стаяць,
Бо заціскаю будучыню
Падэшвамі ног.
Не магу лятаць, бо
Такога не бывае.
Зайздрошчу Сізіфу, у
Якога быў толькі адзін
Камень, бо
У мяне бясконцае поле кветак.
Маё сэрца з камня,
Таму не маю надзеі
Стаць для вас глебай.

# ПАРАНОЙЯ

Сярод канструкцый безумоўных,
транснедавызнаных сістэм
блукае думка бестурботна,
шукае вечнасці татэм.

Прастора разлілася ў часе,
вакол пануе рытуал,

які ўсё роўна не адзначыць
сапраўдных ісцін карнавал.

Інтракасмічнасць падарожжаў
дае надзею на нябыт,
што надыходзіць асцярожна,
каб перайначыць тлумны быт.

## З НАГОДЫ ДНЮ ТРАНСПАРТНІКА

На жаль, нікуды не падзецца
З чароўнае падводнай лодкі,
Сядзяць дарослыя і дзеткі,
З пачуццяў маюць толькі дотык.

Тут прамаўляе выкшталцона
Прарок біялагічнай масе
Пра тое, што Зямля і Сонца
Усім падораць радасць, шчасце.

Ды не паверыць усё роўна
Слухач плюральна-маналітны,
Што акрамя загадаў тронных
Ёсць усяўладная малітва.

## ПАТАЕМНАЕ...

У шчылінках паміж паперай і
чарнільнымі плямкамі літар
існуе літаратура.
Яна там надзейна схавалася ад
нядобразычлівых позіркаў.

Алесь ТУРОВІЧ

# ПАСЛЯ СВЯТА

Ужо нічым не званітуеш,
калі застаўся чысты страўнік,
але жыве яшчэ надзея,
што сутаргі народзяць Свет.

# АЎТАМАТЫЧНАЕ ПІСЬМО

*(медытатыўна-рэалістычны верш)*

Дваццаць другое студзеня
тысяча дзевяцьсот дзевяноста восьмага года
адзінаццаць гадзін пяцьдзесят хвілін дзесяць секунд

Дваццаць другое студзеня
тысяча дзевяцьсот восьмага года
адзінаццаць гадзін пяцьдзесят хвілін сорак секунд

Дваццаць другое студзеня
тысяча дзевяцьсот дзевяноста восьмага года
адзінаццаць гадзін пяцьдзесят адна хвіліна дваццаць секунд

Дваццаць другое студзеня
тысяча дзевяцьсот дзевяноста восьмага года
адзінаццаць гадзін пяцьдзесят адна хвіліна пяцьдзесят секунд

Дваццаць другое студзеня
тысяча дзевяцьсот дзевяноста восьмага года
адзінаццаць гадзін пяцьдзесят дзве хвіліны трыццаць секунд...

Дваццаць другое студзеня

тысяча дзевяцьсот дзевяноста восьмага года
пяць хвілін на першую...

Апраметная...

Нірвана...

Нарэшце піва прывезлі!

## ЭКЗІСТЭНЦЫЯЛЬНАЕ

*(Зварот да ваяра)*

Бескампрамісная,
крывавая ідзе вайна
У змрочных лабірынтах сутарэнняў.
Сакрэты свету трэба зноў
усе спазнаць,
Блукаючы ў бясконцых паўтарэннях.

Адзінае, звычайнае жаданне
проста жыць,
Бо за табой палююць прывіды і здані,
Ніводнага з іх нельга прапусціць,
*Забіць цябе* – такое ў іх заданне.

Але заўсёды маеш ты надзею-цуд —
Упэўненасць грунтоўную
ў сваё бяссмерце,
Бо дастаткова клавішу
націснуць тут —
Гульня закончыцца, і апынешся
ў гэтым свеце.

Магічных заклінанняў
бессэнсоўны тлум
Змяніла простая надзея:
“LOAD” і “SAVE”.
Ды толькі як вярнуцца зноў
у QUAKE і DOOM,

На што націснуць,
каб “запомніць” гэты свет?

## СУСТРЭЧА СА СВАІМ КАТАМ...

Пераблытаны ролі, і незразумела,
Хто быў катам, а хто быў героем.
Мы за півам сядзім,
дык успомнім падзеі,
У якіх быццам былі з табою.

Тэхналогію болю, методыку гвалту
Мы прайшлі ў адным памяшканні,
Выпадкова завіслі між Богам
і малпай,
Можа, ты, можа,
я выбівалі прызнанні.

Нехта злыдзень,
а некаму зноў ставяць помнік,
Усё роўна агульная карма,
Катам здзейснены быў неўзаважаны
подзвіг:
Упісаў у гісторыю сябра.

## РЫСЫ І РЭЗЫ

Да ўсходу сонца пакланюся дарозе,
Каб з асфальта падняць Фецкі дыск.
Гэты медальён згубіла
Параненая белая рысь.

Буду асцярожна яго трымаць
Пад час ранішняга шпацыру,
Каб не згубіць ніводнай кроплі расы.

## СЛЯЗА

Сляза дзіцяці,
Якое даруе боль,
Вяртае свет у Эдэм.
Касмічныя катастрофы,
Звышновыя зоры і чорныя дзіры
Заключаны ў арбіты
Вакол адной слязы.
Калі прыплывеш на Тытаніку ў
Атлантыду,
Успамін пра слязу
Зробіць непатрэбным Звон.

## МЕТАДАЛАГІЧНАЕ

Каб зразумець забыты тэкст,
Мне цяжка разабраць свой почырк,
Пад час чытання новы змест
Сароміць стомленыя вочы.

Бо паўтараў ізноў лухту,
Якая цягнецца стагоддзі,
Ніяк не скончыцца уступ...
Няма пачатку ў карагодзе.

Часоў утульная смуга
Хавае вір былых пакутаў,
І тчэ забыўшыся рука
Замест арнаменту апуку.

# "Наша Ніва"

*Гісторыю, у тым ліку гісторыю культуры, робяць людзі. Асобныя з іх набываюць значэнне знакавых постацяў (знак заўсёды нешта абазначае: эпоху, ідэалогію, стыль, школу, напрамак). Пра такіх людзей "Крыніца" публікуе матэрыялы ў рубрыках "Я" (дзеячы айчыннай культуры), "Ты" (нашы сучаснікі) і "Ён(Яна)" (дзеячы замежнай культуры).*

*Любая асоба, тым больш знакавая постаць, – унікальная з'ява. З'явамі становяцца і створаныя імі вершы, раманы, трактаты, эсэ... Гэтыя творы неаддзельныя ад асоб творцаў, ператвараюцца ў іх істотныя адзнакі. І тады імя "Імануіл Кант" прачытваецца ў імені "Крытыка чыстага розуму", імя "Янка Купала" – у імені "Курган", імя "Жан-Поль Сартр" – у імені "Словы"... Ёсць тэатр Станіслаўскага і тэатр Меерхольда, тэатр Брэхта і "Чорны квадрат" Малевіча... Але ёсць з'явы духоўнае культуры, аўтарства якіх як бы няпэўнае, зборнае. Старажытнагрэцкі тэатр і тэатр Но, рэалізм і імпрэсіянізм, сімвалізм і імажынізм, "Маладняк" і "Узвышша"... Хто твярыў "Современник"? Аляксандр Пушкін, Мікалай Някрасаў ці й тыя аўтары, якія прыносілі й прысылалі ў рэдакцыю свае творы? Хто рабіў "Калосьсе" ў Заходняй Беларусі, "Tworczosc" у Польшчы? Творцаў шмат. Кожная з гэтых з'яў культуры, маючы індывідуальнае аблічча, як сацыяльны інстытут, сацыяльная група валодае безасабоваю формаю. Ніводная з гэтых з'яў не можа быць утаясамлена з біяграфіямі іх творцаў, бо кожная з іх мае індывідуальную біяграфію.*

*Кожнае новае пакаленне бачыць сябе на вастрыі гісторыі, атаясамлівае сябе з самым сучасным і прагрэсіўным. Але няма нічога новага пад месяцам, бо ва ўсім новым ёсць хоць кропелька старога – таго, што было да нас, што ўсвядомлена ці не ўсвядомлена стала НАШЫМ, задало парадыгму развіцця нацыянальнай культуры і ў той ці іншай ступені адлюстроўвае своеасаблівасць нацыянальнага менталітэту. Да нас, сучасных і авангардных, постмадэрных і постсавецкіх, былі з'явы, якія не абмінеш. Былі "Наша Доля" і "Наша Ніва", выдавецкая суполка "Загляне сонца і ў наша ваконца" і Першая беларуская трупа Ігната Буйніцкага... Вось такім з'явам і прысвячаецца рубрыка НАША.*

 





**1906** – улетку адбылася канферэнцыя Беларускай сацыялістычнай Грамады, якая па прапанове сябра Цэнтральнага Камітэта партыі Івана Луцкевіча вырашыла выдаваць легальную беларускую газету; 1 верасня 10-тысячным тыражом (6000 кірыліцай для праваслаўных і 4000 лацінкай для каталікоў) выйшаў першы нумар газеты "Наша Доля"; у вёскі адпраўлена 5000 асобнікаў, у Вільні прададзена 3000, яшчэ 2000 асобнікаў канфіскавала паліцыя; рэдактарам-выдаўцом першых чатырох нумароў быў Іван Тукеркес, фактычна газету рэдагавалі Іван Луцкевіч і яго брат, у будучым Старшыня Рады Міністраў і міністр замежных спраў Беларускай Народнай Рэспублікі Антон Луцкевіч, а таксама Цётка і Карусь Каганец; трэці нумар канфіскаваны амаль цалкам, на руках у рэдактараў засталіся лічаныя асобнікі; афіцыйным рэдактарам з 5-га нумара стаў Антон Гедвіла; паліцыя не спыняла канфіскацый радыкальнай газеты; 1 снежня выйшаў апошні (6-ты) нумар "Нашай Долі"; 10 лістапада беларускія сацыялісты пачалі выпускаць штотыднёвую газету "Наша Ніва" (рэдактар-выдавец – З.Вольскі); газету друкавалі кірыліцай і лацінкай; з 8 снежня як рэдактар-выдавец "Нашу Ніву" падпісваў Аляксандр Уласаў.

**1907** – з пачатку мая да 22 чэрвеня літаратурным аддзелам газеты загадваў Якуб Колас, звольнены з працы за арганізацыю нелегальнага з‘езду Таварыства беларускіх настаўнікаў; пакінуўшы Вільню па патрабаванні паліцыі, ён 1 верасня вярнуўся ў рэдакцыю з дазволам на пражыванне ў горадзе; нумары 12—14 канфіскаваны паліцыяй; у чэрвені Віленская судовая палата пачала пераслед Аляксандра Уласава за матэрыялы, змешчаныя ў 8-м, 9-м і 12-м нумарах газеты; на рэдакцыю



 

накладваюць штрафы; заснавана выдавецтва "Нашай Нівы", якое працавала да 1913 г. і сярод кніжных пазіцый якога "Песні жальбы" Якуба Коласа, "А хто там ідзе?" Янкі Купалы з нотамі (1910), "Беларускія казкі", два "Зборнікі "Нашай Нівы" з творамі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Канстанцыі Буйло, Змітрака Бядулі, Алеся Гаруна, Цішкі Гартнага ды іншых аўтараў (1912), "Вянок" Максіма Багдановіча (1913).

**1908** – на пачатку года Якуб Колас выехаў у Сенненскі павет, дзе працаваў настаўнікам у прыватнай беларускай школе, заснаванай блізкаю да "Нашай Нівы" памешчыцай і мецэнаткай Тэрэзай Гардзялкоўскай; супрацоўнікам рэдакцыі стаў Ядвігін Ш.; у верасні Якуб Колас асуджаны на тры гады зняволення, браты Луцкевічы запрасілі ў Вільню Янку Купалу, які спалучаў працу ў газеце са службай на пасадзе памочніка біблятэкара ў біблятэцы-чытальні "Знание" Барыса Даніловіча; 15 снежня заснавана выдавецкая суполка "Наша Хата", кіраўнікамі якой былі Іван Луцкевіч, Барыс Даніловіч і Аляксандр Уласаў (праіснавала да 1911 г., выдала "Тараса на Парнасе", два зборнікі прозы Ядвігіна Ш., "Дым" Марыі Канапніцкай, "Архіпа і Лявонку" Максіма Горкага, "Гэдалі" Элізы Ажэшкі, а разам з пецярбургскай выдавецкай суполкай "Загляне сонца і ў наша ваконца" – "Другое чытанне для дзяцей беларусаў" Якуба Коласа).

**1909** – супрацоўнікамі рэдакцыі сталі Сяргей Палуян і будучы Старшыня Часовага работніцка-сялянскага ўрада Савецкай Беларусі Зміцер Жылуновіч (Цішка Гартны), абодва працавалі да 1910 г.; пасаду сакратара рэдакцыі заняў будучы Старшыня Рады Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі Вацлаў Ластоўскі; у канцы года выдавецтва "Нашай Нівы" выпусціла "Першы беларускі каляндар "Нашай Нівы" на 1910 год"; календары "Нашай Нівы" выпускаліся і ў наступныя гады, яны былі ўзнагароджаныя срэбным медалём на Быхаўскай сельскагаспадарчай выставе 1911 г., дыпломамі – на сельскагаспадарчых выставах у Лепелі (1912), Гарадку і Глыбокім (1913), а іх тыраж даходзіў да 6000 асобнікаў; вядомы рускі славіст Аляксандр Пагодзін пісаў: "Нашым выдаўцам календароў для народа варта было б звярнуць увагу на штогоднія календары, якія выпускае "Наша Ніва". Гэтыя календары праводзяць сапраўдную культурную працу"; афармляў першы каляндар малады мастак Язэп Драздовіч.

**1910** – 12 лютага дзеячы "Нашай Нівы" наладзілі ў Віленскім клубе чыгуначнікаў першую беларускую вечарынку, каля тысячы гледачоў глядзелі спектакль "Па рэвізіі" паводле п`есы М.Крапіўніц-

кага (рэжысёр Францішак Аляхновіч), народныя танцы ў выкананні Першай беларускай трупы Ігната Буйніцкага, слухалі хор пад кіраўніцтвам Людаміра Рагоўскага, аўтара музыкі да верша "А хто там ідзе?", і вершы; пакладзены пачатак беларускім вечарынкам, якія з 1910 па 1915 г. праводзіліся ў Гродне, Давыд-Гарадку, Даўгінаве, Дзісне, Глыбокім, Карэлічах, Капылі, Радашковічах, Слуцку і іншых гарадах і мястэчках; 22 лютага адбыўся этнаграфічны вечар-канцэрт; выравшана заснаваць Беларускі музычна-драматычны гурток; цягам амаль усяго года "Наша Ніва" друкавала "Кароткую гісторыю Беларусі" Вацлава Ластоўскага – першую працу такога кшталту, напісаную беларусам па-беларуску (выдадзена таксама асобнай кніжкай); Аляксандр Уласаў за публікацыю артыкулаў, што пабуджаюць на "звяржэнне існуючага ў дзяржаве грамадскага ладу", быў асуджаны на двухмесячнае зняволенне, пакаранне адбываў у Бабруйскай крэпасці.

**1911** – 9 траўня адбыўся сход Беларускага музычна-драматычнага гуртка (БМДГ), які праіснаваў да 1916 г.; першым старшынёю БМДГ абраны Барыс Даніловіч, а таварышам старшыні – Вацлаў Ластоўскі; у таварыства ўваходзілі, у прыватнасці, будучы народны артыст Беларусі Генрых Грыгоніс і Часлаў Родзевіч; па запрашэнні рэдакцыі "Нашай Нівы" ў Беларусь прыехаў Максім Багдановіч; у Вільні паэт агледзеў калекцыю Івана Луцкевіча, якая стала асноваю Беларускага музея, адкрытага ў 1921 г.; два месяцы Багдановіч правёў у фальварку Ракуцёўшчына Вілейскага павета, які належаў маці і дзядзьку братоў Луцкевічаў; 20 кастрычніка трупа БМДГ паставіла спектаклі паводле п`ес "Міхалка" Далецкіх і "Хам" Элізы Ажэшкі.

**1912** – у красавіку ў Вільні пачаў выходзіць першы беларускі сельскагаспадарчы часопіс "Саха", які выпускаў сваю бібліятэчку (рэдактар-выдавец АляксандрУласаў); з лістапада ў сувязі з матэрыяльнымі цяжкасцямі "Нашу Ніву" пачалі друкаваць толькі кірыліцай; 21 лістапада трупа БМДГ паставіла спектаклі паводле твораў "У зімовы вечар" Элізы Ажэшкі і "Мядзведзь" Антона Чэхава; у канцы года супрацоўнікам рэдакцыі стаў Змітрок Бядуля.

**1913** – 27 студзеня адбылася прэм'ера Купалавай "Паўлінкі" (спектакль паставіла трупа БМДТ); 1 ліпеня на базе выдавецтва "Нашай Нівы" па ініцыятыве І.Луцкевіча, Б.Даніловіча і інш. заснавана Беларускае выдавецкае таварыства (БВТ), першым кіраўніком якога стаў Вацлаў Іваноўскі, адказным сакратаром – Янка Купала (з кастрычніка); таварыства існавала да 1915 года, аднаўлена ў 1919-м,

забаронена польскімі ўладамі ў 1930 г.; за амаль два гады выдавецтва выпусціла 15 кніг тыражом 50 тысяч асобнікаў, у тым ліку "Апавяданні і легенды вершам" з творамі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Канстанцыі Буйло, Алеся Гаруна, Старога Уласа ды інш., "Курганную кветку" Канстанцыі Буйло, "Родныя з'явы" Якуба Коласа, "Васількі" Ядвігіна Ш., "Рунь" Максіма Гарэцкага, "Беларускі каляндар" на 1914 і 1915 гг.; у ліпені і жніўні на старонках "Нашай Нівы" адбылася першая ў гісторыі беларускай літаратуры дыскусія; з лістапада выданне часопіса "Саха" перанесена ў Мінск; на выставе ў Вільні "Саха" адзначана срэбным медалём за распаўсюджванне сельскагаспадарчых ведаў.

**1914** – 7 сакавіка адказным рэдактарам "Нашай Нівы" стаў Іван Луцэвіч (Янка Купала); 16 мая Іван Луцэвіч замяніў Аляксандра Уласава на пасадзе рэдактара-выдаўца; пасаду адказнага сакратара замест Вацлава Ластоўскага заняў Змітрок Бядуля; у Мінску заснаваны часопіс для моладзі і падлеткаў "Лучынка", рэдактарам-выдаўцом якога стаў Аляксандр Уласаў, а літаратурным рэдактарам – Цётка (выйшла 7 нумароў часопіса; выпуск спыніўся ў сувязі з ваеннымі падзеямі); на выставе ў Мінску "Саха" атрымала срэбны медаль.

**1915** – за артыкул А.Язмена "Думкі" канфіскаваны № 2 газеты, рэдактар-выдавец Іван Луцэвіч прыцягнуты да судовай адказнасці; у студзені ў сувязі з ваеннымі падзеямі спынена выданне часопіса "Саха" (усяго выйшла 27 нумароў); 25 студзеня трупа БМДГ паставіла аперэту паводле твора Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча "Залёты"; 7 жніўня ў сувязі з набліжэннем германскай арміі да Вільні выпуск "Нашай Нівы" спынены; Янка Купала выехаў на ўсход, а браты Луцкевічы, Цётка і Ластоўскі засталіся ў Вільні, дзе з цягам часу быў распачаты выпуск газеты "Гоман".

**1920** – з 28 кастрычніка па 20 снежня ў Вільні выйшла 9 нумароў аднаўленай "Нашай Нівы"; Антон Луцкевіч выпусціў зборнік "Наша Ніва".

**1991** – у маі выйшаў першы нумар газеты "Наша Ніва" пад рэдакцыяй Сяргея Дубаўца.

**1992** – факсімільнае выданне "Нашай Долі".

**1992** – выдавецтва "Навука і тэхніка" выпусціла фаліянт "Наша Ніва". 1906—1908. Факсімільнае выданне. Выпуск 1".

**1996** – факсімільнае выданне "Нашай Нівы" за 1909 г.

**2000** – факсімільнае выданне "Нашай Нівы" за 1910 год.

**Падрыхтаваў Анатоль СІДАРЭВІЧ.**

 

# Наша

*У канцы лета 1906 году адбылася ў Вільні [...] наша партыйная канфэрэнцыя... Памятаю з гэтай канфэрэнцыі два вельмі важныя мамэнты: асуджэнне экспрапрыяцыі[1], з'арганізаванай у Менску бяз ведама і згоды Ц.К., і пастанова распачаць яўную легальную працу. Апошнюю справу рэфэраваў Іван [Луцкевіч] і тут кінуў думку аб патрэбе друкаваньня* ***легальнае беларускае газэты*** *– ведама, у грамадаўскім духу. Прапазыцыя Івана была прынята аднагалосна, у выніку чаго праз пару месяцаў і нарадзілася "Наша Доля", замененая пасьля "Нашай Нівай". <...> ...рэдакцыя "Н.Д." і "Н.Н." зьяўляецца адгэтуль фактычным цэнтрам ня толькі Грамады, якая фармальна якбыццам замірае, але і ўсяго беларускага адраджэнскага руху – яго "генэральным штабам". Тут вырашаліся ўсе справы руху, тут было кіраўніцтва кожнай шырэйшай акцыяй. А раз у год – на свята Купалы – у Вільню нібы-то дзеля абходу гэтае традацыйнае ўрачыстасьці зьязджаліся найбольш актыўныя беларускія сілы з усяго краю дзеля абмену думкамі і вызначэньня шляхоў далейшае працы.*

**Антон ЛУЦКЕВІЧ.**

*Горсточка партийных работников, уцелевшая от разгрома Б.С.Г., с верой "у святость народнае справы, у помочь прыяцелеў" вместе со старыми белорусскими "культурниками" начинает в конце 1906 г. издавать в Вильне на смену газеты "Наша Доля", закрытой после выхода в свет шестого номера, газету "Наша Ніва", которая стремится дать народу политическое воспитание и поднять его культур-*



 

*ный уровень. <...> Став на путь национально-освободительного движения, чуждая "зоологического" национализма и шовинизма, "Наша Ніва" в наступившую полосу столыпинской реакции делается на долгое время единственным центром белорусской национальной жизни, "люстром душы і думак беларускаго народа", выразительницей нужд и интересов народных масс, вождем и собирательницей нараждавшейся народной интеллигенции.*

**Фёдар ТУРУК.**

*Пачатак беларускай прэсы быў увесь на ахвярах і цяжкай начной працы. Праўтраця году пісаў ад вечара да раніцы. Як мы вытрымалі гэту работу, не разумею. Маладосць, нязломная воля і энтузіязм!*

**Аляксандр УЛАСАЎ.**

*Гэтая газета – адсюль у беларускай гісторыі ўсталявалася назва "нашаніўская пара" – адыграла важнейшую ролю ў руху беларускага адраджэння і спрыяла стварэнню новай беларускай літаратуры.*

**Аляксандра БЕРГМАН.**

*Газета "Наша "Ніва" і літаратурна-нацыяналістычны рух прыцягнулі да сябе шэраг выдатных інтэлектуалаў і перспектыўных маладых пісьменнікаў, яны энергічна яе падтрымалі. Гэтыя асобы склалі палітычную, літаратурную і культурную эліту Беларусі, гуртаваліся вакол газеты. На працягу невялікага перыяду ў 9 гадоў – з лістапада 1906 да жніўня 1915 года – іх ідэі па пабудове беларускае нацыі развіваліся і атрымлівалі акрэсленыя рысы на старонках штотыднёвіка.*

**Томас БЭРД.**

*"Наша Ніва" <...> ад пачатку свайго паяўлення ў свет па сягоняшні дзень – гэта народны часопіс, у якім ясна адбіваецца думка нашых мазольных братоў з розных глухіх куткоў Беларусі. З кожным годам паяўляюцца на ніве роднай усё новыя і новыя сілы. З кожным годам наша родная мова на старонках "Нашай Нівы" "шліфуецца-гартуецца", робіцца ўсё больш чыстай, гібкай і выразнай, робіцца здатнай да малявання самых чуць ухопных пачуццяў душы і звініць як той жаваранак вясною над свежай раллёй, як тая дуда хлопчыка-пастуха на лузе...*

*"Наша Ніва" не прапаведуе сляпога, шавіністычнага нацыяналізму, але мае за закон: "Свайго не цурайся і чужога навучайся!"*

**Змітрок БЯДУЛЯ.**

*В обстановке крайнего убожества зарождалось белорусское культурное движение. Общее недоверие, враждебность со стороны властей, отсутствие материальных средств – вот что было спутником этого движения. Но редакция "Нашай Нівы" упорно вела свое дело, несмотря на громадные препятствия. Я жил в редакции. Власов выдавал мне копеек 5 в день на пропитание. О гонораре никто не заикался, наоборот, каждый из нас готов был отдать последнюю копейку для поддержания своего дела.*

**Якуб КОЛАС.**

*Сярод беларускіх літаратараў, якія жылі ў Вільні і працавалі ў "Нашай ніве", не было такіх людзей, якія маглі б уплываць станоўча на маладога паэта, у якіх ён мог бы вучыцца правільна разумець жыццё, пашыраць свой кругагляд. У рэдакцыі працавалі людзі нацыяналістычна абмежаваныя. абывацельскага складу з багемнымі навыкамі. <...> Гэта было правінцыяльнае асяроддзе.*

**Віталь ВОЛЬСКІ.**

*"Какую роль я играл в "Нашай Ніве"? Приходилось все делать. Исправлять рукописи, в особенности стихотворения, переводить с польского, русского или украинского языков, делать корректуру, помогать в экспедиции газеты и т.п., все это приходилось делать потому, что штат работников был очень ограничен. <...> Штат редакции состоял из меня и Бядули.*

**Янка КУПАЛА.**

*Белорусской интеллигенции не было, и ее необходимо было выработать. Питомником для нее и явилась "Наша Ніва". Войдя в соприкосновение с народной массой в неспокойном 1906 году, она не только не утратила вслед за тем своих связей, но, наоборот, неуклонно закрепляла и увеличивала их; широкое умственное брожение, имевшее раньше место в народной среде, правда, довольно быстро исчезло, зато оставило после себя известное количество наиболее устойчивых личностей с упорной жаждой знания и не менее упорным желанием работать на пользу края. Вот эти лица и сплоти-*

*лись вокруг "Нашай Нівы", стремившейся расширить их умственный и [гражданский] кругозор и вовлечь их в культурно-общественную работу.*

*Таким образом, в Белоруссии создалось дотоле невиданное явление: нарождение народной интеллигенции.*

**Максім БАГДАНОВІЧ.**

*...мне кажется, что именно сейчас, после 1905 года, интеллигент должен был бы с великим и особенным вниманием присматриваться к росту новых идей, новых сил в массе "потревоженного" народа. <...>*

*Я обращаю внимание скептиков на молодую литературу белоруссов – самого забитого народа в России, – на работу людей, сгруппировавшихся вокруг "Нашей Нивы".*

*<...>*

*...читателю следовало бы посмотреть "Нашу Ниву" – она много интересного скажет ему.*

**Максім ГОРКІ.**

*Пры "Нашай Ніве" ўзрасла і расце чарада нашых песняроў – паэтаў і пісацеляў, каторыя выйшлі з курнай хаты мужыцкай і ў пекным слове малююць яго жыццё, яго долю-нядолю, яго звычаі, думкі, жаданні.*

**Сяргей ПАЛУЯН.**

*Адным з самых відных дзеячаў нашаніўскае пары быў Ян Луцкевіч (1881—1919). Як выдатная культурная сіла і палітычны кіраўнік такога руху, дзе развіццё нацыянальнае культуры было грунтам усяе працы, Ян Луцкевіч, хоць сам блізу што й не пісаў, зрабіў тым часам незвычайна многа ў гісторыі нашаніўскае літаратуры, быўшы ініцыятарам "Нашае Долі" і "Нашае Нівы", дабываючы кошты на друкаванне газет і кніжак, гуртуючы ля сябе людзей слова і жывучы з імі адной ідэяй, адною справаю, адным жыццём. У гісторыі ж адраджэння наагул Ян Луцкевіч мае непараўнана важнейшае значэнне.*

**Максім ГАРЭЦКІ.**

*У 1907 годзе пачала выходзіць у Беларусі ліберальна-буржуазная газета "Наша ніва". Вакол "Нашай нівы" групаваліся розныя*

 



*элементы. Рэвалюцыйна-дэмакратычная плынь узначальвалася Я.Купалам і Я.Коласам, і ў яе ўваходзілі Цётка, Бядуля, Багдановіч і інш.*

*У той жа час такія заправілы "Нашай нівы", як браты Луцкевічы, складалі правае, рэакцыйнае крыло гэтай газеты. Яны імкнуліся адцягнуць увагу пісьменнікаў ад тагачаснай рэвалюцыйнай барацьбы ў сівую мінуўшчыну, паэтызаваць яе, стараліся давесці, быццам бы ў беларускім народзе няма класаў, часамі ў іх проста прарывалася варожасць да вялікага рускага народа і яго культуры.*

**Алесь КУЧАР.**

*Найбольшы след у гісторыі беларускай літаратуры пакінула грамадска-палітычная і літаратурная штотыднёвая газета "Наша ніва". Яна вельмі многа зрабіла ў галіне развіцця ўсіх жанраў айчыннай літаратуры, у справе выяўлення, згуртавання, збірання літаратурных сіл. Газета знаёміла сваіх чытачоў не толькі з вершамі, паэмамі і апавяданнямі беларускіх аўтараў, на яе старонках друкаваліся ў перакладах лепшыя творы рускіх, украінскіх і польскіх пісьменнікаў, а таксама паасобныя ўзоры сусветнай літаратуры. З дзейнасцю "Нашай нівы" звязана значнае ажыўленне беларускага кнігадрукавання і журналістыкі ў Вільні і Мінску. Выключная роля належыць газеце ў далейшым развіцці і ўзбагачэнні беларускай літаратурнай мовы, на старонках "Нашай нівы" адбываўся нялёгкі і паступовы працэс выпрацоўкі і складвання норм беларускага правапісу. Шмат рабіла газета для развіцця і папулярызацыі беларускай нацыянальнай культуры – тэатра, музыкі, вуснай народнай творчасці, выступала з патрабаваннямі і абгрунтаваннем права беларускага народа мець школу на роднай мове. Абмяжоўваючы сваю праграму пераважна культурна-асветніцкай дзейнасцю, газета выкрывала каланіяльную палітыку царызму, выступала, праўда, не заўсёды паслядоўна супраць сацыяльнага і нацыянальнага ўціску, за брацтва і дружбу паміж народамі. Інакш кажучы, "Наша ніва" адыгрывала важную ролю ў грамадска-палітычным жыцці Беларусі, шмат зрабіла для абуджэння нацыянальнага ўсведамлення беларускага народа.*

**Сцяпан АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

*Буржуазныя нацыяналісты з "Нашай Нівы" спрабавалі трэціраваць Янку Купалу, Якуба Коласа і другіх паэтаў-рэалістаў, называючы іх "інтэлігентамі ў пастушай скуры", яны імкнуліся перацяг-*



 

*нуць іх на свой бок, зрабіць з іх паэтаў "чыстай красы", раілі ім адкінуць рэвалюцыйныя прынцыпы рэалізма і народнасці і пайсці на вывучку да дэкадэнцкіх эстэтаў, якія прапаведавалі рэакцыйныя ідэі чыстага мастацтва, ідэі апалітычнасці.*

**Міхась ЛАРЧАНКА.**

*"Нашу Ніву", як значную і складаную грамадскую з`яву ў жыцці Беларусі пачатку XX ст., трэба разглядаць у кантэксце з развіццём тагачаснай грамадска-палітычнай думкі Расіі. Справа ў тым, што газета была буйным цэнтрам беларускай грамадскай думкі, адзіным найбольш працяглым выданнем на беларускай мове. Таму ў рэдакцыі ніяк не магло быць людзей з абсалютна аднолькавымі поглядамі.*

*Тым больш што амаль за дзевяць год, якія выходзіла газета, у Расіі адбылася першая руская рэвалюцыя, быў перыяд рэакцыі і новага рэвалюцыйнага ўздыму, прыпаў пачатак першай сусветнай вайны. Характар гэтых падзей, несумненна, адбіўся і на характары легальнага выдання, якім была "Наша ніва". І газета складаная, часам непаслядоўная, нават супярэчлівая ў такой жа ступені, у якой быў складаным, з аднаго боку – час, а з другога – галоўны адрасат газеты – беларускае сялянства.*

**Рыгор СЕМАШКЕВІЧ.**

*Заслугі "Нашай нівы" перад беларускай культурай, вызваленчым рухам добра вядомыя. Але ніводная з задач, як слушна заўважыў Л.Клейнбарт, не ўдавалася газеце так пасляхова, як галоўнае яе імкненне: стварыць беларускую нацыянальную літаратуру... Янка Купала, Якуб Колас, Цётка, Ядвігін Ш., Максім Багдановіч, Алесь Гарун, Змітрок Бядуля, Канстанцыя Буйло, Максім Гарэцкі, Сяргей Палуян, Альберт Паўловіч, Цішка Гартны, Гальяш Леўчык, М.Арол... Цэлая літаратурная грамада за адно толькі перадкастрычніцкае дзесяцігоддзе! Вось калі літаратура сапраўды становіцца рухам. Народным – паводле сацыяльнага прадстаўніцтва, рэвалюцыйна-дэмакратычным – паводле зместу, беларускім – паводле характару, выяўленчых формаў.*

**Аляксей КАЎКА.**

***Падрыхтаваў***
***Анатоль СІДАРЭВІЧ.***

*У 1927 годзе віленскае Беларускае выдавецкае таварыства выпусціла "Хрэстаматыю беларускай літаратуры (ад 1905 году)". Складальнікам хрэстаматыі стаў нядаўні выпускнік Карлава універсітэта ў Празе, малады доктар філасофіі Ігнат Дварчанін. Гэтая кніга з`явілася працягам хрэстаматыі беларускае літаратуры да 1905 года, якую раней надрукаваў Максім Гарэцкі.*

*Хрэстаматыі Гарэцкага і Дварчаніна сталі ўзорамі для пазнейшых кніг такога кшталту. Яны былі з'яваю не толькі ў культурным жыцці Заходняе Беларусі. Актывісты беларускага руху (у тым ліку Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі) выкарыстоўвалі іх як аргумент у барацьбе з польскімі шавіністамі.*

*Левы сацыяліст, Ігнат Дварчанін прайшоў цяжкі і пакутлівы шлях. У ім адчуваўся талент вучонага-даследчыка, аднак абставіны прымушалі яго займацца палітыкай. У 1928 годзе доктар філасофіі стаў паслом на Сойм Польскай Рэспублікі, сябрам пасольскага клуба "Змаганьне". Ён зведаў пераследы з боку польскіх уладаў, вымушаны быў эміграваць у Савецкі Саюз, каб навечна знікнуць у нетрах ГУЛАГу[1].*

*Той, хто даследуе гісторыю "Нашае Нівы", не можа абысці ягоны ўступны артыкул да твораў пісьменнікаў, якія гуртаваліся вакол газеты. Гэты артыкул стаў ужо класікай.*

**Нашаніўская пара**

"Нашаніўскаю парою" ў разьвіцьці беларускага прыгожага пісьменства лічыцца час, зьвязаны з выданьнем часопісі "Наша Ніва", г.ё. ад лістапада 1906 г. да сусьветнай вайны. Гэта так гаворыцца агульна. Болей-жа акрэсьлена гэты час лічыцца з дня выхаду першай з сталых беларускіх часопісяў: "Наша Доля", г.ё. з 14 верасьня 1906 г. і да восені 1915 г., г.ё. пакуль Беларусь ня была яшчэ разрэзана на двое ваенным фронтам і пакуль каля "Нашае Нівы" гуртаваліся ўсе сьведамыя беларускія сілы.

Значыць, назоў паходзіць ад часопісі. Чаму-ж гэтак важная ў беларускім духоўным жыцьці часопісь "Наша Ніва", што ёю ахрышчана цэлая пара літэратуры? Падкрэсьлім да таго-ж, што гэты назоў адносіцца ня толькі да прыгожага пісьменства, але і да ўсяго духовага беларускага жыцьця наагул. А вось чаму:

1) "Наша Ніва" была першаю беларускаю часопісьсю, якая трывала даўжэйшы час.

2) "Наша Ніва", як сказана вышэй, гуртавала каля сябе ўсю сьвядомую Беларусь.

3) У "Нашай Ніве" пабачылі сьвет творы нашых найлепшых пісьменьнікаў, якія даставалі туды рады і кіруючыя ўказаньні; некаторыя з іх проста выхаваліся і разьвіліся пры часопісі.

4) "Наша Ніва" выдавала ад сябе розныя творы ў беларускай мове.

5) Другія выдавецтвы былі – або пад сталым кіраўніцтвам "Нашае Нівы", або ў цеснай сувязі з ёю.

6) У адносінах да прыгожага пісьменства пара называецца "Нашаніўскаю" яшчэ і таму, што ўсе пісьменьнікі, якіх выхавала на сваіх старонках "Наша Ніва", мелі ясна акрэсьлены характар твораў, які радніў іх між сабою, злучаў іх у адным рэчышчы кірунку самой часопісі і досіць рэзка адрозьніваў, як ад ранейшых, данашаніўскіх пісьменьнікаў, так і ад пазьнейшых, аб якіх пасьля будзе мова.

 



"Наша Ніва" была тою ракою, дзе зьліваліся ўсе рэчкі і ручайкі твораў паадзінокіх пісьменьнікаў.

Цяпер пытаньне: які-ж ідэолёгічны характар насіла часопісь "Наша Ніва"?

Мусім зразу сказаць, што гэты характар быў пераважна – сялянскі, а яшчэ шырэй – працоўны. Гэта быў працяг "Нашае Долі" , якая пісала: "мы будзем бараніць справы вясковых людзей. Лічачы найбольшым нашым ворагам цемнату і бяспраўнае паложаньне мужыка мы аб'яўляем вайну ўсім цёмным сілам, каторым... выгадна было трымаць... народ беларускі ў няволі і паняверцы, баламуціць і дурыць яго. Што і "Наша Ніва" ішла па сьлядох "Нашае Долі", сьведчыць тое, што яна дзяржала найбольшую сувязь з вёскай, лічныя корэспондэнцыі былі пераважна сялянскімі, палітычныя артыкулы ўсьцяж баранілі інтарэсы селяніна, а, што найболей нам важна, выхаваныя ёю пісьменьнікі, або самі паходзілі з працоўных гушчаў і адбівалі ў сваіх творах іх злыбяды, або стаялі вельмі блізка да сялян і наогул працоўных.

Далей, будучы сялянскай часопісьсю, "Наша Ніва" ўжывала свой асобны спосаб зацікаўленьня, як сабой, гэтак і сваімі пасьлядоўнікамі; сяляне і наогул працоўны народ у той час быў у вельмі дрэнным стане. Яшчэ нядаўна асвабоджаныя ад паншчыны, сяляне яшчэ толькі прыглядаліся, як іншыя людзі запраўды жывуць, яны ня ведалі, што, каб лепей жыць, трэба за гэта змагацца. Але яны чулі сябе толькі некім пакрыўджанымі і ім хацелася аб гэтым усім сказаць. І вось селянін нёс сваё гора, свае балячкі, злыбяды і сьлёзы "на сьвет цэлы", як кажа поэт. Ён проста голасна плакаў, апяваў сваю нядолю, хацеў зацікавіць гэтым другіх, зьвярнуць увагу, разжаліць; хацеў, каб багацейшыя хоць прызналі яго за чалавека; сяляне хацелі толькі "людзьмі звацца". Гэтак сама рабіла прыблізна і "Наша Ніва". Гэты пасыўны характар, пасыўня, сьлязьлівы тон "Нашае Нівы", зноў-жа зблізжае яе з сялянамі і працоўнымі таго часу.

Важнаю адзнакаю "Нашае Нівы" быў яе глыбокі патрыя-



 

тызм. Любоў да бацькаўшчыны ставілася перад усім. Хацелася ажывіць цэлы край у сучаснасьці, адрадзіць яго калішнюю славу, уваскрасіць тую мову, якая была калісь ува ўрадах, а цяпер засталася толькі між простага народу. Мамэнт нацыянальны цесна пераплятаўся з мамэнтам соцыяльным.

Ёсьць яшчэ і шмат іншых ад'знакаў, характэрных для "Нашай Нівы", але яны для скарочаньня – апускаюцца.

Такі самы характар насіла і творчасьць пісьменьнікаў "Нашаніўскае пары". У іх тыя самыя ад'знакі, якія выяўляліся ў паадзінокіх пісьменьнікаў у большай, ці меншай ступені.

Трэба ўсё-ж сказаць, што розьніца між паадзінокімі пісьменьнікамі была часам і даволі значная. Маючы агульны заклад, яны праяўлялі гэта кожны пасвойму. Часам розьніца заходзіла і вельмі далёка. Таму зьяўляецца канечнасьцю падзяліць іх на такія часьці: 1) пісьменьнікі пераходнага часу; 2) сялянскія пісьменьнікі; 3) пролетарскія; 4) інтэлігэнцкія пісьменьнікі; 5) пісьменьнікі мяшчанства; і 6) пісьменьнікі з рэлігійным нахілам.

Аб кожным з гэтых падразьдзелаў будзе гаворка далей.

Выдатнейшыя дзеячы, якія стаялі на чале ўсяе працы каля "Нашае Нівы", былі: браты Іван і Антон Луцкевічы, Аляксандар Уласаў, Антон Лявіцкі, Алёіза Пашкевіч <...>

**Ігнат ДВАРЧАНІН**

---

[1] Украінскі гісторык і грамадскі дзеяч, таксама вязень ГУЛАГу Сямён Підгайны ўспамінаў:

"Бледны, з чорнаю барадою, крыху згорблены, Дварчанін сваёю манэраю ў размовах нагадваў прафэсара. Ён ніколі не казаў прамоваў, як гэта рабіў Рак-Міхайлоўскі, і ня ставіў кропкі над "і". Не, ён спакойна намагаўся ўсё ўзважыць, перааццаніць і знайсьці забыты ўжо шлях да собскай нацыі.

На Салаўках трымаў сябе дужа парадачна й трымаўся парадачнай кампаніі. Працаваў напачатку на гэтак званых агульных працах, і хоць у дачыненьні яго не было ніякіх выбрыкаў з боку ГПУ, а тым часам ён таксама ў 1936 г. трапіў у ізалятар, а пасьля пра яго нічога больш не было чуваць".

*(Беларуская мемуарыстыка на эміграцыі. Укладальнік Лявон Юрэвіч. — Друк Міколы Прускага. — Нью-Ёрк, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, 1999. С. 126.)*

**У ліпені 1914 года,** калі ўжо восем год “Наша Ніва” шчыраваннем сваім ўсё не пераставала здзіўляць не толькі сваіх прыхільнікаў, сярод якіх быў Максім Горкі, але і нядобразычліўцаў, Максім Багдановіч у артыкуле “Беларускае адраджэнне”, які спецыяльна адрасаваўся ім да рускага чытача, пісаў, маючы на ўвазе “Нашу Ніву” – “сціплую”, паводле яго слоў, штотыднёвую беларускую газету памерам у адзін друкаваны аркуш, што “яна прабіла сабе дарогу ў самыя глухія куткі Беларусі, у самыя цёмныя слаі насельніцтва. Для многіх тысяч людзей яна з’явілася першай газетай, прачытанай імі, першай крыніцай ведаў, якая не мела афіцыйнага адбітку і была выкладзена простай і яснай мовай. Да беларускага селяніна, які зжыўся з думкаю, што ён – хам, а яго “мова” – хамская, “Наша Ніва” друкаваным чынам звярнулася на гэтай “мове”, выклікаючы ў ім тым самым павагу і да яе, і да самога сябе, абуджаючы ў ім пачуццё ўласнай годнасці. У беларускім краі, сашкамутаным нацыянальнай барацьбой, “Наша Ніва” бесперапынна напамінала аб неабходнасці паважаць права кожнага народа, цаніць усякую культуру і, замацоўваючы свае нацыянальныя падваліны, шырока карыстацца здабыткам культуры як польскай, так і вялікарускай і ўкраінскай”.

Максім Багдановіч быў не адзін, хто так глядзеў на "Нашу Ніву". Яшчэ ў 1912 годзе вядомы дзеяч польскага рэвалюцыйнага руху, адзін з кіраўнікоў левага, рэвалюцыйнага крыла Польскай сацыялістычнай партыі, рэдактар органаў партыі "Robotnik" ("Рабочы") і "Przedswit" ("На досвітку") Леан Васілеўскі пісаў аб ёй: "Артыкулы палітычныя, грамадскія, гаспадарчыя, інфармацыйныя з краю, краіны, з-за мяжы, вершы і апаведанні, анекдоты і жарты, практычныя парады – вось змест нумароў "Нашай Нівы". Усё гэта пішацца мовай простаю, зразумела і папулярна пры ўдзеле... соцень супрацоўнікаў, якія прыходзяць з народных мас або бліжэй за іншых стаяць да іх (сяляне, рабочыя, арганісты, народныя настаўнікі, інтэлігенцыя невялічкіх гарадоў). Паступова "Наша Ніва" пранікае ў найбольш глухія закуткі краю, будзіць грамадскую думку, чалавечую годнасць і народную свядомасць. "Наша Ніва" стаіць на грунце інтарэсаў працоўных, прагне для іх хлеба, зямлі і асветы, хоча пашырыць сярод іх энергічнасць, салідарнасць і імкненне вызваліцца ад усіх балячак, эканамічных і грамадскіх... Прызнаючы за беларусамі права на самастойнае развіццё, як і за іншымі народамі, "Наша Ніва" пашырае разуменне неабходнасці для Беларусі такога ладу, які б забяспечыў развіццё беларускага народа... "Наша Ніва" часта зазначае, што, адстойваючы інтарэсы беларусаў, не пашырае нянавісці ні да каго, паважае кожную народнасць. Яна таксама выразна падкрэслівае, што беларус дужа багата можа скарыстаць з вопыту цывілізаванай працы сваіх суседзяў, што ён павінен жменяй, колькі можа ўзяць, чэрпаць асвету і навуку як з польскіх, так і з рускіх крыніц. Энергічна выступаючы ў абарону нацыянальнага самавызначэння Беларусі і беларускага народа, "Наша Ніва" не дае сябе справакаваць рускім, польскім ці літоўскім

 



нацыяналістам, якія гавораць пра беларускі рух або з неахвотай, або з падазрэннем. І часта сапраўды варты захаплення той такт і высакародная вытрымка, з якімі выдаўцы "Нашай Нівы" ўмеюць бараніць сваю справу перад нападкамі шавіністаў".

Сёння, перагортваючы пажоўклыя ад часу, бо ўжо 80-гадовай даўнасці падшыўкі "Нашай Нівы", мы, вядома, і сваімі словамі маглі б выкласці тое, што ў Максіма Багдановіча, тое, што ў Леана Васілеўскага: віддавочнае ім віддавочнае сёння і нам. Але – ці ж віддавочна? Ці сапраўды газету, якая была самай шырокай сацыяльнай і палітычнай школай шырокіх народных мас Беларусі пачатку XX стагоддзя, мы за такую школу ў поўні прымаем, а тым больш ці бачыцца нам "Наша Ніва" як прашкола тых інтэрнацыяналістычных пачуццяў, якія выхавалі ў нас савецкі лад, партыя? Як "Наша Ніва" выхоўвала пачуцці еднасці ўсходнеславянскіх народаў, абуджала павагу ў беларуса да іншых народаў, пра тое і ў М.Багдановіча, і ў Л.Васілеўскага. Дык была "Наша Ніва" выказніцай інтарэсаў і дум народных ці не была?

Была, бо тыя, што казалі ці будуць казаць, што не была, будуць прадаўжаць груба рваць ніткі повязі часоў, уяўляючы, быццам бы перадавая нацыянальная свядомасць беларусаў з'явілася раптоўна, а не ў пераемнасці з той нашай свядомасцю, якая ішла ад Францыска Скарыны, Кастуся Каліноўскага, Францішка Багушэвіча і ад "Нашай Нівы". Была, бо не чыталі б вы сёння пра "Нашу Ніву" ў М.Багдановіча і ў Л.Васілеўскага таго, што ў першых радках гэтага артыкула прачыталі!..

"Наша Ніва" не магла быць інакшай, бо была народнай па сваёй сутнасці – ад свайго агульнадэмакратычнага і рэвалюцыйна-сацыяльнага зместу. Частка яе змястоўнасці ішла і ад ліберальнай нацыянальнай буржуазіі, як і ад сялянскага кансерватызму, патрыярхальнасці, наіву.



 

Але тады, калі "Наша Ніва" ўзнікла, яна ўздымалася і на хвалях усенароднай расійскай рэвалюцыі 1905—1907 гадоў, і на хвалях нацыяналізму прыгнечанай нацыі. Менавіта агульнадэмакратычным зместам "Наша Ніва" была перапоўнена цераз край, ды такім, што ён можа быць заўсёдным гонарам нацыі, а мы задавальняемся толькі тым, што прымаем з "Нашай Нівы" ад Цёткі, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Змітрака Бядулі, Максіма Гарэцкага, Алеся Гурло, Янкі Журбы, Канстанцыі Буйло, – ад пісьменнікаў рэвалюцыйна-дэмакратычнага напрамку, штучна адрываючы іх ад ліберальна-буржуазных, творчасць якіх была не пазбаўлена часам значнага агульнадэмакратычнага зместу.

Нашчадкі не могуць не быць удзячныя ўсім, хто быў датычны да стварэння такой выдатнай газеты, як "Наша Ніва". Зразумела, што вызначэнне заслуг асобных з іх ускладнёна перыпетыямі іх палітычных біяграфій – асабліва на рубяжы 1917—1920 гадоў. Але ж тое, што адбываецца ў біяграфіі таго ці іншага грамадскага дзеяча пасля яго акрэсленых, станоўчых учынкаў, ніяк не перакрэсліваецца ў яго біяграфіі наступнымі яго непапраўнымі ўчынкамі, ніяк не выкасоўваецца з самой біяграфіі дзеяча, як не можа яно быць выкасаваным з гісторыі наогул.

І таму, думаецца, зробленага для "Нашай Нівы", у "Нашай Ніве" Аляксандрам Уласавым і іншымі марна ўжо сёння не бачыць, замоўчваць ці на самую "Нашу Ніву" глядзець з-за іх як на падсудную. Звычайная паважлівасць у адносінах да людзей іншых думак, веравызнання, філасофій таго ад нас патрабуе. У выпадку ж з "Нашай Нівай" справа ідзе не аб палітычнай рэабілітацыі кагосьці, а пра вызначэнне рэальных заслуг асобных гістарычных дзеячаў на тым этапе іх дзейнасці, калі яны былі на ўзыходзячых хвалях рэвалюцыі, спрыялі яе гістарычна-творчым працэсам, спрыялі гістарычнаму

абуджэнню свайго народа, станаўленню яго літаратуры, мастацтва, мовы.

"Наша Ніва" ёсць дзецішча тых, дзецішчам каго яна найперш была – кіраўнікоў Беларускай сацыялістычнай Грамады. Яны – яе ініцыятары, арганізатары, хоць уласцівы сабе народны склад газета наперш займала ад лепшых літаратурна-мастацкіх сіл, вылучаных на той час народам, як і ад масавага чытача, карэспандэнта, творцы так званых масавай нашаніўскай паэзіі, прозы. Гэта потым з'явіліся лічбы: 906 карэспандэнцый з 489 вёсак за тры лепшыя гады існавання; 666 допісаў 427 карэспандэнтаў з 321 мясціны Беларусі – за адзін 1910 год. А напачатку былі адзіночкі-ініцыятары. Гэта потым згуртавалася плеяда нашаніўскіх пісьменнікаў, што збіраліся гады ў рады: у 1906 нашаніўцам стаў Якуб Колас, у 1907 – Янка Купала, Максім Багдановіч, у 1909 – Цішка Гартны, Канстанцыя Буйло, у 1910 – Змітрок Бядуля, у 1912 – Максім Гарэцкі.

А напачтку былі адзіночкі-арганізатары. Гэта ў выніку "Наша Ніва" стане ў цэнтры самага шырокага літаратурна-грамадскага руху ў Беларусі пачатку XX стагоддзя.

Тым не менш, аддаючы належнае ініцыятарам і арганізатарам "Нашай Нівы", мы не можам не бачыць гэтых палітычных дзеячаў і літарататараў ва ўсёй складанасці іхніх узаемаадносін з супрацоўнікамі "Нашай Нівы", не можам не бачыць самой газеты ва ўсіх яе часта супярэчлівых ідэйна-палітычных кірунках, залежных ад унутрана-рэдакцыйных спраў і канфліктаў, ад змены работнікаў у штаце рэдакцыі і змены рэдактараў газеты.

Але не тое ўплывала на масавага чытача і працэсуальныя асаблівасці развіцця нашай літаратуры пачатку XX стагоддзя, што адбывалася ў рэдакцыі, якія ўзаемаадносіны былі паміж яе кіраўнікамі і супрацоўнікамі, як сам

факт існвання газеты, сам яе агульнадэмакратычны дух, патрыятызм, рэвалюцыйны дэмакратызм, што так часта прабіваўся на яе старонкі з творамі Цёткі, Купалы, Коласа, Гартнага. "Наша Ніва" ў выніку стала для ўсёй беларускай літаратуры асноўнай пляцоўкай росту яе грамадска-палітычнага патэнцыялу і мастацкай непаўторнасці, а для народа – апірышчам, сімвалам краю, акумулятарам ідэй нацыянальнай кансалідацыі ў барацьбе з самадзяржаўем, ідэй славянскай супольнасці, еднасці з рускім і ўкраінскім народам у барацьбе за лепшую будучыню.

Стала для беларусаў "Наша Ніва" і школай іх далучэння да культурных здабыткаў народаў славяншчыны і свету, і першай пісьмовай сельскагаспадарчай акадэміяй. І калі мы заўсёды ацэньвалі нашаніўскае далучэнне мужыка-беларуса да спазнання імён і творчасці М.Горкага, Л.Талстога, А.Чэхава, У.Караленкі, В.Брусава, В.Бялінскага, М.Гогаля, А.Міцкевіча, Ю.Славацкага, У.Сыракомлі, М.Канапніцкай, Э.Ажэшка, С.Жаромскага, Ф.Шапэна, Т.Шаўчэнкі, В.Стафаніка, то якраз той практычны вопыт, які імкнулася даць мужыку "Наша Ніва", ці ж не здаваўся ён нам, мякка кажучы, залішнім у той час, калі ён быў жыццёва патрэбным, натуральным як для газеты шыроканароднага асветніцкага характару.

Іншымі словамі, якраз імкнучыся выяўляць поўню духоўных і матэрыяльных інтарэсаў простага народа, пераважна беларускага сялянства і блізкай да яго інтэлігенцыі, "Наша Ніва" і станавілася з ініцыятывы яе арганізатараў ужо не так дзецішчам саміх гэтых арганізатараў, як тых, для каго яна прызначалася, хто прыняў яе за сваю, хто ў рэшце рэшт зрабіў яе народнай газетай сваімі магутнымі літаратурнымі талентамі, вырастаючы ў Янку Купалу, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага. Іншымі словамі, покліч сацыяльнага заказу чуйна ўла-

вілі ініцыятары і арганізатары "Нашай Нівы", насустрач яму пайшлі.

І так як покліч зыходзіў ад народа, газета, спаталяючы прагу народа на ідэі сацыяльнага і нацыянальнага разняволення, на мастацкія каштоўнасці ў родным слове, не магла не стаць народнай. Прычым унікальна народнай, бо "Наша Ніва" не толькі афіцыйна не была органам якойсьці асобнай партыі, але і ніводзін з яе дзеячаў той ці іншай арыентацыі не быў у змозе прычэсваць яе рэдактарскім грабянцом пад вузка палітычныя схемы асобных палітычных праграм.

Мы, на жаль, да апошняга часу ўсё яшчэ, як мае быць, не даследавалі "Нашай Нівы" як газеты народнай – ва ўсёй яе гістарычнай абумоўленасці і нацыянальнай спецыфічнасці. Мы часам усё яшчэ знаходзім нібы прыніжэнне аўтарытэту і гістарычнага значэння "Нашай Нівы", тэндэнцыю да яе ачарнення там, дзе на самай справе нагоды для таго няма, а ёсць толькі спробы вачыма рэальных удзельнікаў вялікай справы тварэння "Нашай Нівы" зазірнуць за рэдакцыйную шырму, пераступіўшы парог параднага пад'езду, за якім, на жаль, рэальна не ўсё заўсёды было парадным, як і ў любым асяродку, дзе сутыкаюцца ідэі, характары, будзённыя і небудзённыя інтарэсы.

Бачыць жа ў спробах раманізацыі асобных дзеячаў "Нашай Нівы" іх дэгераізацыю – гэта, па меншай меры, наіўна, гэтак жа, як і ў цэлым катэгарычнае патрабаванне ідэалізацыі ініцыятараў і арганізатараў "Нашай Нівы" выяўляе ні больш ні менш як правінцыялізм і недастаткова высокую культуру нацыянальнай самасвядомасці некаторай часткі нашай творчай інтэлігенцыі, што беспадстаўна ў кагорце нацыянальных дзеячаў нашага гістарычнага мінулага хоча бачыць адных толькі забранзавелых герояў, а не людзей з іх жывымі ідэямі і характарамі, з іх неабмыльнасцю і памылкамі, з іх рамантычнымі страсцямі і бытавымі звычкамі.

"Наша Ніва" як народная газета несумненна заслугоўвае свайго шырокага ўсенароднага ўшанавання, і, пэўна, адной з лепшых яго формаў стала б утварэнне на першым часе ў Вільні і Мінску літаратурных музеяў "Нашай Нівы".

**Алег ЛОЙКА**

**Postscriptum 1.**

Гэты мой артыкул друкаваўся ў газеце "Літаратура і мастацтва" ў 1986 годзе – да васьмідзесяцігоддзя з дня выхаду першага нумару "Нашай Нівы". Ужо ішла перабудова, а глаўлітаўскія забароны яшчэ дзейнічалі, і таму з майго тэксту былі выкасаваны імёны ініцыятараў і арганізатараў "Нашай Нівы" – братоў Івана і Антона Луцкевічаў. Засталося: "Наша Ніва" ёсць дзецішчам тых, дзецішчам каго яна найперш была, – кіраўнікоў Беларускай сацыялістычнай Грамады. Яны – яе ініцыятары, арганізатары, а саміх прозвішчаў няма, быццам я іх не называў!

Забарона ў станоўчым сэнсе ўспамінаць братоў Луцкевічаў да канца 80-х гадоў ужо адпала, і таму ў другім томе маёй "Гісторыі беларускай літаратуры" (2-е выданне, дапрацаванае і дапоўненае; Мн., 1989. С. 21) усё стаяла ўжо на сваім месцы: "Ініцыятарамі і выдаўцамі "Нашай Нівы" былі кіраўнікі Беларускай сацыялістычнай Грамады, дзеячы беларускага адраджэнска-дэмакратычнага руху браты Іван і Антон Луцкевічы. Ужо яны імкнуліся надаць ёй уласна народны кірунак".

Асобна хачу падкрэсліць, што "Нашу Ніву" як газету народную я трактаваў услед за сваім навуковым кіраўніком у аспірантуры Юльянам Сяргеевічам Пшырковым. Ды ў свой час наша студэнцкае асяроддзе філфака канца 40-х гадоў не вельмі ўспрымала афіцыёзную пагромную крытыку на адрас Міхася Рыгоравіча Ларчанкі за ягоную трак-

 



тоўку "Нашай Нівы" як газеты дэмакратычнай, сцяганосца ідэі адзінай плыні, хоць і паўтаралі мы ўслед за ім ягоную "пакаяльную" трактоўку "Нашай Нівы" як адзінай беларускай газеты, у якой вымушаны былі друкавацца беларускія пісьменнікі рэвалюцыйна-дэмакратычанга напрамку.

У пасляваенны час ужо не паўтарался на кожным кроку бэндэўскае ахайванне "Нашай Нівы" як рэакцыйна-нацыяналістычнага выдання, дух якога аплёў, запаланіў, ачмурваў Янку Купалу, Якуба Коласа – усё нашаніўства.

Наогул, у першыя пасляваенныя дзесяцігоддзі беларускія пісьменнікі пачатку XX стагоддзя, што адкрыта супроць савецкай улады і бальшавізму не выступалі, былі падвышаны пад шыльдай рэвалюцыйнага дэмакратызму ці агульнадэмакратычных пазіцый. У цэлым, аднак, "Наша Ніва" ніяк не цягнула ў ідэалагічных кіраўнікоў на станоўчага героя нацыянальнай гісторыі, хоць аднойчы – у артыкуле члена ЦК КПБ, акадэміка АН БССР Цімафея Гарбунова "Кнігадрукаванне ў Беларусі канца XIX – пачатку XX ст." – яна і была ўзнятая да "саюзніка бальшавіцкага друку ў тыя часы" (кніга "400 лет русского книгопечатания"; Москва, 1964. С. 566). У гэтым жа артыкуле праскочыла на той час яшчэ крамольная (са спыслыкай на Ю.Пшыркова) думка, што "творчасць большасці пісьменнікаў-"нашаніўцаў" мела ярка акрэслены дэмакратычны характар".

Думаецца, ёсць патрэба раскрыць, як былы сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі дайшоў да такой крамолы. Па прызнанні самога Юльяна Сяргеевіча Пшыркова, гэта ўласна ён напісаў артыкул за члена ЦК і акадэміка (быў, як раней казалі, ягоным "неграм"). Мой настаўнік пайшоў на гэтую здзелку таму, што імкнуўся, выкарыстоўваючы высокае партыйнае становішча Цімафея Гарбунова, пры-



 

ўзнесці аўтарытэт "Нашай Нівы", яшчэ раз давесці сваю думку пра яе.

Гэты факт паказвае, якімі складанымі шляхамі ішла навуковая грамадскасць да ісціны аб "Нашай Ніве", да непрадузятых яе трактовак, аб`ектыўных і добрасумленных.

**Postsriptum 2.**

"Нашу Ніву" (без падборкі за ваенны 1915 год) я (лічыце, што поўнасцю) прачытаў зімой 1953—1954 года. 2—9 лютага 1954 года зрабіў запісы пасля прачытанага і, думаю, сёння яны могуць сведчыць, што маё тадышняе разуменне газеты было далёкае ад афіцыйнага. Ды не толькі маё. У запісах, праўда, хапае тэрміналагічнай блытаніны, таму я падам толькі некалькі фрагментаў з іх. Думаю, я, аспірант першага года навучання, па-свойму набліжаўся да справядлівых ацэнак – не без эмацыянальнага захаплення тым, што прачытаў.

Вось пачатак запісаў:

"Без хвалявання, без святога таінства, без гордасці мы ўспаінаем сёння Нашу Ніву". Наша гэта віна ці не наша, скажуць тыя, хто калі мо і не зможа без хвалявання ўспамінаць вялікую і непрыкметную, багатую і аднабаковую, слаўную і забытую "Нашу Ніву".

Вялікая яна для беларускага народа.., слаўная ў свой час і забытыя сягоння..."

Працытую і некалькі іншых тэзісаў і фрагментаў маіх лютаўскіх запісаў 1954 года.

"...Невялікая купка інтэлігентаў, што толькі што выйшла з Народа, падняла сцяг "Нашай Нівы". Іх было вельмі мала. Пасля армія іх расла і крэпла, таксама, як раслі, афармляліся і крэплі погляды іх на свае задачы, на сваю працу. Смелыя парыванні, палітычныя жаданні, надзеі на будучае, нарэшце, выкрышталізаваліся ў ясна акрэсленай праграме.

...Здзяйсненне праграмы "Нашай Нівы" прывяло б да палітычнага існавання Беларусі як буржуазнай рэспублікі.

... "Наша Ніва" да канца дэмакратычны орган. Паглядзіце, як яна паслядоўна абрушвае свае ўдары на чарнасоценцаў, на антысеміцкую палітыку пагромшчыкаў, на арганізатараў ганебнай справы Бейліса, на вялікадзяржаўны рускі шавінізм ці польскі нацыяналізм. Прычым, вялікадзяржаўны рускі шавінізм яна не змешвае з вялікім рускім народам, з вялікай перадавой рускай культурай, таксама як польскі нацыяналізм не засланяе ёй віды на культуру брацкага польскага народа.

...За сацыяльным і нацыянальным разняволеннем беларускага народа Купале тады і не снілася савецкая беларуская дзяржаўнасць...

...Як бачна, людзі "Нашай Нівы" больш аб`яднаны, чым раз`яднаны. Горкі звяртаў увагу скептыкаў на **людзей**, што сабраліся вакол "Нашай Нівы" і, прыватна, на Купалу і Коласа – цікавых рабят. І аб`яднаны гэтыя людзі як ідэйна, так і ў мастацкіх адносінах. Гэта былі людзі адных жаданняў, адной волі пры ўсіх іх адхіленнях у розныя бакі палітычна і ў разуменні мастацтва. Іх і так была толькі купка, куды ж ужо было дзяліцца ім, дзеленым і передзеленым вякамі і народамі.

Сёння мы дзелім іх. Па якому прынцыпу? Агульнае для тых, хто аддзелены ад Купалы і Коласа, гэта тое, што ўсе яны пасля былі ў лагеры ворагаў бальшавікоў. Бальшавізм, вось што падзяліла "Нашу Ніву". Людзі, якім прыйшлося... ісці ў нагу з Савецкай Беларуссю, склалі рэвалюцыйна-дэмакратычны лагер "Нашай Нівы", усе ж тыя, хто застаўся ў марах з Беларуссю, аб якой снілі людзі "Нашай Нівы", тыя, хто так ці інакш пасягаў да здзяйснення гэтай мары, былі залічаны ў бязлікі нацыяналістычна-буржуазны лагер...

...Спячую царэўну Беларусь не разбудзілі намаганні волатаў-беларусаў з "Нашай Нівы". Шмат зрабілі яны для Беларусі, багаты засеў кінулі яны, але не ўзышоў ён, бо не на ўкраінскі чарназём, а на беларускія пяскі ўпалі гэтыя зерні. Цікава сягоння поўнай жменяй загарнуць зерня з засекаў "Нашай Нівы", здзьмуць з яго пыл, адвеяць яго на сонцы ад заноснага крытыканцкага кукалю і мятліцы. Важкое, поўнае жывучасці залатое зярно... Ці не таму яно за трыма замкамі, хаця пяскі на Беларусі засталіся тымі ж пяскамі?!.

...Не пераплёўся б беларускі рух, нашаніўства з трыумфам бальшавізму, лягло б паміж першым і другім гадкоў 50—100, і тады ніхто не паневяраўся б над нацыялістычнай "Нашай Нівай". І ніхто не стаў бы вылучаць Купалу, Коласа, Багдановіча, Бядулю як нейкіх белых варон з нашаніўства, бо ўсе яны па меры свайго таленту і кругагляду выражалі ў сваіх мастацкіх творах тое ж, аб чым гаварылі ў сваёй публіцыстыцы і крытыцы людзі, імён якіх мы сёння не называем...

Яны бачылі, што шлях да дзяржаўнасці далёкі і нялёгкі, і стараліся скласці ўсе ўмовы, якія б скарацілі і аблегчылі гэты шлях. А таму два пункты вылучалі яны ў сваёй праграме: 1) за нацыянальную культуру; 2) за эканамічнае ўмацаванне Беларусі. Першае было разлічана на ўсямерны ўздым нацыянальнай свядомасці; другое – на стварэнне эканамічнай базы, якая б прывяла да далёкай, жаданай мэты – дзяржаўнасці: "Узяць усе свае справы ў свае рукі".

Такое было маё разуменне нашаніўства ў лютым 1954 года. Не дзеля друку рабіліся тады запісы, але сёння, думаецца, яны зусім нялішнія, каб паказаць гісторыю спасціжэння праўды пра "Нашу Ніву".

**А.Л.**

**У гісторыі беларуска-ўкраінскіх** літаратурных узаемасувязяў ёсць усе падставы нашаніўскія гады вылучаць як асобны перыяд, паколькі гэтыя гады пазначаны вялікай сукупнасцю мэтанакіраваных паслядоўных дзеянняў. Моцна звязана з імі і пазнейшая адраджэнская сугучнасць і амаль сінхронная ўзаемаабумоўленасць узнёсласці і трагічнасці 20-х гадоў. Магчыма, больш шырокія і разнастайныя па форме, бо прадукаваліся новай палітычнай рэчаіснасцю, адміністратыўнай савецкай запланаванасцю, беларуска-ўкраінскія адносіны сутнасцю сваёй выраcталі з нашаніўскага перыяду, з яго сканцэнтраванай магутнай напоўненасці. Таму і палітычны прысуд для гэтых перыядаў быў аднолькава злачынна катэгарычны...

Здавалася б, з цягам часу падзеі ў гісторыі, аддаляючыся, губляюць сваю канкрэтную выразнасць. Тым больш, калі іхняя сапраўдная сутнасць свядома і беспрэцэдэнтна-бязлітасна дэфармавалася. Аднак адбываецца зусім адваротнае. Канец XX стагоддзя ўсё-такі праходзіць пад знакам пошукаў ісціны і справядлівасці. І сёння мы пра тыя адраджэнскія працэсы пачынаем ведаць больш, чым ведалі пра іх на працягу папярэдніх дзесяцігоддзяў. Яны вымалёўваюцца яскрава, з лёсавызначальнай для нацыі скіраванасцю. Прыцягальнасць нашаніўскіх ідэалаў была віда-

вочнай заўсёды. Яны, не зважаючы ні на што, прабіваліся праз моцны панцыр ідэалагічнай забароны.

Для "Нашай Нівы" быў чужы дух нацыянальнай абмежаванасці, замкнутасці. Выступаючы, і часта даволі востра, супраць патугаў шавіністаў розных масцей, газета бачыла і тое вялікае, моцнае, здаровае, што было ў кожнай нацыі, кожнай літаратуры. Шаўчэнкаўскія словы "І чужому навчайтеся, й свого не цурайтеся" сталі своеасаблівым дэвізам газеты, яны далі назву аднаму з яе раздзелаў, іх, як эпіграф, пісалі на вокладках штогодніх "Беларускіх календароў", што выдаваліся "Нашай Нівай".

Цесная і плённая сувязь "Нашай Нівы" з Украінай была, па сутнасці, знешнім выяўленнем любові беларусаў да братняга славянскага народа, роднаснага яму і па крыві, і па сваёй гісторыі, і па змрочнай тагачаснай яве з яе нацыянальным і сацыяльным уціскам. У інфармацыйных аддзелах газеты вельмі часта змяшчаліся матэрыялы з украінскага жыцця. Прычым іх падбор быў выразна сацыяльна і нацыянальна арыентаваны. Мясцовая цэнзура іх прапускала (ды і то не заўсёды) толькі таму, што яны непасрэдна не датычыліся Беларусі.

Так, "Наша Ніва" паведаміла пра святкаванне Першамая ў Львове, дзе "былі працэсіі рабочых з песнямі і чырвонымі штандарамі, пад вечар – прадстаўленні і гулянні" (1909, №17). У 1911 годзе ў карэспандэнцыі з Кіева гаварылася: "У Кіеве на беразе Дняпра арыштавалі 18 рабочых, найбольш членаў прафесіянальных хаўрусоў. Пры іх знайшлі пракламацыі аб святкаванні Першага Мая" (1911, №16-17). Вось яшчэ некалькі карэспандэнцый іншага характару, але той самай недвухсэнсоўнай скіраванасці: "Адэса. Па загаду міністра асветы Кассо многа студэнтаў, каторыя рабілі сходкі ва універсітэце, будзе выслана ў паўночныя губерні ў ссылку; некалькі студэнтаў з Харкава сашлюць у Туруханскі край" (1911, №4); "Кіеў. З Кіеў-

 



скай духоўнай семінарыі выдалілі 37 вучняў – за "неблагоповедение" (1909, №5); "Кіеў. У с. Маянове ўраднік з сотняй казакоў пераходзілі ад хаты да хаты, секлі мужчын, дзяцей, забіралі дабро. Чатырох чуць жывых мужыкоў прывезлі ў бальніцу"(1907, №9). Такіх паведамленняў з розных месцаў Украіны ў газеце змяшчалася нямала. Яны прымушалі беларусаў зірнуць і на сваё жыццё, такое ж гаротнае і бяспраўнае, клікалі змагацца за лепшую долю.

Рэвалюцыя 1905 – 1907 гг. рушыла ўперад справу нацыянальнага адраджэння расійскіх "инородцев". Духоўнае адраджэнне беларускага народа ў значнай ступені арыентавалася на ўкраінскі культурна-асветны і літаратурны рух. Янка Журба ў адной са сваіх нататак пісаў: "Жывучы на Украіне, мне давялося пераканацца, што між намі, беларусамі і ўкраінцамі, ёсць шмат чаго супольнага – як у гістарычнай долі, так і ў цяперашнім жыцці... Але насамперш і найбольш гэтая супольнасць відаць у нацыянальнай справе абоіх братніх народаў. Розніца будзе толькі тая, што ўкраінская нацыянальная справа шмат больш пайшла ўперад за беларуску" (1909, №13-14)."Наша Ніва" імкнулася скараціць гэтую розніцу. Прыкладам для яе стала праца ўкраінцаў над развіццём сваёй культуры, літаратуры, мовы. Янка Журба і Сяргей Палуян, якія ў той час жылі на Украіне, пастаянна праз газету інфармавалі беларускую грамадскасць пра ўкраінскае грамадска-палітычнае і культурнае жыццё, зацікаўленасць украінцаў беларускай літаратурай і культурай і інш. Іх допісы ў "Нашу Ніву" склалі дванаццаць "Лістоў з Украіны", насычаных багатым фактычным матэрыялам, духам братэрскай павагі да Украіны і яе народа. "Асабліва дзівуе ўкраінцаў свежасць і моц беларускай паэзіі, – пісаў Сяргей Палуян у адным са сваіх "лістоў". – У гутарках кажуць, што народ, каторы з самага пачатку свайго нацыянальнага жыцця мае змогу вытварыць такую паэзію, зможа пера-



 

магчы ўсе перашкоды на пуціне свайго развіцця, зможа дагнаць на гасцінцы поступу тыя народы, што даўно ідуць далёка ўперадзе" (1910, №11).

Тэатр – найбольш яскравы паказчык сталасці нацыянальнага самапачуцця, выразнік духоўнай спеласці нацыі, яе жыццяздольнасці. "Наша Ніва" горача адклікалася на кожны прыезд у Беларусь украінскіх тэатральных труп. Калі ж сяляне вёскі Кленікі былой Гродзенскай губерні па прапанове аднаго студэнта-беларуса паставілі п'есу Карпенкі-Карага (Івана Табілевіча) "Разумны і дурань", газета змясціла вялікую, цёплую рэцэнзію на гэтую пастаноўку (1909, №40). "Наша Ніва" салідарызавалася з меркаваннем Максіма Гарэцкага, што "ў адраджэнні ўсякага народу (украінцы) тэатр – сіла непамерная, а ў адраджэнні беларусаў, пры іх дэмакратызме, ён можа адыграць вялікую ролю" (1915, №5). Аднымі з першых пастановак першых беларускіх драматычных гурткоў, а пасля і прафесійнай трупы Ігната Буйніцкага былі пераклады п'ес украінскіх аўтараў – "Па рэвізіі" і "Пашыліся ў дурні" Марка Крапіўніцкага, "Разумны і дурань" Карпенкі-Карага, "Як яны жаніліся" Уладзіміра Віннічэнкі. Асаблівай папулярнасцю карысталіся спектаклі па п'есах Марка Крапіўніцкага. На адным з такіх спектакляў прысутнічаў Якуб Колас. Вось што ён пісаў у "Нашай Ніве": "Жарцік "Пашыліся ў дурні", што ставілі на сцэне, прайшоў весела, бойка, жыва і цікава. Усе артысты споўнілі свае ролі, як праўдзівыя прыродныя артысты... Тэатр страшэнна зацікавіў мяне і ў ім я пачуў вялікую сілу падняцця народнага духу і яго гонару, і нішто, як ён, не можа зрабіць столькі для адраджэння Беларусі" (1912, №7).

"Наша Ніва" часта давала аб'явы на розныя ўкраінскія выданні. У адным з нумароў за 1909 год на цэлы газетны разварот быў змешчаны здымак усіх 18 украінскіх газет і часопісаў, якія з 1905 па 1909 год выдаваліся ў Левабярэжнай (Расійскай) Украіне. Здымак суправаджаў под-

 



піс, звернуты да саміх беларусаў: "Усе, для каго непрыемна адраджэнне заціснутага народа, заўсёды косым вокам пазіралі на ўкраінскія нацыянальныя газеты. Але ўкраінцы так моцна трымаюцца за свой родны грунт, што нічым іх не застрашыш. І вось яны падтрымліваюць на сваёй зямлі столькі розных часопісаў і грошы на гэтыя часопісы дае сам народ, выпісваючы ва ўсе куткі вялікай Украіны газеты ў роднай мове" (1909, № 38). У 1908 годзе ў Львове выйшла вядомая брашура Іларыёна Свянціцкага "Відродження білоруського письменства". "Наша Ніва" неўзабаве перадрукавала гэтую працу львоўскага прафесара ў перакладзе на беларускую мову. З яе ж аўтарам рэдакцыя завязала ажыўленую перапіску. У тым жа годзе кіеўская газета "Рада" ў некалькіх нумарах (246, 247, 249) змясціла вялікі і не менш цікавы артыкул вядомага публіцыста і грамадскага дзеяча Дмытра Дарашэнкі "Беларусы і іх нацыянальнае адраджэнне". Гэты артыкул таксама быў перадрукаваны "Нашай Нівай".

Не толькі для ўкраінцаў, але і для беларусаў сцягам нацыянальнага адраджэння на доўгі час стаў Тарас Шаўчэнка. Імя Кабзара часта з'яўлялася на старонках газеты. Так, да 95-годдзя з дня яго нараджэння ў "Нашай Ніве" былі змешчаны здымак і невялікая біяграфічная нататка, а таксама верш Янкі Купалы "Памяці Шаўчэнкі". Тут жа паведамлялася пра вечар "бацькі Тараса" ў Пецярбурзе, на якім прысутнічалі і выступілі і беларусы. 50-годдзе з дня смерці Кабзара газета адзначыла двума вялікімі артыкуламі – "Памяці Тараса Шаўчэнкі" Альгерда Бульбы і "Тарас Шаўчэнка і беларусы" Рамуальда Зямкевіча. "Наша Ніва" пісала таксама пра забарону ўшанавання памяці паэта ў Кіеве (1911, №6), пра вечар памяці Шаўчэнкі ў далёкім ад Украіны Юр'еве (Тарту; 1911, №14) і інш. Як вядома, у 1914 годзе царскі ўрад афіцыйна забараніў святкаваць 100-годдзе з дня нараджэння Кабзара, аднак "Наша Ніва" не палічылася з забаронай і, не баючыся наклікаць гнеў царскіх уладаў і расійскіх шавініс-



 

таў, надрукавала вялікі, ажно на тры падвалы, артыкул Лявона Гмырака "Тарас Шаўчэнка" са шматлікімі – у арыгінале – цытатамі з твораў Кабзара (1914, №8). Увогуле, за некалькі тыдняў да юбілею газета ўвяла спецыяльны "шаўчэнкаўскі аддзел" і з нумара ў нумар публікавала "крамольныя" матэрыялы, у якіх выкрывала царскую антыўкраінскую, антышаўчэнкаўскую палітыку. Гэтыя матэрыялы друкаваліся пад рознымі загалоўкамі – "Процi Шаўчэнкаўскай гадаўшчыны" (1914, №9), "На магіле Шаўчэнкі" (1914, №10), "Канфіскацыя "Кабзара" (1914, №11) і інш.

Апрача Тараса Шаўчэнкі, "Наша Ніва" публікавала матэрыялы і пра іншых украінскіх пісьменнікаў – Івана Франка, Лесю Украінку, Марка Крапіўніцкага, Ганну Барвінак, Барыса Грынчэнку і інш. Побач з літаратурна-крытычнымі нататкамі і артыкуламі газета даволі часта змяшчала пераклады ўкраінскіх мастацкіх твораў. Так, у перакладзе Алеся Гурло было апублікавана некалькі ўрыўкаў з паслання Тараса Шаўчэнкі "І мёртвым і жывым..." (1911, № 8). Хведар Чаршышэвіч пераклаў для газеты верш Кабзара "Цячэ вада ў сіне мора" (тамсама). Ён жа пераклаў і паэму "Кацярына", якая выйшла пазней асобным выданнем. У перакладах Янкі Окліча, М.Скальскага, Уладзіслава Галубка, Дз.Бародзіча, Альберта Паўловіча друкаваліся апавяданні М.Чарняўскага, Ірадчука, Гвараздыкі, Яўгена Грабінкі, Архіпа Тасленкі, Шума, вершы Сцяпана Руданскага (Альберт Паўловіч). Без указання прозвішчаў аўтараў арыгіналаў надрукаваны пераклады з украінскай мовы апавядання "Матчына сэрца" (пераклаў Швайка) і верш "Тры кветкі" ў перакладзе Цёткі. На смерць Ганны Барвінак "Наша Ніва" адгукнулася прачулым некралогам і перакладам апавядання пісьменніцы "Ліха не без дабра" (пераклаў М.Скальскі). Асаблівай папулярнасцю ў "Нашай Нівы" карыстаўся заходнеўкраінскі навеліст Васіль Стафанік, ажно дзесяць твораў якога ў перакладзе Рамуальда Зямкевіча былі надрукаваны на

працягу 1909–1911 гг. Гэта навелы "Смерць", "Змяркання", "Сіняя кніжачка", "Выводзілі з сяла", "Сама самюсенька", "Ліст", "Кацярынка", "Анёл", "Дарога" і "Сон". Выбар твораў для перакладу быў не выпадковы. Усе яны найбольш характэрныя для пісьменніка. Каб правесці творы Васіля Стафаніка праз цэнзурныя рагаткі, рэдакцыя газеты пайшла на некаторыя хітрыкі. Так, з тэкста навелы "Анёл" было знята ўпамінанне ў негатыўным плане маскоўскага царскага роду. У "Выводзілі з сяла" з'явіўся падзагаловак: "З даўнейшага жыцця". У навелы "Ліст", наадварот, аўтарскі падзагаловак – "Політичним арештантам мужикам на святий вечір" – быў зняты...

Як бачым, украініка дапамагала "Нашай Ніве" паглыбляць і пашыраць уласнанацыянальную жыццёвую і літаратурную тэматыку і праблематыку. Па ўкраінскіх матэрыялах можна вызначыць ідэалогію выдання, яго мастацкія пошукі. І што таксама вельмі важна – узровень перакладчыцкага майстэрства. Дзякуючы перакладу, украінскія творы ўвайшлі ў беларускую славеснасць, пашырылі яе ідэйна-тэматычныя і вобразна-стылёвыя далягляды. І гэта было вельмі важна для маладой беларускай літаратуры, якая пачынала разгортваць крылы для будучага высокага лёту.

Зразумела, што для найпаўнейшай характарыстыкі выдання акрамя таго, што непасрэдна зафіксавана друкам на яго старонках, вялікае значэнне маюць пазатэкставыя выявы: духоўная атмасфера кантактаў, асобы аўтараў і г.д. Сёння ўкраінцы з вялікім энтузіязмам, навуковай апантанасцю і скрупулёзнасцю па-новаму прачытваюць сваю гісторыю, у тым ліку і дзівосна багаты на творчыя навацыі перыяд пачатку XX ст. Іхнія адкрыцці асвятляюць і беларускую культурную прастору.

Так, у Беларусі быў дастаткова вядомы той факт, што і "Наша Ніва" ў сваёй практычнай дзейнасці, і Максім Багдановіч, і Сяргей Палуян былі моцна звязаны з кіеўскім выданнем "Українська хата". Аднак паглыбляцца ў

сутнасць гэтай сувязі было забаронена. А калі і вялася пра гэта размова, то толькі са спецыяльнымі агаворкамі, паколькі і "Наша Ніва", і "Українська хата" афіцыйнай крытыкай аб`ядноўваліся найперш агульным абвінавачваннем у грахах. На самой справе "Українська хата" (1909–1914), як гэта цяпер сцвярджаецца, аб'ядноўвала вакол сябе літаратараў, якія адстойвалі і прапагандавалі перспектыўныя тэндэнцыі і шляхі развіцця ўкраінскага мастацтва. Пры гэтым стылявым напрамкам, які пераважаў і ў прозе, і ў паэзіі, быў сімвалізм. Характэрна, што вядомы расійскі тэарэтык і гісторык літаратуры Леанід Цімафееў падкрэсліваў, што ўкраінскі сімвалізм "апярэдзіў" у часе з'яўленне сімвалізм расійскі[1]. Звяртае ўвагу даследчыкаў адметнасць украінскага сімвалізму ў параўнанні з заходнееўрапейскім, якая выявілася ў пэўным паслабленні філасофскай канцэптуальнасці, меншай прысутнасці ці амаль адсутнасці эзатэрызму, акультнасці. З другога ж боку, асаблівай кампенсацыяй сімвалісцкага філасофскага містыцызму ва ўкраінскай літаратуры праяўляецца "містыка нацыянальнай ідэі"[2]. Адсюль бачна, што творчая платформа "Української хати", якая была спадарожніцай "Нашай Нівы", яе сяброўкай і сястрой па духу, складалася з моцнай знітаванасці ідэі мадэрнісцкай і ідэі нацыянальнай. Такім чынам, можна ставіць пытанне аб тым, што ля вытокаў творчай індывідуальнасці і Максіма Багдановіча, і Сяргея Палуяна была менавіта ўкраінская мадэль развіцця літаратуры. У сваёй творчасці яны распрацоўвалі пастулаты сімвалізму "з украінскім тварам".

І для Палуяна, і для Багдановіча ці не найбольш аўтарытэтным з сучасных ім літаратараў быў Паўло Багацкі. Галоўны рэдактар "Української хати", ён шмат рабіў для прапаганды на Украіне "Нашай Нівы", беларусікі наогул. З Палуянам і Багдановічам ён быў звязаны непасрэднымі дзелавымі кантактамі, у тым ліку і выдавецкімі. Скласці ўяўленне пра характар узаемаадносін людзей, не ведаю-

чы асобы канкрэтнага чалавека, амаль немагчыма. Зразумела, тое, што адкрываецца цяпер адносна Паўла Багацкага, напаўняе ягоныя кантакты з беларускімі пісьменнікамі дадатковым зместам, хоць і не расстаўляе ўсе кропкі над "і". Як пазначана ў "Энцыклапедыі ўкраіназнаўства", падрыхтаванай украінскімі эмігранцкімі коламі і перавыдадзенай у Львове, "Багацкі Паўло, журналіст, літаратуразнаўца, літаратурны і тэатральны крытык, бібліёграф, пісьменнік і палітычны дзеяч... у 1914 годзе высланы ў Нарымскі край. У 1917 годзе начальнік міліцыі г. Кіева. Падчас Дырэкторыі сталічны атаман і атаман Каша абароны рэспублікі. З 1922 года актыўна працуе на эміграцыі... "[3], дзе сляды ягоныя губляюцца пасля 1940-х гадоў.

Не менш цікавым для характарыстыкі тагачасных літаратурных кантактаў з'яўляецца яшчэ адно кіеўскае выданне – газета "Рада", сурэдактарам якой быў Сяргей Яфрэмаў (1876 – 1939). Як адзначана ў нaваскладзеным даведніку "Пісьменнікі Украіны – ахвяры сталінскіх рэпрэсій"[4], Сяргей Яфрэмаў – украінскі публіцыст, літаратуразнаўца, крытык. Несправядліва асуджаны падчас аднаго з першых удараў па ўкраінскай інтэлігенцыі, калі ў 1929 г. за ўдзел у так званым Саюзе вызвалення Украіны на лаве падсудных апынуліся 26 вучоных, тры пісьменнікі, два студэнты, адзін святар, 14 настаўнікаў і служачых розных установаў. Грамадска-палітычны дзеяч, Сяргей Яфрэмаў быў вядомы як заснавальнік Украінскай дэмакратычна-радыкальнай партыі (УРП), Украінскай партыі сацыял-федэралістаў, у Цэнтральнай Радзе яму была даручана пасада сакратара ў міжнацыянальных справах. Безумоўна, Сяргея Палуяна і Сяргея Яфрэмава збліжала агульнасць грамадзянскіх пазіцый. Яфрэмаў зацікаўлена прыглядаўся да літаратурнага, грамадска-культурнага жыцця Беларусі, што знаходзіла рэалізацыю ў яго рэдактарскай і навуковай дзейнасці. Думаецца, што першы ў гісторыі нашай крытыкі агляд "Беларуская літаратура за

1909 год", надрукаваны ў "Нашай Ніве", а таксама пачатак вялікай працы па гісторыі беларускай літаратуры "Беларуская паэзія ў яе тыповых прадстаўніках" былі здзейснены Сяргеем Палуянам пад непасрэдным уплывам канцэпцый Сяргея Яфрэмава, выкладзеных ім у "Гісторыі украінскага пісьменства". Працу над гэтай кнігай украінскі калега Палуяна якраз здзяйсняў у час іхняга знаёмства. Першае яе выданне, якое ўбачыла свет у 1911 годзе, засведчыла абазнанасць аўтара не толькі ў сваім нацыянальным матэрыяле, але і ў развіцці літаратур суседніх народаў, у тым ліку і беларускага. Няма сумнення, што тыпалагічнае супастаўленне "Гісторыі..." Яфрэмава і прац Палуяна можа паспрыяць пранікненню ў генезіс творчай думкі беларускага крытыка, у якім на радзіме гатовыя былі бачыць "беларускага Бялінскага" (заўважым, параўнанне пабудавана па аналогіі са стэрэатыпным вызначэннем значнасці з'явы, а не яе сутнасці).

Прафесійная ацэнка даследаванняў Яфрэмава была зроблена Міколам Зэравым яшчэ ў тыя далёкія 20-я гады, аднак пазнаёміцца з ёю стала магчымым толькі ў нядаўнім часе. "Кніга Яфрэмава, – сцвярджаў вучоны, – мае вялікую каштоўнасць. Яна дала канон украінскага пісьменства (падкрэслена мною. – *Т.К.*), вызначыла спіс аўтараў і твораў, якія павінны быць ахопленыя гісторыка-літаратурным разглядам, надала кожнай з'яве пэўнае месца ў гісторыка-літаратурным працэсе". Думаецца, такія мэты ставіў перад сабой і Сяргей Палуян, пачынаючы працу над "Гісторыяй беларускай літаратуры".

Складаючы кнігу "Сяргей Палуян. Лісты ў будучыню", нам удалося ўключыць у раздзел "Успаміны" матэрыял пад назвай "Браты". Удалося, бо на той час інфармацыя пра імя аўтара працы Ёсіфа Гермайзе, як і пра саму працу, была ў рамках строгіх абмежаванняў. Ужо згаданая "Энцыклапедыя ўкраіназнаўства" піша пра Ёсіф Гермайзе, рэабілітаванага на Украіне, як пра вядомага гісто-

рыка, члена УСДРП, прафесара Кіеўскага інстытута народнай асветы, навуковага супрацоўніка Украінскай Акадэміі Навук, сакратара яе гістарычнай секцыі, кіраўніка археаграфічнай камісіі. Арыштаваны ў 1929 годзе і асуджаны, як і Сяргей Яфрэмаў, па справе СВУ, Гермайзе адбываў зняволенне ў Яраслаўлі і на Салаўках, пасля знаходзіўся на пасяленні ў Саратаве. Арыштаваны паўторна, загінуў у 1937 годзе. За гэтымі скупымі звесткамі прыхаваны лёс чалавека, які быў не толькі актыўным барацьбітом за адраджэнне роднай яму Украіны. Гермайзе, прыхільнік беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, паплечнік Сяргея Палуяна, быў аўтарам "Нашай Нівы", яе кіеўскім і ўкраінскім карэспандэнтам. Узмоцнены ў сваіх сімпатыях да Беларусі нашаніўскай далучанасцю да даследавання праблем яе нацыянальна-культурнага развіцця, Ёсіф Гермайзе, які працягваў удзяляць увагу беларускай літаратуры і ў савецкі час, мог бы адыграць ролю сталага сувязнога паміж братнімі літаратурамі. На жаль, гэтага не адбылося. Закладзеныя ў нашаніўскі перыяд дэмакратычныя традыцыі літаратурных узаемасувязяў паміж Беларуссю і Украінай былі прымусова перарваныя...

Сумесныя намаганні навукоўцаў, супрацоўніцтва беларускіх і ўкраінскіх філолагаў могуць дапамагчы ўзнавіць аб'ектыўную карціну духоўнага аазісу нашаніўскага перыяду. Па першае, з мэтай пошуку ісціны, па-другое, для пераймання лепшых узораў творчых кантактаў, скіраваных на культурнае ўзаемаўзбагачэнне.

**Таццяна Кабржыцкая**

---

[1] Тимофеев Л. Современная украинская литература // Новый мир. 1929, №3.

[2] Гл.: Історія української літератури XX ст. У двох книгах. Кн.1. К., 1994.

[3] Богацький Павло // Енциклопедія українознавства. Т.1. Львів, 1993. С. 143.

[4] З порога смерті... Письменники України — жертви сталінських репресій. К., 1991. С. 182 – 185.

**Беларуская практычная эстэтыка** ў жанры літаратурна-мастацкай крытыкі сфармавалася на старонках "Нашай Нівы" і блізкіх да яе або ініцыяваных ёю "Беларускага календара" "Нашае Нівы" (з 1914 года – Беларускага выдавецкага таварыства ў Вільні), альманаха "Маладая Беларусь" (1912—1913), часопіса для моладзі "Лучынка". Нараджэнне літаратурна-мастацкай крытыкі дакладна фіксуецца 1908 годам, калі ў "Нашай Ніве" з'явіліся рэцэнзіі і чытацкія водгукі на першы паэтычны зборнік Янкі Купалы "Жалейка". Праўда, у беларускай крытыкі была свая перадгісторыя: гэта – праграмныя творы, уступныя нарысы пачынальнікаў новай літаратуры XIX стагоддзя, іхнія гісторыка-літаратурныя экскурсы і публіцыстычныя ўстаўкі ў мастацкія жанры.

Нашаніўскае Адраджэнне – гэта цэлая эпоха станаўлення нацыянальнай літаратурнай класікі. За кароткі час (1906—1916) крытыка не паспела развіць свае творчыя магчымасці, выявіць на аналітычным і эстэтычным узроўнях асноўныя мастацкія плыні свайго часу, пазнаць іхнія вытокі і перспектывы на будучыню. Крытычныя нататкі друкаваліся эпізадычна, не было сталых літаратурна-крытычных аддзелаў у тагачаснай беларускай перыёдыцы, бо і кнігі пісьменнікаў заста-

валіся рэдкай навіною. Эстэтыку нацыянальнага Адраджэння, яе тэндэнцыі і плыні прэзентавала тады найперш паэзія, бо мела адкрыта праграмны, ідэйна-філасофскі і архетыпічны накірунак.

Хрысціянскі архетып, сялянская прытча і рэальна-пластычны сімвал – вось што адразу прачытваецца ў вершах, імпрэсіях, публіцыстычных нататках папярэдніцы "Нашай Нівы", кароткатэрміновай "Нашай Долі". Праграмны верш Мацея Крапіўкі (першы псеўданім паэткі Алаізы Пашкевіч, вядомай чытачу па іншым псеўданіме – Цётка) "Наш палетак" гаворыць гісторыку літаратуры больш, чым зварот рэдакцыі "Да чытацелёў". Паэтычная думка верша – тыпова адраджэнская: наша краіна багатая, народ працавіты ("Глеба чорна, у руках сіла"), яна мае традыцыю ("Наш сявец не раз там кідаў// Залатое зерне з жмені...), але нас зачаравалі злыдні ("Наш палетак не гараны,// Палынамі цвяце ніва..."). Заключная частка твора – заклік араць, засяваць, сабіраць "наш палетак". А палетак гэты – нацыянальная мова, асвета, культура, палітычная свабода. Яны не прыходзяць як біблейская манна нябесная альбо як антычны *deus ex machina*. Іх трэба напрацаваць, абараніць, за іх трэба змагацца.

У "Нашым палетку" Цёткі пункцірна пазначаныя матывы ранняй нашаніўскай паэтычнай эстэтыкі. Адносна поўна яны выявіліся ў зборніках паэткі "Скрыпка беларуская" і "Хрэст на свабоду", а таксама ў вершах 1903—1914 гадоў, якія не ўвайшлі ў гэтыя кніжачкі. На шэсць гадоў старэйшая за Купалу і Коласа, Алаіза Пашкевічанка аказалася Цёткай беларускай класічнай літаратуры, а яе творчасць – паэтычнай уверцюрай да нашаніўскай адраджэнскай сімфоніі, тым літаратурным звяном, якое злучыла спадчыну пачынальніка Францішка Багушэвіча з літаратурна-мастацкай культурай XX стагоддзя. У прадмове да "Скрыпкі беларускай" Цётка сама засведчыла свой

паэтычны радавод ад "Дудкі беларускай" Мацея Бурачка (Францішка Багушэвіча) і марыла пра новага "артыста" з курных сялянскіх хатаў, які "збярэ ўсе нашы беларускія інструменты і наладзіць гранне як мае быць"[1].

Сёння ўжо відавочныя тэарэтычныя памылкі сацыялагічнай і рэалістычнай школаў савецкага літаратуразнаўства, схільных тлумачыць раннюю і нават класічную беларускую паэзію ў сэнсе непасрэднага адлюстравання сацыяльна-класавага быцця беларускага народа, пераважна сялянства да Кастрычнікавай рэвалюцыі 1917 года. Погляд на мастацкую творчасць як непасрэднае адлюстраванне эмпірычнай рэальнасці прывёў да фальшывага ўяўлення грамадскасці пра нашую класічную літаратуру як з'яву лакальную, рэгіянальную, амаль этнаграфічную творчасць, на якую ў лепшым выпадку паўплывала літаратура руская, польская і ўкраінская, але якая не паднялася на ўзровень так званай сусветнай літаратуры. Між тым ужо на стадыі "уверцюры" (маю на ўвазе творчасць Цёткі) добра праглядваюцца антычныя і агульнахрысціянскія архетыпы беларускай літаратурнай класікі. Больш за тое, яны ёсць і ў пачынальнікаў – нашых пісьменнікаў XIX стагоддзя. Да антычнага, набліжанага да ранняга хрысціянства архетыпу належыць матыў чароўнага музыкі – увасаблення ўнушальнасці, сугестыўнасці (лацінскае suggestio, унушэнне) мастацкай творчасці.

У антычнай паэтычна-міфалагічнай традыцыі гэты матыў увасобіўся ў вобразе Арфея. Ад яго імя будзем называць адпаведныя архетыпы універсальнай мастацкай культуры. Арфей – сын рачнога бога Эагра (паводле іншага варыянту – бога сонца і боскага пастуха Апалона) і алімпійскай музы Каліёпы, апякункі эпічнай паэзіі і песні. Каханаю жонкаю Арфея была парнасная німфа Эўрыдыка. Ад змяінага ўкусу яна памерла і трапіла ў Апраметную, дзе гаспадарылі бог Аід і ягоная жонка Персефона,

дачка багіні расліннага царства Дэметры. Арфей спусціўся ў царства мёртвых, сваёй музыкай зачараваў Аіда, Персефону і страшнага вартаўніка Апраметнай сабаку Цэрбера. Аід пашкадаваў закаханых, адпусціў Эўрыдыку на зямлю, але з умовай, каб Арфей, вяртаючыся ў царства жыцця, не азірнуўся на сваю каханую. Ля самага выхаду Арфей парушыў табу і назаўсёды страціў Эўрыдыку. Ён сумаваў, жыў у лясной глушы, спяваў журботныя песні пад гукі ліры, зачароўваючы ўсё наваколле. Не прызнаваў бога віна і вяселля Дыяніса (Вакха), спавядаўся богу сонца, называючы яго сваім бацькам Апалонам. Раззлаваны Вакх наслаў на Арфея сваіх спадарожніц вакханак, яны разарвалі яго на часткі. Паводле іншай версіі, Арфей усё ж вывеў Эўрыдыку, пражыў з ёю шчаслівыя пастаральныя гады; але ў рэшце рэшт у дні паганскіх вакханаліяў быў разарваны ўсё тымі ж вакханкамі. Яго "цень" (душа) спусцілася ў царства Аіда, там назаўсёды злучылася з Эўрыдыкай.

У VI ст. да н.э. у асяроддзі антычных інтэлектуалаў узнікла секта арфістаў, паслядоўнікаў эзатэрычнага культу Арфея. Паводле іх вучэння, чалавек узнікае з процілеглых пачаткаў – добрага, сонечна-апалонаўскага, і злога, цёмна-тытанічнага. Мэта чалавека – вярнуцца да светлага Бога праз аскезу і ачышчальны шлях у зямным жыцці. Праз чароўную музыку Арфея душа людская вызваляецца ад зямной, жывёльнай прыроды, падымаецца да неба, далучаецца да вечнасці. Ад культу Арфея пачынаецца адзін з ранніх вытокаў рэлігіі Боскага Сына. Хрысціянства першых стагоддзяў тлумачыла вобраз Арфея як міратворцы, які забараніў крывавыя паганскія ахвяры. Арфей, такім чынам, – як бы папярэднік Хрыста, з ягонага вобразу бярэ пачатак іканаграфія Добрага Пастыра – мастацкага сімвала Хрыста, які сам сказаў пра сябе: "Я пастыр добры: добры пастыр аддае жыццё сваё за авечак" (Ян

10:11). Захаваліся раннехрысціянскія выявы Арфея ў атачэнні дзікіх жывёлаў, зачараваных яго музыкай.

Пачынаючы з класічнай антычнасці, архетып Арфея стаў папулярным матывам у сусветнай літаратуры, музыцы, тэатральным мастацтве. Арфей у міфалагічнай, фальклорнай і музычнай традыцыі – медыятар (пасрэднік) паміж трыма ўзроўнямі космасу – Зямлёй, Апраметнай і Небам. Ён мае дачыненне да Раю (paradis) і Пекла (infernalis). Ягоны вобраз фальклярызаваўся ў беларускай этнічнай культуры, арыгінальна пераўтварыўся ў запісаных Аляксандрам Сержпутоўскім казках "Музыка і чэрці" (драматычны варыянт) і ў казцы тыпу травесці "Цыган-музыка" (камічны варыянт). Еўдакім Раманаў запісаў цыкл казак на тэму "чароўная дудка" [2].

Арфічны архетып, верагодна, быў ля вытокаў новай беларускай літаратуры. Пачынаў яго пятнаццацігадовы сялянскі сын Паўлюк Багрым, асуджаны на мікалаеўскую салдатчыну за першы і, верагодна, апошні верш:

*Зайграй, зайграй, хлопча малы,*
*І ў скрыпачку і ў цымбалы,*
*А я зайграю ў дуду,*
*Бо ў Крашыне жыць не буду...*

Музыкальная замова ад салдацкай катаргі, спалучаная з алюзіямі на традыцыйнае чарадзейства ("...У ваўкалака абярнуся, //З шчасцем на вас абярнуся") і народныя прымхі ("Ой, кажане, кажане!// Чаму ж не сеў ты на мяне? // Каб я больш не падрос// Ды ад бацькавых калёс").

Верагодна, ад унікальнага верша крошынскага паэта пачалася арфічная намінацыя беларускай паэтычнай кнігі і беларускага верша. У ідыліі "Лірнік вясковы" Уладзіслаў Сыракомля (1823—1862) кожную страфу пачынае з

 



рэфрэна: “Ліра мая ты спеўная з чараўнічага дрэва!” [3]. Сам паэт стаў для народа *вясковым лірнікам*, а на мове міфалагічнай традыцыі – сялянскім Арфеем.

Сялянскім дударом хацеў быць папярэднік нашаніўскага Адраджэння Францішак Багушэвіч, на гэтую ролю прэтэндуюць найменні ягоных паэтычных кніг: “Дудка беларуская” і “Смык беларускі”. Уводны верш паэта да першай кнігі “Мая дудка” – паэтычная замова з мэтай надаць паэтычнай песні чарадзейную моўнасць: “Эх, скручу я дудку!// Такое зайграю,// Што ўсім будзе чутна *//Ад краю да краю!* [...]. Каб ты так ігрaла, //Каб зямля скакала!// Зайграй так вясёла, // Каб усе ў кола, //Узяўшыся ў бокі, //Ды пайшлі ў скокі [...]. Каб скакалі горы,// Як фаля на моры...” Следам за гэтай карнавальна-дыянісійскай музыкай паэт наладжвае сваю душу на элегічны лад, на сусветны плач: “Цяпер зраблю дудку // Ад жалю, ад смутку. // Га! Зраблю ж другую, Жалейку смутную, //Ды каб так заграла,// Каб зямля стагнала. [...] Плач, як мае вочы, // Над народнай доляй [...]. Ігрaй слёзным тонам// Над народным сконам!” [4].

Паэтычна-вобразная мова верша “Мая дудка” сведчыць аб тым, што ў прыгожае пісьменства архетып Чароўнага Музы́кі прыйшоў праз народную культуру. У зборніку “Казкі і апавяданні беларусаў-палешукоў” (1911) А.Сержпутоўскі запісаў казку “Музы́ка і чэрці” – беларускі варыянт сусветнага арфічнага матыву. Герой казкі сваёю ігрой на чароўнай дудцы зачароўвае не толькі людзей, але і звяроў, птушак, навакольную прыроду. Зайграе мелодыю-жальбу – усе маркоцяцца і плачуць. Паверне сваё гранне на вясёлыя, карнавальныя матывы – усе кідаюцца ў скокі: скачуць касцы і жнеі, “скачуць малыя дзеці, скачуць коні, скачуць кусты й лес, скачуць зоркі, скачуць хмаркі – усё скача й смяецца”.

Уводны верш да другога зборніка – “Смык беларускі”



 

– ёсць рэпрыза да той жа арфічнай тэмы, толькі ў іншым, журботным рэгістры і рытме. Аўтар ізноў хоча, каб яго "музыку" пачулі *"па ўсёй зямлі, гдзе людзь жывуць"*, каб ягоны смык зайграў як тая труба з Апакаліпсісу, што пазаве на суд у астатні час увесь Божы люд, каб ад гэтай музыкі камені распаліся ў жарству, пясок [5]. І ў свае апошнія гады смяротна хворы Ф.Багушэвіч напісаў развітальныя вершы ад імя беларускага дудара і лірніка:

*Вецер дзьме і вые,*
*Што аж мыслі рвуцца,*
*Змоўклі песні тые,*
*Што іграў на дудцы.*
*Раз яшчэ сыграю*
*У астатняй хвілі*
*Для тых, што жаль маю,*
*Што мяне забылі...*

Урэшце – у апошнім вершы:

*Дагарае рэшта вецця*
*У чурцы ў хаце,*
*І гаворыць нешта ў сэрцы:*
*Так і з табой, браце.*
. . . . . . . . . . . .
*Не заззяе агонь болей*
*Весела і бурна,*
*Як і твой юнацкі голас*
*Ліры аднаструннай [6].*

Ва унікальным вершы П.Багрыма поруч з лірычным героем-музыкам праглядвае аблічча пакрыўджанага старэйшымі і "багацейшымі" братамі мужыка-бедняка. У Ф.Багушэвіча гэты другі вобраз-матыў пачынае часам

дамінаваць, адцясняючы лірніка і дудара на другі план – для акампанементу. Так спакваля адбылася кантамінацыя двух архетыпаў беларускай літаратуры – антычнага чарадзея-музыкі і біблейскага Лазара Беднага. Гэта – здвоены сімвал беларуса-мужыка, а шырэй – ягонай радзімы Беларусі, беларускай нацыі на этапе яе творча-мастацкай і філасофскай кансалідацыі.

Паводле евангеліста Лукі, прыпавесць пра Лазара Беднага і багатага брата распавядаў сам Ісус Хрыстос сваім вучням. Вось яе крыху скарочаны тэкст:

"Нейкі чалавек быў багаты, апранаўся ў парфіру і вісон і кожны дзень банкетаваў раскошна. Быў таксма нейкі жабрак, на імя Лазар, які ляжаў каля варотаў ягоных у струпах і хацеў накарміцца крошкамі, што падалі са стала багацея; і сабакі прыходзілі і лізалі струпы ягоныя.

Памёр жабрак і ўзнесены быў анёламі на ўлонне Абрагамава; памёр і багаты, і пахавалі яго; і ў пекле, ужо ў пакутах, ён узвёў вочы свае, убачыў удалечыні Абрагама і Лазара на ўлонні ягоным і, загаласіўшы, сказаў: "Войча Абрагаме! Умілажалься сэрцам за мяне і пашлі Лазара, каб умачыў канец пальца свайго ў ваду і ахаладзіў язык мой, бо я пакутую ў полымі гэтым.

Але Абрагам сказаў: Дзіця! Згадай, што ты атрымаў ужо добраснае тваё ў жыцці тваім, а Лазар ліхое: і цяпер ён тут суцяшаецца, а ты пакутуеш; і звыш таго, паміж намі і вамі пакладзена вялізная прорва, так што тыя, хто хоча перайсці адсюль да вас, не могуць, гэтаксама і адтуль да нас не пераходзяць".

Зразумела, архетып Лазара Беднага так моцна ператварыўся ў беларускай паэзіі, страціў рэлігійна-канфесійныя прыкметы, дапасаваўся да беларускага сацыяльнага і нацыянальнага кантэксту, што не быў прыкмечаны даследчыкамі і крытыкамі, мала знаёмымі з біблейскай і народна-этнічнымі традыцыямі. Зусім верагодна, што гэты

архетып прыйшоў у літаратуру з фальклору, дакладней, з папулярных у народным і прыцаркоўным побыце Лазаравых песняў, што распяваліся вандроўнымі песнярамі-жабракамі, нярэдка пад акампанемент ліры.

У каментары да беларускага "Лазара" (зборніка духоўных песняў) Е.Раманаў адзначыў: "Лазар Бедны шырока распаўсюджаны на Беларусі, яго спяваюць не толькі старцы ex officio ("на пасадзе" – *У.К.*), але і ўсе прыгнечаныя і зняважаныя. Здаецца, беларус не супроць таго, каб бачыць у Бедным Лазары самога сябе" [7]. Пазней, на пачатку XX ст., С.Малевіч (верагодна, бацька славутага пачынальніка геаметрычнага абстракцыянізму ў мастацтве) у прадмове да каталіцкага варыянту беларускага Лазара-лірніка пісаў: "Беларускія лірнікі складаюць асобны клас прафесійных жабракоў – вандроўных спевакоў, якія спяваюць пад акампанемент свае ліры звычайна духоўна-рэлігійныя вершы [...]. Спевы лірнікаў прыносяць вясковаму люду вялікую духоўную і эстэтычную асалоду. Само ж рамяство гэтых спевакоў лічыцца пачэсным заняткам і заўсёды ўзнагароджваецца простымі слухачамі глыбокай павагай і шчодрымі падарункамі" [8].

Песні лірнікаў з часоў уражлівага дзяцінства ўвайшлі ў сэрца і душу сялянства і адгукнуліся ў творчасці яго выбраннікаў – беларускіх паэтаў-песняроў. Гэта яны, свядома ці падсвядома, праз мастацкую інтуіцыю, перанеслі архетып Лазара Беднага на элегічны вобраз Беларусі і беларуса.

На ўзроўні ўверцюры да нашаніўскай эстэтыкі ("Скрыпка беларуская" Цёткі) адбылася кантамінацыя арфічных і Лазаравых матываў, вобраз чароўнага музы́кі максімальна наблізіўся да хрысціянскага Лазара Беднага, пераадолеўшы яго пасіўна-пакутніцкую сутнасць заклікам да сацыяльна-палітычнай і духоўна-творчай актыўнасці. У вершы-запеве "Скрыпка" аўтарка акцэнтуе ўвагу

 



на чараўнічай, пабуджальнай, сугестыўнай сіле музыкі: "У песні можна пераліці// Усё найлепша, наймілейша;// У песні можна даць пяруны, //Песняй сэрца рваць на часці; //Крэпкі толькі былі б струны..." Дарэчы, у ранніх вершах Цёткі (1903—1906 гг.) пераважаюць актыўна-пераўтваральныя матывы ("Нас кавалі ў пламенні, //Каб мацнейшымі мы сталі"), нават ідэальныя карціны сялянскага раю (пастаральны верш "Лета"). Падчас эміграцыі паэзіі паэтка следам за Адамам Міцкевічам сніць райскія сны аб сваёй радзіме: "Ой, як люба родна хата! //Ой, як мілы родны край! / /Паляцеў бы, як у рай!" ("На чужой староне"). У традыцыйным жанры "exegi monumentum" (помнік-запавет) паэтка выкарыстала матывы чароўнай дудкі з беларускіх казак:

*На магіле ўзыду дубам,*
*Пачну шаптаць братнім губам*
*Аб іх долі, аб свабодзе,*
*Стану песняй у народзе!*
*Пастух дудку з мяне скруціць*
*Як зайграе, кроў замуціць,*
*Як засвішча, кожны стане:*
*"Што за гранне, што за гранне?*
*Што то будзе, што то будзе*
*З гэтай песні ў нашым людзе!"*

**("На магіле").**

Эміграцыя паэткі спачатку ў "аўстрыйскую" Галіцыю, пасля ў Кракаў, дзе яна вучылася на філасофскім факультэце Ягелонскага універсітэта, палітычная рэакцыя ў краіне прымусілі "Нашу Ніву" часова перанесці акцэнты ад рэвалюцыйнай агітацыі да ліберальна-асветніцкай і культурніцкай прапаганды. Перамена сацыяльна-палітычнага клімату ў краіне паўплывала на паэзію і



 

публіцыстыку гэтай трыбуны беларускага нацыянальнага руху. Меладычнымі дамінантамі нашаніўскай паэзіі 1907—1910 гг. былі элегічныя матывы і лад мінорны, вядомыя ў гісторыі крытыкі як "плач па роднай стронцы". Як ужо адзначалася, у аснове яе праглядваецца евангельскі архетып Лазара Беднага, моцна трансфармаваны пад уздзеяннем прафесійнай паэтычнай традыцыі. З найбольшай паўнатой гэты маркотна-жалобны, бядняцка-сялянскі перыяд нашай класічнай літаратуры выявіўся ў першых зборніках яе лідэраў – Янкі Купалы "Жалейка" (1908), Якуба Коласа "Песні жальбы" (1910), ранніх вершах Максіма Багдановіча ("Над магілай"; "Мае песні"; "На чужыне"; "З песняў беларускага мужыка"). Аналізу гэтай плыні нашаніўскай эстэтыкі прысвечаны цыкл маіх артыкулаў пра цыклічную структуру паэтычнай спадчыны, аналагічную санатнай кампазіцыі ў музыцы [9]. У гэтым жа нарысе звернем увагу на аналагічныя матывы ў нашаніўскай публіцыстыцы і масавай самадзейнай паэзіі.

"Мы будзем служыць *усяму беларускаму скрыўджанаму народу*, пастараемся быць люстрам жыцця, каб ад нас, як ад люстры, свет падаў у цёмнасці [...]. Каб *усе беларусы*, што не ведаюць, хто яны ёсць, – *зразумелі*, што яны *беларусы і людзі*..." Гэтая запеўка праграмнага рэдакцыйнага артыкула развіваецца з першага да апошняга нумару штотыднёвіка. У нататках "Паўлюковы думкі" Дзядзька Карусь (яшчэ адзін псеўданім Якуба Коласа) пытаецца: "Мой моцны Божа! Чаму такая несправядлівасць і няпраўда на свеце? І чаму справядлівую кару Тваю, каторую пакараў Ты Адама за грэх яго, нясуць толькі бедныя людзі? [...]. Чаму адны знялі ярмо са свае шыі і ўзлажылі яго на шыі другіх? [...]. Ходзіць мужык расхлістаны, у лапцях, чорны, як камінар, з мазолямі [...]. Горкі пот залівае яму вочы. Мерзне зімою ў хаце. Есць – як папала. У хлеб падсыпае мякіну; есць нішчымна квас і זацірку. Яго

ўсякі гоніць, ўсякі ўшчувае. Забілі мужыка, скалечылі яго душу, адабралі ад яго вобраз Твой, Божа!" [10].

Нататкі Якуба Коласа "Думкі ў дарозе" развіваюць элегічныя матывы яго першага друкаванага верша "Наш родны край", які пачынаўся з радкоў "Край наш бедны, край наш родны!// Гразь, балота ды пясок" і канчаўся варыяцыяй гэтай "лазаравай" песні: "Край наш родны. Бедна поле!// Ты глядзіш, як сірата,// Нудны ты, як наша доля, // Як ты, наша цемната!" У нататках – тое ж самае: "О, мой родны край! Хмурна пазіраеш ты з сіняга туману, што лёг па краёх палёў, дзе неба, спусціўшыся нізка, абнімаецца з беднаю зямлёю [...]. А бедныя вёскі і сёлы без усякага парадку параскідаліся то там, то сям [...]. Пакрывіліся хаты, абвіслі стрэхі на гумнах, сінія купіны моха тоўстаю карою леглі на гнілых саламяных стрэхах [...]. Поруч з ганьбаю ходзіць роскаш і багацтва, разам з людскімі слёзамі мяшаюцца панскія вальцы, льюцца вясёлыя галасы песень, грыміць музыка з панскага сада; разам з мужыцкім потам цякуць дарагія віны. Толькі нудныя песні твае, беларус, хапаюць за сэрца, жалобяць душу, туманяць вочы слязамі, плачуць і стогнуць, і горкаю ўцехаю, ціхаю скаргаю плывуць к далёкаму, няведамаму, сіняму, спакойнаму небу" [11].

Тут евангельскі архетып Лазара Беднага – сімвал пакрыўджанай "старэйшым братам" роднай Беларусі. Тады ж – у першыя гады "Нашай Нівы" – Якуб Колас пачаў друкаваць свае сімвалічныя "Казкі жыцця". Першаю была казка "Дудар", надрукаваная пад псеўданімам Тамаш Булава. Прыпавесць пра трох браткоў, пра ўсімі пакрыўджанага Меншага Брата: "Плакаў ён, і ніхто не бачыў яго слёз, ці не хацеў бачыць. Спяваў ён і песні, доўгія, нудныя песні, песні нядолі". Беларускі вобраз Лазара Беднага дапаўняе прыпавесць пра Дудара, дзе адбываецца кантамінацыя двух архетыпаў нашаніўскай паэзіі [12].

Вядомы публіцыст "Нашай Нівы" Пётра Просты (пад гэтым псеўданімам пісаў сялянскі сын Ільдэфонс Бобіч, будучы каталіцкі святар, доктар філасофіі, выдатны хрысціянскі асветнік, 1890—1944 гг.) ужо прамым тэкстам уводзіць у нашаніўскую эстэтыку сацыяльна-нацыянальных кантрастаў евангельскі архетып у імпрэсіі "Слёзы". Вось фрагменты з гэтага твора: "Ясна гарацъ агні ў багатым палацы вяльможнага пана, гаспадар спраўляецъ баль. Гнуцца дубовыя сталы ад націску дарагіх бутэлек ды страваў, грыміць музыка ў панскіх салонах, чуваць вясёлыя песні. Госці танцуюць, весяляцца і нікому няма дзела да таго беднага мужыка, што стаіць цяпер каля варот панскага палацу і дрыжыць ад холаду і голаду, і плачаць ад несправядлівасці ды крыўды людской [...]. Пайшоў ён, няшчасны мужык, да шчаслівага пана, нібы той Лазар да багача, – папрасіць ратунку [...]. Але вяльможны пан не даў яму ратунку, не пацешыў беднага; вяльможны пан выштурхаў яго за вароты – на мароз, на голад, на смерць [...]. А мароз усё крапчэе – холад пякельны сціскаецъ беднага прамёрзшага Лазара, люты сівер ледзяністымі нажамі рэжа яго хворае цела, а слёзы цякуць з блішчаных апошнім светам вачэй" [13].

Як ужо адзначалася, архетып Лазара Беднага ў сімвалічнай, імпліцытнай (скрытай мастацкімі сюжэтамі і прыпавесцямі) форме ёсць у многіх вершах з першых паэтычных зборнікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Але калі ў пачынальнікаў класічнай літаратуры паэтычныя скаргі і жальбы на ўвесь свет ураўнаважваліся светлымі, поўнымі веры і надзеі апалонаўскімі матывамі, то ў масавай, самадзейнай нашаніўскай паэзіі гэтай гармоніі святла і ценяў якраз неставала.

Нехта, падпісаўшыся "праграмным" псеўданімам Маркотны, апублікаваў верш "Наша доля": "Наша доля... што за доля?! // Цёмна, як магільны сон.// Наша жыццё –

 



гэта болей —// Смерці доўгай страшны сон...” [14]. Іншы паэт пад псеўданімам Баўтрук скардзіўся: “Маё жыцце – адно гора,// Што лятае між людзей.// Усюды пуста, усюды гола...// Слёзы коцяцца з вачэй...” А ў чарговым нумары “Нашай Нівы” ён перанёс гэтае татальнае гора на сваю бацькаўшчыну: “Ці знаеш старонку,// Гдзе беднасць жыве; // Гдзе гора, нядоля// З слязой плыве?// Гдзе рэчкі ў балотах,// Як стужкі, блішчаць; Гдзе ўздохі і енкі// Так часта чуваць? [...]. Гдзе поле з каменнем// Як стужка паўзе;// Гдзе людзі ўсё жыцце// Праводзяць у нудзе?” [15]. Вось з такіх вершаў-плачаў нярэдка пачыналася “Наша Ніва” ў першыя свае гады.

Плач па роднай старонцы, эфектыўны ў гады рэвалюцыйнага ўздыму як сродак прабуджэння ад “грамадскага сну”, ініцыяцыі нацыянальнай і асабіста-чалавечай самасвядомасці, у гады палітычнай рэакцыі страчваў сваю функцыю духоўнай пабудкі, зніжаў вобразы роднага краю, не садзейнічаў нацыянальнай кансалідацыі, разбураў характэрны для здаровага народа натуральны аптымізм. Гэта разумелі выдаўцы і духоўныя лідэры “Нашай Нівы”: пачынаючы з 1908 года, пад прыгнётам *сталыпінскай рэакцыі* паступова пераарыентоўвалі сваё выданне на ўслаўленне роднага краю. Спакваля Арфей браў верх над Лазарам Бедным, нябесная вышыня – над камяністай і забалочанай далінай, вера і надзея – над адчаем. Пачыналася ўзыходжанне жабрака Лазара на Абрагамава ўлонне, райскія матывы набылі значэнне будучай, ідэальнай Беларусі.

Узнікненню новай, адраджэнцкай плыні ў нашаніўскай эстэтыцы садзейнічала літаратурная крытыка, якая следам за паэзіяй, палітычнай публіцыстыкай і белетрыстыкай зарунела на загонах “Нашай Нівы”. У ролі пачынальніка тут выступіў крыху старэйшы за Янку Купалу яго першы літаратурны настаўнік і апякун, публіцыст мінскіх прагрэсіўных газетаў, крытык і рускамоўны паэт Ула-



 

дзімір Самойла. На выхад Купалавай "Жалейкі" ён адклікнуўся дзвюма рэцэнзіямі. У сваёй газеце "Минский курьер" (быў штатным супрацоўнікам гэтага дэмакратычнага выдання) ён даў рэцэнзіі загаловак "Вялікае свята: "Жалейка" Янкі Купалы". Вось фрагменты з яе: "На вуліцы маладой Беларусі – вялікае свята! Сонца жывой, сапраўднай паэзіі заглянула ў аконца цёмнай, беднай, але вялікай хаты беларускага народа! Гукі роднай "Жалейкі", прасякнутыя сапраўднай чалавечнасцю, жывой любоўю і жалем да роднага беларускага свету, вырваліся з народнага сэрца, з вуснаў нацыянальнага паэта і цяпер сталі нацыянальным скарбам для беларуса, магутным рычагом для разумовага і маральнага развіцця... Мы прысутнічаем пры гістарычнай падзеі, надзвычай важнай для краю. Беларуская песня з узроўню этнаграфіі пераходзіць на ўзровень літаратурны. Беларускі народ з аб'екту фальклярыстычнага даследавання становіцца суб'ектам нацыянальнай самасвядомасці. І "Жалейка" Янкі Купалы – адзін з доказаў гэтай вялікай падзеі".

Дарэчы, крытык заўважыў сярод жалейкавых, пераважна "лазаравых" песняў іншыя – апалонаўскія – матывы, услаўленне красы роднага краю, звярнуў увагу на майстэрства паэта ў замалёўцы "блізкай народнаму сэрцу роднай красы", глыбокі роздум над быццём людскім, шчырасць выяўлення эстэтычных пачуццяў, унутраную дынаміку вершаў, іхнюю музыкальнасць. Урэшце, сказаў прарочае слова пра паэта на пачатку яго творчага шляху: "Няхай ён стане для беларусаў тым, кім быў Шаўчэнка для Украіны!.. Прыйдуць лепшыя часы, і за ягоны подзвіг родны народ заплаціць яму сваёй найлепшай удзячнасцю – неўміручасцю! [16].

Нашаніўскую рэцэнзію крытык накіраваў і ў іншым, у адраджэнскім ключы: падкрэсліў значэнне новай беларускай літаратуры для станаўлення літаратурнай мовы і

 



нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, акцэнтаваў увагу на прарочай магіі народных песняроў. "Песні Купалы, – адзначаў У.Самойла, – гэта люстра, у каторым свеціцца душа беларуса, яго жыццё, яго родны край; гэта праўдзівы, непадроблены голас, што выходзіць з самай глыбі народнай душы, гэта – *"крык, што жыве Беларусь!"* – І хто раней не верыў, каб беларускі народ мог прачнуцца і пайсці сваёй уласнай дарогай, той цяпер мусіць прызнаць, што беларусы яшчэ не ўмёрлі, яшчэ маюць сілу жыцця і развіваюцца, што самі яны *"нясуць сваю крыўду на свет цэлы"*, захацелі *"людзьмі звацца"*. А закончыў крытык сваю ацэнку паэзіі Купалы як з'явы нацыянальнай і роднай: "Няхай яго думкі, *"думкі-весялушкі"*, што ў сэрцы паэты народнага *"нібы птушкі песняй азваліся"*, знойдуць сабе дарогу ў кожную хату вясковага беларуса. Няхай "Жалейка" будзіць народнае самапачуццё, няхай памагае беларусам прачнуцца ад векавога сну, жыць новым жыццём, расці і развівацца ў добрай згодзе і разам з братнімі суседнімі народамі!" [17].

Недзе з канца 1908 года тэма ўваскрашэння Беларусі спакваля займае галоўнае месца ў "Нашай Ніве". Там друкуецца артыкул "Колькі слоў аб нацыянальным адраджэнні забытага народу", і пачынаецца ён з выказвання прафесара Аляксандра Пагодзіна ў артыкулах "Беларусы" і "Беларускія паэты": "У Егіпце ў магілах калісьці знайшлі жменю пшанічных зерняў. Праляжалі яны там некалькі тысяч гадоў, і ўсё ж такі, як іх пасеялі, зярняты ўзышлі і далі ўраджай. Усё, у чым толькі ёсць пачатак жыцця, можа ажыць, калі зложацца патрэбныя варункі. Гэтак бывае і з народамі. Як вучыць гісторыя, не адзін ужо народ, каторы зваявалі насільствам, заціснулі бяспраўем, і каторы, здавалася, саўсем памёр, – разам адрадзіўся, і дух народу, прачнуўшыся ад доўгага сну, уставаў на новае жыццё. А раз уваскрэсшы, кожная нацыя мае ўжо та-



 

кую сілу, нацыянальнае пачуццё робіцца такім моцным, што нягледзячы на ўсе перашкоды, заўсягды прачысціць народ сабе дарогу да новага жыцця" [18]. Аўтар рэдакцыйнага артыкула праілюстраваў гэтую гістарычную заканамернасць нацыянальнага Адраджэння этапамі гісторыі Беларусі.

Праз два гады М.Багдановіч апублікуе ў "Нашай Ніве" санет "Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі" – паэтычнае выяўленне эстэтыка-нацыянальнага Адраджэння:

*Вось сімвал твой, забыты краю родны!*
*Зварушаны нарэшце дух народны,*
*Я верую, бясплодна не засне,*
*А ўперад рынецца, маўляў крыніца,*
*Каторая магутна, гучна мкне,*
*Здалеўшы з глебы на прастор прабіцца [19].*

У 1909—1910 гг. М.Багдановіч апублікаваў у газеце вершы з будучага цыклу "У зачарованым царстве", прысвечанага красе роднага краю ў чароўных вобразах паэтычнай міфалогіі. "Наша Ніва" звярнулася да мінуўшчыны краю, апублікавала "Кароткую гісторыю Беларусі" Вацлава Ластоўскага і брашуру Дмытра Дарашэнкі "Беларусы і іх нацыянальнае адраджэнне" ў перакладзе з украінскай мовы.

Ад гэтага часу "Наша Ніва" шукала і знаходзіла красу жыцця і мастацтва ў гісторыі краіны і штодзённым побыце народа, асаблівую ўвагу звяртала на мастацка-фальклорную традыцыю, гарманічныя бакі ў традыцыйным ладзе жыцця, у народнай песні, нацыянальным адзенні і найбольш у мове – гэтым, паводле Ф.Багушэвіча, адзенні людской душы. У карэспандэнцыі з Віцебска Вацюк Тройца* паведамляў: "На дзявятнік давялося мне купіць не-

* Псеўданім Вацлава Іваноўскага.

калькі прыгожых ручнікоў, спадніц, світак, паясоў і г.д.; шкада толькі, што нашыя жанчыны кідаюць спрадвечныя хатнія ўзоры, а гоняцца за "моднымі" ўзорамі з "паперак". Такім парадкам на ручніках з'яўляюцца крамныя ўзоры – "тандэнт", на каторы і глядзець прыкра, дый не відаць, што выйшлі яны з беларускіх кросен [...]. Світкі белыя суконныя і летнія парцяныя ў пекны старабеларускі пакрой народ тутака яшчэ носіць" [20].

Лявон Гмырак праз газету звяртаўся да сваіх землякоў з дакорам: "На што ж гэта вы ўсяго свайго чураецеся? Няўжо ж у вас ужо саўсем загінула пачуццё красы і вы не бачыце, наколькі прыгажэй свая добра зробленая адзежа ад тандэты, якую вы цягаеце? [...]. Чаму ж вы не апранаецеся ў сваю родную нацыянальную адзежу, якая і пекна, і танна, а гэтулькі выкідваеце грошы на тое, каб адзецца "па-панску" [21]. Усё ж пераважалі станоўчыя прыклады. Паэт Лявон Лобік хваліў моладзь вёскі Кукавічы Слуцкага павета за прыгожае народнае адзенне. Паводле нашаніўскага карэспандэнта А.Ганчарыка, моладзь Ігуменскага павета спявае прыгожыя народныя песні і носіць традыцыйнае адзенне [22].

"Наша Ніва" апублікавала брашуру свайго крытыка і даследчыка народнага мастацтва Альгерда Бульбы (Вітаўт Чыж, у 1928 годзе віцэ-прэзідэнт Вільні) "Колькі слоў аб дзявочай апратцы на Беларусі" (1911). "Няма на зямлі народу, – пісаў ён, – каторы не меў пачуцця хараства і не даказаў гэтага ў якім-небудзь спосабе. Гэта выяўляецца ва ўсякіх прыладах, у адзежы, у танцы і песні, у крою апратак, і ў гэтым непаўторная краса кожнага народу". На думку даследчыка, беларуская этнічная культура ярка выявіла агульнаславянскую народную эстэтыку – уменне ўвасобіць багаты змест і красу ў някідкай, сціплай форме.

Адкрыццё красы традыцыйнай народнай культуры

адбывалася якраз напярэдадані першай беларускай літаратурнай дыскусіі летам 1913 года, яно паслужыла нацыянальнай кансалідацыі ў драматычны перыяд 1914-1920 гг. Першыя даследаванні ў гэтым кірунку друкавала "Наша Ніва". У нататках "Купалле ў Вільні" (1913) Зм.Бядуля адзначаў: "Вельмі пекна выглядалі жаноцкія беларускія касцюмы. Словам, пазіраючы на гэтую містэрыю, поўную хараства і паэзіі, душа безгранічна весяліцца [...]. Людцы! Хай вам гэтае святкаванне служыць перакананнем таго, што шмат чаго пекнага ёсць на зямлі: пекныя і добрыя рэчы зараз жа знаходзяць вокліч у нашых сэрцах..." Карэспандэнт газеты Ілюк Чалеўскі (І.Вораг) звяртаўся да чытачоў: "Ці ж можна забыць бацькаўшчыну з ігрышчамі, хрэсьбінамі, вяселлямі, на каторых стройна іграюць скрыпкі, цымбалы, гармонікі і дуды, стройна скачуць "лявоніху", іншыя танцы, пяюць песні". Нельга забыць красу роднае прыроды, дзяўчат у прыгожай нацыянальнай вопратцы, родных песняў і легендаў [23]. Шмат пісала "Наша Ніва", у тым ліку яе рэдактар Аляксандр Уласаў, аб эстэтычнай каштоўнасці народнай керамікі, ткацтва, вышыўкі.

Красу роднага краю апявалі Купала, Колас, Багдановіч, іншыя пісьменнікі. Нярэдка ў жанры крытычных нататкаў. Пабываўшы ў Фінляндыі (1910 г.), Янка Купала разам з вершам "Над Іматрай" апублікаваў артыкул, у якім пісаў: "Як жа багацейша і пякнейша наша зямелька, калі яе параўнаць з фінскай, хаця людзі тут лепей апранаюцца і весялей, свабодней выглядаюць, як нашы. Дзіўна і несправядліва звініць гэта нашае безупыннае "край наш бедны! зямлі мала!". Мне здаецца, што не край наш бедны, а толькі мы яго абяднілі ды наша мачаха – доля!" [24].

Такім чынам, напярэдадні літаратурнай дыскусіі 1913

года ўжо склалася традыцыя мастацкага і крытычна-аналітычнага падвышэння красы роднага краю. Сваім артыкулам "Сплачвайце доўг", падпісаным псеўданімам Юры Верашчака, адзін з самых неспакойных нашых пісьменнікаў і грамадскіх дзеячаў Вацлаў Ластоўскі напрарочыў (праўда, як кажуць, post factum) новы этап у станаўленні нашай класічнай літаратуры. Сучаснасць новай плыні – пераход ад шчырага і ўмоўна-мастацкага самапаніжэння лірычнага героя і яго Радзімы, "інтраекцыі" сябе ў аблічча евангельскага Лазара Беднага – да актыўнага грамадзянскага і духоўна-мастацкага ўзвышэння ідэальных суповесцяў Бацькаўшчыны, беларускай нацыі і нацыянальнай культуры.

Калі пачыналася гэтая дыскусія (ліпень 1913 г.), беларуская літаратура ўжо мела за сабою, апрача "Жалейкі" і "Песняў жальбы", рамантычныя паэмы Купалы "Курган" і "Бандароўна", паэтычныя зборнікі "Гусляр" і "Шляхам жыцця". Большасць гэтых твораў спачатку друкавалася ў "Нашай Ніве". У тым ліку фрагменты з "Новай зямлі" Якуба Коласа – узнёслай сімфоніі, што праслаўляла ідэальную сялянскую Беларусь, вясковую Атлантыду. Верагодна, на пісьменніцкім стале ініцыятара дыскусіі быў ужо рукапіс "Вянка" Максіма Багдановіча, бо якраз Ластоўскі быў выдавецкім рэдактарам гэтай геніяльнай паэтычнай санаты. Не мог Ластоўскі, тады рэдакцыйны сакратар, не чытаць "Нашай Нівы", дзе папярэдне друкаваліся гэтыя і іншыя творы, у тым ліку вершы з "Матчынага дару" Алеся Гаруна. Ён мог даведацца ад Купалы пра паэму "Яна і я", яна ўжо была гатовая ў рукапісе.

Верагодна, В.Ластоўскі наўмысна справакаваў палеміку, каб паскорыць рух беларускай мастацкай культуры наперад – у кірунку духоўнага ўзвышэння нацыі. І пачаў ён з "нападак" на першыя творы класікаў: на вершы Коласа, якія друкаваліся яшчэ ў "Нашай Долі" ("Наш

родны край"), Купалы ("З песні аб сваёй старонцы"), Багдановіча ("Краю мой родны! Як выкляты Богам..."). І ад імя "простага" чытача крытык пайшоў на абвастрэнне, звярнуўся да майстроў паэтычнага слова: "Супакойцеся ягомасьці, край наш не такі страшны, не такі сумны, брудны і бедны. Жывой красы ў прыродзе нашага краю, у людзях многа, хіба толькі тое сумна, што мы яе падмеціць, падгледзіць ня ўмеем".

Можна, кажа крытык, даравать "няскладныя плачы" самадзейным "паэтам" і белетрыстам. Але ад паэтаў славутых грамадства мае права "...вымагаць чагось для сваёй душы, мерыць іхню творчасць меркай эўропэйскай, якую прыкладаюць усе народы на сьвеці да творчасьці сваіх прарокоў. Так, – прарокоў, – бо паэта павінен быць вучыцелем і прарокам свайго народу; павінен быць судзьдзёй і цьветам душы яго, павінен выяўляць красу свайго народу і краю. <...> Я прывык глядзець на паэта, як на памазанніка Божаго, як на прарока <...> Але вы, каторые, пачуваецеся на сілах даць красу, даць мысль, паднімаць і вясьці душы, чаму не выпаўняеце свайго пасланніцтва, чаму маўчыцё, калі забіваюць у душах – незапісаных картах, красу, чаму ня вучыце нас любіць і разумець гоман бору, плеск вады ў сонцы, задуму змеркоў яснату усходоў, – чаму не распаляеця душ нашых пажарам любові, ня сыпеця чырвонцоў ў жар гэты?" [25].

Янка Купала і пісьменнікі Купалавай, нашаніўскай школы паэзіі маглі б адказаць крытыку: усё гэта было і ёсць у нашай літаратуры. І папрасіць свайго Заіла (уедлівага крытыка) звярнуцца да "Пана Тадэвуша" Адама Міцкевіча (эпас пра беларускі шляхецкі Рай у польскім "адзенні для душы"), Ф.Багушэвіча, Цёткі, а найбольш да Купалы, Коласа, Багдановіча, Гаруна. Апанентамі крытыка былі Янка Купала (адказ Ю.Верашчаку ў артыкуле "Чаму плача песня наша?" пад псеўданімам "Адзін з пар-

наснікаў"), Лявон Гмырак у артыкуле "Яшчэ раз аб сплачванні доўгу" [26]. Іншыя пісьменнікі аддалі перавагу падтэкставай, скрытай палеміцы (З.Бядуля, М.Багдановіч, М.Гарэцкі).

Адкрытая палеміка набыла сацыялагічны і эмацыянальны кірунак. Выключэнне хіба што імпліцытная (скрытая) палеміка: артыкул Зм.Бядулі "Не хлебам адзіным...", які папярэдзіў палеміку [27], верш М.Багдановіча "Ліст да п. В. Ластоўскага" (1913). Крыху пазней В.Ластоўскі пастараўся надаць палеміцы праблемна-эстэтычны характар у артыкулах "Па сваім шляху" (1914): "Адзін з найцэннейшых скарбаў, які паасобна народ можа ўнесці ў агульналюдскую скарбніцу, гэта ёсць яго літаратура [...]. І мы, беларусы, унеслі ўжо нашу цэннасць у агульналюдскую скарбніцу, і мы ўжо не бясплоднае дрэва, каторае павінна быць высечана і спалена: мы ўжо далі плады [...]. Гэтага мала. Мы павінны даць свету болей! На нашых "навінах" (верагодна, трэба пісаць: *нівах. – У.К.*) павінна быць багатая ўрода. Мы павінны знайсці ў сябе і даць свету новыя думы, сказаць новае слова [...]. Няхай хто-небудзь з нашых пісьменнікаў напіша хоць адну рэч, каторая бы паказала новыя дарогі чалавецтву, і не будзе на свеце знаючага літары народа, каторы бы пасля гэтага, хто і што такое беларускі народ, не ведаў" [28].

Першая літаратурная дыскусія шматкроць абмяркоўвалася ў сучаснай крытыцы, выказваліся неадназначныя ацэнкі, нават фантастычныя здагадкі, быццам Ластоўскі спрачаўся сам з сабою. Але, як правіла, не выходзіла за межы канкрэтнага тэксту, без аналізу агульнаэстэтычнага кантэксту ў плане сувязі розных этапаў гісторыі нацыянальнай літаратуры. Між тым відавочна: на старонках "Нашай Нівы" ўзнікла ідэя ўзвышэнства як перспектыўнай плыні класічнай мастацкай культуры. Так позняя "Наша Ніва" аказалася папярэдніцай літаратурна-мастац-

кага "Узвышша" 1920-х гадоў. Бясспрэчна і тое, што эстэтыка ўзвышэнства ёсць новы, апалонаўскі этап адраджэнства як асноўнага кірунку і метаду беларускага мастацтва і нацыянальнай філасофіі.

Адраджэнне, уваскрасенне, узвышэнне – генетычна аднатыпныя паняцці, яны забяспечылі эстэтычнае і мастацкае адзінства нашай класічнай літаратуры. У аснове гэтай містэрыі ўваскрэшання жыцця народа, нацыі, чалавека ёсць міфалагічны і хрысціянскі архетып жывой вады (aqua vita). Адсюль – *вітаізм* і *аквітызм* як праграмная перспектыва "Узвышша". Сама міфалагема Узвышша (гары, лесвіцы) азначае ўзыходжанне, уваскрасенне, пераход на больш высокі ўзровень духоўнага быцця.

Вось так традыцыі "Нашай Нівы" лагічна пераходзілі ў аквітызм "Узвышша". Ён мог бы стаць асноўным кірункам у нашай мастацкай культуры XX стагоддзя. Каб не рэпрэсіі 1930-х і наступных гадоў, што вярнулі нас да пачатку XX стагоддзя. Цяпер трэба пачынаць з "Нашай Нівы". Але з улікам духоўнага багацтва – трагічнага набытку беларускай палітычнай і духоўнай драмы XX стагоддзя.

**Уладзімір КОНАН**

---

[1] Цётка. Творы. Мн., 1976. С. 24.

[2] Арфічная тэма ў беларускай літаратуры і айчынным фальклоры даследуецца шмат у публікацыях: "Беларускі Музыка-Арфей// Полымя. 1992, № 11. С. 149—158; Універсальны сімвал творчасці і мастацкага генію: Арфічныя матывы ў беларускім фальклоры// Мастацтва. 1998, № 10. С. 2—5.

[3] Сыракомля У. Добрыя весці: Паэзія, проза, крытыка. Мн., 1993. С. 16—19.

[4] Dudka Bialaruskaja Macieja Burachka. Krakow, 1891/ S. 7—10.

[5] Багушэвіч Ф. Творы: Вершы, паэма, апавяданне, артыкулы, лісты. Мн., 1991. С. 66—67.

[6] Тамсама. С. 112.

[7] Романов Е. Белорусский сборник (т. 1). Вып. 5: Заговоры, апокрифы и духовные стихи. Витебск, 1891. С. 356.

[8] Белорусский нашенский “Лазарь”. Записал С. Малевич. Из журнала “Живая Старина”, вып. II, 1906. С. 109—110.

[9] Конан У. Цыклічная структура лірыкі: Паэзія Якуба Коласа /Роднае слова. 1996, № 9. С. 41—51; яго ж: “Я пацiху песнi сумныя пяю...”: Цыклічная структура лірыкі Максіма Багдановіча / Роднае слова. 1997, № 4. С. 20—33; яго ж: “Беларусь, мая старонка, дык люблю ж яе”: Цыклічная структура лірыкі Янкі Купалы /Роднае слова. 1997, № 7. С. 21—31.

[10] Наша Ніва. 1907, 1(14) чэрв.

[11] Наша Ніва. 1906, 14(27) грудня.

[12] Наша Ніва. 1906, 2(15) грудня.

[13] Наша Ніва. 1907, 25 стычня.

[14] Наша Ніва. 1907, 13(26) стычня.

[15] Наша Ніва. 1907, 23(6) лістап.; 7(20) грудня.

[16] Минский курьер. 1908, 23 августа.

[17] Наша Ніва. 1908, 15(28) серпня.

[18] Наша Ніва. 1908, 25(8) верасня.

[19] Багдановіч М. Поўны збор твораў. У 3 т. Т. 1: Вершы, паэмы, пераклады, наследаванні, чарнавыя накіды. Мн., 1992. Т. 1. С. 137.

[20] Наша Ніва. 1910, 19 жніўня.

[21] Гмырак Л. Творы. Проза. Крытыка. Публіцыстыка. Мн., 1992. С. 120.

[22] Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва. Ф. 3, воп. 1, адз. зах. 49, арк. 104—105.

[23] Тамсама. Ф. 3, воп. 1, адз. зах. 41, арк. 30—33.

[24] Я. К-а [Купала]. З Фінляндыі // Наша Ніва. 1910, 15(28) ліпеня.

[25] Ластоўскі В. Выбраныя творы. Мн., 1997. С. 273—275.

[26] Гмырак. Творы: Проза. Крытыка. Публіцыстыка. С. 44—52.

[27] Наша Ніва. 1913, 23 мая.

[28] Ластоўскі В. Выбраныя творы. С. 283—284.

## СПЛАЧЫВАЙЦЯ ДОЎГ

Ехаў я чыгункай. Сустрэціўся з нейкім пажылым ягомасьцем; разгаварыліся. Сам ён родам с тульскай губэрні, жыве ў Пецярбурзе, а кожнае лета праводзіць у Беларусі. Бываў ён у Крыме на Каўказе, знае заграніцу.

– Толькі нідзе такой харошай, такой ціхай прыроды ні бачыў я – казаў ягомасць. – Ваш край гэта дзіўная казка, дзіўная краса крыецца ў яго пагурках, гаях, лугах і рэках. Такое тут усё ў вас спакойнае, ціхае, задумчывае, такое паэтычнае, такое ўсё, як французы кажуць "bon ton", што я кожнае лета цягнуся, каб дыхнуць вашым паветрэм, пацешыць вока вашымі відамі.

Слухаў я гэтых слоў чужынца-старца, бывальца па сьвеці і ў душы мне зрабілося сумна, сумна... Спомніліся мне вершы нашых беларускіх паэтоў, которые заместа ўслаўляць нашу, папраўдзі бязмерна харошую прыроду, абезслаўлялі яе. Адзін з іх кажэ:

*"Куры, сьвіньні, гною кучы*
*Напаўняюць кожны кут.*
*Вокны затканы анучай*
*Так і кажуць: "ўсюды бруд!"*

Другі падпевае:

*"Край наш бедны, край наш родны,*
*Гразь, балота ды пясок!"*

Ешчэ іншы плачэ:

*"Не вясёлая старонка*
*Наша Беларусь,*
*Людзі: Янка ды Сымонка,*
*Птушкі: дрозды, гусь"...*

У канцы нехта чуткі з роспаччу крычыць:

*"Край ты мой родны,*
*Як выкляты Богам".*

Супакойцеся ягомасьці, край наш не такі страшны, не такі сумны, брудны і бедны. Жывой красы ў прыродзе нашаго краю, ў людзях многа, хіба толькі тое сумна, што мы яе падмеціць, падглядзіць ня ўмеем.

Я разумею ешчэ (ды і то з нацяжкай) енкі і плачы тых нашых бэлетрыстоў і паэтоў каторые (цыбуляй хіба крыху паціраючы вочы) плачуць над доляй селяніна, можэ хочучы выказаць ня тое, што Янка, ці Апанас сядзіць поўпьяны на печы і ў яго гаспадарка няспорыцца "шнур травой зарастае", у вокнах "анучы" і "ня мецена хата", а тое, што народ, увесь народ-нацiя жыве ў цяжкім безпраўным палажэньні, што душа нашаго народу скручэна ланцугамі і ў здзеку і ў пагардзе, як прыгонніца, як раб канае доўгіе векі і ні сканаць, ні жыць ня можэ. То гэтым "паэтам" можна даравацъ іхніе нескладные плачы. Але, дзякаваць Богу, ёсць-жэ у нас ужо і імёны, каторые маюць шырокую славу ня толькі у нашай безграматнай і безінтэлігенцкай бацькоўшчыне, а і далёка па за межамі яе. Ад гэтых апошніх, мы, чытаючае і думаючае беларускае грамадзянства ў праве вымагаць чагось для сваёй душы, мерыць іхню творчасць меркай эўропэйскай, якую прыкладаюць усе народы на сьвеці да творчасьці сваіх прарокоў. Так, – праро-

 



коў, – бо паэта павінен быць вучыцелем і пракам свайго народу; павінен быць судзьдзёй і цьветам душы яго, павінен выяўляць красу свайго народу і краю. Можэ скажуць мне, што апрача гною, пяску, ануч і драздоў у нас німа нічога годнаго увагі. Даруйце ягомасьці – парнасьнікі, але кожны грамадзянін мае права сказаць: – я беларус, я часць народу – і карыстаючыся гэтым правам, я ніжэй падпісаны, прылюдна на ўвесь край крычу: Апрача драздоў, ануч, гною і пракляцьця ў маёй душэ ёсць ешчэ шмат красы, перэд маімі вачамі скрозь краса, жыцьцё, сонцэ, песьні і бязмернае багацьце відоў. Я хачу мець усё гэта ператворэнае ў спэктры колектыўнай нашай душы – ў словах нашых паэтоў – прарокоў. Мяне цікавіць ня толькі тое, што Янка сядзіць на вузкім шнурочку зямлі, але больш таго, што гэты Янка чуе ў той момэнт калі ён поўнымі грудзямі хапае пах чорнай, парэзанай плугам на скібы зямлі, як яго лянівы мозг варушыцца калі сахой разрэзае прадзедоўскі курган, што кажэ душа прадзедоў як іхніе косьці збіраюць праўнікі каб прадаць у фабрыку супэрфосфату?

Маё штодзенное жыцьцё шэрае, цяжкае і я хачу з вашых твороў, навучыцца бачыць каля сябе красу, каторую, я чую што яна ёсць, але мая душа не так чутка, каб улавіць яе.

Я прывык глядзець на паэта, як на памазанніка Божаго, як на прарока і дзеля гэтаго рука мая ніколі не памкнулася ўзяцца за пяро, каб накідаць вершы, бо я ў душы сваёй чуюся нягодным гэтаго высокаго імені. Але вы, каторые, пачуваецеся на сілах даць красу, даць мысль, паднімаць і вясьці душы, чаму не выпаўняеце свайго пасланніцтва, чаму маўчыцё, калі забіваюць у душах – незапісаных картах, красу, чаму ня вучыце нас любіць і разумець гоман бору, плеск вады ў сонцы, задуму змеркоў, яснату усходоў, – чаму не распаляеця душ нашых пажарам любові, ня сыпеця чырвонцоў ў жар гэты?

Плакаць і сыпаць словамі сцёртымі, як дробная медзя-



 

ная манэта, як бачыце і я ўмею, і гэтаго з мяне годзі але за вамі, калі вы не апраўдаецця паложэных на вас надзей, народ будзе лічыць доўг і доўг гэты будзе чысьліцца за вамі да веку.

**Юры ВЕРЭШЧАКА**

## ЧАМУ ПЛАЧЭ ПЕСНЯ НАША?

*(Атказ Юрцы Верэшчаку).*

Дужа цікавую рэч аткрыў дзядзьцы Верэшчаку нейкі тульскі ягомасьць, каторы кожнае лета праводзіць у Беларусі! Выходзіць, што мы, беларусы, ад яго першага даведаліся аб вялікім багацьці нашай бацькаўшчыны, што ў нас такое ўсё, як кажуць французы "bon ton". Ой, ці ня ёсць гэта толькі погляд бацькоў сэнтымэнталізму, што ўміляючыся над жыцьцём селянскім бачылі ў ім адны толькі радасьці.

Але ня першы ягомасьць с Тулы зразумеў і адчуў усё хараство Беларусі: аб гэтым шмат ёсьць сказана ў Міцкевіча, у Сыракомлі і др., каторые, дзякуючы запанаваўшай у нас чужой культуры, апеялі гэтае хараство ў незразумелых для беларуса песьнях. Бо як ведаем да пачатку ХХ-го сталецьця нашы "прарокі" служылі і цяпер служуць многіе Варшаве і Маскве, астаўляючы свой народ у забыцьці і нацыональнай несьвядомасьці.

Беларускія баяры і князі пераніцаваліся на польскіх паноў, а за імі і цяперашня краевая "польская" інтэлігенцыя нічога супольнага з народам тутэйшым мець ня хочэ. Частка-ж не вялікая інтэлігенціі, каторая прышла да нас, з Расеі, так сама глядзіць на нас, як на матэрьял добры для перэварачыванья на свой капыл. Такім парадкам людзей сьветлых, шчыра атданых нашай старонцы і нашаму народу мы ня мелі. Прарокі былі разам здраднікамі свайго

народу і кланяліся за чырвонцы чужому дужэйшаму богу.

Калі ў памятны 1905 г. зрабілася завіруха, калі ў Расеі ў кожнага чэлавека стала будзіцца душа да новаго жыцьця, да новаго шчасьця, – то і ў беларуса будзіцца стала пачуцьцё свайго "я", стала лунаць доўга-дрэмлючая думка, што і мы людзі. Паявіліся паэты, песьняры свайго, забытаго Богам і людзьмі краю, і долі народнай. Пракорі яны ці не пракорі – аб гэтым скажэ будучына, але што яны косць с косьці свайго народу – аб гэтым і рэчы быць ня можэ.

Вот гэтые паэты, уссаўшы з малаком абнядоленных і абняволенных матак усё горэ жыцьця Беларусі дэмократычнай, – ціж маглі ў першых сваіх славах апеваць толькі хараство сваёй бацькаўшчыны, не заглянуўшы с пачатку на рэальны быт яе сыноў?! – Канечна душа паэты першна-перш запеяла тое, што ў ёй накіпела праз доўгіе годы цярпеньня і акружаючай безпрасьветнай нядолі.

Ня думайце, што "парнасьнікі" ні бачылі і не адчувалі усей багатай красы нашай зямелькі з яе горамі, далінамі, рэчкамі і лесамі. Але што маглі казаць, калі большая палавіна гэтаго прыроднаго багацьця, гэтай неапетай красы была і ёсьць не наша, а нашых сытых "культурнікоў", крывавай працай на каторых беларус асьляпіў сабе вочы, атуманіў думкі. Гледзючы на гэту несправядлівасць, у паэты радзіўся толькі жаль, што побач лішняй роскашы, народ яго гібее ў хатах, дзе "вокны затканы анучай", што яго шнуры – "гразь, балота ды пясок", што людзі – "Янка ды Сымонка" – мужыкі беззарадные, пакінутые сваей інтэлігенцией. У беднаце матэрьяльнай трудна багацець.

Не вясёлая цяперішчына не магла настроіць у вясёлы тон думку паэты. Душа яго лунала над бацькаўшчынай, як над безгранічным абшарам, дзе пошэсць і пажары аставілі на зямлі груды непахаваных касьцей, а неба пачарнеўшае ад дыму. Мінуўшчыну ўспамінаць – гэта ўспамінаць паншчыну, бо нашае свабоднае жыцьцё, калі гудзелі

 



вечавые званы, прыдавіло чуць не паўтузіна сталецьцяў. Углубіцца ў народные песьні? Праўда, ў іх ёсьць хараство ешчэ некратанае, але так-жа сумна-плачлівае, як доля беларуса, як шум пушчы у восень, і калі прабіваецца вясёлая нотка, то толькі ў песьнях карчомных, бясёдных. Скажэця: сягаць у будучыну. Але народ, каторы не нашоў ешчэ веры ў сябе, ці-ж захочэ паверыць у казкі аб будучыне? І паэта волей-няволей ня можэ абмінаць і замаўчываць цяперэшняго жыцьця. Не да пацераў, калі хата гарыць.

Такім вось парадкам не магла не злажыцца, трохі можэ і залішне нарэкаючая на цяжкую людзкую долю, наша сучасная песьня; але яна вечна такой ня будзе, як і народ жывы вечна ня будзе спаць мёртвым сном.

Ешчэ адзін атказ на "Сплачываньне доўгу".

Гадоў тры таму, польскі крытык закінуў аднаму нашаму пісьменніку, што гэтак бедаваць над доляй беларуса можэ толькі "інтэлігент у пастуховай скуры", ну, дзядзька Верэшчака робіць прытычкі, што нашы некаторые бэлетрысты і паэты плачуць "цыбуляй хіба крыху паціраючы вочы". На гэта апошняе атказу, што кідаць такое скорапечэнае абвінавачэньне на сваіх сяброў па пяру – трохі і рызыкоўна, і на фактах не аснована. Бо як мне ведама, не ва ўсіх нашых, што плачуць, бэлетрыстаў і паэтаў ёсьць на чым садзіць цыбулю і не ва ўсіх ёсьць за што яе купляць. А плачуць яны, бо іх прымушаюць плакаць часта ня толькі чужые, але і свае, як я ўжо гэта выказаў.

Астаецца нам толькі адна вера ў тое, што не за гарамі ўжо той час, калі ўзбудзіцца наш беларускі народ, як адзін, к новаму сьветламу жыцьцю, а яго паэты-прарокі настроюць струны сваіх думак на іншы лад: будуць пеяць аб вялікім багацьці і красе сваей бацькоўшчыны і аб вялікіх радасьцях яе верных сыноў.

Думка паэты вольная, як вецер, і безгранічная, як даль гэта ўсе сьветнае, сэрцэ яго напоўнена вечным мілавань-



 

нем к бліжняму, як сонцэ вечным цяплом і сьвятлом, а душа яго глыбокая, як гэтае морэ-акеан, у глыбінах катораго крыюцца багатые, недасьціглые чэлавечаму воку скарбы. З гэтаго сьветла і агня, што пылае ў сэрцы, і з гэтых скарбаў, што крыюцца ў глубіне душы яго, – патрапіць паэта свабоднай думкай дабыць усе хараствы сьвету і ўсе асалоды жыцьця людзкога на гэтым сьвеці і перэдаць усё гэта у бязьсмертнай песьні свайму народу. Толькі вы, празаікі, устраівайця хутчэй матэрьяльны быт гэтаго народу паводлуг божых і чэлавечых праўд і законаў.

**АДЗІН С "ПАРНАСЬНІКОЎ"**

## ЕШЧЭ АБ СПЛАЧЫВАНЬИЮ ДОЎГУ

Расейскіе народнікі семдзесятных гадоў лічылі, што яны маюць перад народам вялікі, неаплачэны доўг, каторы трэба звярнуць. "Историческія письма" Лаврова сформулавалі гэту думку гаворучы, што ўсе багацейшые станы, праз цэлые векі карысталіся с працы народу самі продукційна не працуючы – забіралі большую частку дабытаго мазалістымі рукамі дабра; бралі вялікі падатак крыві бяручы шмат народу ў салдаты, зрабілі ўрэшці увесь народ сваім нявольнікам сурова панавалі над ім, здзекуючыся, і саўсім ня лічучыся з яго пачуццём ўласнага гонару. Рабілі гэта вышэйшые станы саўсім не задумліваючыся над тым, ці маюць яны на гэта моральнае права. Але во і у гэтых станах явіліся людзі з болей адзыўчывай душой, с чуткім сумленьнём; задумаліся яны над тым, ці справядліва гэта, ці павінна так быць. І зразумеўшы, што так быць не павінна, адчулі, колькі зла іх бацькі зрабілі народу, колькі ён ад іх крыўд перанёс.

Гэна крыўда і ёсьць той вялікі доўг, каторы яны павін-

ны вярнуць, пасьвяціўшы ўсе свае сілы, працы дзеля народнага дабра. Доўг гэты ляжыць ня толькі як заплата за грахі бацькоў. І яны самі ўжо скарысталі з народнай працы: яны паканчалі розные школы, прачыталі шмат разумных кніг, а хто-ж плаціць грошы на ўтрыманьне школ калі не народ? Выгадавалі іх бацькі за якіе грошы? за грошы дабытые эксплоатацией народу.

Шмат гадоў прайшло с тэй пары. Семідзесятнікі ня глядзючы на ўсе геройскіе натугі, на ўсю маральную сваю чыстату, на ўсю інтэлектуальную чэснасць, не змаглі дабіцца сваёй мэты. Аб прынцыпе сплачываньня доўгу, на каторы семідзесятнікі часта ссылаліся, іх патомкі перэсталі гаварыць. Гэты прынцып стаўся элемэнтарнай, усім вядомай праўдай, каторай адны з энтузіазмам трымаліся – другіе аткідалі, але ўсе гэта ведалі і спамінаць ім ня трэба-было.

Бывалі на гэты счот і кур'ёзы. Пару гадоў таму назад гр. Бобрінскій на сабраньні мінскіх націоналістоў – клікаў іх сплачываць доўг беларускаму народу. Які гэта доўг прызнаваў граф і як яго мінскіе націоналісты мяркуюць сплачываць, мы ня ведаем. Ведаем толькі, што сам Бобрінскій багач, памешчык тульскай губэрні. Яго вясковые суседзі, куды бліжэйшые яму па крыві чым мінскіе беларусы, колькі гадоў таму назад, – відаць мала рахуючы на тое, што граф прыпомніць аб сваім даўгу, – пробавалі вярнуць яго "сваімі средствіямі", але даўжнік паклікаў ваенную помач і крэдытароў высеклі, як сідараву казу. Вось як сплачывае доўг, граф на практыцы, а на славах – глядзі куды махануў.

Успомніўшы гэта, як курьёз, прыгледзімся да дужа арыгінальнай фармуліроўкі сплачываньня доўгу, якую даў нам Юры Верэшчака ў №26—27 "Нашай Нівы". Ягомасць Юры Верэшчака прызнае факт, што беларускіе дзяйцы маюць доўг... перад прыродай Беларусі. Родная наша прырода сваей велічавай прыгожасьцю будзіць у кожнай адзыўчывай душы, гэтулькі пекных перэжываньнеў – ахво-

ты да таго, каб самому стацца лепшым і пхнуць да гэтаго другіх, што чэлавек за гэта мае перад ёй вялікі доўг. Значыць гэты доўг маюць і нашы паэты і бэлетрысты, і яны павінны пачаць сплачываць яго, даючы пекные, праўдзівые малюнкі гэтай прыроды. Ягомасць Верэшчака знаходзіць, што дагэтуль яны – гэтаго доўгу і ў малой нават частцы не сплацілі, бо яны калі спаміналі яе, то казалі, што "невясёлая старонка наша Беларусь"; "Край наш бедны, край наш родны – гразь, балота ды пясок" і т.д.

Гэткая формулоўка сплачываньня доўгу пераносіць справу так сказаць у саўсім другую плоскасць – падходзіць да яе саўсім ня с тэй стараны, з якой падыйшоў Лавров і расейскіе семідзесятнікі.

Думкі ягомасьця Верэшчакі, трэба гэта прызнаць, дужа арыгінальные і калі іх акуратна выразумець, саўсім справядлівы. Я абедзьвюма рукамі гатоў падпісацца пад тым што багата душы дала прырода нашай бацькаўшчыне, што загэта мы даўжнікі яе, гэты доўг мы павінны адчуваць і сколькі хопіць сіл старацца звярнуць яго. Але разам з гэтым я лічу саўсім справядлівай і тую старану сплачываньня доўгу, аб якой казаў Лавров. Калі гэтак, то значыцца поўная формуліроўка гэтай справы павінна абхопліваць абедзьві формулы. Аб гэтым ягомасць Верэшчака не абгаварыўся і даў праз тое права думаць, што прызнае толькі доўг перад прыродай, а адрэкаецца ад прызнаньня яго перад людзьмі. Бадай, што ягомасць Верэшчака сьвядома – справы гэтак не ставіў і толькі неясна выразіўся, праз што даў повад да ўсіх гэтых думак.

Далей, мы ведаем, што чуць ня ўсе беларускіе пісьменнікі і дзейцы вышлі з народу, што іхніе дзяды адбывалі прыгон і перэнасілі уселякі зьдзек, – значыць яны скарэй крэдытары чым даўжнікі. З другога боку, яны усё ж такі зрабіліся сілай, маюць у большай, ці меншай меры дар "глаголом жэч сэрдца людей" – і саўсім натуральна будзе, калі

 



яны пачуюць патрэбу, а нават прызнаюць сваёй павіннасьцю тое, каб народ падняць да таго, да чаго яны самі дайшлі. Пры тым-жэ, хоць і не багата іх, а ўсё ж такі ўжо ёсць, а ў будучыні мо і болей будзе такіх людзей, каторые па бацьках дасталі не аплачэные даўгі", а нават і самі за сваё гадаваньне і навукі, вялікіе ці малые, але ўсё-ж такі даўгі маюць.

Прытым важна нам ня гэтулькі сама формула, колькі выводы з яе, ня гэтулькі разгадка пытаньня, ёсць за намі доўг ці не, колькі канкрэтная задача працаваць для народнага дабра. Тых, хто не прызнае гэтай формулы, можна падазрэваць што ён не прызнае і яе выводоў, а калі гэтак, раз зайшла гаворка аб сплачываньні доўгу – нельга абыйсці маўчаньнем і гэтай стараны справы.

Цяпер паглядзімо, як сплачывае доўг народу беларускае пісьменство, г.зн. які яно мае характар цяпер і якіе шляхі намечаюцца яго у будучыне.

Усім знаёмым с творамі нашых пісьменьнікоў кінецца ў вочы тое, што яно перайшло ўжо дзьве стадзіі развіцьця: першую – сэнтымэнтальнае народнічэства с сільнай польскай, а нават шляхоцкай закваскай, другую – рэалізм глыбока пранікнуты шчырым дэмократызмам. Баршчэўскі, Марцінкевіч і др., меней выдатные іх сучасьнікі, гэта прадстаўнікі першай стадзіі. Богушэвіч стаіць на раздарожы і творчасць яго мае ешчэ, хоць сабе і шмат слабейшую як у яго напярэднікоў клерыкальна польскую закваску ("свая зямля", "Хрэзьбіны Мацюка"), з другога боку ён нам даў такіе творы як "У судзе", "У вастрозі", "Быў у чысцы", "Скацінная апека", "Кепска будзе" і др., каторые пранікнуты шчырым народнічэствам саўсім ня польскага тыпу.

Посьле 1905 году паявілася плеяда беларускіх пісьменьнікоў, каторые ўсе да аднаго выйшлі з народу і яны ўжо саўсім ясна далі той характар пісьменству, які яно цяпер носіць. У іх творчасьці мы знаходзім тые-ж грамадзянскіе ноткі, той



 

шчыры і шырокі дэмократызм, які вырастае зазвычай на здаровай і плоднай народнай глебі. Нашы пісьменнікі глыбока атчуваюць народнае горэ, шчыра спагадаюць сермяжнікам і дужа праўдзіва малююць іх жыцьцё, іх злыбеду з якой ім трэба змагацца. Творчасць іхня пранікнута здаровым оптымізмам і цьвёрдай верай у тое, што будзе ўнукам панаваньне, там дзе сягоньня плачэ дзед. Гэткімі настроямі пранікнута творчасць Я.Коласа, Я.Купалы, М.Богдановіча, Цішкі Гартнага, Галубка, Я.Журбы.

Т.Гуща, М.Беларус, З.Бядуля, Ядвігін Ш. і др. нашы бэлетрысты так сама малююць рэалнае жыцьцё. Дэкадэнцкіе настроі так прыметные у пісьменствах другіх народаў у нас пакуль што не праяўляюцца. Бадай, што яны і не праявяцца. Наша нація дужа дэмократычна – вышэйшыя станы “in corpore” перайшлі к чужым – лічыць на національная адраджэньне іх – німа што. Аддзельные асобы адтуль пераходзілі да нас і будуць пераходзіць – але маса заўсягды будзе варожа нашаму руху. Гэта бачым у ўсіх адраджаючыхся націй – німа чаго спадзевацца, што ў нас будзе іначэй.

Тые, што с паваротнай хваляй пераходзяць да нас с пануючых націй – гэта найболей людзі глыбока пранікнутые любоўю да народу – каторые хочуць працаваць для яго лепшай будучыны. Гэткіе людзі найчасьцей бываюць надта далёкі ад усякіх дэкаденцкіх настроёў, а тые хто гэтые настроі пражывае – так далёкі ад рэальнаго жыцьця і яго патрэб – што бадай ці хто не будзь з іх пяройдзе да нас. Яны астануцца там, дзе цяпер знаходзяцца, а праўду кажучы не надта яны нам патрэбны.

Далей мы бачым, што дагэтуль большасьць нашых пісьменнікаў выйшла з народных масс; у будучыне калі жыцьцё нашае, як і ўсюды будзе усё болей дэмакратызавацца і народу болей як цяпер стане даступнай асьвета – лік талентаў самародкаў дужа узрасьце і яны, а не выпадковые перакінчыкі будуць даваць тон пісьменству як і дагэтуль яно было.

Таго-ж каб пісьменнікі выйшоўшые з народу праніклі-ся дэкадэншчынай бадай што ня будзе. Дэкадэншчына гэта рэзультат раскладу і выраджэня пануючых кляс – народ з яго цяжкім працавітым жыцьцём – з яго пакуль што не рэалізованым ідэалам лепшаго жыцьця – гэткая псыхалёгія саўсім чужая. Мы і бачым, што нашы пісьменнікі далёкі ад гэтаго, расейскіе журналы пішуць, што паміж рабочых і селян дужа любяць і чытаюць: Некрасова, Глеба Успенскаго, Шчэдрына і др. пісьменнікоў-грамадзян, а саўсім мала цікавяцца тымі дэкадэнцкімі пісакамі, якіх там ахвотна чытаюць паны.

Мы бачым, што у украінцоў каторые жывуць у варунках надта падобных да нашых у пісьменстві перэмагае рэалізм і грамадзянскіе ноты – хоць там сярод пісьменнікаў працэнт “паваротнай хвалі” куды большы чым сярод нас ёсць цяпер і можэ быць у будучыне.

Шмат ёсць украінскіх пісьменнікаў мадэрністаў гэта праўда – але бадай ці ня большасць іх галічане; у расейскай Украйне перэмагае рэалізм, чым украінскае пісьменніцтва карысна розніцца ад сучаснаго расейскаго.

Атдзельные пісьменнікі дэкадэнты с часам калі болей пашырыцца наш рух – калі шырэй захопіць ён грамадзянства можэ і явіцца, але перэмагаючая большасьць пісьменнікаў, ўсе лепшые сілы будуць ісьці як і дагэтуль ішлі “шляхам жыцьця”. Адгукаючыся на ўсе важнейшые праявы жыцьця і магучай сілай слова будзючы ў нашым грамадзянстві любоў да бацькоўшчыны, гуманные думкі, жаданьня ўсе сілы аддаць свайму гаротнаму народу, любоў да ўсяго свайго і нашай прыгожай прыроды – яны праз гэта падгатоўлюць кадры працоўнікоў для дабра свайго краю – пасколькі хопіць сіл гатовых сплачываць яму доўг.

**Лявон ГМЫРАК**

# Савецкае асуджэньне "Нашай Нівы" й спробы ейнае рэгабілітацыі*

## **"Наша Ніва" й Беларуская Сацыялістычная Грамада**

Газэта "Наша Ніва" была фактычным органам палітычнае партыі – Беларускае Сацыялістычнае Грамады, якая, спачатку пад назовам Беларускай Рэвалюцыйнай Грамады, паўстала ў васяродзьдзі беларускіх студэнтаў у Пецярбургу ў 1902 годзе. Ейная дзейнасьць хутка перакінулася ў студэнцкае асяродзьдзе Масквы, а таксама ў Беларусь – у Менск і Вільню[1]. Гэта была рэвалюцыйная партыя сацыялістычнага характару. Ад іншых рэвалюцыйных партыяў, што дзеілі ў гэным часе на Беларусі, Беларуская Сацыялістычная Грамада розьнілася ўжо тым, што яна ў цэнтры сваёй дзейнасьці паставіла вёску й сялянскія масы. Як засьветчыў адзін з галоўных лідэраў Грамады Аляксандр Бурбіс, "яна першая зьвярнула ўвагу на арганізацыю палітычнай работы ў вёсцы й на распрацаваньне аграрнай праграмы згодна зь мясцовымі абставінамі сельскагаспадарскага жыцьця"[2]. Дзейнасьць сярод работнікаў у горадзе, паводля таго-ж Бурбіса, Грамада вяла "маючы адно на мэце стварыць моц-

---

* Друкуюцца апошнія раздзелы артыкула. Перадрук з выдання: Янка Купала і "Наша Ніва": Міжнародная навуковая канферэнцыя 7—8 кастрычніка 1996. Мінск.— Беларускае выдавецкае Таварыства "Хата". — Мн., 1997.

ную, узапраўды пралетарскую групу – "грамаду" работнікаў у вёсцы"[3].

На працягу першых гадоў свайго існаваньня, асабліва ў часе найбольшага рэвалюцыйнага ўздыму 1905—1906 гадоў, Беларуская Сацыялістычная Грамада галоўны націск клала ў сваёй дзейнасьці на эканамічна-сацыяльныя пытаньні вёскі. Гэтыя пытаньні, асьвятляныя ў войстра апазіцыйным тоне, складалі асноўную тэматыку артыкулаў першага ейнага органу – газэты "Нашай Долі". Пазьней, асабліва з 1907 году, у сувязі із здушэньнем рэвалюцыйнага руху й перамогі рэакцыі, у дзейнасьці Беларускай Сацыялістычнай Грамады аддаецца перавага культурна-нацыянальным пытаньням. У вадпаведнасьці з гэтым мяняецца й ідэйны кірунак "Нашай Нівы", што паўстала на месцы закрытай царскім урадам "Нашай Долі". У сувязі з тэрорам успомненае рэакцыі, ахвярамі якога сталіся й некаторыя дзеячы Беларускай Сацыялістычнай Грамады, роля ейнага штабу перайшла да рэдакцыі "Нашай Нівы"[4]. Аднак, наўсуперак цьверджаньням савецкіх гісторыкаў аб роспуску ў гэным часе Беларускай Сацыялістычнай Грамады[5], яна йснавала й далей, хаця, у сувязі із свабоднай і слабкай арганізацыйнай структурай, штораз больш прыпамінала палітычную арганізацыю, чымся партыю ў сяньняшнім ейным разуменьні.

Нацыянальна-адраджэнцкі характар Беларускай Сацыялістычнай Грамады быў найважнейшым мамэнтам, што вырозьніваў яе ад усіх іншых палітычных партыяў, што вялі сваю дзейнасьць у Беларусі, і найбольш ад бальшавіцкай РСДРП. У галіне палітычнай, першы зьезд Беларускай Сацыялістычнай Грамады прыняў патрабаваньне нацыянальна-культурнай аўтаноміі Беларусі[6]. Грамада асаблівую зьвяртала ўвагу на загарантаваньне правоў беларускай мовы, тады калі РСДРП, галоўна сам Ленін былі супраць раўнапраўнасьці моваў[7]. Наагул Беларус-

кая Сацыялістычная Грамада, як нацыянальная беларуская партыя, стаяла далёка ад бальшавіцкага руху, ня маючы зь ім нічагусенькі супольнага. Аб гэтым добра сьветчыць і той факт, што пасьля Кастрычніцкай рэвалюцыі толькі адзін зь дзеячоў Грамады, Зьмітрок Жылуновіч-Цішка Гартны прыстаў быў да бальшавіцкага руху, дый то ў ягоным нацыянал-камуністычным варыяньце. З галоўных-жа кіраўнікоў Грамады адзін Аляксандр Бурбіс перайшоў быў да бальшавікоў адно ў 1922 годзе перад самай сваёй сьмерцяй. Таму можна падазраваць, што гэты ягоны пераход мог быць пазьнейшым вынаходніцтвам беларускіх нацыянал-камуністых дзеля падмацаваньня свайго аўтарытэту[8]. Дык і ня дзіва, што савецкая гістарыяграфія ацэньвае Беларускую Сацыялістычную Грамаду як рэакцыйную партыю беларускіх буржуазных нацыяналістых. “Гісторыя БССР” гэтак фармулюе супраць яе свае абвінавачаньне:

“З мэтай абману масаў і маскаваньня сваёй антынароднай дзейнасьці беларускія нацыяналістыя прынялі сацыялістычную вывеску, перайменаваўшы сваю арганізацыю ў “Беларускую Сацыялістычную Грамаду” (БСГ). У запраўднасьці-ж беларускія нацыяналістыя ніколі ня мелі нічога супольнага із сацыялізмам. Яны былі агентамі й выказьнікамі інтарэсаў беларускай нацыяналістычнай буржуазіі й перадусім кулацтва. БСГ ніколі ня была масавай арганізацыяй і ня мела ніякай апоры сярод работнікаў і сялян”[9].

“Зь Беларускай Сацыялістычнай Грамадой, – піша “Гісторыя БССР”, – бальшавікі вялі самае бязьлітаснае змаганьне”[10].

Цэнтральны камітэт Беларускай Сацыялістычнай Грамады ўпяршыню сфармаваўся на другім ейным зьездзе ў 1906 годзе ў складзе братоў Івана й Антона Луцкевічаў, Аляксандра Бурбіса й Вацлава Іваноўскага[11]. Гэтыя вось

сябры цэнтральнага камітэту Грамады ды, апрача іх, яшчэ Аляксандар Уласаў і былі кіраўнікамі й галоўнымі публіцыстымі "Нашай Нівы". Да гэтых, паводля савецкай тэрміналёгіі, "буржуазных нацыяналістых" савецкія аўтары й залічаюць зь пісьменьніцкага асяродзьдзя Алеся Гаруна, Ядвігіна Ш., Кастуся Каганца ды пазьнейшага пісьменьніка Вацлава Ластоўскага-Власта. Затое ўсіх іншых паэтаў і пісьменьнікаў, а між імі й Янку Купалу ды Якуба Коласа, яны вырозьніваюць, як рэвалюцыйных дэмакратаў, назойліва цьвердзячы, што між гэтымі абедзьвюма групамі існавалі ўвесь час войстрыя супярэчнасьці й вялося бязупыннае ідэялягічнае змаганьне.

У запраўдасьці-ж ніякага падзелу на гэтыя дзьве супрацiўныя групы ня было, як таксама ня было ніякага ідэялягічнага змаганьня ані на бачынах "Нашай Нівы", ані вакол яе. Галоўны прадстаўнік "рэвалюцыйных дэмакратаў", паводля савецкае тэрміналёгіі, Янка Купала ад 22 лютага 1914 году быў навет рэдактарам "Нашай Нівы" й астаўся на гэтым становішчы аж да спыненьня выхаду газэты на ейным нумары за 7 жніўня 1915 году. І гэта не зважаючы на тое, што, як цьвердзяць савецкія гісторыкі, фактычнымі гаспадарамі "Нашай Нівы" былі буржуазныя нацыяналістыя зь Беларускай Сацыялістычнай Грамады.

Праўда, сярод кіраўнікоў Беларускай Сацыялістычнай Грамады й тым самым "Нашай Нівы", а таксама сярод нашаніўскіх паэтаў і пісьменьнікаў існавалі розныя ідэялягічныя ўхілы або кірункі, зусім нармальныя й прыродныя навет у найбольш ідэйна маналітным грамадзтве. Адзін зь кіраўнікоў Беларускай Сацыялістычнай Грамады й галоўны публіцысты "Нашай Нівы" Антон Луцкевіч у сваёй кнізе "Адбітае жыцьцё", што выйшла ў Вільні ў 1929 годзе, знаходзіў наступную ідэйную дыфэрэнцыяцыю сярод нашаніўскіх паэтаў і пісьменьнікаў:

"Агартаючы адным паглядам усю нашу дарэвалюцый-

ную літаратурную творчасьць XX стагодзьдзя, мы можам адзначыць тры галоўныя ідэялягічныя напрамкі ў ёй: чыста сялянскі з найвыдатнейшым сваім прадстаўніком у васобе Якуба Коласа – кірунак найбольш багаты (што зусім натуральна) па ліку песьняроў і твораў; слабенькі напачатку работніцкі, які выяўляў сьпярша бадай ці не адзін толькі Цішка Гартны; урэшце, калі можна так яго назваць, кірунак сялянска-работніцкі, які даў сынтэз адраджэнцкага руху на агульна-людзкіх падставах, і найвыдатнейшым прадстаўнікам якога зьяўляецца Янка Купала"[12].

Да гэтае Луцкевічавае клясыфікацыі мы дадалі-б яшчэ чацьвёрты кірунак – інтэлігенцкі з галоўным сваім прадстаўніком у васобе Максіма Багдановіча. Падобныя ідэялягічныя плыні й кірункі ў роўнай меры можна было-б прасачыць і сярод дзеячаў Беларускай Сацыялістычнай Грамады. У кажным выпадку, усе гэтыя кірункі й плыні выразна зарысоўваліся ў публіцыстыцы "Нашай Нівы". Але гэта ня былі нейкія супрацьлеглыя й выключаючыя сябе ўзаемна зьявы, паміж якімі магло-б разгортвацца ідэялягічнае змаганьне. Наадварот, гэта былі складовыя часткі аднаго вялікага арганічнага цэлага, імя якому – беларускае нацыянальнае адраджэньне.

## Першая спроба рэгабілітацыі "Нашай Нівы"

У самым пачатку рэгабілітацыйнага руху ў Беларусі, што разгарнуўся ў сувязі з асуджэньнем культу асобы Сталіна й сталінізму, была пастаўленая на парадку дня й справа перагляду дачыненьняў да "Нашай Нівы" й нашаніўства. Першую спробу ў гэтым кірунку зрабіў доктар філялягічных навукаў Міхал Ларчанка. У сваім артыкуле "Некаторыя пытаньні гісторыі беларускае літаратуры"[13] Ларчанка, побач зь іншымі пытаньнямі, закрануў і пытаньне рэгабілітацыі "Нашай Нівы" ды некаторых нашаніўскіх паэтаў, абвінавачваных у буржуазным нацыяналізьме.

У сваіх рэгабілітацыйных патрабаваньнях Ларчанка захаваў далёка йдучую сьціпласьць і асьцярожнасьць, шмат у чым прыймаючы ранейшыя асуджэньні "Нашай Нівы" "Гісторыяй БССР" і іншымі савецкімі крыніцамі, на "Гісторыі БССР" базаванымі. За гэтай апошняй ён мэханічна паўтарыў пагляд, зусім не дасьледуючы самастойна гэтага пытаньня, што быццам у публіцыстыцы "Нашай Нівы" "задавалі тон буржуазныя нацыяналістыя, лібэралы-рэфармістыя, якія прапаведвалі нацыяналістычныя рэакцыйныя ідэі бясклясавасьці беларускай нацыі, ідэі "адраджэнізму", "залатога веку", ідэі супрацоўніцтва з самаўладзтвам, падтрымлівалі сталыпіншчыну, патрабавалі толькі нацыянальнай аўтаноміі з мэтай разьеднаньня рабочага руху па нацыянальнасьцях, прапаведвалі ідэялістычную тэорыю "мастацтва для мастацтва"[14]. Такім парадкам, Ларчанка дакладна паўтарыў усе закіды, стаўляныя "Гісторыяй БССР" пад адрысам "Нашае Нівы", адно, адрысуючы іх толькі "буржуазным нацыяналістым" у галіне публіцыстыкі, звузіў ды абмежаваў іхны засяг.

Затое сярод нашаніўскіх пісьменьнікаў правёў Ларчанка зусім іншую палітычную клясыфікацыю, чымся "Гісторыя БССР". Гэтая апошняя, як ведама, разрозьнівала дзьве групы нашаніўскіх пісьменьнікаў: прагрэсыўных рэвалюцыйных дэмакратаў і рэакцыйных буржуазных нацыяналістых. Гэтую апошнюю групу кваліфікаваў Ларчанка ўжо паводля іншых крытэрыяў. Ён пісаў:

"Зьяўляючыся па сьветапагляду буржуазнымі дэмакратамі, якія з сымпатыямі адносіліся да сялянскай рэвалюцыйнай дэмакратыі, яны ў сваёй дакастрычніцкай творчасьці былі ўасноўным прагрэсыўнымі пісьменьнікамі, вялі змаганьне за вызваленьне беларускага народу з-пад прыгнёту царскага самаўладзтва, хоць часта дапускалі памылкі нацыяналістычнага характару. Іх ня трэба зьмешваць з такімі рэакцыйнымі пісьменьнікамі, як А.Ельскі,

В.Арлоўскі, А.Пшчолка, А.Зязюля, а таксама з буржуазна-нацыяналістычнымі публіцыстымі тыпу А.Навіны, В.Ластоўскага і інш."[15]

Паводля Ларчанкі, і "рэвалюцыйна-дэмакратычныя" пісьменьнікі, і "буржуазныя дэмакраты" ў роўнай меры былі прагрэсыўнымі пісьменьнікамі, адно з той розьніцай, што апошнія "часта дапускалі памылкі нацыяналістычнага характару" ды, як ён гаворыць у іншым месцы свайго артыкулу, "зрабілі пад канец свайго жыцьця буйныя палітычныя памылкі"[16].

У запраўднасьці-ж няма ня толькі ніякай ідэялягічнай розьніцы паміж гэтымі абедзьвюма групамі пісьменьнікаў, але навет тыя "памылкі ідэялягічнага характару", якія прыпісвае Ларчанка А.Гаруну, Ядвігіну Ш. ды К.Каганцу, яшчэ ў большай меры выступілі ў творчасьці галоўнага прадстаўніка гэнага рэвалюцыйна-дэмакратычнага кірунку Янкі Купалы. Як было намі даведзена вышэй, нічым неабаснаванае таксама выразьніваньне Ларчанкам А.Навіны й В.Ластоўскага, як "буржуазна-нацыяналістычных" публіцыстых, тым больш што гэты апошні ў большай меры быў пісьменьнікам, чымся публіцыстым. Што-ж датычыцца А.Ельскага, В. Арлоўскага й А.Пшчолкі, зусім правільна клясыфікуе іх Ларчанка, як рэакцыйных пісьменьнікаў. Але, будучы храналягічна ранейшымі пісьменьнікамі, яны ў "Нашай Ніве" ўжо ня прыймалі ніякага ўдзелу й наагул не належылі сваёй творчасьцяй да нашаніўскае пары. Паэта Андрэй Зязюля, хаця й ня быў рэакцыйным пісьменьнікам, аднак прыймаў вельмі нязначны ўдзел у "Нашай Ніве".

Залічаючы, наўсуперак цьверджаньням "Гісторыі БССР", А. Гаруна, Ядвігіна Ш. ды К. Каганца да прагрэсыўных пісьменнікаў, Ларчанка меў ужо магчымасьць зрабіць гэткі выснаў і ў дачыненьні да самой "Нашай Нівы":

"Гэтая група рэвалюцыйна-дэмакратычных і прагрэ-

сыўных пісьменьнікаў надавала "Нашай Ніве" дэмакратычны характар, рабіла яе папулярнай сярод народу, ставіла важныя пытаньні разьвіцьця беларускай нацыянальнай культуры й літаратуры, словам, рабіла газэту прагрэсыўнай, патрэбнай і карыснай"[17].

Яшчэ паўней і выразьней фармулюе Ларчанка сваю думку ў наступных словах артыкулу:

"Крытыкуючы й адкідваючы ўсё буржуазна-рэакцыйнае, нацыяналістычнае, лібэральна-рэфармісцкае ў дзейнасьці "Нашай Нівы", ня трэба закрываць вочы і на тое станоўчае, што рабіла газэта ў галіне разьвіцьця беларускай культуры, мовы, мастацтва і літаратуры"[18].

Не зважаючы на тое, што Ларчанкавы спробы рэгабілітаваць "Нашу Ніву" былі яшчэ вельма абмежаваныя й асьцярожныя, можна сказаць, кампрамісовыя, былі яны адразу-ж перасечаныя партыйнымі гісторыкамі Л.Абэцэдарскім і А.Сідарэнкам. За няпоўныя два месяцы пасьля зьяўленьня Ларчанкавага артыкулу, выступілі гэтыя гісторыкі на бачынах газэты "Зьвязда" з артыкулам пад вымоўным загалоўкам "За ідэйную чыстату нашых літаратурных пазыцый"[19]. Усе Ларчанкавы довады аб пазытыўнай і прагрэсыўнай ролі "Нашай Нівы" ды аб прагрэсыўным характары творчасьці А.Гаруна, Ядвігіна Ш. і К.Каганца яны закваліфікавалі, як адыход ад ленінскіх пазыцыяў. Аўтары артыкулу абвінавацілі Ларчанку ў тым, што "ён пераносіць спрэчку аб літаратурнай спадчыне гэтых пісьменьнікаў і яе значэньні для разьвіцьця беларускай літаратуры на чыста абстрактную, схалястычную аснову, ігнаруючы па сутнасьці ленінскія прынцыпы партыйнасьці пры ацэнцы літаратурных зьяў"[20]. Ня менш войстра было заатакаванае й цьверджаньне Ларчанкі аб тым, што "Наша Ніва" выконвала пазытыўную ролю "ў галіне разьвіцьця беларускай культуры, мовы, мастацтва і літаратуры". Л.Абэцэдарскі й А.Сідарэнка абвінавацілі

